№3 (118)
/травень-чэрвень/ 2022

# дзеяслоў

ЗМЕСТ

Леанід Галубовіч



...Зажыліся паэты сучасныя...
Бог адпрэчыў іх смерці заўчасныя,
як, дарэчы, і творы іх новыя –
геніяльныя,
але – часовыя...

# Чужыя вершы

* * *

Жыццё, апроч жыцця, не мае сэнсу.
Пачаткам сэнсу быў зачын жыцця...

* * *

Калі б не літасцівейшы Гасподзь,
я быў бы абсалютна адзінокі...
Аднак жа, зазіраючы ў аблокі,
свайго жыцця разварушыўшы спод,

я ўспомню зноў, як пуставаў не раз
абраз на покуце ў бацькоўскай хаце,
і як адтуль, сышоўшы да дзіцяці,
Гасподзь са мной трывожны бавіў час.

Я быў пры Ім, як моль на рукаве,
падточваць намагаючыся ніты,
што ў вечны скрут былі адзіна звіты,
як тое ўсё, што толькі з Ім жыве.

*19 траўня 2021*

### ЗІМА АЙЧЫНЫ

Снег, сонца, і мароз,
і пространь чыстай белі –
айчынны далягляд...

Кроў, боль і бруд
схаваны ад вачэй...
Чакаем часу мы,
каб паквітацца?

О, не!
Чакаем квету мы
пунсовых
астр
і
руж...

*16 лютага 2021*

### ДЗЬМУХАВЕЦ

На зямлі пад небам, дзе Тварэц
сее жыватворнае насенне,
сонцатвары спее дзьмухавец,
незадоўга да свайго ўзнясення...

Як вятры высока б ні ўзнялі
дух яго пушыны ў свет вялікі,
прыпадзе ён зноў да той зямлі,
дзе свяціўся тварам сонцалікім.

*12 траўня 2021*

### РОСПАЧ ГРЭШНІКА

Сяджу на гаўбцы, як голуб нахохлены,
ссушаным ротам задуху ўдыхаю...
Рай нябесны святымі захоплены,
таму я ў пекле зямным здыхаю...

Нічога ў Бога прасіць не думаю.
Няхай у грэшнікаў Сам папросіць
пражыць іх долю пакутна-сумную
паўсюль, дзе Дух Яго Божы носіць.

Няхай спазнае Ён кару ўласную,
якая стуліць аблок павекі,
каб грэх, бы сутнасць жыцця прыўкрасную,
Ён зведаў гэтак, як чалавекі.

*12 ліпеня 2021*

* * *

Век паэтаў з класічных з параметраў
падаўжэў да Гамера гекз*а*метраў...

Аджылі свае дактылі, ямбы, харэі.
Ні пістоляў, ні шворак, ні ганарэі.

Зажыліся паэты сучасныя...
Бог адпрэчыў іх смерці заўчасныя,
як, дарэчы, і творы іх новыя –
геніяльныя,
                  але – часовыя.

*27 жніўня 2021*

* * *

*памяці R A*

Хмурным днём цябе адпявалі,
ды магілу табе не капалі,
пахавалі цябе на вяршыні
вечнай скрухі нашай Айчыны...

Сутву ў гліне, камні, жалезе
ты шукаў,
                  жывучы ў аскезе,
і ў тварэнні згарэў датла,
вызваляючы дух з нутра...

*30 жніўня 2021*

* * *

*памяці Юры Станкевіча*

Ты ўпаў ад кавіду на бязлюддзі,
нязломны духам *святла лавец*...
І ўсе, хто поруч жылі ў аблудзе,
зноў будуць ладзіць табе Чысцец.

Душа з трубы крэматорскай вымкне,
крылом махнуўшы нам напаслед...
Мы блізкім колам, канечне, вып'ем
за гэты наш і за лепшы свет,

дзе ўжо ні чорных няма, ні белых,
бо дух няўвідны, і – хоч –не хоч –
душа, што тут так святла хацела,
цяпер у вечнасці *любіць ноч*...

*3 кастрычніка 2021*

* * *

Зямное жыццё
рэжысуе Гасподзь,
але Сатана
цэнзуруе
светлыя сцэны,
зводзячы ўсё
да цёмнай заслоны...

*12 студзеня 2022*

Віктар Казько



...тут галоўнае быць мужыком,
нават крыху беспрытульнікам,
што значыць адчуваць вечнасць
і давяраць лёсу...

# Дождж на бульбу

***З цыкла "Лёнькі, Ваські, Валодзькі"***

*Гэтаму цыклу ўжо больш за паўстагоддзя. З яго я пачынаўся. З ім выйшаў на абарону дыпломнага праекта ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага ў Маскве. Сустрэлі кісла: неяк надта ж вулічна. Пагадзіўся, толькі нагадаў, што на Беларусі быў такі "вулічны" партызанскі атрад, "Толікі" называўся. І працягваў цыкл да сённяшняга дня – эсэ, апавяданні, аповесці. Але ж пачынаў я ў Расіі, у Кузбасе, дзе апынуўся пасля дзетдома, на расейскай мове. І толькі па вяртанні ў Беларусь перайшоў на мову родную.*

*Сёння ж адчуваю наспеласць чысціць свае літаратурныя стайні, даводзіць напісанае да аднаго знамянальніка, чым і заняты, што чытачам і прапаноўваю. Адна толькі акалічнасць і папярэджанне. Як у свой час казаў А.М. Адамовіч, сыходзячы з таго, што сам пісаў на дзвюх мовах, па-расейску і па-беларуску і сам перакладаў сябе: вяртанне да напісанага, пераклад сябе з мовы на мову – гэта заўсёды*

*перастварэнне, што не менш складана за першастварэнне. Некалі я быў здзіўлены такім выказваннем, а сёння спазнаў яго справядлівасць у поўнай меры ў сваім старым новым цыкле пра Лёнькаў, Васькаў і Валодзькаў, з якіх вулічна цалкам і я сам – асірочанае вайной і ліхалеццем пры зачацці і згвалчанае і абрабаванае дзяржаўнай дэмакратыяй на сыходзе пакаленне. Наколькі гэта атрымалася, чытайце і мяркуйце самі.*

**Віцька**

## Дождж на бульбу

Валодзька сядзеў на паграбе і чакаў Таню. Таня не ішла. Вось ужо ў сталоўцы і вокны патухлі. Паварыха выйшла і замкнула на ключ дзверы. Але вокны на кухні працягвалі свяціцца. Абіраюць бульбу на снеданне, здагадаўся Валодзька і абрадаваўся. Бульбу ён любіў, таптанку ці, як тут па-гарадскому казалі, пюрэ. Падвесялеў, але адразу ж і засумаваў. Стаміўся сіднем сядзець на паграбе, прамёрз. Але нічога не папішаш: хочаш жыць – умей круціцца, за харошую справу і пасядзець можна. Застаецца толькі чакаць і працягваць мерзнуць на адзіноце.

Таня сёння дзяжурыла на кухні, таму вяртацца ў палату будзе позна і адна. Зручны выпадак перастрэць і належным чынам пагаварыць. Раз і назаўжды высветліць усё да капейкі. І паставіць кропку, каб больш не зводзіць сябе. Не пакутаваць і не катаваць. Ён загадзя ведаў, прыдумаў, што скажа Тані. Вось толькі няздольны быў вырашыць, як падысці, падступіцца да яе, мовіць першае слова і распачаць гаворку.

А сёння падчас вячэры, калі ўбачыў Таню ў ахопленым парай вакне раздачы, як на фатаграфіі ў рамцы, адразу пачуў у сабе тыя першыя словы: "Не пужайся, гэта я". Вось так ён пачне. Цемра прыкрые сорам. Кумільгам скоціцца, калі Таня пойдзе міма паграба. Ноч яго не прадасць: не пужайся – гэта я! А потым усё само сабой, як мае быць. Проста, толькі б не спатыкнуцца языку і не замоўкнуць. Прапанаваць, паклікаць...

А што прапанаваць, куды паклікаць? Дзяўчынка ж. Быў бы хлопец – няма пытання. Пайшлі б у суседні сад, латышыць тое, што там нарасло і наспелілася, ці ў вясковыя грады па гуркі. Поўныя б пазухі напакавалі. А дзяўчынцы неяк усё ж не гожа, не па-людску трымаць запазухай гуркі ці яблыкі. Дзяўчынку на такое не саб'еш, тым больш падобную на Таню. Яна не з тых хто здольны красці гуркі ці яблыкі.

Тады што? Вышываць крыжыкам накідкі для ложка, спяваць, танчыць, чытаць вершы. Тут ён ёлупень з ёлупняў. З вершаў ведае толькі: "Ягненок в жаркий день..." А далей збіваецца. З песень жа – лепш і не ўзгадваць пры Тані яго песні.

Праўда, ён некалі, даўнавата ўжо, пад настрой сабе, падслухаў салаўя, калі той на ўсю ваколіцу гарлаў душнай ноччу ў бэзе, каля прывідна белага помніка хлопчыка ў кудзерках, як на здзек, яго цёзкі. Гарлаў у вясновай начы, нібыта заклікаў таго, ў кудзерках, выйсці з бетона і некуды рушыць ці пагарлаць уначы на пару з ім.

І ў яго ёсць яшчэ кніжка, прытыраная са школьнай бібліятэкі, не таму, што ён такі вялікі аматар чытання, а таму, штокепска ляжала. І назва, як пра яго – "Без сям'і". А ў дадатак да яе паджыга. Для палявання на качак. Хвацкая, сам рабіў. Праўда, ніводнай качкі яшчэ не ўпаляваў, але спра-

баваў. Адзіны толькі раз шмальнуў. Качка разам з качарам цешыліся пад трыснягом вясковага возера. Валодзька абраў качара, надта ж фанабэрыста той сябе паводзіў. Качка рупілася, то плавала, утупіўшыся хітрым вокам да вады, то давала нырца ў чорна-спажыўны ёй глыб возера, як тапіцца ўдумала. Але не, заляцалася толькі так. Нешта адтуль, з глыбіні, даставала, каўтала праз пляскатую дзюбу. А качар, што пан, толькі паказальна наразаў каля яе кругі.

Валодзька прыцэліўся ў яго шыза-металёвы тлусты азадак, чыркнуў запалкай. Засляпіўся на адно вока і паднёс агеньчык да накрошанай сярнічкі ў проразі рулі. Шмальнула, грымнула так, што Валодзька падумаў – патрапіў сам у сябе. Ён паранены, а мо і забіты. Абодва сябрукі, што ляжалі па два бакі, нібыта гарбузы з воза, пакаціліся хто куды: адзін у лес, другі – па дровы. Жывыя, і Валодзька жывы, толькі злёгку асмалены. У руцэ цвёрда, да сутаргі заціснута цаўё, драўляная ложа паджыгі. Медная трубка, дарэчы, ад змеевіка самагоннага апарата, руля – метраў за пяць ад яго дыміцца ў трухлявым пні.

Валодзька жывы, сябрукі жывыя, і качка жывая здзіўлена зырыцца на яго: маўляў, не ўмееш у ваду пяр...зець – не пужай рыбы. А качара няма. Валодзька абрадаваўся: забіў. Але той нябачна здзекліва кракнуў з-пад навісу мінулагодняга трыснягу: ці не тое самае, што мела на ўвазе качка, толькі стрымалася выказаць.

Пасля таго палявання Валодзька аднавіў і ўдасканаліў паджыгу. Цяпер гэта зброя. Люба-дарага самому паглядзець і людзям паказаць. Толькі не на паказ Тані, дзяўчынцы. Увогуле, вайна – справа мужчынская. Дзяўчынкам зброя не да твару. Толькі хто іх зразумее-разбярэ, гэтых дзяўчынак, пакуль Бог спіць, што ў іх начах наўме.

Вось і салавей адгарлаў, разам з салаўіхай аціх на дзецях у кубле і стаў падобны на звычайнага вясковага вераб’я – канапляніка, таму што апошні надта ласы да канопляў, адсюль, пэўна, і спевы. Прыпадобіўся да вераб’я і сіненькія шкарлупінкі яек скінуў долу з кубла ў вераб’інай ужо сваёй аседласці. Паджыга і кніжка “Без сям’і” ў наяўнасці. Схаваны ў стайні каля коней, на якіх Валодзька аж гарыць скакаць, вадзіць іх да ракі на вадапой. Ісці ж з Таняй у стайню сярод ночы, чытаць пад месяцам кніжку, няхай і пра яго – ён яшчэ не на ўсе клёпкі пакрыўджаны.

А вось дакрануцца пры месяцы да захлынальна-белай блузкі Тані можна. Толькі датыкнуцца, каб нават і яна не адчула. Датыкнуцца і з тым горда развітацца. Шматзначна, па-мужчынску, паціснушы Тані руку.

Пра руку параіў, навёў Валодзьку на розум Ванька Клопік, Каторы Усё Ведае, таму што ён хоць і недамерак, але добры прайдзісвет, праніклівы ў жыццё: усе дзяўчынкі яшчэ ў пялюшках разумеюць, калі моцна ціснуць руку, значыць, любяць. Калі хлопец хоча дружыць з дзяўчынкай, дае знак. Моцна пацiскае яе руку – ад палымянай празмернасці пачуццяў. Вось што аўтарытэтна сказаў Ванька Клопік. Валодзька ні ў чым яму не прызнаваўся і не дабіваўся парады. Клопік сам, сам са сваёй галавы даўмеўся. Яны проста вялі гаворку ні пра што, сваю хлапечую, пацанскую. І ні з чаго Ванька Клопік нечакана распавёў яму, як падыходзіць і знаёміцца з дзяўчынкай, як давесці да яе сваю закаханасць. Папярэдзіў, што пры гэтым трэба пільна глядзець ёй у вочы. Не зводзіць з яе вачэй – каб да пячонак і сэрца.

Валодзьку ўжо было няўсцерп ад холаду. Незлічона колькі разоў ён

паказваў сабе, як будзе развітвацца з Таняй. Напружваў руку так, што яна нямела ў плячах. Атрымлівалася добра, уражліва і даходліва.

А Таня ўсё не ішла. Валодзька ўжо дробненька трымцеў ад холаду. Цела скаланалі мурашыныя дрыжыкі. Ён не здолеў іх ні прагнаць, ні суняць. Вырашыў за лепшае знайсці сабе занятак.

Пограб густа парос бадыляччам. Палыном і чарнабылам. Валодзька пачаў выдзіраць усё запар. Палын даваўся адразу, чарнабыл жа аказаўся больш учэпістым. Але абодва выдзіраліся дружна, з зямлёй на каранях. Абломаныя зверху, шчыкам, выглядалі зусім як гранаты і не горш за булавы гетмана – з карункамі нават. Пры жаданні лёгка можна было ўявіць сябе партызанам. Маратам Казеем, знішчальнікам фашысцкіх танкаў, ці Багданам Хмяльніцкім, і граміць татар. Валодзька абраў сябе партызанам. І ўжо бачыў перад сабой белы крыж фашысцкага танка з нацэленым ствалом вежы на дзетдомаўскую сталоўку, дзе Таня чысціла бульбу на сняданак. Танк рохкаў подсвінкам, ачамярэла, п'яна чадзіў перагарам дыму, злосна грукацеў сталёва-коўзкімі гусеніцамі ўжо амаль побач з пограбам.

Валодзька ліхаманкава падхапіўся і ўдала шпурнуў гранату-булаву на зашчэпленую пашчу зверу. Яна ўспарола сырое ўначы паветра. Рассыпалася ўнізе пограба дробнымі камякамі-асколкамі зямлі. Адзін гатовы, – сказаў сам сабе Валодзька. Ён так захапіўся бойкай, што яна ні ў якім разе не была яму гульнёй. Побач з ім змагалпся і Таня. Падносіла і падавала яму гранаты. А танкі, тыгры і пантэры, паўзлі і паўзлі. Валодзька спатнеў, адбіваючыся ад іх. Яго паранілі. Таня глядзела на яго бліскуча вільготнымі вачыма і працягвала бінт. Ён сплываў кроўю. Але перавязвацца не было калі.

Чарговая граната, віхляючы палыновым хвосцікам, памкнула на варожы танк. І тут... Валодзька да таго выхапіўся са свайго часу, так зляцеў з капылоў, што не адразу і ўцяміў, дзе гэта ён і хто. А калі дайшло, дапетрыў, было позна вяртацца ў прытомнасць, хоць што-небудзь перамяніць і паправіць. Побач насупраць яго стаяла не ўяўная, а самая што ні ёсць сапраўдная Таня. Таццяна. Прывідам, белатуманковай зданню высілася перад ім уначы. І на яе бела-бялюткай блузцы на грудзях цёмнай плямай праступала бруднай запечанай кроўю свежая рана. Адзнака яго партызанскай палыновай гранаты.

– Не пужайся, гэта я, – увесь яшчэ ў гарачцы бою, сцяў зубы і выгукнуў Валодзька. І ў той жа момант быў гатовы адкусіць сабе язык. З непамерным жаданнем аднаго, каб абваліўся пограб і яго за сабой прыхапіў: добрая магіла герою, надзейнае сховішча ўсім сараўдным героям..

Але пограб стаяў непахісна, пры пану яшчэ тут капаны. У кустах бэзу асалавела, па-вераб'інаму лаяўся салавей. Мо той самы, якім Валодзька хацеў прывабіць Таню, паказаць кубло і дзетак.

– Не пужайся! Гэта я! – ачамярэла і асалавела паўтарыў таму салаўю Валодзька.

– Бачу, – сказала Таня, – шчыра радая.

– Я чакаў цябе, – правальваючыся, як у прорву, і жадаючы застацца там назаўсёды, сказаў Валодзька.

Таня прамаўчала.

– Чэснае ленінскае, зуб даю, крыж на пузе, – закрычаў Валодзька. – Я чакаў, чакаў. Хацеў паказаць табе салаўінае кубельца і маленькіх жоўтароценькіх яшчэ салоўчыкаў...

Таня маўчала.

– Салавейкі зусім яшчэ маленькія. Адно толькі рот зявіць навучыліся, – спяшаўся Валодзька. – Дзюбкі жоўтыя, жоўтыя, цельцы сіненькія-сіненькія, у пушку шыза дымавым.

– Пасля заходу сонца пра птушанят у гняздзе нельга ўзгадваць, а тым больш услых гаварыць. Мурашкі падслухаюць, запаўзуць у гняздзечка, абсмокчуць, з'ядуць птушанят.

Валодзька добра ведаў гэта і сам. Нават крыху болей ведаў: гады і гадзюкі цікуюць словы, падслухоўваюць чалавека і нішчаць пасля заходу сонца ўзгаданае, малое і безабароннае. Але, пэўна, так яму было нарачона ў той вечар гаварыць і рабіць усё наперакасяк. Ён ужо хацеў, каб Таня як мага хутчэй сышла. Але яна заставалася побач з ім. Стаяла і пазірала яму ў вочы. І тут Валодзька прыгадаў параду Ванькі Клопіка, Каторы Усё Ведае:

– Прррашчай! – з націскам і рыкам нават не з горла, а аднекуль з сярэдзіны сябе выціснуў. Ухапіў і што было моцы праціснуў Таніну руку.

Таня адхіснулася ад яго, аслабаніла руку. З вачэй, прыкмеціў Валодзька, пырснула сляза.

– Дурань! Дурань, і не лечышся, – выгукнула яна і збегла.

Валодзька з лютасцю пачаў выдзіраць палын з чарнабылам. Такія жалобна-пахкія ўначы, нібы дакаралі. І больш учэпіста, чым дагэтуль, трымаліся зямлі. А ён пнуўся, чмыхаў, дзёр і раз'юшана таптаў іх. Пакуль не знямогся і не адчуў задышкі. Тады паволі спусціўся з пограба і таксама паволі пакрочыў у палату. У надыханай хлопцамі цемры, наторкваючыся на крэслы, сталы і лавы, вызначыў ложак Ванькі Клопіка і ад душы пачаў малаціць па коўдры, сенніку і Клопіку кулакамі. Клопік адразу ж ўсхапіўся, нібы прадчуваў, што гэтай ноччу яго будуць біць. Ніколькі не здзіўлены шалам Валодзькі, спытаў:

– Танька?

– Танька, – паныла адказаў Валодзька. Супакоіў кулакі.

– Ну вось, я яшчэ з вечара ведаў, – спачувальна ўздыхнуў Клопік. – Руку ціснуў?

– Ціснуў...

– Не спрацавала?

– Не.

– Я так і прадчуваў, – ажвавеў Клопік. – Цікава, чаму? У мяне заўсёды спрацоўвала безадказна. – Голас у Клопіка прывяў, задумліва і сумна пацішэў.

– І ў вочы глядзеў? – тым жа голасам, волглым і задумлівым, зноў спытаў у яго Клопік.

– Глядзеў, – адказаў Валодзька.

– Патрэбна было яшчэ на нагу наступіць. Калі хлопец хоча дружыць з дзевачкай, павінен наступіць ёй на левую нагу.

– Левую? – з пагрозай перапытаў Валодзька.

– Левую, з боку сэрца, – адказаў Клопік. – А яна яму, у знак згоды, на правую. І тады паміж імі ніколі не будуць бегаць сабакі. Згода навек. Бяжы, хутчэй бяжы...

– Наступаць на ногі?

– Толькі так і ніяк інакш.

– А ты не здзекуешся? – стомлена спытаў Валодзька.

– Ты што. Не верыш самому Клопіку. Каторы Усё Ведае. Мне, да твайго

ведама, сам бацька паказваў, як ён абратаў маю маці. І мама пацвярджала. Хіба твой бацька не казаў, як гэта было ў іх.

– Не казаў і не паказваў, і маці не пацвярджала. Я наскрозь дзетдомаўскі. Толькі бабулін трохі, – паведаміў Клопіку Валодзька. І, унурыўшыся, паклыпаў да свайго ложка.

Клопік памаўчаў. Пэўна, спасцігаючы, пераварваючы пачутае. Па ўсім, яно яму здалося надта жаласліва сумным. Ён расчулена загаварыў сам сабе:

– Ну вось, ніякага спачування – ніхто не хоча верыць Клопіку. А ў яго папраўдзе былі тата і мама. І Клопік цалкам у іх... Слухай, слухай Клопіка. Ногі ў рукі і кумільгам наступаць на ногі Тані.

– Дурань ты, Клопік. Усё ведаеш, а непапраўны ўжо дурань. Усе, што багата ведаюць, такімі дурнямі і павінны быць. Невылечнымі.

– Ага, згодны... А Танька, праўда, лепей за ўсіх дзевачак у нашым дзетдоме? – ужо каля свайго ложка нагнала Валодзьку Клопікава пытанне.

– Не-не, – злосна выгукнуў Валодзька, не паварочваючыся нават на голас Клопіка. – Прытыраная і пыльным мехам у цёмным куце прыпыленая. Клёпак бы. Клёпак бы ёй у кашлатую галаву і доўгія косы.

Клопік ускінуўся з ложка так, што коўдра белым ветразем працяла цемру і завісла ў ёй. У сваіх ложках пачалі пракідвацца суседзі Клопіка.

– Ды ты ведаеш, ведаеш... Сам ты прытыраны і прыпылены. Недапечаны.

Валодзька, закусіўшы зубамі падушку, маўчаў, згодны з Клопікам. Узгадваў пограб, Таню, сябе. Жадаў аднаго, зашыцца хаця б пад ложак, накрыцца там медным тазам і ніколі нікому не паказвацца. У адчаі адмаўлення і роспачы спадзяваўся, што нічога з адбытага не было. Усё толькі навалач, дурное сненне, прывіднае трызненне. Вось прачнецца заўтра – і чысценькі. Падпечана смылеў у гарачкавай крыві твар, агонь выпальваў вочы, моразна прадзіралася скура. Было, было. І не збудзецца. І сам, адзіна тоькі ён вінаваты.

Спакваля Валодзька пачаў пераконваць сябе, што і Таня не такая ўжо бездакорная, а таму і не такая разумніца і прыгажуня. Чаго варты адзіны толькі твар. Не, не ўвесь цалкам, а толькі шчокі колерам. Буракова-налітыя чырванню. Боязна нават вокам лішне дакрануцца – пырсне. І невядома чым. Такі вось твар. А вочы? Не. Вочы ніштаватыя. Толькі б вейкі падкараціць. А то, як гавораць, за лесам і дрэваў не відно. Сонца няпэўна праблісквае. Адразу і не ўцяміш, адкуль яно так прамяніста ззяе. Як нехта ў тых вачах свечкі паліць і ставіць, Паліць і ставіць. І з тварам, надта ён пераменлівы, нібы ён у яе не адзін, а мноства тых твараў. І ўсе кожную хвіліну новыя і новыя. Не паспяваеш звыкнуцца з адным, а ён ужо другі. Людскім робіцца толькі тады, калі яго спалохаць, як гэта было толькі што на пограбе: гожа-беленькі дзявочы твар і вочы шырока расплюшчаныя. А так вечна яна ўсміхаецца. Смяшкі без прычыны вядома чаго прыкмета.

Так яно і ёсць. Валодзька апошні раз, перад тым, як заснуць, уявіў сабе Таню, прывідна паўсталую перад ім на пограбе. Здрыгануўся, соладка абмяк. Паспеў толькі крыху ўсё ж пашкадаваць прывід і тое, што сам ён быў наскрозь дзетдомаўскі. Няма каму яму паведаць, як трэба падступацца да дзяўчынкі. Бабуля? Што старая помніць і цяміць у яе гады пра маладое. Ды і дзе тая бабуля зараз, мо і памерла ўжо.

Таня, бясспрэчна, зусім і нікольки ўжо не падабалася Валодзьку. Мо ён яшчэ трохі і любіў яе, але толькі ж трохі. Трошкі. І вось-вось павінен быў пагадзіцца не любіць зусім. Тым больш, што па-сапраўднаму выспелілася

лета. Хлопчыкі і дзяўчынкі ў дзетдоме разышліся і пачалі жыць сваім адасобленым жыццём. Бачыліся, сутыкаліся толькі ў сталоўцы, раніцой на лінейцы перад пад'ёмам сцяга і ўвечары перад спускам яго. Усё нядаўняе, колкае і мулкае па летнім сонечным спакоі сцерлася і адышло ціхім зачаравальным крокам дзяцінства.

Але тут у дзетдоме паявіўся патэфон. Дзетдомаўцы, што каты і коткі, народ край дасціпны: міма сланечніка не пройдзе, каб галаву яму не скруціць. На ўсё свежае, а тым больш не бачанае дагэтуль, чмыхам, што сабакі да вожыка, прыпадаюць. Цікава – і хочацца, і кусаецца, і трохі сумленне не дазваляе, значыць, патрэбна, край патрэбна табе. Не праходзь міма. Патэфон быў стары, абшарпаны і хрыпаты, як дзедомаўскі конюх, у якога ў глотцы металёвая трубка. Нехта з выхавацеляў, а мо і сам дырэктар, пэўна, хацелі пазбавіцца таго патэфона, выкінуць на сметнік, ды ў апошнюю хвіліну задрыжэла рука. Пашкадавалі, падарылі дзетдомаўцам: наце вам, божа, што нам нягожа. Выхаванцы, хлопцы і дзяўчынкі, накінуліся на яго, як дурань на мыла. Тое, што гэтая сіпатая скрыня грае, было ім у неспадзяванку і навіну. Валодзька, напрыклад, бачыў яе толькі на малюнках у кніжках. А тут ужыве, стары, але сапраўдны. І грае. Грае, спявае, толькі што не танчыць.

Выхавацелям спатрэбілася вызначыць пэўны час, калі можна заводзіць і слухаць патэфон. Радыёпрымач «Огонёк», ашчаджаючы батарэі, уключалі толькі два разы на дзень. Адказваў за яго Валодзька. Яму ж даручылі і патэфон.

Гэта была наканаванасць. Хочаш слухаць дурылу, не, але калі ты прыстаўлены да яго, калі ты адказны за казённую маёмасць – абавязаны. Ты частка яе. Хто заказвае і слухае музыку – той і танчыць. І Валодзька быў пры патэфоне ў якасці яго дадатка. У дзетдомаўцаў жа цікаўнасць да грала хутка сышла *на нет*. Лета ж, лета і летнія спакусы і напасці. Але пасады адказнага за патэфон не адмянілі. І Валодзька спраўна заводзіў яго, круціў ручку: хто круціць – той жыве, ставіў і змяняў кружэлкі. Мімаволі слухаў, насычаўся тым, што супрацьпаказана дзетдомаўцу: зоранькі, ночкі, месяцы, туманы – пра чужыя ачмурэнні, каханні, заляцанні, дружбу і нават любоў. І, як гавораць дасведчаныя людзі, млынару пры млыне немагчыма не апыліцца. Усё ж няхай і музычныя цацанкі, абдыманкі-заляцанкі, уздыхі і пацалункі – з'ява хваравітая, нават атрутная, дзе цалуюцца-мілуюцца, там і перадаецца. Перадаецца ад аднаго другому ці не паветрана, – куды вецер, туды дым – незалежна ад стану здароўя і ўзросту.

У прызначаны патэфонавы час заўсёды трымаўся Валодзькі і Ванька Клопік, Каторы Усё Ведае. Потым да іх далучылася і Таня. Таму, па-шчырасці, Валодзьку ўжо была даспадобы яго грамадская пасада. Парушаючы распарадак, ён іншым разам заводзіў патэфон не два разы на дзень, а тры, чатыры. Вядома, чаму. Але Таня не звяртала на яго аніякай увагі. Прыдзе сядзе, як старая на вечаровыя попрадкі. Сядзіць сідзьма і не ўсміхаецца, і пражы не сукае, і не думае сукаць. Рукі на каленях, вочы на кружэлцы, ці яшчэ горш – на Ваньку Клопіку. Зрэдку нешта нават кажа яму – і не без усмешкі. Ад чаго ў Валодзькі сэрца да чэрава правальваецца. Падае, падае і, здаецца, ужо ніколі не вернецца на сваё месца. Штодзень і па некалькі разоў трываць такое невыносна. І Валодзька вырашыў навек пазбавіцца ад гэтага падучага свайго сэрца і ад Тані. Разысціся: гаршчок аб гаршчок – і бывай. Але сысці навек ад Тані не было куды. Толькі калі

зусім прэч – падацца ў фабзайцы. Вучэльню ФЗН – фабрычна-заводскага навучання. Вузенькія сцежкі былі пратаптаныя яго пакутнаму побач з Таняй лёсу. Але і яны былі не прамымі.

У ФЗН прымалі толькі восенню. А да восені яшчэ вох ды вох, тройчы аблезеш і сканаеш. Край неабходна было прыдумаць сабе жыццё без месца ў ім Тані. Лёгка казаць, а выканаць – хоць воўкам у Піліпаўку вый. Але Валодзька выць не стаў і ўлетку. Справіўся, прыдумаў. Вынайшаў, як з воч прэч ад Тані. Падацца ў вартаўнікі. Дарэчы, падвярнулася і што вартаваць. Дзетдомаўскую бульбу, пасаджаную далёка па-за вёскай пры возеры і лесе. Добрае месца, для пакут і адзіноты лепшага і думай – не прыдумаеш, шукай – не знойдзеш. А да ўсяго яшчэ – пры бульбе.

Дырэктар дзетдома быў неверагодна рады, калі Валодзька сказаў, што па сваёй ахвоце, без прымусу і не па жэрабю, бярэцца даглядаць дзетдомаўскую бульбу. Дурняў марнавацца цэлымі днямі ў адзіноце недзе каля глухога возера і такога ж лесу не было. Гэта раней, калі дзетдом толькі атрымаў ад калгаса поле і засеяў яго бульбай, усе рваліся ў вартаўнікі. Пячонікі, ды з соллю, а калі няма яе – то і з попелам, лепей кандзёру, у якім крупінка за крупінкай ганяецца з дубінкай. Цяпер жа і кандзёр наварысты і сытны, таму само сабой: расперазанае пуза дадало розуму. Дзетдомаўскія кныры і тыя ўжо абляніліся, нават рохкаць забываюцца.

І ўсе хлопцы глядзелі на Валодзьку, як на адмарожанага. Адзіны толькі Ванька Клопік ухваліў яго:

– Я ведаў, што так ты і зробіш. Таму што гэта мудра і больш за тое – правільна. Калі без узаемнасці, то лепей прэч з вачэй. А з сэрца ўжо само сабой – прэч. І ведаеш – прэч-то прэч. А надараецца зусім наадварот. Спакуслівае дзяўчынкам наша мужчынскае прэч.

Моцна і з усіх бакоў падтрымаў Валодзьку Ванька Клопік. І абнадзеіў, калі шчыра. Можна было і сябе пахваліць. Але тут у Валодзькі наконт сябе мелася наўме нешта не сказаць, каб зусім процілеглае, але трохі, трошачкі іншае: яму было крыху ўсё ж шкада сябе. Асабліва калі непасрэдна приступіў да выканання прамога свайго абавязку. Першы раз узброены, пры паджызе прыйшоў да бульбянішча. Зірнуў на яго бясконца зялёны сум і як ашпарыўся ім. Так стала млосна, сумна і шкада сябе, што хацеў заплакаць. А мо і заплакаў, толькі не прызнаўся нават сабе. Заспяваў, зусім як патэфон, але без музыкі і таму, пэўна, жаласліва. Не каму ж небудзь, бульбе жаліўся:

Ясной ночкою весенней при луне
Мой товарищ задавал вопросы мне.

Он спросил меня: я счастлива иль нет?
Только взглядом я дала ему ответ.

Хаця гэта была няпраўда, ці нейкая смаркатая праўда, але Валодзьку падабаліся словы і тое, як яны ім выпяваюцца. Голас хаця мо і не надта прыгожы, але і не брыдкі. Толькі вось песню ўсё ж ён выбраў нейкую зноў жа смаркатую, відавочна дзявочую. А так нічога, нічога. Пасаліўшы, есці можна. Ідзе адзін сам сабе пры лесе, каля вады і спявае. І нікому не прызнаецца, што спявае і пра каго. Валодзька падумаў так і амаль суцешыўся. Але адразу ж зноў недаравальна набрыняў сумам:

– Вось так, Таня, усё ж хоць взглядом, але яна дала яму ответ. А ты

буркалы замкнеш, лупары занавесіш і ні тпру, ні ну. Нібыта такая недаткнёная, такая ўжо разумніца... Звядзеш ты мяне да магілы.

І яму ўжо было прыемна, што менавіта Таня звядзе яго да магілы. Трошкі, праўда, няўтульна і крыўдна, але ж болей прыемна. Будзе моўчкі і несуцешна стаяць Таня каля ўгатаванай яму ёй жа магілы і слязьмі дакараць сябе. А ён, малады, прыгожы вартаўнік, у новенькім шарсцяным касцюме, які выдавалі са склада толькі тым, хто паступіў у тэхнікум і назаўсёды з'язджаў з дзетдома, цікуючы за ёю, будзе нерухома ляжаць у труне. І бачыць, што ўсе навокал паказваюць на Таню пальцамі і кажуць:

– Гэта ён з-за яе.

Тады не грэх будзе і падняцца з труны і суцешыць Таню. Яна ўсё ж вартая, вартая яго спачування.

Бульба пачынала ўжо цвісці грахоўна светла-ружовым і белым кветам. І ад гэтага святога ружовага і белага – Танін колер – лісце і націнне здаваліся паспелымі, сакавітымі і спажыўнымі. Харашылася, харашылася ў свой перадапошні тэрмін, мо не ведаючы таго сама, бульба. Валодзька стаяў на краі бульбянішча і назіраў, як па-над яе квеценню мільгаюць чырвона-белыя і проста белыя матылькі, што сышлі сюды ад вясковых хат і агародаў. Цяжка гудуць, спяшаючыся на салодкую спажыву, па-сялянску, нібы свежым лыкам жоўценька падперазаныя аднаасобнікі чмялі. Пэўна, недзе недалёка іх хата. Норка з кублом і сотамі, у якіх чакаюць ношкі шматлікія нашчадкі чмелікі. Танчыць пакуль яшчэ адзінокая ў жніўных жаночых уборах, склікае сяброўак лясная борцевая пчала. І Валодзьку ўжо не хацелася паміраць, нават з-за Тані. Так хораша і ўтульна было ўва ўлонні наваколля. Нідзе не кранутае, не зламанае рабізной, чысцюткае, як і неба, у далонях зямлі спачывала возера. Па прычаратовых акрайках яго лупілі вочы жаўтавокія гарлачыкі: перабралі сонца, нават адламалі яго сабе па кавалачку і прыселі ў ваду астуджвацца. Па беразе да самых даляглядаў ахоўна ў непарушнай варце стаяў адвечны хваёвы лес. Цнатлівыя бярозы сарафанава, спусціўшы да самага долу расплеценыя косы мяккага і гнутка паслухмянага вецця, паненкамі заляцаліся да ўсяго існага.

Усё было так суцешна, казытлва і дрогка хораша, што Валодзька і сам скалануўся і заплакаў. Ад гэтых нечаканых, плывучых без яго жадання слёз яму зноў стала хораша, соладка і лёгка. Ды так, нібы ён толькі што выйшаў з ракі і голы нерухома абсыхаў на сонцы, баючыся паварушыцца, каб нічога не парушыць, не разбурыць. Не наважваўся нават цёкам крыві ў анямелых нагах умяшацца ў тое, дзе ён мо быў лішні, непатрэбны.

Як толькі раней ён не дадумаўся падацца ў вартаўнікі, каб адчуць і ўпіцца, усмактацца, увабраць у сябе ўсё гэта і панесці, панесці праз усё, далей і далей, насуперак, наўздагон і напярэймы самому сабе. Як ён мог жыць без гэтага бульбянога поля? Здавалася, што яму бачна, як пад націннем завязваюцца маленькія, чысцютка белыя і крохкія бульбачкі, як яны спела набрыняюць бульбай, растуць у цёплай пазусе маці-зямлі. Лупяць прарэзаныя ўжо вочкі будучага пазнавання свету і працягу сябе ў свеце на высока навіслае над іх цемрай неба. Цягнуцца да яго яшчэ матчынымі парасткамі рук.

Цяпер ён быў закаханы не толькі ў дзяўчынку Таню, але і ў возера, гатовае кожную хвіліну ўхвальна яму падміргнуць хваляй, у службова-прымружаныя хвоі, прыстаўленыя да ўзножжа таго ж возера і на даляглядах, у бярозкі паблізу вады, што перараслі яго і працягвалі расці і харашэць. У кожны, прутка натапыраны ўгару корч бульбы. Адчуваў плячыма,

як сам пашыраецца, рассоўваючы зямлю і цемру, нават і не спазнаўшы бацькоў, пераўтвараецца ў бульбу. Спачатку ў бульбачкі пад крылавым укрыццём, ахоўнай вартай націння, а потым у белы, ружова-чырвоны крутабокі клубень.

І пэўна, сапраўды пераўтварыўся ўжо ў гэты клубень, таму што адчуў зябкасць, нават холад. Ён быў бульбай і ляжаў у вялікай, высланай з усіх бакоў жытняй саломай яме, капцы. Гэта бацькі з бабуляй, а мо адна толькі бабуля – хутчэй так – хавала яго разам з іншай бульбай у капец на агародзе: насенне будучага года. Над ім сумна высілася шэрае, халоднае і хмарнае неба – усё ж ніякавата, хоць ты і бульба, ісці ў змрок сырой зямлі. Не, бацькі пры гэтым, зразумела, былі. Як жа без іх, бульбу ж нехта павінен пасадзіць і дагледзець. Вырасціць і выкапаць. І думаць пра вясну, каб зноў усё паўтарылася спачатку.

Суха і сугрэўна шамацела жытняя салома. Гаманілі бацькі з бабуляй. Маці ў кухвайцы з высока падцягнутымі для чысціні і ўпраўнасці рукавамі. І рукам яе было горача. Яны былі чырванаватыя, пальцы што яшчаркі, хуткія, рухавыя. Ён бачыў навіслыя над ім на краёчку капца чобаты бацькі, хромавыя – камандзірскія. Бачыў высока над сабой засланы непагаддзю строгі, як вымаляваны алеем, твар бацькі. Ён клопатна ўкрываў бульбу ад восеньскіх і зімовых халадоў паркай жнівеньскай жытняй саломай, як салавей з салаўіхай голых яшчэ дзетак у кубельцы. Пасля чаго – цемра і спачын.

І зноў праяснела, развіднела. Сонца літымі грудзямі прыпала да зямлі. Пахла талай вадой. І не было ўжо ні бацькі, ні маці. Іншыя руплівыя рукі ўкінулі яго ў свежа распластаваную, рассаджаную плугам разору. І з шолахам пад грачыны грай прысыпалі зямлёй. Каб ён агледзеўся там, у цемры, і рос, рос, маючы адбыцца бацькам новым бульбам.

І ён паслухмяна і прадказальна рос. І вырас. І над ім купалаўскім вогнішчам палала сонца. Такое ж вогнішча, азёрнае, палала перад ім і цяпер. Ва ўчэпіста-цупкіх праменях абодвух вогнішчаў карагодзіліся і танчылі матылькі, нема млеў лес. Чмялі чорнымі ніткамі сшывалі неба з зямлёй. Угрэта адпачывала ў возеры вада, бласлаўлёна высвечваючы ўглыбу сябе донны, дзе-нідзе іржавы і пасівелы ад вечнасці пясок яшчэ Герадотава мора. Бела і ружова паверхнева гарэла кветам бульба. І ён, Валодзька, быў прыстаўлены да яе абярэгам, вартаўніком.

Валодзька птушына раскрыліў рукі і ўпаў на мякка падатную разамлелую траву.

– А-а-а-а, – закрычаў на ўвесь голас і на ўсе грудзі.

Адбеглы ад яго лес адбіў рэха. Утапіў яго ў возеры сярод гарлачыкаў. Валодзька цалкам яшчэ ў стане і ва ўладзе бульбы з бугарка на бугарок, з ямкі ў ямку пакаціўся да возера. Затрымаўся на самым краі залізаным хвалямі берага. Уваччу кружыліся ў абдымках, як пабраўшыся, лес, неба, вада, бульбяное поле. Ён падняўся на ногі, атросся. Цела як не было – адзіны трапятка-загуслы камяк праменістага святла, збітага з радасці, ёй жа і напакаванага, штохвілінна пагражальнага выбухнуць, разарвацца, разнесці ў друз і на шматкі яго і ўвесь белы свет. Трываць такое аднаму было невыносна і немагчыма. Край патрэбна было не марудзячы хоць з кім-небудзь, першым стрэчным-папярэчным, падзяліцца. Валодзька, не азіраючыся, пакапацеў да дзетдома. Не бег, плыў, ляцеў, травы не паспявалі ўгінацца пад нагамі.

У дзетдоме было пуста. Як у пакінутым пчоламі вуллі, пыльна і снула. Мёртвы пасляабедзенны час, калі ўсе хлопцы збягалі на востраў каля ракі, дзе без вока выхавацеляў – ім якраз і быў мёртвы час – сваволілі, шалелі, дурэлі колькі каму ўлезе. А вось з боку дзявочага корпуса Валодзька пачуў патэфон. Другім разам яго і на вяроўцы б не зацягнуць у дзявочую палату. Цяпер жа Валодзька не паспеў і сцяміць, куды гэта ён прэцца. Уваліўся ў дзявочы пакой і ледзь не задыхнуўся і не аслеп. Надта ж святочна страката ад вышыванак рознакаляровымі мулінэ і гарусамі на падушках, коўдрах, сценах. І пах, пах – так салодка і водарна яго яшчэ не душылі дзявоцкасцю. Толькі ж справа была зусім не ў гэтым. Пасярод пакоя на стале зявіў пашчу патэфон. Круцілася кружэлка. Каля патэфона – твар у далонях так, што відны толькі дужкі броваў, сядзела Таня. Побач патэфона недавышытая паркалёвая насоўка. Зайздросна гожая, каляровавясёлкавая, як з яго варты перанесеная сюды, хаця і не даведзеная яшчэ да ўжытку. Такія насоўкі дзетдомаўскія дзяўчынкі дарылі хлопцам, калі яны назаўсёды пакідалі дзетдом. Гэта былі вельмі дарагія падарункі – на ўсё астатняе жыццё. І зусім не для ўжытку.

Таня аслабаніла ад рук твар і, не зводзячы вачэй, глядзела на Валодзьку, нібы ён папраўдзе памёр, паляжаў у труне, падняўся і паўстаў перад ёю ў дзявочым пакоі: па насоўку прыйшоў. Валодзька, нібыта праз полымя дзённага купалаўскага вогнішча бачыў, як ружавеюць яе вушкі, акуратна маленькія, што ў вожыка. Прыкмеціў іх таму, што яны раптам запалалі. Ды так зырка, нібы хтосьці яе надта шчыра, ад душы, павіншаваў з днём народзінаў.

Патэфон працягваў іграць. Наярваў што за грошы. Чорнай вавёркай у коле бегала і бегала па коле кружэлка. І больш нічога ў Таніным пакоі не адбывалася. Але і гэта глуха, безгалоса – як у смале. Таня цішком, нібы склееная з крэслам, стыла каля патэфона. Валодзька распнутай свечкай, прыкрыжаваны абедзвюма рукамі да вушакоў дзвярэй, канаў у пахкаабвалакальных дзявочых водарах на парозе Танінага пакоя.

Таня нязграбна паспрабавала схаваць насоўку. Да таго відавочна нязграбна, што яна выслізнула з яе рук і ўпала на падлогу. Што, пэўна, апамятавала яе. Яна порстка паднялася з крэсла і рашуча рушыла на Валодзьку, нібы збіралася пабіць яго.

– Ну, чаго ты доўбнем дубееш на парозе? Не пужайся, гэта я. Чаго табе трэба?

– Нічога... Зусім і нічога нічога, – выціснуў з сябе Валодзька. Узгадаўшы пограб, ухапіў Таню за руку, адліп ад дзвярэй і пайшоў з пакоя, цягнучы за сабой і Таню. Таня даверліва і паслухмяна ішла за ім. Нікольві не спрабуючы адабраць сваю руку, нібы так яны хадзілі ўжо век. Так сябе паводзіў і Валодзька, ніколькі не здзіўлены, што некага паланіў ці то паланілі яго. У плечы ім дакаральна, але ў той жа час з салаўіным замарачэннем патакава-соладка заліваўся патэфон: «Ясной ночкой весенней при луне мой товарищ задавал вопросы мне...» Луны, месяца не было, як і пытанняў. Быў дзень, які пагражаў навальніцай.

За некалькі хвілін, што Валодзька знаходзіўся ў дзявочым пакоі, на вуліцы ўсё перакруцілася. Праўда, сонца заставалася яшчэ на месцы і, здаецца, яшчэ больш старанна сугрэўнае, парнае, як у лазні. Але за ракой ужо ганяўся за аблачынамі, уваходзіў у мужчынскую сілу гром. І дзетдомаўскі падворак калыхаўся і куляўся ад дзіцячага галасу, асвежанага нязбытым

яшчэ купаннем у рацэ і сонечнай набрыняласці белага берагавога пяску Палесся. Адны з дзетдомаўцаў, загадзя радыя навальніцы, узбуджаныя ўжо громам, бязладна гойсалі, пад шатамі вячыстых дзетдомаўскіх дубоў і птушыным граем падахвочвалі і прыспешвалі навальніцу, другія, што не дасягнулі падворка, прагнулі таго ж самага, вітальна, як сцягамі, размахваючы штанамі, майкамі, зробленымі ад сонца газетна-папяровымі пілоткамі.

На ганку стаяў і з падскокамі ўхвальна наглядаў за гэтым сусветным бедламам Ванька Клопік і таксама дзёр горла нячутным словамі. І толькі калі ўбачыў Валодзьку з Таняй, перайшоў на зразумелую чалавечую мову:

– Я так і ведаў. Я так і ведаў. Будзе, будзе дождж. Будзе навальніца. Навальніца...

На апошнім слове ён, бы папярхнуўшыся, прыкмеціў Таню з Валодзькам. Падобна, яго ўпершыню закалодзіла:

– Я так і ведаў, – мовіў яшчэ некалькі разоў запар, толькі цяпер ужо і не зусім чалавечым, а заечым ці авечым голасам. Прапішчаў, прабл\яў і, падобна, нават прамяўкаў: – Я так і ведаў...

Сышоў з ганка, ужо амаль пад дождж, пад першыя яго абмацвальныя буйныя адзінкавыя кроплі. Падаўся да бетоннага і ў кудзерках таксама разумнага хлопчыка Валодзькі, які мудра схаваўся ад дажджу ў кустах бэзу. Дождж імгненна перафарбаваў яго, зрабіў з зайчыка белага зайца шэрага. І абодва яны, намочаны зайчык шэры і паніклы Ванька Клопік, пільна цікавалі з кустоў бэзу за Валодзькам і Таняй.

Больш на іх ніхто не звяртаў увагі. Хаця яны добра разумелі, што бачаць усё. І гэта ім адгукнецца, як толькі ранкам дзетдомаўцы, асабліва малеча, шкеты, толькі пралысяць вочы. Але Тані і Валодзьку было напляваць на тое, што будзе заўтра і пазаўтра. Трымаючыся за рукі, яны стаялі пад дахам асноўнага дзетдомаўскага корпуса і сачылі, як набірае моцы навальніца. Буйныя кроплі дажджу скочылі ўжо на дах і па-піянерску барабанілі па гонце. Але дождж вавёркава-дробна спускаўся ўжо і на зямлю. Крадком зацята сыпаў, танчыў па траве і непрыбітаму яшчэ прыску дарогі.

– Дождж! – як нешта вельмі значнае, а мо і патаемна сакрэтнае, паведаміў Валодзька Тані. – Дождж?

– Дождж, – пагадзілася яна.

– Дождж, – пачуўшы іх, ці не першы раз у жыцці не аспрэчваючы, нібыта гэта было яму ў навіну, прызнаў і Ванька Клопік, Каторы Ўсё Ведаў.

– Бяжым? – запытальна прапанаваў Валодзька.

І яны з Таняй, не размыкаючы рук, адарваліся ад сцяны дзетдомаўскага корпуса і пабеглі. Дождж гнаўся за імі, спыняў і дадаваў хуткасці. Сёк у грудзі і плечы. Яны намагаліся апярэдзіць яго. Бачылі, дзе ён заканчваецца і ляжыць сухая дарога. Але дождж упарціўся. Быў больш хуткі за іх. І яны не здаваліся, беглі навыперадкі з хмарай. Дождж злаваў і з патроенай сілай джаліў іх голыя ногі. Падаў долу з падскокам, шпокаючы ў хуткіх лужах перад імі празрыстымі пухірамі, нібы спрабуючы пагаварыць з імі, нешта пераказаць, блаславіць, а мо і заступіць ім дарогу. Прастрэльваў, вязаў і спавіваў іх бясконцымі пуцяводнымі нябеснымі ніцямі.

Ах, які гэта быў дождж. Зямля даіла неба. Неба скаланалася ад задавальнення і хвастата-вогненна, як ад бізуна, прысядала хмарамі і пралівалася цурком. Спачатку цененькімі непарыўнымі ніткамі-струменьчыкамі, потым сапраўднымі струменямі. І, нарэшце, струменямі з добрую вяроўку, якой, пэўна, утрымлівала зямлю, не давала ацурацца нябёс, сысці на той свет,

прапасці ў сусвеце. І таму ўхвальна, трапятліва амалоджвалася, зелена-молада лопала ветразямі лістота на дрэвах, задаволеным шыпам сакатаў сухі прысак на дарозе. Наскрозь праціна ў цела, да самага сэрца, вымушаючы яго скакаць і танчыць, – усё існае ў непарыўнай повязі адно з адным.

Гэта быў дождж, ад якога наноўку зноў а зноў нараджаецца зямля і буйна расце бульба.

І што прыкра, Ванька Клопік, Каторы Ўсё Ведае, на гэты раз нічога з гэтага не ведаў. Мокры, што кацянё, ён стаяў сярод кустоў бэзу, каля шэрага ўжо лабатага хлопчыка ў кудзерках, і глядзеў, як знікаюць, растаюць у залеве Танька з Валодзькам.

## У паводку

Уладзімір Апанасавіч выйшаў на дзетдомаўскі падворак і агледзеўся. Справа раструшчаным блакітам шкілетна ўпіралася ў чысцюткае вясновае неба, нібы дакараючы яго, макаўка напаўразбуранай невялічкай могілкавай каплічкі. Падобна, вясна імкнулася аднавіць, упрыгожыць яе, але сваёй адраджальна-разліванай дужасцю і маладосцю толькі выкрыла, надала жалобна-пахавальнага суму. Жывым яна ўжо была непатрэбна. Памерлым – тым больш. Аджыла, адгаравала сваё каплічка разам са сваім часам, векам і чалавекам. І за яе шкілетнымі праёмамі нічога ўжо не было відно, толькі далеч, пустэльная і бяльмаста-прывідная – ад млоснасці разняволенага дыхання адпушчанай у вясну зямлі.

Па левым баку сіненькай валачобнай стужкай размотвалася рака. Прыбярэжныя дрэвы, захопленыя ёю, былі яшчэ бессаромна распранутыя, голыя, як кодла ці вывадак малых дзяцей, часцей цыганят, што трызняць сонцам і сугрэўна растуць пад яго промнямі на белым пяску каля сваіх шатроў, а сёння – дык і на прызбе ці лаўцы вясковай хаты. Рака прасочвалася далёка-далёка. Пакуль вада і неба не сыходзіліся, паяднана не зліваліся ў адно.

Уладзімір Апанасавіч не азіраўся. Ведаў, там непагляднасць старога балота, чэзлыя кусты лазы. Цяпер, у паводку, яны па пояс залітыя вадой, спадыспаду сціснутыя чорнай цемрай векавой тарфянай вады. Наперадзе вялізным боханам аржанога, даўнавата спечанага хлеба лабаста-пуката шарэла лысіна так званага дзетдомаўскага вострава. Паводка скрала ўсе сцежкі, масты, масткі і пераходы да яго. Вада плёхалалася каля самай агароджы дзетдома. Вясновая, жывая вада церлася аб плот, брамку варотцаў, вароты, муляла дубам за варотамі – тыя не дапускалі яе на падворак. А яна як прасілася да дзятвы.

Уладзімір Апанасавіч панына зірнуў на перадкі сваіх чобатаў. Скура іх расквасілася і кісла плакала. Але ўсё роўна, не зважаючы на гэтыя, дасягаючыя парцянак слёзы, неабходна было выходзіць з дзетдомаўскага падворка, за агароджу: не хочацца, ды няма куды дзецца, мусіш ісці. А куды? Ён і галавы прыкласці не мог. У падшыванцаў, што дружна, гуртам, збеглі з урокаў у школе ў гэты ясны сонечны дзень, была адна дарога. А ў яго, іх выхаваццеля і апякуна – сотні. І Мярэжа не мог наважыцца, якую абраць, у які бок свету кінуцца. Прывабна было да кустоў пры балоце, там узвышша і сухенька. А ў самім балоце гнездавалі дзікія качкі, цяпер ужо адкладвалі яйкі. Таксама прывабна яму, як і падшыванцам, было падацца ў пустэльнасць даляў. Палеткі там ужо абсохлі, і ў асклізлых

ботах яму не хлюпаць вільгаццю парцянак, і ўцекачам – хоць захлыніся воляй, пагалёкаць, паспрачацца і забаўляцца рэхам. Балота і поле. Абодва накірункі падыходзілі яму.

Але завуч выбраў трэці. Вырашыў брацца вострава. На імгненне ўявіў сябе на месцы глухога Ваські. А Мярэжа быў упэўнены, збегчы са школы хлопцаў падбіў глухі. Глухі то ён глухі, але неймаверна шкадлівы, чуйна скіраваны на пракуду. Калі, дзе і як ні адбывалася хоць якое-небудзь паскудства, можна было пісьмова сцвярджаць: тут быў глухі Васька. Упэўненасць у тым, што падбухторыць хлопцаў уцячы з урокаў – справа глухога, была неабвержна падмацавана яшчэ і тым, што з пакоя, у якім жыў Васька, знікла кульгавае і крывавокае галчанё Барыска.

Васька падабраў яго мінулым летам каля дубоў на дзетдомаўскім падворку. І таму пра іх абодвух казалі: з дуба ўпалі. Галчанё асірацела кульгала сярод недапрэлага мінулагодняга лісця. Вышуквала што-небудзь спажыўнае і лаялася брыдкім чужым голасам вароны, калі не знаходзіла. Характар, з-за якога, магчыма, і выкінулі бацькі, самі выкінулі з кубла, а мо і па-іншаму – яно ад нараджэння паскуднае і сварлівае, а да таго – задохлік і калека.

Увогуле, Борка і Васька адзін другога вартыя: два боты – пара. Ім нарачона было сустрэцца і спаравацца. Васька не разлучаўся з галчанём толькі тады, калі быў у школе. А так нават у сталоўцы елі з адной талеркі, і даволі ўпраўна. Борка, нягледзячы на няўжыўлівы нораў, быў прыкідлівы і верны. Як мог, бараніў глухога Ваську, таму шмат на каго пазіраў хоць і адным вокам, але скоса. Асабліва касавурыўся на завуча. А аднойчы, калі Уладзімір Апанасавіч сурова ўшчуваў Ваську, Барыска падляцеў і клюнуў яму ў лоб, крыху вышэй пераносіцы. Добра яшчэ, што не ў вока, больш узрадаваўся, чым абурыўся тады завуч. А то меў бы тады дзетдом двух крывавокіх.

Мярэжа без прыкрасці ўзгадаў былое і ўсміхнуўся. А пра сябе вырашыў: на месцы Ваські з Боркам ён падаўся б толькі на востраў, дзе ім абодвум воля вольная, ўсё толькі іх, птушынае ды ім падуладнае.

Усмешка сонечным зайчыкам прабегла па твары Мярэжы: не, на месцы Глухога Ваські і дзеля Боркі ён абраў бы толькі востраў, што ні кажы, а свая зямля, свая тэрыторыя, амаль на паўгода адваяваная ў прасцягу, часе і, само сабой, адбітая ад выхавання і выхавацеляў. Востраў, востраў жа. Сагрэты міжвольнай усмешкай і часовым паразуменнем з уцекачамі з урокаў твар завуча надзіва амаладзіўся і набыў падабенства з лісінаабвостраным і кірпатым тварам глухога Ваські, трохі паўтораным у яго птушцы, знешне адметным ад пароды ўсіх варонавых. Надта ж самастойная і акуратная птушка, працавітая, ахайная. І не гучна дуркаватая, як усе іншыя крумкачовыя яе сваякі і суродзічы. Не схільная да крадзяжу, тым больш хіжага вынішчэння іншых птушак, у прыватнасці дзетак шпакоў, што ўласціва бандзюкам-крумкачам і сарокам. Падляцяць да шпакоўні, голасам бацькоў азавуцца. Шпачаняты высунуць разяўленыя роцікі і шыйкі насустрач злыдням. І ўсё, пішыце пісьмы дробным почыркам.

А ў дадатак да ўсяго лепшага ў птушынай пародзе бяскрыўдная працаўніца галка – птушка па-сялянску негаваркая, глыбока, глыбока ў сабе, амаль як вясковая маладзіца-паляшучка. Мае галаву, здольную вучыцца. Каля Ваські, слухаючы яго, набыла ці не чалавечую мову і разуменне свайго імя, што і сярод людзей не заўсёды надараецца: га-гаалка, га-гаалка.

Аднаму толькі Ваську сваім імем, Барыска, – адгукалася, але выгаворвала цяжка і не цалкам: ррыска, ррыска. Больш падобнае на ніколькі не адпавядаючае ёй, чым Васька быў незадаволены: крыска, крыска.

Мярэжа пазбавіўся ўспамінаў, зайчыкавай усмешкі. Пачаў шукаць і распальваць у сабе раздражненне і злоснасць. Знайшоў, хто шукае – той знаходзіць: толькі гэтага і не хапала яму ў такі гожы вясновы дзень – з-за глухіх Васек і кульгавых Борак цягнуцца ў мокрых ботах на нейкі востраў, некага там шукаць і выхоўваць.

Але раней, чым дастацца да гэтых Васек і Борак, неабходна было набыць лодку. Востраў ёсць востраў – з усіх чатырох бакоў вада. Па-за ёй, крутым пясчаным берагам – рака. У нізіне ж востраў абціскае рукаў былога рэчышча ракі – старыца. А па-дзетдомаўску, стрэлка. Улетку басанож імгненна можна пераскочыць, не закасаўшы калашын. Дно топкае, пясчанае. А цяпер у паводку і па шыю, калі не па храпы будзе.

Мярэжа спусціўся да першых, што ўшырку, што ўвысь, таўсмата-таўстакорых ясакараў на беразе стрэлкі. Вяскоўцы да іх ланцугамі прымыкалі лодкі, чаўны не толькі ад крадзяжу – чаго тут не ведалі, таго не ведалі – каб стаяла на асабіста прыватна ўзаконеным сваім месцы, як хата, хлеў, гумно. Каб вада не знесла, асабліва ў такую, як цяпер, паводку. І трохі, канечне, усё ж ад крадзяжу – угону дзятвой.

Лодкі пад ясакарамі стаялі густа, прасмоленыя для вясны, нібы чарада чорных кароў і цялушак перад першай пашай на вясковай вуліцы. Але ўсе яны былі прымкнутыя: хадзяева. Лодка тут карміліца амаль сапраўды што карова. Цялё ці тую ж карову перавезці, дровы, сена, рыбіну здабыць – так тут спакон веку заведзена. Мярэжа засмучана крактануў і спыніўся каля чоўна сваго дзеда. Ланцуг на ім быў ці найбольш магутны, чым на іншых пасудзінах. Як і ўсё ў дзеда, сам ён і той жа яго човен. На першы погляд, асабліва здалёку, зусім нікудышні, як са смалакурні, учарнела-выпетраны. А сядзеш – без перабору, карову перавозіць можна. Старажытны, выпрабаваны часам, з вываранага і вытрыманага сутунка ўжо не разбяры-паймі якога волатаўскага дрэва, – такія цяпер не растуць – чым дзед ганарыўся, а пры выпадку і пахвальваўся. Човен быў продкава-нашчадны. Вада яго не брала, рачны і хатні шашаль з прыліпаламі-ракаўкамі цураліся.

Мярэжа зладзейкавата агледзеўся. Узяў пабурэлую і вышчарбленую ад веку і вады цагліну, якой каторы год якарылі човен, паспрабаваў збіць замок. Сыпалася толькі іржа ды рудыя крошкі. У замках дзед таксама ведаў толк. Быў замок сталага веку, калі яшчэ на замкі не шкадавалі металу, кулацка-амбарны. Такіх сёння нават і для калгаса не робяць. Але ці не з калгаснага свірна ў свой час прыхапіў яго дзед. Таму даравальна і мне тое, чым я зараз займаюся, падумаў Мярэжа: яблык ад яблыні недалёка падае.

Каля чужой лодкі ён падняў ладны пляскаты камень. Атрымаў нешта накшталт кавальскай накавальні з цаглінай-кавадлам. Але, гледзячы на гэтыя прылады, папікнуў сябе: чаму не вучыўся ў свой час у дзетдомаўцаў, у таго ж Ваські, карыстацца адмычкай. Ім адамкнуць гэты замок, што раз плюнуць. Век жыві – век вучыся, і дурнем памрэш. Праўдзівасць дзетдомаўскай мудрасці надала яму запалу. Ён увайшоў у азарт, але адразу і выйшаў з яго: усе высілкі кату пад хвост. Не, стары Мярэжа сапраўды ў замках ведаў толк, а мо і слова ад знаўцаў замковай справы дзетдомаўцаў. У тым ліку і ад свайго ўнука.

Уладзімір Апанасавіч кінуў змагацца з замком, заняўся скабой, забітай

у ясакар і сашчэпленай з ланцугом што зубамі. “Выб’ю зубы, а ўсё роўна човен будзе мой, выкраду”, – ужо ніколькі не сумняваючыся, загадаў сабе Мярэжа. І адразу ж сцепануўся: тут, безумоўна, справа патыхала злачынствам. Пры ўсёй сумленнасці настаўніка і выхавацеля, гэта ён ужо праходзіў, успамін яшчэ валодаў памяццю. Дураслівае, п’янкое адчуванне непатрэбства, якому ён быў няздольны процістаяць, уладна авалодала ім. І цяпер асэнсаванне таго, што ён крадзе, няхай і ў самога сябе крадзе, свой жа човен крадзе, было нават прыемным і цёплым.

Дробна, з працягам і заміраннем сэрца Мярэжа спрытна біў па скабе і ўспамінаў, як гадоў з дзесяць таму з гайнёй вясковых падшыванцаў збіваў замкі з чужых лодак суседзяў і адыходзіў у дальнія марскія плаванні па не надта шырокай і вялікай рацэ Случ. У свой час ён таксама ж вясной уцякаў з урокаў. На тое яна і вясна, каб не сядзець сіднем у класе. Са сплаўнога лесу, плытоў, вяртлявых чоўнаў і душагубак збівалі, памятае ён, флатыліі, эскадры і пачыналі сапраўдныя, не на аркушах сшыткаў у клетачку па матэматыцы, марскія баі. Шкада толькі, што пераможцамі ў іх былі бацькі з папружкамі, а то і мочанымі вяроўкамі ці конскім путам.

Захапіўшыся ўспамінамі, Мярэжа страціў пільнасць і ледзь не папаўся. На сцежцы, прыціснутай да самай вады, з’явіўся мужчына. Ад колішняга дзіцячага страху, здавалася, забытага і збытага, зрушылася сэрца. Гэта быў знаны, добра знаны ім чалавек, хаця ён яго ніколі не ведаў і не бачыў. Далёка не завуч і не настаўнік, але з дзяцінства глядзеў на ўсё і ўсіх, у тым ліку і на яго дзяцінства, выкрывальна і ўпрыжмурку. Сам ён заставаўся нябачны, але ні з кога не зводзіў пільнае палюючае вока вартаўніка вясковага ладу і дабрачыннасці. Менавіта ён ці нават яны ў свой час даводзілі свету аб ім і яго адналетках: растуць абібокі, злыдні і блатары. І менавіта пасля гэтага па іх гулялі папраўчыя бацькоўскія папружкі і мочаныя вяроўкі з конскімі путамі, а то і розгі, вытрыманыя ў солі. Яны абавязковыя кожнай вёсцы, сяле, мястэчку, як абавязковы там свой запісны вар’ят, грэшнік і праведнік.

Мярэжа падхапіўся з каленяў і з адрачона-незалежным выглядам удавана заклапочана пачаў шпацыраваць усцяж лодак, нібыта ахоўнік іх, а не наадварот. Прахожы яму не паверыў. Знарок спыніўся, стаў слупам: маленькі, нехлямяжны, але праніклівы. Прагнуў убачыць, быць сведкам парушэння, а калі парушэння не было, то і сам гатовы цішком яго ўтварыць. Па ўсім, цёрты калач, абаранкам такога не завабіш і на мякіне не правядзеш. Знайшоў сабе задзелле. Пачаў старанна скручваць казіную ножку. Мярэжа хапіў паветра, выпнуў грудзі колам і ўзяўся вымяраць бераг амаль страявым крокам. Прахожы працягваў круціць казіную ножку. Да чаго ж пільны, зараза, – падумаў Уладзімір Апанасавіч: – родзіць жа зямля і нейкая с...ака такіх...

І пачаў таксама скручваць казіную ножку, здзекліва, напаказ, замаруджана паўтараючы рухі прахожага. Той, пэўна, зразумеў, скрануўся і ціхенька паклыпаў усцяж берага. І колькі Уладзімір Апанасавіч бачыў яго, ішоў і няспынна азіраўся, пакуль не зліўся з паводкавай вадой. Мо і ўтапіўся ў ёй.

– Ну і малайчына. Ну і фрукт, – падумаў Уладзімір Апанасавіч ужо ў нябачнасць яму. – Цябе б завучам ды ў дзетдом. Прыбілі б на трэці дзень. Такую б усяленскую цёмную сыгралі б.

Скаба падалася адразу, нібы толькі чакала яго рук. Мярэжа прыбраў

яе разам з ланцугом, сарамліва азірнуўся на ўсе бакі і скочыў у човен. Той па-качынаму закуляўся, заперавальваўся, наровячы бартамі чарпануць ваду. Мярэжа насілу яго супакоіў. Адвык, каб плаваць у чоўне, трэба назаўжды заставацца палешуком. Выраўняў човен і толькі тады ўспомніў, чаму і навошта яму трэба на востраў. Засаромеўся ад крадзяжу ўласнага сямейнага чоўна. Супакоіў сябе тым, што гэта з аднаго боку дзеля справы. Выхаваўчай справы. А з другога – што, пэўна, так і трэба: паляшук, калі яму няма чаго ўкрасці, ідучы дамоў з работы – уласную шапку з галавы здыме і за пазуху сабе схавае. Так што ён не першы і не апошні. Але ўсё ж адчуў, што дзень сапсаваны конча.

І які дзень. Непаўторны. І дзед будзе тыдзень бурчаць, што не народ сёння пайшоў, а злыдзень. Злыдзень на злыдні сядзіць і злыднем паганяе. Сапсаваўся народ. Хаця і не ўвесь. Вось унук яго адваяваў і выбіўся ў завучы. Хаця і ён, гледзячы на іншых, таксама часам хібіць пачынае. Толькі ж не папускаецца да крадзяжу. Трымаецца тае пары, калі табе ні злодзеяў, ні замкоў, ні вартаўнікоў. Упадзе нешта з возу долу, згніе, спрахне. Чужое. Ніхто на яго не пакваліцца. А сёння. Сцеражыся, каб твой цень у цябе з-пад ног на хаду не спёрлі. Сапруць і вокам не міргнуць. А міргнуць – запэўняць, не і не. Мастак яго дзед бурчаць. Яго б у пракуроры, ды толькі ён у іх скуры не выжыве: жыўцом здзяруць з яго тую ж скуру ўжо на другі дзень...

Аціхлае, супакоенае і выпраўленае працай раздражненне на падшыванцаў уцекачоў аднавілася зноў: адлаўлю, павыкручваю ногі, каб дзясятаму заказалі, як уцякаць з урокаў. І будзе Васька глухі яшчэ і кульгавым, а яго кульгаваму Борку і кульгаць будзе нечым. Я вам пакажу, як сярод белага дня з самога вашага завуча здзекавацца. У лоб яго дзяўбаць... Як гэта толькі шпанюкі да вострава дасталіся. Лодку дзе ўзялі? Як піць даць – тыранулі. Вох, і злыдні, злыдзень на злыдні.

Уладзімір Апанасавіч падгробся да вострава, абкруціў ланцугом лазовы корч, каб рачная плынь не сцягнула лодку. Выграбся з пясчанага, пакатага, залітага вадой берага на круты, канчаткова прамачыўшы ногі і боты ўжо пад халявы і трохі вышэй. На востраве было вусцішна і журботна: мінулагодняя трава яшчэ не сышла, а маладая не паспела нарасці ў поўную сілу. Усё тут было на мяжы ўжо адбеглай зімы і прыступам набеглай вясны, хістка і недаверліва. І Уладзімір Апанасавіч падсвядомасцю абуранага, выведзенага з выхаваўчага цярпення і раўнавагі чалавека нюхам, носам адчуваў прысутнасць недзе ў кустах сваіх падшыванцаў. Па макаўку і вышэй упэўнены: яны яго ўжо бачаць, як кошка з мышшу, гуляюцца з ім. Адсочваюць кожны крок, кожны рух больш пільна, чым сустрэты ім на беразе чалавек. Той з закарэлай сваёй пільнасцю і ў падноскі ім не варты. А гэтыя каго і што хочаш за вярсту і на пяць метраў з-пад зямлі ўнюхаюць і выкарпаюць. Вопыт і школа – былыя беспрытульнікі, сіраты, бязбацькавічы. Без такога звярынага нюху і спрыту ім да дзетдома яшчэ, на волі, капец. Ён каля іх таксама дасканала авалодаў і набыў набытае імі ўмельства. І не толькі іх. Вайсковае яшчэ ўмельства: не пазніцца злазіць з даху і не псаваць гонту. Таму, не тоячыся, галасна выгукнуў ці не на ўвесь востраў:

– Ну што, пагуляемся? Паглядзім, хто каго: мыш ката ці кот мыш.

На першы пагляд востраў быў бязлюдны, нікім, апроч непарушнай цішы, не заселены, нават чаратоўкі кублаў не вілі. Уладзімір Апанасавіч падобна Рабінзону Круза вымераў, даследаваў яго з усіх бакоў. І даволі ўдала. Знайшоў пару мінулагодніх качыных кублаў, два неўзарваных, але

раскручаных, з выбраным порахам снарады, высахлы да жоўтага конскі чэрап з паловай учарнелых зубоў. Але нідзе ні знаку тых, за кім паляваў. Што лішні раз пацвердзіла: яны тут, Дарослая і дзіцячая гульня ў хованкі завяла, але і ацвярэзіла яго. Ён вырашыў: няма чаго марнаваць і смяшыць такі дзень, сонца і жаб тут. Прыйдуць яны, самі прыйдуць, як тая каза да возу, на вячэру, вось тады ён задасць ім сена. Тады!

Мярэжа вырашыў пакінуць востраў. Толькі, толькі... Як яго без чоўна пакінеш. Човен знік, прапаў, як карова языком злізала. Ні чоўна, ні ланцуга, якім ён абкручваў лазовы куст, той, праўда, на месцы, тырчыць, як скула, на выспе. А вось ні чоўна старога, ні абсмыканага часам і рукамі дзедавага кола кіраваць і падпіхваць човен на плыні, ні ланцуга са скабой – нічога няма. Усё знікла, як ніколі і не было. Ніколі і ніякага чоўна ён не краў. Сасніў, і ўсё прапала, знікла, сышло ранішнім падманным сном.

Правялі, як вакол уласнага азадка абвялі. Вось табе і разведчык-ардэнаносец – ардэнапросец, таварыш гвардыі сяржант. Смаркачы, а табе нос падцерлі. Гулі-гулі, вядома. Але так гуляцца з ім, былым батальённым разведчыкам, гвардыі сяржантам, а цяпер таксама не хухры-мухры, завучам, ён не мог сабе дазволіць. Ганьба. Знайсці, выкрыць і пакараць, каб дзясятаму заказалі. Гэта было ўжо справай гонару.

І завуч, былы батальённы разведчык і сяржант, зноў і зноў кружыў па востраве, удавана робячы выгляд, што тут ён зусім-зусім выпадкова, ці не праветрыцца і пагуляць сюды завярнуў. Толькі вочы – мінашукальнікам у гушчар карчоў, у маўкліва стоеныя лагчыны і хуценька-хуценька сабе пад ногі і ў далячынь. Усё ж не дарэмна лічыцца, што каты і дзеці лепшыя патаемнікі. Сам нячысцік іх укрывае ў сябе падпахамі, і дамавік з лесуном вымушаюць каля іх блудзіць і не бачыць, адводзіць вока шукальніка ад іх: дамавічок, дамавічок, пагуляў і аддаў. Забабоны, прыхамаць і плёткі, зразумела. Але, але: дамавічок, гуляў і не аддаваў. Не выдаваў. Малеча, пэўна, яшчэ пупавіна не адрэзана, прывязана да першабытна-неіснавальнага, а ўсё ж каранёва-існавальнага, не раздымнага: зямлі, вады, тых жа запечных дамавікоў і лесуноў, да ўсяго існага на свеце – вады зямлі, неба, лесу. Не проста так шмат каго з падшыванцаў завуць паганцамі. Яны і ёсць паганцы. І паганства свету, зямлі і нябёс не спяшаецца аддаваць тых, каго нарадзіла, каму надала пасаду і чын чалавека. Ні на што не зважаючы, дазваляе дзяцінству заставацца, зведаць і пабыць у дзяцінстве. А сталасці, што ўявіла сабе нібыта яна зверхняя, застаецца ў лепшым выпадку гнацца за сваім дзяцінствам. І калі добра памучыцца, то што-небудзь і збудзецца.

Нешта і яму збывалася. Нячысцік шчасціў яму. Падкінуў дзетдомаўскую шапку з птушынай адзнакай на брылі. Вызначыў, Васькава. Адзнака была свежая, ліпкая яшчэ. Уладзімір Апанасавіч пахваліў галчанё Борку, пазногцем збіў яго адзнаку. А Ваську паганіў: так ён беражэ казённую маёмасць. Ну, нічога, нічога, адрыгнецца, усё адрыгнецца глухому.

Шапка замінала Уладзіміру Апанасавічу прадзірацца праз густа звітыя ў непралазныя шары зараснікі лазы. Але кінуць яе было шкада, што ні кажы, але сапраўды дзяржаўная маёмасць, да таго ж рэчавы доказ і трафей. І завуч нацягнуў Васькаву шапку сабе на галаву. Надзіва яна аказалася яму вялікаватай. Глядзі ты, глухі, глухі, а галавасты, падумаў Мярэжа. Шапка была не толькі вялікаватай яму. Ад яе выразна патыхала птушыным духам, змешаным з потам і казённай непрыкаянасцю ўжо самога Ваські, праз якую цененька сачылася сумнаватая нявіннасць не надта чыстых

яго валасоў. Апошняе прымірыла завуча з Васькам. Нават нешта даўкае мімаволі варухнулася і акамянела, застыла ў горле.

Пацягнула, гаркава патыхнула дымам, вяснова-салодкім і ядучым. Уладзімір Апанасавіч з палёгкай і задавальненнем удыхнуў хвост таго дыму, што слаўся каля яго ботаў і па іх уздымаўся да твару. Вось яно нарэшце: быць бычку на лычку, а кароўцы на вяроўцы. Ён доўга і старанна краўся да вогнішча ў нізіне. Так асцярожна ён не рухаўся нават на вайне, не хадзіў у варожы тыл. І ўсё ж, наблізіўшыся да добра і даўно напаленага, гарой, попелу вогнішча, са здзіўленнем убачыў, што там нікога няма. Завуч закруціўся ваўчком, старым, раз'юшаным і галодным воўкам, які ўжо пусціў сліну, наладзіўся падсілкавацца, а яму – вось табе кукіш з маслам.

Па ўсім востраве сіне віліся брухатыя пры выдыху, хісткія і працягла сцятыя на адлёце дымы, нібы гэта самі чэрці гуртам курылі на тым свеце. Пякельнымі здаліся тыя дымы завучу. Ён не мог і галавы прыкласці, да якога кінуцца. Недарма кажуць: лаві вецер і дым у полі. Загрызуць, зацкуюць, злыдні, падумаў Мярэжа. Да чаго ж вынаходлівыя. Не трэба губляць твару і галавы, супакойся: трымай марку і май вытрымку. Не забывайся, з кім маеш справу. Тут галоўнае быць мужыком, нават крыху беспрытульнікам, што значыць адчуваць вечнасць і давяраць лёсу: ні разгубленасці, ні роспачы, ні злосці і лаянкі.

Яго без меры зацікавіла, адкуль усе ж бэрэцца такое мноства дымоў, Няўжо на гэтым востраве столькі чарцей. Чарцей, на яго канчатковую думку, сапраўды аказалася занадта: усе, хто тут быў, чэрці і адно галчанё. Падшыванцы курадымілі мінулагоднімі конскімі яблыкамі, раскладзенымі па востраве. Яны не гарэлі, а тлелі, як і высахлы на дубовых пнях грыб трутавік. Не, такіх вынаходлівых трэба біць і плакаць не даваць. Па тры разы на дзень, і яны будуць... Дадумаць Мярэжа не паспеў. Востраў раптам ажыў, тубыльцы выказалі сябе. Адкуль толькі паперла так голасна, галасна, гучна і нават з перакатамі рэха. Марцовыя каты, падцяўшы хвасты, абавязаны моўчкі спраўляць свае вяселлі.

Мярэжа падняўся на вяршыню вострава. Назбіраў сухога ламачча, конскіх яблыкаў, распаліў яшчэ адно, сваё, вогнішча. Разуўся, выкруціў анучы. Абуўся і пачаў чакаць ды наглядаць. Хутка ён ужо дакладна вылічыў, дзе засела яго дзічына. Усе вогнішчы ледзь чадзілі. Адзіны толькі рупіўся дымам што смалакурня. Мярэжа вырашыў дзейнічаць паступова, пакрокава. Падбадзёрыў і пакінуў сваё цяпельца, знарок скіраваў у процілеглы бок ад прыкмечанага ім вогнішча. І толькі тады, калі дым яго не засціў і не выядаў вочы, пераканаўся, што ён нябачны падшыванцам, рэзка змяніў напрамак. Але і наблізіўшыся да жаданага яму вогнішча, да гуку галасоў, не спяшаўся. Кусты тут былі не надта ўкрыўна-высокія, па пояс, мо трохі вышэй, падкрасціся зусім непрыкметна не выпадала. Ён сцягнуў з сябе кіцель, прысеў на кукішкі і пачаў рухацца гусінай хадой. Але нядоўга, не варта ўсё ж гвардыі сержанту і завучу ўпадабляцца гусаку. Хутка ён ужо поўз па-пластунску, старанна пазбягаючы кустоў лазы, каб няўзнак лішне не пахіснуліся і не трэснулі. Усцешваўся, што поўзаць па-пластунску яшчэ не развучыўся. Сарочка на локцях і жываце, штаны на каленях прамоклі адразу: адкажаце і за гэта, – помсліва і радасна думаў сам сабе.

Неўзабаве ён ужо выразна бачыў усіх. Шасцёра. Яны сядзелі вакол вогнішча. Па цэнтры – глухі Васька, больш за іншых бачны яму, што надало Мярэжы імпэту: ну, Васёк, ну, Васечка – трапіў жучка ў панскую ручку.

Разлік будзе па поўнай, без здачы. Знешне Васька выглядаў не надта пагляднa, каб не сказаць болей, нехлямяжа. Больш падобны не на дзетдомаўца, а на бабу Ягу. Хударлява-сухенькі, расхлістаны, шчупленькі. Падабенства да бабы Ягі надаваў і Борка, што, як у кубле, уладзіўся на галаве ўВанькі. Гэты Борка да ўтрапення падобны быў да свайго гаспадара. Такі ж лядашчы, чарнява-нехлямяжны. Адным відушчым вокам уталопіўся ў завуча, які ўсё яшчэ працягваў паўзці. Галчанё абвесціла трывогу, не выключана, выказала здзіўленне, а мо і задавальненне, убачыўшы нялюбага яму чалавека, ворага, распластанага на зямлі. Заверашчаў не сваім крумкачова-дурным голасам. Але адразу ж набыў і свой: каарр, каарр. І затанчыў, заёрзаў на Васькавых кудлах. Здагадлівы, праніклівы, адзначыў пра сябе Мярэжа, ведае кот, чыё мяса з'еў, адкручу разумную галоўку і кіну сабакам.

– Ну чаго табе, дурык, трэба, – прылашчыў і супакоіў Васька свайго птушынага ведуна.

Па правую ад Ваські руку сядзеў вушасты, з насцярожна-натапыраным кашчавым тварам і заўсёды слёзна-вільготнымі вачыма хлопчык, што нядаўна трапіў у дзетдом і яшчэ не прыцёрся да яго – Міколка.

Свежанькі, падумаў Мярэжа, а вушы нашы. З такімі вушамі – калі ласка ў наш дзетдом, будзем вельмі радыя.

– Уцякаем, – канькаў Міколка. – І сёння біць будуць, а я яшчэ не прывык.

– А ты прывыкай, – суцяшаў Васька. – Раўняйся на Борку: нагу яму зламалі, вока выбілі. А ён усё яшчэ той жа самы. Пацан.

– Твой Борка з урокаў не збягаў, завуча на пацвельваў. Чоўна ў яго не краў.

– Не, не ўцякаў, завуча не пацвельваў і чоўна ў яго не краў, – пагадзіўся з Міколкам Васька.

– Во бачыш...

– Не я бачу, Борка адным вокам ды добра бачыць: у вольным яго жыцці завуча няма і човен яму не патрэбны. А то б... Шыраны, кавыраны, увесь перакурочаны, а смелы. Чалавек, як яму і не баліць.

– Табе таксама на баліць быць смелым, – пакрыўдзіўся Міколка. – Ты ўсё роўна не чуеш ці чуеш толькі напалавіну. Глухога ў адзін бок можна біць і яму не баліць.

– Баліць, – уздыхнуў Васька, – усебакова баліць.

Уцекачы прыціхлі каля свайго вогнішча.

– А ты ад чаго глухі? – спытаў Ваську паплечнік па ўцёках, што сядзеў насупраць яго. Такі ж, як і ўсе, з невядома чым перапэцканымі вуснамі і нават носам, дзюбкай, але паўнакроўна чырванашчокі і з хуценькімі чорнымі вочкамі. Ён таксама ў дзетдоме нядаўна. Па ўсім, са свежанькіх, з навічкоў скалаціў сабе хеўру Васька. Далёка пойдзе, калі лёгкасрай не спыніць – не прыб'юць і ў турмах не згубіцца. А можа і ў людзі выйсці. Наваспечанага ж дзетдомаўца прывяла ў дзетдом бабуля:

– Цяжка. Пакуль здолела – цягнула. А цяпер адчуваю, ніякіх гізунтаў ужо няма. Буду паміраць.

Пакінула ўнука дзяржаве, а праз два тыдні, як пераказвалі, памерла. Адышла ціха, на печы. Толькі яшчэ праз тыдзень яе на печы і знайшлі.

– Ад чаго я глухі? – перапытаў навенькага Васька. – А надакучыла на абодва вухі лухту слухаць. А з адным вухам можна і дурнем прыкінуцца. Хоць у гэтым пашанцавала... А калі па праўдзе, на вайне ўсё, – з напускной

абыякавасцю адмахнуўся Васька. Разумееш жа, вайна. Бомбы, снарады, самалёты, мінамёты: бух ды бух, бах ды бах. Вось, калі з акружэння выходзілі і закрыўся на адно вуха. Пад выбух бомбы бокам адным трапіў.

– Кантузія па-ваеннаму называецца, – давёў да зацікаўленых слухачоў Лёнька Куб. Прозвішча Куб і сутнасць яго таксама куб – што ўшыркі, тое ж і ўвышыню, у росце. Заўсёды з усіх бакоў кубаметравы. Не выцягваўся і не пашыраўся. Не старэў, хаця быў старэй за кожнага, каго заманіў на востраў Васька. Мо таму, што быў надта лянівы, непаваротлівы. Дзіўна, як ён апынуўся разам з усімі тут. Мо калі толькі на руках ці плячах неслі, хаця такога паносіш – кілу на ўсё жыццё займееш. Але ж у яго прымарожанай кубовасці заўжды месцілася праўда:

– І давай не хлусіць. Ніякая ў цябе не кантузія, а канфузія з прыпадачнай канвульсіяй. Дзядзька на базары за яблыкі перапонку перабіў. І правільна, не ўмееш у лужу пя...дзець – не пужай рыбу... Кантузія...

Васька зрабіў вочкі шчылінкай:

– А ў мяне і лодка яшчэ ёсць, – здаецца, зусім не дарэчы выдаў Васька, але галчанё падтрымала яго і пацвердзіла гучным птушыным: каарр. І яшчэ раз: каарр.

– Спёрр, стыррыў! – падвоеным рэ адбіўся ад птушынага дуплета Куб. Ён ужо нагаварыўся ці не на тыдзень. І нават Васькава лодка яго ўжо не цікавіла.

– Дурань, – не сцярпеў Васька, не даючы Кубу верху. – Лодку вада прынесла, з замежжа, з саміх Карпат. Ты, Куб, спаў, як соня, усе спалі ў шапку, калі рака рушыла, крыгаход пайшоў. А я ўкараўуліў. Выйшаў на бераг, а на крызе лодка плыве. І калываецца, як кланяецца мне, просіць, каб я яе выбавіў з плену крыгаходу. Я ледзь не загінуў, праз крыгі прабіўся да яе, бо яна была прызначана мне. І ніколькі гэта не лодка, а шлюпка марская. Крыху меншая за кацер. Але як кацер. Вада спадзе, пойдзем у плаванне. Куды яна сама жадала дастацца. У мора-акіян.

– У мора-акіян! Платы звяжам і рушым, – узрадаваўся чырванашчокі. – На марскую вайну. Пішчалі, марціры і ятаганы. Даеш абардаж. І бойка баявымі сякерамі.

– Шаблямі, – паправіў яго Васька. – Чорны сцяг падымем з чэрапам і касцямі. І я буду галоўным. Толькі не аднавокім, а глухім, што ўвогуле адно і тое ж.

– Гэта будзе пірацкі карабель? – запытаў Куб.

– Так, пірацкі карабель!

– А лодка дзе? Куды лодку?

– Якую яшчэ лодку? – здзівіўся Васька. А Борка ад абурэння вышчыпнуў на галаве яго пасму валасоў. І гучна нешта абвясціў усёй хеўры. Гэта птушына-дзетдомаўскае “нешта” зразумелі ўсе, і адразу:

– Атас! Атанда! Шухер!..

Мярэжа ў поўны рост навіс над уцекачамі. На тую хвіліну вельмі падобны да іх. Перапэцканы зямлёй, зялёным малозівам маладой травы, абвешаны мінулагоднім бадыляччам, прамоклы. І ў завяршэнне дзетдомаўскага, а мо і пірацкага партрэта – у кургузай, да смеху недарэчнай, мечанай Боркам Васькавай шапцы.

Першым пасля абяцанага шухера апамятаўся Васька. Хутчэй за ўсё, да непаразумення яшчэ разгублены:

– Ташноцікаў трэба? Не жадаеце свежых ташноцікаў?

– Ташноцікаў! Якіх яшчэ ташноцікаў? – з падвываннем выгукнуў Мярэжа. – Яшчэ і здзекуецеся? – Мо крыху штучна, а мо і на самой справе непадробна палаючы гневам. – Ташноцікаў, ташноцікаў?

Гэты ягоны ўгневаны крык быў, пэўна. чутны і ў дзетдоме.

– Хіба яшчэ ёсць і іншыя, большыя за вас ташноцікі?

І ў яго запытальнам і трохі разгубленым голасе ўжо не адчувалася ні пагрозы, ні гневу. Хутчэй здзіўленне і мальба.

– А што гэта за ташноцікі? Што за звер такі, і з чым яго ядуць, ташноцікі?

У маленстве Мярэжа, як і яго равеснікі, усё спытаў на зуб. Усё еў: заечую капусту і заечы часнык, шчаўе свойскае і конскае, ад межава-вясновай і летняй адсутнасці спажыўнага і за кампанію, зморшчаную яшчэ завязь яблык, сліў, ад якіх рот сціскаўся падобна курынай гузцы. Еў амаль усё з таго, што немагчыма, супрацьпаказана і забаронена есці, нават паслён – бздніку, тое, што назвай ужо вызначае – непатрэбства, гадасць. Вельмі ж хацелася самому дасведчыцца, а ці сапраўды гэта ўжо такая несусветная гадасць і ёй можна атруціцца. Не атруціўся, цягнуў у рот, і ўсё было неверагодна смачна, бо з чаканнем болю атручвання і суцяшэннем яе адсутнасці. У вайну ўвогуле надаралася днямі пасціцца, нічога не есці. Але ён так і не зведаў, не паспытаў ташноцікаў.

– Смаката, – адказаў Васька. – Двойчы і ўвогуле смаката, таму што ташноціць і ванітоціць. З рота прэ, а жывот рады. Мінулагодняя, непрыбраная ў полі бульба. Картоха мерзлая. Здзіраеш скурку, яна сама злазіць – лепіш аладкай, пячэш і ясі. Мы з мамай вайну перамаглі на ёй... Ташноціць, а смачна.

– І я хочу смачна, – сказаў Мярэжа. – Дайце і мне ташноцікаў.

Усе шасцёра ў дзве пары рук працягнулі яму па рудой пляскатай аладцы. Мярэжа адкусіў і адчуў, што і праўда – муціць. А шасцёра чакалі, што ён скажа, як зацэніць. І кульгавае галчанё адным вокам чакала, цікуючы за ім зверху, на кубле Васькавых валос.

Мярэжа сабраўся і мужна адкусіў яшчэ раз. І смак ташноціка здаўся яму ўжо не такім брыдкім. На трэці ж раз ён ужо зусім прыйшоўся завучу да душы: шкада, што ў яго маленстве нічога не ведалі пра ташноцікі. А цяпер бы масла ды солі не зашкодзіла.

Мярэжа ўсміхнуўся, і ў хлапчукоў мурзата паплылі твары. Завуч ужо еў ташноцікі на ўвесь рот, з прыцмокам, нібыта нічога лепшага есці раней не давялося. Вось так, каля вогнішча ды са сваімі адналеткамі, якім ужо не суджана паспытаць пасляваенных ташноцікаў. З той жа асалодай, з якой калісь упляталіся падсмажаныя на агні, упалыя з дуба і залеглыя ў траву на зіму жалуды, прарасткава ўжо набрынялыя вясновай усходжасцю. Напоўніцу ўплятаў свежанарослую маладую квецень хвоі, падсмажанай на агні. Ташноціць, а журліва смачна... Пэўна, таму што ці не так падсвядома ўваходзіць і праходзіць з усім, што цягнецца ў рот само, дзяцінства, якое непазбежна трэба паспытаць ротам, языком.

І дзень больш ужо не здаваўся безнадзейна сапсаваным. Адно толькі Мярэжа пашкадаваў, што так і не прыкмеціў, не адчуў, калі развітаўся з самім сабой, дзе, калі і як гэта адбылося. Шкада, шкада, што больш ужо як раней, нічога не ташноціць і не ванітоціць.

А тое, што ён сёння такі замурзаны, брудны, вопратка брудная і ногі мокрыя: гразь не сала – высахла і адстала. І ногі прасохнуць.

## Лёнька бярэ “вярхушку”

Нам патрэбны быў новы верхавод, завадатар. Гэта стала відавочна, як толькі дзетдомаўская палундра выехала за нашы вароты. Дагэтуль завадатарам быў, ці трымаў вярхушку, як у нас казалі Палын. Важак быў нічога: калі спіць – з палкай прайсці побач можна было. Толькі, на маю ды і нашу агульную думку, дарэмна ён запісаўся ў баксёрскую секцыю: вучонага вучыць – толькі псаваць. Да ўсяго, руля, нос яму скруцілі набок, пэўна, зусім не баксёры. І ён пачаў помсціць зусім не баксёрам. Біцца пачаў усялякімі фукамі, друкамі і фінтамі. Але ён з’ехаў, як нам даводзілі, у шчаслівае самастойнае жыццё. І цяпер Палын недзе чалавек. І гімнасцёрку, і галіфэ, і боты, пэўна, атрымаў. Яго разам з хлопцамі з нашага дзетдомаўскага духавога аркестра прынялі ў дзяцей палка, каб з цягам часу накіраваць у ваеннае музычнае вучылішча, а то мо і ў сувораўцы. Так дзетдом адразу пазбавіўся свайго духавога аркестра. Але цацкі, інструменты засталіся.

Гэта, як у кніжках пішуць, толькі прадмова.

Нам неадкладна патрэбны быў павадыр, завадатар. Верхавод. Без яго, без вярхушкі, у прыстойна-нармалёвым дзетдоме немагчыма, які ж гэта куратнік без свайго пеўня. І дрэва без верхавіны – агрызак. Нехта абавязкова павінен трымаць верх, інакш ні кукарэку – хто ў лес, хто па дровы. Ніякага ладу, справядлівасці, закону. Некаму парадкаваць нас, тварыць суд і спраўляць прысуд у справах, што непадсудны выхавацелькам – васпіткам. Пачнецца наразбярыха і анархія, а верхаводаў ужо будзе што сабак нярэзаных. І кожны гаўкае і кусаецца.

У нас на завадатара мелася дзве асобы. Адной мы адмовілі адразу. Я назаву толькі мянушку, а вы мяркуйце самі, што гэта за верхавод. Мяняла, так мы яго наракл. Сапраўдны рымскі мяняла: дваццаць капеек ды яшчэ дваццаць капеек – рубель сорак, і ўсяго тры пяцьдзясят: баш на баш і з прыдачай, рэчава і за грошы. Адным словам, жмот і крахабор з цененька-лісlівым галаском і тоненькімі ручкамі, з якіх ніколі і нікому нічога не выпадала.

Другі на завадатара, здаецца, падыходзіў. Таксама разам з Палыном у духавым аркестры іграў. Такім чынам цяпер быў як беспрацоўны. Хаця напалову толькі беспрацоўны, у футболе толк ведаў: корнеры, афсайды, пенальці. Пендаля, калі ўзнікала неабходнасць, мог добрага і лёгка кожнаму з нас даць. Па ўсіх пунктах Лёнька Крутагаловік падыходзіў на верхаводу. Але меў непапраўную загану: быў рыжы. Ад кончыкаў пальцаў да бубна, макацоўбіны. Да ўсяго, пеўневая яго галава сядзела на плячах, як у агароднага пудзіла апоўдні пры ветры. Круціў ён галавой. Як тая лясная ці балотная птушка, да якой быў падобны, ад якой і атрымаў сваё прозвішча. Рыжы ды яшчэ галавой круціць – ёсць над чым думаць сур’ёзна і ўсебакова.

А Лёньку страшэнна хацелася ўзяць “вярхушку” паўладарыць, пакіраваць маленькім калектывам. Футбалісты, яны ўсе такія. Мы ў параўнанні з ім былі недамеркамі: кілаграм на фунт сушоных. Ён жа на дзве галавы вышэй за кожнага з нас. І хаця гэтая галава была рыжай і крутлівай, я не сказаў бы, што яна варыла горш за нашыя, па-дзетдомаўску правільныя, бялявыя ды чарнявыя. Апроч таго, ведалі, у вайну бацька яго быў камісарам партызанскага атрада. І Лёньку, у адрозненне ад нас, беспародных

і звычайных, павінны былі накіраваць у спецдзетдом, дзе выхоўваліся сіраты выбітных і заслужаных людзей. Але так склалася, што ён апынуўся разам з намі, што, зразумела, адразу вылучала і ўздымала яго над усімі.

Яшчэ за адну справу мы аддавалі належнае рыжаму крутагаловіку. Ён сядзеў у карцары. Гэта было даўно. Але праўда. Ён не курыў, але пакурваў. Яго прыхапілі. Дырэктар дзетдома ў абед высыпаў яму ў талерку пачак махоркі – самай што ні на ёсць лепшай, маршанскай, знайшоў жа якой караць. Лёнька шпурнуў тую талерку са славутай маршанскай махоркай дырэктару ў твар і трохі на кіцель – развешаў локшыны, як медалі, за што і пацярпеў. Свайго карцара ў дзетдоме не было, але назва існавала – паграб з лёдам, дзе ўлетку захоўвалася ўсё, што магло сапсавацца, а зімой – астатняе, патрэбнае ў любую пору, ад бульбы, буракоў да морквы. Лёньку не пашанцавала, а мо і наадварот. Пашанцавала. Ён трапіў у прамежак паміж мясам і ўсім астатнім. Больш бульбай. Бульба яшчэ была мінулагодняя, таму з непрыемным пахам. А ад мяса ўжо і духу не засталося: лёд, засыпаны тырсой, чым яго, мяса, зразумела, прыкрывалі. Лёнька пры лёдзе і смярдзючай ужо бульбе адсядзеў цэлы дзень і цэлую ноч. Мог бы і болей, і сядзеў бы як міленькі болей, але ўчадзеў – нехта прыкрыў выцяжную трубу. Пачало ванітаваць, а да ўсяго дапякалі пацукі, надта ж бессаромна нахабныя, асабліва калі чалавек прыняволены.

З пограба Лёнька выйшаў героем, хаця ў вочы і ўслых пра гэта не гаварылі: справа ў дзетдоме звычайная, жыццёвая, як гэта звычайна ў жыцці адбываецца: сёння ты герой, а заўтра – скула на адным месцы, што адбылося з Лёнькам яшчэ да таго, калі ён патрапіў да нас. У дзетдом яго прывёў дзядзька, родны брат Лёнькавага бацькі. Ён быў ляснічым у казённым лесе. А пасля вайны попыт на лес быў неверагодны. І ў яго вадзіліся добрыя грошы. Лёнька расказваў: на свае вочы бачыў тугі жмак і не адных толькі рублёў, але і дзясятак, паўсотак. Ён пасля смерці маці жыў адзін у хаце. Галодны, халодны і вашывы. Вошы, што проса, сыпаліся з галавы. Таму ў школе сядзеў адзін за партай, самай апошняй у класе. Адсадзілі ад усіх іншых вашывых, але не так. Дзядзька зжаліўся і здаў у дзетдом. На развітанне купіў марожанае, даў рубель, а да гэтага справіў новыя, пераліцаваныя з яго апраткі штаны з чортавай скуры, картовую сарочку такога ж кшталту і новенькі абутак: белыя анучы і яшчэ з водарам балота і свежа дранай, не зусім прасохлай лазы пасталы. Гэта быў ці не першы новы Лёнькаў абутак. Ён, як акрылены, на сёмым небе ад шчасця, неўпрыкмет агораў дарогу ад свайго сяла да дзетдому. Стаяў звар'яцелы ад спёкі дзень, нават дарога ўжо з самага ранку пасівела і стаілася ў задумлівай сталасці. І па такой дарозе радасна брыў рыжагаловы хлопчык. Весела пырскаў з-пад новых пасталоў белы з шэрымі каменьчыкамі прысак. Адзіным Лёнькавым клопатам было ўберагчы ад гэтых вясёлых пырскаў новыя белыя анучы і пасталы, пранесці, не запляміўшы, у будучае шчаслівае жыццё.

Але ў дзетдоме пасталы, анучы, як і штонікі з сарочкай адабралі. Апранулі ў сінія з палоскай штапельныя ці сацінавыя штаны і нязвыклыя яму і нагам рыплівыя чаравікі, што толькі палохалі скрыпам. Вымылі карболкай галаву, прапарылі цела і адправілі ў ізалятар. Той жа ночы Лёнька выцерабіўся з замкнутага на ключ ізалятара. Знайшоў і апрануў сваё яшчэ непрыбранае і неспаленае адзенне і даў драла. Збег з дзетдо-

ма. Яго адлавілі ў першым жа бліжэйшым горадзе. Адправілі ў дзіцячы прыёмнік-размеркавальнік, да высвятлення, хто і што ён за цаца. Чаму бадзяецца адзін па свеце і на волі.

Лёнька спрабаваў уцячы і з ізалятара. Таму што яго адзенне таксама адабралі і ў дзіцячым прыёмніку-размеркавальніку. Выдалі ўсё казённае і добра зношанае, што Лёньку прыйшлося зусім не даспадобы, не ў яго натуры было развітвацца са сваім. Толькі ж дзетпрыёмнік не дзетдом, у ім, не як у Пронькі за сталом, лішні раз паветра не сапсуеш. Не занаровішся і не забалуеш. Уваход і выйсце – пад замком. А ў пераканаўчы дадатак на варотах у падворак самы сапраўдны вартавы салдат з вінтоўкай і прымкнутым штыхом. Плот з усіх чатырох бакоў свету – пад калючым дротам. У пакоях жа вокны металёва-закратаваны. Для дыху свежым паветрам – фрамуга, дзірачка, як у цялічкі плямінка на лбе.

Толькі Лёнька галавасты, урадзіўся такім. Ён удала выбавіўся з-пад варты ў пакоі. А на падворку выкарыстаў вялізны хлеў пад дровы. Глухі і запушчаны дравянік, нікім як варта не даследаваны. З даху таго дравяніка яго і знялі, як шпака са шпакоўні. Надта ж пільным аказаўся на варотах салдацік з вінтоўкай. Кінулі ў сапраўдны карцар, і блізка не раўня дзетдомаўскаму. З завалай на акаваных дзвярах і на свірнавым замку. І ў сярэдзіне не разбяжышся, тры крокі направа, тры налева, голыя каменныя сцены і прымкнуты да іх удзень голы ложак. І на ўвесь дзень – акраец хлеба, прысыпаны соллю, кубак ледзь цёплай вады, праўда, з цукрам. Чай. Не, што ні кажы, але былі і сярод дзетдомаўцаў людзі. Праз усё прайшлі, хаця да турмы і не дасягнулі. Але гэта, не выключана, яшчэ наперадзе – жыццё доўгае.

Мы сядзелі ў самым вялікім для хлопцаў дзетдомаўскім пакоі – дваццаць чатыры ложкі. Занадта, але вокны ў сонечны бок з абедзвюх сценаў і адчыняюцца, на шпінгалетах. Можна пасля адбою і ў мёртвы час цішком слізнуць з пакоя долу і заняцца сваімі справамі. Цяпер жа пасля адбою і адчапной праверкі дзяжурнай выхавацелькай мы ўсе былі на месцы. Вырашалі, каму аддаць вярхушку. Палын з'ехаў і не прызначыў пераемніка. Абодва кандыдаты, Мяняла і Крутагаловік, сядзелі за дзвярыма ў агульным калідоры, вонкі.

– Крутагаловік – не. І гаворкі няма, – у адзін голас заявілі Толік Хмыр і Яшка Кныш, падпявалы і памагатыя, шасцёркі Мянялы. – Вярхушку – Мянялу!

Тут узняўся такі гвалт, – сабачыя вяселлі і вясновыя разборкі гракоў – памяркоўныя гутаркі. Я ўжо казаў, што большасць з нас думала пра Мянялу. Але яго пасобнікі бралі на горла. Валтузіліся галасамі доўга. Ахрыплі, асіплі, але так да нічога і не дамовіліся. Вырашылі паклікаць абодвух прэтэндэнтаў: няхай самі хоць на кулаках даказваюць, хто з іх найбольш вярхушкі варты. І ўсё ж галасіць не спыніліся.

– Крутагаловіка, Крутагаловіка, – сіпеў нехта за печчу.

– Крутагаловіка, – устаўляў, лежачы на ложку, свае дваццаць капеек і я.

– Рыжы, – ці не ў дзясяты раз піскнуў кургузы Яшка і схаваўся за шырокія плечы Хмыра.

Лёнька стрымаўся. Пагардліва хітнуў галавой:

– Пушкін быў таксама рыжы.

Я не хацеў пярэчыць Крутагаловіку. Але неяк само вырвалася:

– Нічога загнуў, арапа заправіў. Пушкін – сам з арапаў.

– З арабаў, – паправіў мяне Лёнька – а ўсё роўна – рыжы.

– Брахня! Арабы як негры. Чорныя. Рыжых сярод іх не можа быць.

Крутагаловік холадна зірнуў на мяне, як прымяраўся:

– Юшку табе пусціць, ці што? Каб паразумнеў. Стукнемся?

Стукацца мне з Лёнькам было ўсё роўна, як нашаму Бобіку, калі ён стырыць пайку хлеба, а яго зловяць: адразу ж набок, лапкі ўгору і белае чэрава напаказ. Але тут я не пажадаў лапкі ўгору:

– І стукнемся, і хукнемся, – распаляў мужнасць, выдзіраючыся з ложка і з натоўпу хлопцаў, цалкам упэўнены, што Крутагаловік расквасіць мне хлебарэзку. Выратаваў Чмых. Звыкла чмыхнуў і надзьмуўся гістарычнай важкасцю моманту:

– А бацька ў камісарах партызанскага атрада таксама быў рыжы?

Усе разам са мной замёрлі. Лёнька яшчэ больш парыжэў і выціснуў:

– Таксама, – і апусціў рукі. Я зразумеў, што ў яго ўжо няма ахвоты біцца са мной. І мне ўжо было да лямпачкі, якой масці быў Пушкін.

Добрую хвіліну Лёнька стаяў не кратаючыся. Потым павярнуўся да мяне. Я нават не пазнаў яго. Твар як пераліцаваўся, медна заветрыўся. Выразна пазначыліся скулы. Значна пазней мне даводзілася бачыць такія твары ў тых, хто амаль што не ведаў пакояў. Увесь час у лесе, тайзе ці каля вогнішча і ракі. Гэта была ўпартая і зацятая парода людзей, няздольная ні ў чым саступіць нават самому чорту.

– Ну і што? Рыжы! Увесь у мяне, а я яго сын. Ну, налятайце фунт сушоных.

Мяняла бачком, бачком пачаў набліжацца да Лёнькі, як заўсёды перад бойкай. Пачынае з боку, б'е першым, нечакана і балюча. Лёнька стаяў не кратаючыся і ўва ўпор глядзеў на Мянялу, мядзяна апальваючы таго рыжмоццем. Тут зноў выкаціўся Чмых, толькі цяпер ён ужо не чмыхаў. Зусім не ўласціва сабе, разважліва, бязчмыхава сказаў:

– Ну і што, што рыжы. Чым рыжэй – тым даражэй. Прымаўка такая ёсць.

Мы моўчкі пагадзіліся з ім і з прымаўкай.

*(Працяг будзе).*

Іна Снарская



...ніхто не ведае нас горш,
чым мы самі...

# Куды павяртаецца поўня

* * *

А вечная толькі зямля мая...
Гарады растуць, адыходзяць людзі.
Хукае хлапчанятка на шкло, –
Даражэйшай зямлі ў яго не будзе.

Вечная, вешчая зямля мая,
Як чарнічанка – сэрцам да Бога.
Укрыжуе нябёсы каля камля
Дарагая мая дарога.

* * *

“Не!” – кажу я нягодам усім,
“Так!” – надзеі й мілосці.

Буду неба й замлю прасіць,
Каб сябры завіталі ў госці.

Зачыніліся дзверы ў бары,
Толькі ў Бога ключы ад Раю.
Гаварыце са мной да зары,
Пакуль неба трымаю.

Гэтак цягнецца збажына
Да далоні прыязнай.
Зберажы, Міласэрдны, нас,
Пакуль сонейка ясніць.

Зберажы, Абаронца, кроў
Родную і чужую,
І зямлю, і маю любоў,
І сцяжынку жывую.

## *ЧОРНА-БЕЛАЕ*

*Мы, як і нашыя дамы,*
*пабудаваныя на снезе...*

**Рыгор Барадулін**

На снезе нашыя дамы,
Дзе коміны дымяць зямлі,
І зазямляюцца снягі
У чорны сон маёй тугі.

Ідзе па снезе чалавек,
Нябёсны і зямны навек,
Дрыжыць на веях белы смех,
І першародны муліць грэх.

Растане снег
І сыдзе грэх
Упрочкі, проч,
У бела-ноч...

А чорна-белымі снамі
Дамы ляцяць і ляцяць над намі...

## *ВЕЧНАСЦЬ*

Адкуль прыходзіць трава,
півоніі ды язмін?

Куды павяртаецца поўня?
Сёмае кола дрыжыць на вадзе,
нібы ад каменьчыка,
кінутага дзяўчынкай ці хлопчыкам –
сынам, унукам...

Я стаю на беразе рэчкі
і гляджу на ваду.
Квітнеюць язмін і півоніі,
распускаецца поўня, –
па коле, па коле,
па кровазвароце жыцця...

Нехта кідае, кідае каменьчыкі,
а кола звініць, і звініць, і звініць...

* * *

Калі я пішу, то адчуваю плынь жыцця –
не дарэмна, усё не дарэмна...
Коціцца купальскае кола з гары,
а мне здаецца, што яно ўзлятае ў неба,
становіцца німбам для сонца.
Некалі ў дзяцінстве бабуля казала мне,
што на Купалле – сонца таньчыць.
Я глядзела на сонца,
але нічога  не бачыла
акрамя чыстага святла.
Заплюшчвала вочы – і зноў не бачыла.
Цяпер гляджу – і бачу. Які вясёлы вясёлкавы німб!
Толькі... каму расказаць пра гэта? Хто паверыць?

## *ПАВОДЛЕ «СТАЛКЕРА»*

І пакрые вада забыцця ўсё, што раней мела значэнне.
Жарсці адыдуць, расчыняцца ў плыні мінулага,
І будзе ноч падобная на дзень, а дзень падобны на ноч.
І слабасць мая стане моцнай, як маладое дрэва,
яно толькі пачынае расці...
Бурштынавыя хвалі на мелкаводдзі гайдаюць паветраныя замкі,
якія так і не сталі дамамі, бо не пусцілі карэнне ўглыб...
А я буду вечнасць стаяць на беразе месца, дзе збываюцца жаданні,
ды не зраблю нават кроку.
Ніхто не ведае нас горш, чым мы самі.

## ЖЫЦЦЁ

*Дарогі былі перапоўнены...*

**Марцэліюс Мартінайціс**

Бяжыць дзяўчынка,
а цень яе – нібы птушка.
Ідзе жанчына,
а цень яе – нібы дрэва.
Брыдзе бабуля,
а цень яе – нібы свечка.
Цячэ рэчка. Свеціць месяц.

* * *

Калі ты была мятлікам,
свет твой спяваў зялёным
лёнам, бярозы і клёны
гайдалі ў далонях ціш.

Калі ты была мятлікам,
поле свяцілася сінню,
поўня паўнела небам,
а ты была... Ты – была!

Калі ты была мятлікам,
проста... лётала летам.
Калі ты прачнулася сёння...
а ўжо на веях зіма.

## ДОЖДЖ

*Унучку Макарчыку*

Больш грымела, чым дажджыла,
Нават ног не намачыла.
Я схаваю парасон
У дзіцячы вешчы сон.

Дожджык, дожджык, секані,
Мы паедзем на кані
Па узмежках, па гарушках...
Гушкай, сон, шапчы на вушка.

Сіні-сіні вешчы сон
З дзівасілавай расой.

* * *

З паўночных хмар будую дом:
Мая зямля – мая любоў.
Світальных песень пералёт
І памяць куляй  навылёт.

І дзень, і ноч, і дзень, і ноч
Радзіма вольным небам крочыць.

* * *

Рыпіць журавель драўляны
Каля анямелай крыніцы.
Ты быў для мяне світальны,
Дазволь хоць табе прысніцца.

Рыпіць журавель драўляны
Па-птушынаму, развітальна.
Аднойчы ссівеюць паляны,
І кветкі паадцвітаюць.

Рыпіць журавель... Ды неба
Напоўніцца навальніцай,
І будуць грамы, як трэба
Дажджу. Ажыве крыніца!

А потым вярба старая
Маліцца будзе заўзята,
Каб даляцеў да Раю
Той журавель крылаты.

### *ПАВУЦІНКА*

Грае старая пласцінка,
Хуткае сэрца, цішэй, –
Восені павуцінка
Ляціць на ўзроўні вачэй.

А за вокнамі – лета,
А за летам – вокны,
Шыбкі цалую пяшчотна, вогка
У краёчак стамлёнага свету.

Мы ляцім на планеце гэтай,
Такой маленькай, нібы паветраны шарык,

І я трымаюся за павуцінку,
І мама нясе мяне на руках.

* * *

А між думкамі – ангела крылы.
Пачынаецца новы дзень.
Як жывеш, з кім летуеш, мілы,
Лётаеш дзе?

Забываць – няўдзячная справа.
Вечар. Колы дрыжаць на вадзе.
Злева – воля і воля – справа.
Радасць дзе?..

* * *

Ты казаў — найбольшы грэх знішчыць каханне...
Небу па самыя плечы світанне,
Купальскія воды амываюць ногі.
Якое шчасце шукаць яшчэ, якія дарогі?

А куды яно знікла, калі было?
Тое каханне спеўнае адгуло,
Адляцела з птушкамі, ад'енчыла, адкрычала...
Цяпер не спіцца начамі...

Ужо не пабачаць нас разам шматкроп'і, сказы...
Шмат гаварылі, каханне згубілі.
А шчасце не слухала нас, рушыла ўпрочкі.
Моўчкі...

## *РЭЧКА*

Усё хуткаплынна і недарэчна,
як рэчы, складзеныя ў валізу...
– Зачыняюцца дзверы,
вам сюды нельга без візы!
– А як жа мне жыць,
калі я рэчка?

## *ІДЗІ ПА ВАДЗЕ*

– Без паветраных замкаў
і ветру на мулкім дне?

– Ідзі па вадзе!
– Без словаў астылых, мілых,
у радасці і бядзе?
– Ідзі па вадзе!
– Мятліка крылы, ластаўкі пералёт,
зіма, галалёд... Надзея дзе?
– Ідзе па вадзе!

## *СНЫ*

*дыптых*

**1**

*Зноў хачу навучыцца хадзіць:*
*Трымаючыся за дрэвы, перайсці двор...*

**Марцэліюс Марцінайціс**

Трымаюся за дрэва, як за праўду,
нібы за цёплую руку бабулі,
ці за дзядулеву пашэрхлую далонь...
Стары арэх зялёнымі пальцамі кранаецца майго вакна,
працірае да бляску, да чысціні...
Аднойчы я задрамаю пад гэтым дрэвам,
а прачнуся ў сябе дома.

**2**

Прастора падказвае: чацвёртае вымярэнне ёсць!
Сяджу за сталом у сваім двары і чытаю кніжку.
Бачу адначасова вакно ў драўляных аканіцах,
гадзіннік за шклом у глыбіні памяшкання,
свой адбітак за сталом у двары, і раптам...
за маёй спінай вымалёўваецца не стары штыкетнік з агародам,
а незнаёмы краявід з лугавінай, кустамі, лесам на даляглядзе...
Што гэта? Хіба не чацвёртае вымярэнне?

## *МАЎЧАННЕ*

Уся Радзіма ў поглядзе з-пад вей.
Дзе вецер вее і руйнуе сцены,
Народжаныя вольнымі адценні
Майго маўчання ў поглядзе з-пад вей.

Там рай і пекла, і любоў, і здрада,
І белакрыла над зямлёю радасць,
І кроў закалыханая ў траве, –
Усё ў паглядзе стомленым з-пад вей.

Вякі ляцяць, рунеюць збажыною,
О, Божа, так было са мною,
Нібы плыву на плоце за вадою...
Зямля мая, ты чуеш, як маўчу?!

### *МАЛІТВА*

Госпадзе, Збаўца наш,
прабач нас усіх, прабач!
Бачыш, палымнеюць дарогі,
палыном зарастаюць шляхі да Бога.
Веры выракаемся, пужаемся...
Каіны і Авелі ляцяць на адным крыле.
Лёс такі. Божа, уратуй мяне,
родных маіх дарагіх і няродных..
Нават катаў ратуй,
бяспамяцтва годных,
і тых, свабодных,
чыя кроў запяклася ў траве.
Ноч міне...
Даруй, пашкадуй,
Сэрца даверы.

* * *

«Я – тут, я – тут!» – стукаю ў браму сэрца.
Атруты столькі вакол, столькі раптоўнай смерці.
Стукаюся... Толькі лядок зары...
Зірні мне з надзеяй у вочы, зірні,
Такой заінелай, нясмелай...
Птушкай белай лётаць хацела,
Толькі цяжкое цела...
Караценлі дні, даўжэлі ночы,
Зірні мне з лагодай у вочы...
Ваўчынай сцяжынай, прарочай
Бягу ў гушчар лясны проці ночы.
Нашча выпіваю зару, гавару...
А ў адказ крумкачынае: «кру-кру-кру».

* * *

Надзея – дзіва. Небакрай. Зара.
Надзела я кашулю змагара.
Гарыць зара і зорыцца гара,
А я стаю між зорак, рэк. Пара.

Даўно пара змагацца за жыццё.
Зара, чаму ты колішся асцём?
Ранейшай ўжо не буду. Каляда
Пшаніцу ў двор насыпала ў мядах.

### ***ЗАГАВАРЫ***

Загавары, каб я цябе пачула.
Пташыны сад. На дрэвах сны начуюць.
Я чую пад карой разлівы рэк.
Загавары, мой родны чалавек.

Цераз гады, цераз грамы і злівы,
Загавары, і пацякуць шчасліва
Разлівы рэк у сэрцы пад карой.
Прыслухайся. Загавары са мной.

### ***ЦІМОШЧАНКІ***

*Ласкі не шкадавала неба,*
*Дароў пан Бог не шкадаваў,*
*Двойчы ён Слова табе даў...*

**Майя Львовіч. З кнігі «Ластаўка, ляці!»**

А можа і ўкраінская кроў у маёй жыве...
Аднойчы з Украіны прыйшлі продкі мае,
Вунь тыя Цімошчанкі, ціхмяныя людзі,
Якім не прыносілі шчасце *на блюдзе*,
Непаметнае шчасце, кветак цішэй,
Ды хацелася лётаць аблокаў вышэй,
І струны вашчыць, і мячы каваць,
Каб свабоду сваю на плячах трымаць.
Цімошчанкі, ціхмяныя людзі,
У зямлю беларускую ўраслі па грудзі,
А сляды іхнія на дзяціннай зямлі
Адбіваюцца ў сэрцы маім дзень пры дні,
І дзве мовы жывуць, карагодзяць, не спяць,
Каб нябёсы мае на плячах трымаць.
Цімошчанкі – ціхмяныя людзі...
Ды гарачую кроў зіма не астудзе.
Свечка гарыць. Цячэ вада.
Два берагі-абярэгі мне Бог даў.

* * *

Чаму дарагое такое балючае?
Лячу над лясамі, над сінімі кручамі.
Душа мая вучыцца тваю разумець.
Не здрадзіць. Не анямець.
На калені ўпасці. У людзях не прапасці.
Піць цішыню, як віно...
Вунь на выспе будуе каўчэг свой Ной.
Недзе попелам засыпае Пампею.
Усё гэта кадры адной эпапеі.
А роднае – такое балючае.
Малочныя рэкі. Казкі гаручыя...

## СЯБРОЎЦЫ

**1**

*Пад цяжарам любові ўпала любоў...*

**М. Львовіч**

Даруйце, бары і лясы,
Песня мая знямела,
На вярбе пасялілася амяла,
Смокча птушыныя галасы,
Як змяя.
Вясновае неба цяжарнае сонцам,
Гукае песню маю бясконца.
Ды як мне спяваць,
Калі птушкі ўсе разляцеліся,
Сцелецца ноч па зямлі мяцеліцай.
Адляцелі сябры-ваяры
У бары, на хмарынках начуюць,
На галінках сляпой зары...
Не бачу, сэрцам чую.
Пад цяжарам любові ўпала любоў.
Хто застаўся са мной,
Хто заспявае сэрцам,
Што вера мацнейшая смерці?

**2**

Гэтыя словы такія знямоглыя,
Нібы не словы зусім, а скарынкі.
Па небе ляцяць каляровыя сны і хусцінкі,
А дацягнуцца не можна мне.
Птушкі вясну праслаўляюць,

Лашчацца ў небе ластаўкі,
А мне радасці не хапае,
Дзень стаў такі,
Нібы гора гарой акрыляю.
Словы цяпер не свецяцца,
На старонках – вецер іх.
Дрэвы без ценю, радкі без агню,
Мову не пазнаю.
Словы волю сваю адспявалі.
Па небе плывуць караваі,
А я хапаю адны скарынкі.
Хлеба! Лаўлю, лаўлю...
А гэта толькі леташні снег.

**3**

Хто ў мяне забірае сяброў?
Кроў запяклася на скроні.
Навечна? Да скону?
Непатрэбныя літары, сказы...
Хто ў мяне забірае сяброў,
Нечакана, адразу.
Зноў пытанне і зноў без адказу.
А вясна прамаўляе любоў
Выразна.

**4**

Калі выплакацца – стане лягчэй.
Бяжыць, бяжыць прэч з вачэй
няўлоўная постаць твая,
а я
нават загаласіць не магу...
Успамін: мы ляжым на снезе,
як на лугу,
глядзім у неба, а яно ўсё бліжэй і бліжэй...
Не трэба, неба, спяшыць,
увесну так хочацца жыць
і ўсмешку тваю да грудзей туліць,
а не цалаваць на крыжы.

**5**

Чырвонае неба цяжарнае сонцам
Просіцца на краёчак далоні:
«Дазволь пасядзець, у вочы твае паглядзець.
Дзе ты? З кім ты?»

Усе разляцеліся.
Сябры мае, у душы мяцеліца.
Дзе вы, сябры мае лепшыя, першыя?
Вось неба. Вось сонца.
А вы ўжо бясконцыя...

**6**

Дзень смерці — як дзень нараджэння
у тое жыццё, што няма ў ім меж,
у тое невымоўнае,
што дрыжыць на адной павуцінцы,
але ўмяшчае цэлы Сусвет.

## *РОДНАЙ МОВЕ*

А гэтая любоў большая за мяне, –
не праміне,
сыноў, дачок захінае.
Любоў ведае, знае:
калі нават рэкі назад пацякуць,
і няўдачы мячы агнявыя скуюць
у вольнай душы салаўі пяюць
на роднай мове світання.

## *ВЕЧНАСЦЬ*

Калі івалга будзіць ранкам
і гэта найлепшая песня,
калі ты яшчэ спіш і не спіш адначасова,
а рэчка цячэ з мінулага ў будучае скрозь цябе,
ты заходзіш у ваду і маладзееш,
свет багоў, звяроў і птушак расхінае нябёсы
над тваёй галавой парасонам,
а сонца ўжо ўмылася,
вунь плыве на сваім зялёным чаўне,
гэта значыць, што ты адраджаешся,
і восень яшчэ за гарамі,
і зіма далёка,
і жыццё неасяжнае, вечнае...
Дыхай, дыхай, дзяўчынка,
плыві, човен, плыві...

* * *

Кроў за кроў, зуб за зуб, –
Зноў па коле гісторыя?
Вырай – ён жа не хаты зруб,
А Радзіма – не тэрыторыя.

Сем «я», мы – сям'я,
Не па крыві, па сумленні,
Аб'яднаныя тым, што ты і я
Не жадаем стаяць на каленях.

Коціцца кола з гары,
Рыкаюць каіны, як звяры,
А мы верай багатыя
Нават за кратамі.

Верай, праўдай сваёй
З роднай зямлёй,
Зраненай, ды не задушанай.
З намі продкі і неба да каранёў.
Душы вандруюць пушчамі.

Не скарыліся! Не!
Бо Скарына на правым крыле,
На левым – Кастусь Каліноўскі!
Новы дзень пачынаецца. На зале
Спарышы прарастаюць Боскія.

* * *

Каму маіх прычалаў цішыня
Не адзавецца поўняй пад грудзямі,
Хто не пазнае, што хаваю я
Пад ліўнямі і пад грамамі,
Пад скураю вужынаю
(Я дзён здымаю на нач світку таямніча)
Мы проста сведкі той слязы грамнічнай,
Дзе ўсе спакусы і жалі на дне,
Каму мая журба не забаліць,
Падзякую, перагарну старонку...
І заспявае ў небе *жайвар* звонка,
Запахне хлебам і маёй старонкай,
Як лустаю абуджанай зямлі.

проза

Віктар Варанец



...столькі гадоў марыў убачыць гэтыя скарбы
і спыніўся за крок ад іх...

# Крымінальны ланцужок

***Апавяданне***

“Дваццаць першага верасня а сёмай гадзіне раніцы я пачаў абход даверанага мне ўчастка ў межах вуліц Віленскай, Грандзіцкай і Мураўёўскай. Прыкладна ў 7.15, праходзячы берагам ракі Юрысдыкі, я заўважыў, што на ўзгорку ляжыць нейкі чалавек. Падышоўшы бліжэй, убачыў, што гэта маладая дзяўчына прыкладна 16-18 гадоў, апранутая ў чорнае паліто, пад якім не было ніякага адзення. Шыя яе была перарэзаная. Прыкмет жыцця пры аглядзе ахвяра не падавала. Згодна інструкцыі аб дзеяннях у такой сітуацыі я пачаў свістаць у службовы свісток. Праз некалькі хвілін да мяне падышоў мясцовы дворнік Максім Кугач, якому я загадаў стаяць каля трупа і не падпускаць нікога. А сам накіраваўся ў дом губернатара, патэлефанаваў ад дзяжурнага ў аддзяленне вышукной паліцыі і згодна іх загаду вярнуўся да цела. Праз дваццаць хвілін прыехалі следчыя, а следам і карэта з доктарам. Пасля чаго, з дазволу паліцыі, вярнуўся

да выканання сваіх службовых абавязкаў. Гарадавы старшага акладу Патапаў Мікіта Мітрафанавіч".

Я закончыў чытаць рапарт гарадавога і абвёў вачыма пакой. Тут сядзела ўся наша каманда вышукнога аддзялення: следчыя Змушко Леанід Уладзіслававіч, Мітрохін Сямён Феліксавіч, Пузыроў Леў Пятровіч, Дзябёлаў Іван Ільіч і пятым стажор Кныш Васіль Яўгенавіч... Так, штат пакуль невялікі, але і мы толькі год як утварыліся пры паліцэйскім упраўленні горада Гродна.

– Ну што, панове, – працягнуў я свой выступ, – у нас з вамі забойства. А гэта ўжо сур'ёзна! Думаю, неўзабаве і губернатар зацікавіцца ходам следства.

Усе згодна захіталі галовамі, але асаблівага драматызму на іх тварах я не заўважыў.

– А зараз паслухайце заключэнне медыцынскага эксперта.

Я выцягнуў з папкі чарговую паперку і зноў пачаў чытаць.

"Паводле першаснага агляду можна зрабіць наступныя высновы. Труп асобы жаночага полу ў межах 16-18 гадоў, ляжаў на спіне, рукі падцягнуты да галавы, ногі раскінуты ў бакі. Галава павернутая ўправа. На горле бачны глыбокі парэз, які і стаў прычынай смерці. Рана нанесеная тонкім вострым прадметам накшталт струны, дроту і таму падобным. На твары прысутнічаюць крывападцёкі. Слядоў згвалтавання не назіраецца. Апроч паліто чорнага колеру іншае адзенне, як верхняе, так і ніжняе, адсутнічае. Смерць наступіла прыкладна паміж дваццаццю чатырма і трыма гадзінамі ночы. Труп дастаўлены ў гарадскі морг для паталага-анатамічнага ўскрыцця. Судова-медыцынскі эксперт Іваноў Марк Захаравіч".

Я адклаў паперку.

– Такім чынам, панове, падвядзем першыя вынікі. Невядомая асоба жаночага полу 16-18 гадоў з невядомае прычыны бяжыць аднекуль у адным паліто і гіне на беразе ракі ад рук невядомага забойцы невядома за што. Ці не зашмат тут невядомага?

Следчыя дружна загулі:

– Адназначна вісяк! Ні адной зачэпкі! Можа, прыезджая якая! Вазіся тут з ёй.

Я падняў руку – і гул адразу ж сціх.

– Зараз кожны бярэ фотаздымак ахвяры і пачынае працаваць. Леанід Уладзіслававіч, вы прайдзіцеся па дамах вакол месца забойства – можа, хто што бачыў, чуў. Мітрохін Сямён Феліксавіч зоймецца публічнымі дамамі і прытонамі. А раптам яна адтуль збегла?

Мітрохін тут жа ўскочыў і сваім пісклявым голасам пачаў абурацца:

– Ілля Аляксандравіч, ну чаму ў бардэлі заўсёды я? Жонка, калі даведаецца, зноў закоціць скандал, як і мінулым разам. Тыдзень сіняк з вока не сыходзіў.

Пузыроў з месца тут жа кінуў:

– А Вы, Сямён Феліксавіч, пераапраніцеся ў сукенку і з такім голасам у бардэлі за сваю пойдзеце. Яшчэ і прыплоцяць.

Усе грымнулі ад смеху. Мітрохін махнуў рукой і, пакрыўджаны, сеў на месца.

Я працягваў.

– Іван Ільіч, за вамі картатэка. Можа, там што ёсць па забітай. Стажор Кныш будзе сядзець на тэлефоне і каардынаваць нашу працу, а я прайду-

ся па сваіх сувязях. Заўтра а 9-й гадзіне чакаю справаздачу ад кожнага. І не забывайце, панове, пра іншыя справы, што вісяць на вас. Іх ніхто не адмяняў. Таму за працу, панове!

Яшчэ ў судовай школе ў Вільні выкладчыкі бесперастанку нагадвалі нам, што сапраўдны сыскар павінен мець багатую агентуру сярод розных слаёў насельніцтва. І хаця я толькі год як перабраўся ў Гародню пасля заканчэння гэтай судовай школы, некаторыя напрацоўкі ўжо паспелі з'явіцца. І я рушыў на Мураўёўскую, дзе ў карчме "Версаль" адзін мой добры знаёмы "акучваў" у карты наіўных правінцыялаў з навакольных мястэчак. Звалі яго Кірпа Зыгмунд Рамуальдавіч, і прадстаўляўся ён усім радавітым шляхцічам з-пад Варшавы. У паліцэйскіх колах яго ведалі пад мянушкай Козыр, а таксама як Рылава Яна Баляслававіча, выхадца з беднай сям'і краўца са Скідаля.

Нягледзячы на ранні час, Козыр быў ужо ў карчме, дзе смачна снедаў бульбянымі кнедлікамі са шкваркамі, прагна запіваючы іх цёмным півам.

– О, пан следчы! – нібы радасна ўсклікнуў Кірпа-Рылаў, убачыўшы мяне на парозе. А вочы, тым не менш, спалохана забегалі. Я падышоў ды шынкара, замовіў куфаль светлага піва і сеў насупраць Козыра.

– Пан следчы завітаў на ранішняе піва з прычыны хісткага здароўя? – паспрабаваў жартаваць мой субяседнік.

– Не разумнічайце, Рылаў, – адразу ж абарваў я яго. – Дзе яшчэ знойдзеш у такі час такога абібока, як вы? Толькі ў "Версалі".

– Пан следчы так хацеў бачыць беднага Зыгмунда Кірпу?

– Пан следчы, – дражнячы, я нават падрабіў яго голас, – хацеў бачыць нахабнага крымінальніка Яна Рылава, якога год назад адмазаў ад турмы, растлумачыўшы абрабаванаму гаспадару сыраварні Апанасу Цяжэльніку, што ён сам, будучы ў нецвярозым стане, выкінуў у Нёман залаты гадзіннік і партманэ з грашыма. А фотаздымак з адбіткамі пальцаў злодзея і рэцыдывіста Козыра да часу ляжаць у мяне ў сейфе.

– Ну, добра-добра, ужо і пажартаваць нельга, – замітусіўся Козыр. – Мы ж свае людзі, Ілля Аляксандравіч.

– Не, Козыр, – запярэчыў я, – сваімі мы дакладна ніколі не будзем, а вось дапамагчы і гэтым часткова аплаціць паслугі можаце.

– Я ўважліва слухаю, – пасур'ёзнеў Кірпа.

– Вось, паглядзіце на фотаздымак. Можа, сустракалі дзе гэтую дзяўчыну?

Я паклаў перад Янам здымак забітай. Той доўга і ўважліва разглядаў, потым адклаў убок і заківаў галавой.

– Не, не бачыў, пан следчы.

– Ну, а што скажаце пра яе?

– Я так разумею, што гэта ўжо жмур. На прафесійную шмару непадобна ні па выглядзе, ні па гадах. Сярод сур'ёзных зладзеяў таксама ніколі яе не бачыў. Значыць, або з бардэля новага прывозу, або нядаўна толькі з'явілася ў горадзе і кагосьці паспела пакрыўдзіць.

– А можа, які маньяк папрацаваў?

– Пане следчы, мы ж не ў Маскве, якія тут маньякі. П'яны мужык яшчэ можа сякерай засекчы сваю жонку, калі дапячэ, але каб чужую ды яшчэ такую маладую...

– Зразумела, – падняўся я з месца і падышоў да шынкара. – Ігнат Васільевіч, а вы не бачылі гэтай дзяўчыны?

Шынкар кінуў кароткі позірк на здымак і адмоўна закруціў галавою.

– Так, вынік нашай сустрэчы нулявы. Добра, панове, калі раптам якая інфармацыя пра забітую з’явіцца, дайце знак. За мной не застанецца...

Я пацягнуўся назад у кантору. А мяне там ужо чакалі. У кабінеце сядзела салідная сямейная пара, і каля іх уладкаваўся наш стажор. Убачыўшы мяне, Кныш ускочыў з крэсла і, амаль захлынаючыся словамі, пачаў тлумачыць:

– Ілля Аляксандравіч, чарговыя ахвяры “двайнікоў”. Абрабавалі ўчора тым жа спосабам, што і тры дні таму.

Я толькі цяжка ўздыхнуў. Гэтыя мне двайнікі! Двайнікамі мы называем бандытаў, якія прыходзяць у дамы і кватэры гаспадароў фабрык, буйных чыноўнікаў, вядомых прамыслоўцаў, паказваюць падробленыя паперы супрацоўнікаў крымінальнага вышуку і тлумачаць, што супраць іх узбуджана крымінальная справа з прычыны перадачы або атрымання хабару за станоўчае вырашэнне пытання, якое ўваходзіць у іх жа кампетэнцыю. Зразумела, што гаспадары адразу ж палохаюцца, панікуюць, паколькі, як правіла, у кожнага рыльца ў пуху. А псеўдаследчыя пачынаюць вобшук, забіраюць рэчы з золата і плаціны, упрыгожванні з каштоўнымі камянямі, рарытэтныя кнігі нібы на экспертызу, прычым выдаюць нават нейкі вопіс з абяцаннем усё вярнуць, калі перадача хабару не пацвердзіцца. Гаспадары, разгубленыя, безумоўна, пагаджаюцца і нават не цікавяцца наяўнасцю ордэра на гэты самы вобшук. Так за два тыдні ўжо абчысцілі чатыры сям’і. А вось і пятая. Працуюць філігранна, ніякага следу, ніводнай зачэпкі. А час ідзе, ужо нават з Пецярбургу тэлефанавалі.

– Ну што ж, – я павесіў на вешалку паліто, сеў у крэсла і падрыхтаваўся слухаць, – раскажыце яшчэ раз, і падрабязна, як усё было.

Вусаты мажны мужчына гадоў пяцідзесяці, коса зірнуўшы на жонку, салідна кашлянуў і пачаў гаварыць:

– Завуць мяне Твардоўскі Ілля Фёдаравіч. Я служу дырэктарам гарадской гімназіі і кожнага дня знаходжуся на працы з 9 гадзін раніцы да 16 гадзін дня. Пра гэта ведаюць усе. Прыкладна а дзясятай гадзіне ў дзверы нашай кватэры пазванілі. Адчыніла служанка. Два мужчыны паказалі ёй нейкую паперу з гербавай пячаткай і сказалі, што з крымінальнай паліцыі і што ім патрэбна гаспадыня. Служанка адвяла іх да жонкі. Там мужчыны заявілі, што я раніцай арыштаваны на працоўным месцы па падазрэнні ў атрыманні хабару ад бацькоў маіх вучняў, і паказалі жонцы ордэр на вобшук і нейкі вопіс рэчаў, што нібыта былі перададзены мне за нейкія паслугі. Жонка толькі кіўнула галавой, села ў крэсла і заплакала. Госці пачалі яе супакойваць, кажучы, што следства разбярэцца, можа, я ні ў чым і не вінаваты, а гэта проста паклёп. Увогуле, па словах жонкі, паводзілі сябе вельмі прыстойна. Тут адзін з іх заявіў, што па законе пры вобшуку патрэбны паняты, выйшаў з кватэры і праз хвіліну вярнуўся з нейкай жанчынай, якую і прадставіў як панятую. І яны пачалі вобшук. Неўзабаве асобна адклалі залатыя і срэбраныя рэчы, упрыгожванні з каштоўнымі камянямі і антыкварныя кнігі 17-18 стагоддзяў. Пасля чаго напісалі распіску і пайшлі. Жонка вырашыла, што мяне адвезлі ў гарадскую турму, апранулася і пабегла туды, каб даведацца, што можна перадаць у камеру і як. Ёй пашчасціла трапіць на разумнага афіцэра, які ўважліва ўсё выслухаў і тут жа патэлефанаваў мне на працу. Так я даведаўся пра абрабаванне маёй кватэры. І вось мы з Аглаяй Мікалаеўнай у вас.

– Скажыце, Аглая Мікалаеўна, – звярнуўся я да жанчыны, – а грошы, адзенне, якія-небудзь іншыя рэчы зладзеі не ўзялі?

– Грошы я звычайна захоўваю ў банку, дома была толькі нейкая дробязь, – тут жа за жонку адказаў мужчына. – Нічога больш, апроч названага, яны не ўзялі. Я сам усё праверыў.

– Добра, – пагадзіўся я, – а вось вы кажаце, што ўзялі старыя кнігі. Яны забралі ўсе кніжкі ці толькі нейкія асобныя?

– Ведаеце, малады чалавек, у мяне склалася ўражанне, што гэта спецыялісты, паколькі з усёй бібліятэкі, а яна, скажу вам, не малая, зладзеі забралі толькі восем кніг. Але гэта самыя рэдкія і каштоўныя экзэмпляры.

– І іх можна дорага прадаць?

– Сапраўднаму калекцыянеру вельмі дорага.

– Зразумела, – працягнуў я. – А вы, Аглая Мікалаеўна, што-небудзь дадаць да сказанага мужам можаце?

Жанчына спалохана падняла на мяне вочы, потым перавяла на мужа і ледзь чутна піскнула:

– Не.

– Тады я вас папрашу, Ілля Фёдаравіч, скласці спіс украдзенага, а вас, Аглая Мікалаеўна, падрабязна апісаць, як выглядалі зладзеі і панятая. І як мага дакладней, бо ад гэтага будзе залежаць, як хутка мы іх зловім.

Пасля гэтых слоў Ілля Фёдаравіч выцягнуў аднекуль сінюю папачку, якую я адразу і не заўважыў, і пачаў развязваць завязкі на ёй, пры гэтым гаворачы:

– Справа ў тым, панове, што Аглая Мікалаеўна да знаёмства са мной вучылася ў Строганаўскім мастацкім вучылішчы ў студыі вядомага мастака Пятрова. Ну, як вы разумееце, жанчына-мастак – гэта нонсэнс, гэта шлях да феміністак і іншага распуства, таму мы з гэтым хутка скончылі, але талент у маёй жонкі сапраўды ёсць.

Пры гэтых словах Аглая Мікалаеўна пачырванела і яшчэ ніжэй апусціла галаву.

– Дык вось, – працягваў мужчына, – па маёй просьбе яна па памяці намалявала партрэты зладзеяў. Служанка пацвердзіла, што гэта дакладна іх твары.

І ён дастаў з папкі тры аркушы. Я зірнуў і анямеў. З лістоў на мяне глядзелі амаль фатаграфічна зробленыя твары двух мужчын і жанчыны.

– Дык вы сапраўдны партрэтыст, Аглая Мікалаеўна! – усхвалявана ўсклікнуў Кныш, які праз маё плячо разглядаў малюнкі.

– Які там партрэтыст, – зняважліва заўважыў мужчына. – Так, забава адна.

– Не, не скажыце, – умяшаўся і я. – Гэта нават лепш за фотаздымак. Вы сапраўдны талент, Аглая Мікалаеўна.

Тая толькі ўцягнула галаву ў плечы.

– Што ж, – Ілля Фёдаравіч падняўся з крэсла, – калі больш пытанняў няма, мы адкланяемся.

– Хвіліначку, – прыпыніў яго я. – З вашага дазволу, шаноўны Ілля Фёдаравіч, я хацеў бы адправіць з вамі і нашага супрацоўніка зняць адбіткі пальцаў з рэчаў у кватэры і апытаць вашу служанку. Яна ж таксама сведка.

– Трэба дык трэба, – пагадзіўся мужчына, узяў пад руку жонку, і яны рушылі з кабінета. Я затрымаў Кныша.

– Думаю, слядоў у кватэры зладзеі, як і заўсёды, не пакінулі. Тым не менш, Вася, агледзься і дапытай служанку. Давай!

І Кныш пабег даганяць пару.

Я глядзеў на пакінутыя малюнкі і не верыў свайму шчасцю. Каб вось так проста атрымаць партрэты злачынцаў, неверагодна. Пачаў уважліва разглядаць іх твары. Мужчыны на выгляд гадоў 35-40, досыць шляхетныя рысы твараў, нават з налётам нейкай інтэлігентнасці. Пэўна, таму і не выклікалі ні ў кога сумнення, прадстаўляючыся следчымі. А вось жанчына наадварот: хударлявая, з маленькімі свінымі вочкамі, тоўстым мясістым носам і цяжкім падгардзёлкам. На выгляд і 30 гадоў, і 50. І гэта таксама правільны тактычны ход: звычайная непрыгожая жанчына з вуліцы, якіх сотні. Так, адыграны спектакль на выдатна. А вось цяпер трэба добра падумаць, дзе гэтыя артысты могуць хавацца. Кнігі – вось за што трэба ўчапіцца. Іх у руках на вакзал не пацягнеш, надта вялікія і цяжкія. Значыцца, плануюць прадаць тут, у Гродне. Добра, а хто іх тут купіць? Тым больш крадзеныя. Пэўна, мясцовыя бібліяфілы ведаюць адзін пра аднаго ўсё. Тым не менш трэба даведацца дакладна, хто цікавіцца букіністычнымі шэдэўрамі, і кожнага праверыць. А партрэты тэрмінова неабходна раздрукаваць і раздаць жандарам на вакзале. Няхай прыглядаюцца.

Я зайшоў у невялічкі букіністычны магазінчык, што месціўся на вуліцы Саборнай, і з прыемнасцю пачуў, як меладычна блямкнуў званочак на дзвярах. І тут жа пачуў аднекуль зверху мужчынскі голас:

– Чым магу быць карысным пану?

Я ўзняў вочы да столі і ўбачыў на хісткай лесвічцы маленькага хударлявага габрэя, які прыстройваў на верхнюю паліцу тоўстую кнігу.

– Вышукная паліцыя, – прадставіўся я і разгарнуў пасведчанне, хаця не быў упэўнены, што адтуль ён нешта разгледзіць. Чалавек жвавенька спусціўся на дол, зірнуў у паперу і, не хаваючы здзіўлення, запытаў:

– Першы раз у жыцці бачу вышукную паліцыю ў кнігарні. Нешта ў свеце змянілася, а стары Мойша не заўважыў гэтага?

– Маісей Натанавіч, я да Вас па дапамогу. Ці не падаруеце мне пару хвілін свайго часу.

Стары яшчэ больш здзівіўся і нават зняў з носа акуляры.

– Гэта што ж робіцца! – ледзь не загаласіў ён. – Паліцыя цяпер заканчвае пажскі корпус і ўражвае сваёй інтэлігентнасцю? Я прыемна здзіўлены, малады чалавек, і распараджайцеся маім часам як Вам будзе патрэбна.

Ён павесіў на дзверы таблічку “Зачынена”, узяў мяне пад локаць і правёў у суседні пакойчык, што хаваўся за зялёнай аксамітнай фіранкай. Там стаялі столік, два крэслы і старадаўняя шафа з візантыйскімі львамі. Мы ўладкаваліся ў крэслы, і я ўзяў паўзу, лагічна мяркуючы, што стары Маісей зараз прапануе шклянку гарбаты. Але ён нават і не паварушыўся, з цікавасцю разглядаючы мяне. Я зразумеў, што гарбаты не будзе, і перайшоў да справы.

– Маісей Натанавіч, мне патрэбна Ваша кансультацыя.

– У якой галіне? – пацікавіўся той.

– Менавіта ў Вашай прафесійнай. Адносна старых кніг.

– Ага, – стары аж пацёр рукі ад задавальнення, – значыцца, вышукная паліцыя яшчэ і чытае. Я ў захапленні!

– Тут крыху іншая справа, – яшчэ лагодна, але ўжо губляючы цярпенне, адзначыў я. – Ці не маглі б Вы хаця ж бы прыкладна назваць людзей у Гродне, што калекцыянуюць старыя кнігі?

– Чаму ж прыкладна, – нават пакрыўдзіўся Маісей. – Я Вам дакладна

назаву. Гогалеў Панкрат Львовіч, Твардоўскі Ілля Фёдаравіч, Кавальскі Тадэвуш Сігізмундавіч, Пальчыц Самуіл Ізраілевіч і Кац Маісей Натанавіч.

– І гэта ўсё? – здзівіўся я.

– Ах, малады чалавек, – уздыхнуў Кац, – кнігі не залатыя чырвонцы, выходзяць з моды.

– Тады наступнае пытанне. А ці ведаеце Вы, Маісей Натанавіч, якія каштоўныя кнігі знаходзяцца ў бібліятэцы, напрыклад, Твардоўскага Іллі Фёдаравіча?

Стары антыквар няспешна дастаў з кішэні аксамітку, зняў акуляры з носа і старанна стаў праціраць шкло. Я цярпліва чакаў. Нарэшце ён скончыў сваю справу, акуляры вярнуліся на месца, а Кац з'едліва ўсміхнуўся:

– Калі вас цікавяць скрадзеныя кнігі ў Іллі Фёдаравіча, то лепш запытацца ў яго. Але магу зрабіць гэта і я. А яшчэ магу назваць кнігі, якія скралі б у Гогалева, Кавальскага, Пальчыца і вашага пакорнага слугі.

– Вы ўжо ў курсе справы? – шчыра здзівіўся я.

– Для дэтэктыва вы, малады чалавек, падаецеся мне занадта наіўным. Ну, зразумела, што пасля злачынства пан Твардоўскі першай справай рушыў да мяне, каб папярэдзіць: а раптам зладзеі прынясуць кнігі на продаж? Хаця я не веру, паколькі гэта сапраўдныя прафесіяналы і кнігі выбралі сапраўды каштоўныя ва ўсіх адносінах. І, мяркую, пад заказ, паколькі "Катэхізіс" Сымона Буднага, выдадзены ў Нясвіжы ў 1562 годзе, пакінулі шаноўнаму Іллю Фёдаравічу, а кошт яе не саступае вынесеным. Чаму? Мяркую, хтосьці заказаў менавіта скрадзеныя. Дарэчы, у Меньчыца, якога абрабавалі на тым тыдні, таксама былі дзве вельмі рэдкія кнігі: "Аб сыне Божым, чалавеку Хрысце" 1556 года, наклад якой па загадзе Мікалая Радзівіла "Чорнага" быў практычна цалкам знішчаны, і "Дыярыуш" Афанасія Філіповіча 1646 года выдання.

– Пачакайце, – амаль абурыўся я, – але ў спісе скрадзенага ў пана Меньчыца ніякіх кніг не значылася.

– Канечне, – задаволена засмяяўся стары, – таму што яны ў мяне, у сейфе ляжаць.

– А чаму ў вас ляжаць кнігі Меньчыца?

– А таму, дарагі мой сышчык, што Ёсель Маісеевіч Меньчыц пазычыў у мяне 2 тысячы рублёў на адкрыццё новага магазіна, а ў якасці закладу пакінуў на пэўны час гэтыя кнігі і тое-сёе з каштоўнасцяў дарагой сужніцы. А назаўтра яго абрабавалі, забраўшы ўсе магазінныя грошы.

– Значыць, – задумліва працягнуў я, – вы, шаноўны Маісей Натанавіч, сёння самы багаты ў горадзе калекцыянер каштоўных кніг?

Кац самазадаволена засмяяўся:

– Выходзіць, так.

– Таму лагічна меркаваць, – працягваў я, – што наступнай ахвярай выберуць вас?

– Гэта наўрад ці магчыма, малады чалавек. Па-першае, я ўжо ведаю іх схему дзейнасці. Па-другое, я жыву адзін і практычна нікуды не выходжу. А па-трэцяе, свае кнігі і іншае для мяне каштоўнае трымаю ў добра зробленым сейфе, а зладзеі, як я зразумеў, не медзвяжатнікі, а звычайныя аферысты.

– То бок вы, Маісей Натанавіч, лічыце, што зладзеі па старой схеме працаваць не будуць?

– Лічыць і вылічваць павінны вы, вышукная паліцыя, – павучальна зазначыў Кац. – А я толькі выказваю гіпотэзы. І дарэчы, вось яшчэ цікавае супадзенне.

Кац узяў са століка газету, пагартаў старонкі і пачаў чытаць:

“Па інфармацыі нашага карэспандэнта вядомы пецярбуржскі мецэнат і мільянер Пракофій Мітрафанавіч Строеў у бліжэйшыя дні адпраўляецца цягніком у Варшаву на міжнародную выставу антыкварнай кнігі. Пракофій Мітрафанавіч – вядомы ў Расіі калекцыянер рэдкай кнігі, бібліятэка якога налічвае больш за 600 рэдкіх фаліянтаў. Па дарозе пан Строеў мяркуе спыніцца на дзень у губернскім горадзе Гродна, каб сустрэцца са сваім даўнім знаёмым, таксама заўзятым калекцыянерам старажытных кніг Маісеем Натанавічам Кацам, гаспадаром антыкварнага магазіна”.

Кац адарваўся ад газеты і выразна паглядзеў на мяне:

– Ну?

– Што ну? – не зразумеў я. – Да вас па дарозе ў Варшаву заедзе стары знаёмы. Што тут такога?

– Даруйце, малады чалавек, – раздражнёна прабурчэў Кац, – але вы, мякка кажучы, не разумны. Ну ўключыце логіку: мільянер Строеў і бедны гаспадар маленькага магазінчыка Кац – што іх можа звязваць? Вы верыце журналістам, што мы сябруем? Строеў уваходзіць у міжнародны клуб “Архе”, куды трапляюць гаспадары букіністычных калекцый з не менш як 500 фаліянтамі. Вось яго сябры. А мы проста знаёмыя, паколькі я пару разоў дапамагаў яму набыць каштоўныя кнігі. І ўчора ён тэлефанаваў мне, што затрымаецца ў Гродне на дзень, але мае паслугі яму не спатрэбяцца. Увечары заедзе на хвілінку паразмаўляць пра кнігі. Тады што ён будзе тут рабіць днём?

– Ну як што, – развёў я рукамі, – прасоўваць і развіваць у горадзе сваю справу.

– Да вашага ведама, малады чалавек, Строеў – золатаздабытчык. А дзе ў Гродне залатыя капальні? У Пышках на крэйдавых гарах?

Я сканфужана замоўк. І тут успомніў пра партрэты. Хуценька выцягнуў іх з партфеля і расклаў перад старым.

– Маісей Натанавіч, паглядзіце, калі ласка, ці не сустракалі вы гэтых асоб?

Кац уважліва разгледзеў кожны малюнак, потым склаў іх стосікам і працягнуў мне.

– Дакладна магу сказаць, што не сустракаў.

– Можа, яны завітаюць да вас у магазін, дык дайце нам вестачку.

– Гэта было б занадта проста для іх. Але ўсё можа быць.

Я падняўся.

– Вялікі дзякуй вам за такую змястоўную гутарку. Я шмат пра што даведаўся дзякуючы вам. І дазвольце, калі ўзнікне неабходнасць, яшчэ патурбаваць вас?

– Ах, малады чалавек, – Кац ужо больш прыязна ўсміхнуўся, – у мяне цяпер столькі вольнага часу, што любое турбаванне толькі задавальненне прыносіць. Прыходзьце, трымайце ў курсе справы, можа, чым і дапамагу.

Я пацiснуў працягнутую руку і выйшаў з магазіна. На вуліцы пакрысе вечарэла, у паветры стаяў водар нейкіх невядомых мне кветак (а можа, і не кветак), людзі няспешна прагульваліся па Саборнай. Я звярнуў на Вялікую Траецкую, разважаючы, ці ісці ўжо дахаты, ці вярнуцца ў працоўны кабінет. І тут пачуў гучны жаночы голас:

– Хто-небудзь, дапамажыце!

Я кінуўся да аркі варот бліжняга дома, на хаду выцягваючы з кішэні рэвальвер. Але тут жа ўбачыў, што зброя не спатрэбіцца. Дакладна ў арцы стаяла маладая прывабная дзяўчына гадоў дваццаці, стомлена размахваючы рукамі і тупаючы нагамі, імкнучыся выйсці з аркі. Але ў яе гэта ніяк не атрымлівалася. Убачыўшы мяне, яна перастала мітусіцца, вымушана-жаласна ўсміхнулася і танюткім сірочым галаском папрасіла:

– Малады чалавек, дапамажыце, калі ласка. Я, здаецца, зачапілася і ніяк не адчаплюся. І, як на злосць, ніводнага мінака.

Я абышоў дзяўчыну са спіны. Так і ёсць: нейкім незразумелым чынам яна зачапілася верхам сукенкі за тонкі віты дрот, што тырчаў са сцяны. Прычым ад мітусні ён нейкімі хвалямі пранізаў сукенку, цудам не ўпіўшыся ў спіну.

– Баюся, – замармытаў я, – так проста не адчэпіш вас. Трэба рэзаць.

– Дык рэжце! – рашуча загадала дзяўчына.

– Але тады папсуецца ваша сукенка, – нясмела запярэчыў я.

– І што, я тут павінна памерці праз гэтую сукенку? – слушна заўважыла незнаёмка.

Я дастаў сцізорык, што заўсёды ляжаў у маёй кішэні, і пачаў надразаць тканіну ў месцах, куды ўвайшоў дрот. У выразанай дзірцы паказалася аголеная спіна, і мне зрабілася ніякавата. Але справа была зроблена, і дзяўчына вызвалена.

– Ну вось і ўсё, – дрыготкім ад хвалявання голасам паведаміў я. – Вы на волі. Усяго добрага.

– Вы што ж, кінеце мяне тут, у падваротні, у падранай сукенцы, адну? – грозна запытала дзяўчына.

– Не, вядома. А што я магу зрабіць?

Дзяўчына насмешліва агледзела мяне і зноў загадала:

– Здыміце паліто і накіньце мне на плечы. Затым прапануйце руку і праводзіце дахаты. Тут не так далёка. Ужо будзьце рыцарам да канца.

Я паслухмяна выканаў усе яе даручэнні, і мы пакрочылі па Траецкай.

– Як вас завуць? – пацікавілася незнаёмка.

– Ілля Аляксандравіч.

– А мяне Зоя Аляксандраўна. Бачыце, мы амаль цёзкі. Ну і як мой збавіцель апынуўся ў гэтым нешматлюдным месцы?

– Ішоў на працу і вырашыў зрэзаць кавалак дарогі.

– І дзе пан працуе, калі гэта не сакрэт?

Я з гонарам выцягнуў з пінжака пасведчанне і разгарнуў перад вачамі Зоі. Яна прачытала і здзіўлена зірнула на мяне.

– Ніколі не была знаёма з вышукной паліцыяй. Чамусьці заўсёды лічыла, што іх супрацоўнікі павінны нагадваць рубшчыкаў мяса: вялікія, моцныя, з чырвонымі тварамі. Трэба ж.

– Ну, людзі розныя і ў нас працуюць, – зазначыў я і пацікавіўся: – А што ці хто вас прывёў да дроту?

І тут Зоя так весела і бестурботна засмяялася, што не змог утрымацца і я.

– Даруйце, – адсмяяўшыся, вымавіў я.

– Ат, нічога страшнага. Я такая па жыцці: дзе што б ні тырчала – абавязкова зачаплюся, будзе адна лужына – упаду ў яе. Вось і сёння крочыла, як і вы, напраcткі ад сяброўкі дахаты, зайшла ў гэтую цёмную арку, і на табе. Хвілін пятнаццаць правісела на дроце. А каб не вы, дык і не ведаю, як бы выбралася. Так што вы, Ілля Аляксандравіч, мой збавіцель.

Я адчуў, як прыемныя мурашы прабеглі па маёй спіне. Неўзабаве мы спынілася каля дома №16.

– Вось тут я і жыву, – паказала рукою на дом Зоя.

– Гэта ваш дом? – спалохана запытаў я.

– Не, – засмяялася дзяўчына, – я здымаю невялічкую кватэрку. Ну, хадземце, пачастую вас добрай гарбатай.

Ад раптоўнага хвалявання ў мяне перахапіла горла, і я закашляўся.

– Што з вамі? – устрывожылася дзяўчына.

– Усё добра, – супакоіў яе я, – так, нешта ў горла трапіла. Але неяк няёмка ісці турбаваць вас.

Зоя пільна паглядзела мне ў вочы і рашуча адказала:

– Давайце, Ілля Аляксандравіч, вызначымся адразу. На двары дваццаты век, мы з вамі людзі сучасныя, адукаваныя. І што такое жаночая эмансіпацыя добра ведаем. Таму адкінем гэтыя бабульчыны забабоны, ёмка-няёмка, і будзем паводзіць сябе цывілізавана. Ды і паліто я вам на вуліцы не аддам.

І мы ўвайшлі ў дзверы.

Зоя Аляксандраўна жыла ў невялічкай двухпакаёвай кватэрцы з яшчэ больш невялічкай кухняй. Было ў яе цеснавата, але вельмі міла і ўтульна. Яна пасадзіла мяне ў гасцёўні, дала ў рукі нейкі часопіс і выскачыла з пакоя. Я намагаўся пачаць чытаць часопіс, але нават не мог засяродзіць сябе на яго назве. Літары скакалі перад вачамі, дражнілі мяне і, здаецца, паказвалі языкі. Я зразумеў, што мне страшна. Не ведаю, ад чаго, але мае рукі, ногі скамянелі, стаў колам і язык.

– Ілля Аляксандравіч, дапамажыце мне, калі ласка, – пачуў я з кухні голас гаспадыні.

На нягнуткіх нагах, з каменным тварам я рушыў на кухню, як на эшафот. Зоя пераапранулася ўжо ў вясёлую васільковую сукенку і наразала на дошцы нейкі пышны пірог. Мне тут жа ўручыла самавар і загадала несці ў гасцёўню, а затым вярнуцца па кубачкі. Пасоваўшыся туды-сюды, я неяк пакрысе расхадзіўся і ўжо адчуваў сябе больш упэўнена. А неўзабаве мы селі за стол, на якім быў самавар, пірог з яблыкамі, малінавае і вішнёвае варэнне.

– Ледзь не забыла, – пляснула сябе па лобе Зоя і выбегла з пакоя. А праз хвіліну вярнулася з падносам, на якім стаялі два кілішкі і графінчык з нейкай чырвонай вадкасцю.

– Сапраўдная журавінавая настойка па старажытным рэцэпце ад маёй бабулі. Мы ж павінны адзначыць цудоўнае выратаванне і наша знаёмства.

Я пагадзіўся, хаця маёй згоды сёння Зоя яшчэ ні разу не запытала.

Мы выпілі па кілішку – і мяне неяк адразу ж адпусціла. Я пачаў глыбей дыхаць, звязна гаварыць, адчуваць сябе нармальным чалавекам. А Зоя наперамену падлівала мне то духмянай гарачай гарбаты, то не менш духмянай настойкі і расказвала пра сябе. Родам яна, аказваецца, з Лідчыны, з настаўніцкай сям'і. Таму і сама стала настаўніцай і ўжо другі год выкладае рускую мову ў Гродзенскай жаночай гімназіі, хаця жанчыне вельмі цяжка атрымаць добрую працу ў горадзе. А яшчэ яна вельмі цікавіцца гістарычнай літаратурай, прычым і адносна жанра, і адносна старажытнасці самой кнігі. Так, мне сёння адназначна шанцавала на аматараў старажытных фаліянтаў. Затым дзяўчына папрасіла, каб я расказаў пра сябе. Не ведаю, ці то настойка паўплывала, ці той факт, што я першы

раз у жыцці вось так досыць інтымна сустракаўся з дзяўчынай, але мяне літаральна панесла. Я з гонарам расказаў, што скончыў Віленскую судовую школу і стаў, зразумела, следчым, і не проста радавым, а ўзначаліў гарадскі вышук; што ўжо раскрыў багата злачынстваў; што зараз працую адначасова над дзвюма складанымі справамі. Гісторыя з рабаўнікамі і антыкварнымі кнігамі зацікавіла Зою. Яна стала падрабязна высвятляць, што за кнігі былі скрадзены, хто ў Гродне мае каштоўныя рарытэты, хто такі Маісей Натанавіч. Поўны пыхі ад сваёй значнасці, я выклаў Зоі ўсё, што ведаў, для прыгажосці тоё-сёе прыплёўшы. Яна, здаецца, глядзела на мяне як на героя. Тым не менш, час быў развітвацца, хаця і вельмі не хацелася. Я падзякаваў гаспадыні за пачастунак і пачаў таптацца ў вітальні, не ведаючы, як сказаць, што хацеў бы яшчэ пабачыць дзяўчыну. Зоя адразу ж усё зразумела, міла ўсміхнулася, працягнула мне руку, паціснула і проста сказала:

– Спадзяюся, што вы, Ілля Аляксандравіч, не забудзецеся праз сваіх бандытаў пра мяне. Таму запрашаю вас у нядзелю на шпацыр. А трэцяй гадзіне на прыстані. Згодны?

Яшчэ б я быў не згодны... Прамычаўшы нейкія словы падзякі, я на крылах выскачыў з кватэры Зоі, адчуваючы сябе самым шчаслівым чалавекам на зямлі. Зразумела, заснуць гэтай ноччу я не змог, паколькі ўсе мае думкі і фантазіі былі накіраваны выключна на мілую Зою Аляксандраўну.

Як толькі першыя промні сонца асвятлілі маю кватэру, я пачаў збірацца на працу: усё роўна ж не сплю. Па дарозе вырашыў наведаць тое месца, дзе знайшлі забітую дзяўчыну. Горад яшчэ спаў, і таму на вуліцах было пустынна, там-сям толькі пачыналі махаць мётламі дворнікі. Ахоплены рамантычным настроем і напоены ранішнім ап'яняльным паветрам, я дакрочыў да месца нядаўняга злачынства. Прымятая трава за гэты час выпрасталася, схавала шматлікія сляды, і ўжо нішто не нагадвала пра тыя жудасныя падзеі. Я пакруціўся вакол, яшчэ раз пільна аглядаючы наваколле, але зачапіцца воку не было за што. І тым не менш я раптам адчуў нейкі неспакой. Штосьці мне не падабалася ў гэтым ідылічным малюнку травы і кветак. Але што? Так і не адказаўшы сабе на гэтае пытанне, я пакрочыў у вышукное аддзяленне. Нягледзячы на ранні час, калегі мяне ўжо чакалі і нават шукалі.

– Ілля Аляксандравіч! – ледзь не хорам загаманілі яны. – Уначы ў сваёй кватэры быў забіты Кац Маісей Натанавіч.

Я так і сеў. Але ўжо праз хвіліну, сабраўшыся, пачаў дзейнічаць.

– Хто паведаміў пра забойства?

– Вахмістрыня Каца Жлукта Данута Янаўна. Яна прыйшла, як заўсёды, а сёмай гадзіне, каб згатаваць сняданак гаспадару і прыбрацца ў хаце, і ўбачыла, што дзверы адчынены. Зайшла ў дом і знайшла на падлозе забітага Каца. Тут жа паведаміла гарадавому. Той не разгубіўся, адправіў жанчыну да нас, а сам зараз вартуе дом.

– Малайца, – пахваліў я невядомага паліцэйскага. – А дзе зараз жанчына?

– У суседнім пакоі чакае.

– Добра. Кныш, дапрасіце яе яшчэ раз, складзіце падрабязны пратакол, – загадаў я. – Змушко, а вы захапіце Марка Захаравіча, Пецю-фатографа, і чакаю вас усіх у забітага Каца.

Каля дома нябожчыка Маісея Натанавіча пакрысе збіраліся цікаўныя,

але дужы і рослы паліцэйскі і блізка не падпускаў нікога да дзвярэй і вокан, гучна пакрыкваючы на самых адважных:

– Вось я зараз цябе ў астрог і прыстрою!

Я паказаў гарадавому свае паперы, пахваліў за адказную службу і ўвайшоў у дом. Здавалася, я толькі што размаўляў з Кацам, а вось ён ляжыць на падлозе, шырока раскінуўшы рукі, і глядзіць мёртвымі вачамі ў столь. Я агледзеўся. Справа – кухня, злева праз адчыненыя дзверы бачны ложак. Значыць, там спальня. А мне патрэбны працоўны кабінет нябожчыка. І я штурхнуў дзверы, што былі насупраць мяне. Перад вачамі адкрылася досыць вялікая гасцёўня з мяккай мэбляй, зацягнутай у светлыя чахлы. А дзе ж тады кабінет? Стоп, у прыбудове злева – букіністычная лаўка Каца. Лагічна меркаваць, што там і яго працоўны кабінет. Добра, а дзе тады дзверы ў гэтую прыбудову?

У пярэдняй пачуліся галасы. Гэта пад'ехаў Змушко з судова-медыцынскім экспертам і фатографам. Я рушыў да іх.

– Добры дзень, панове, – прывітаўся я і пачаў аддаваць загады: – Марк Захаравіч, вось ваш падапечны, разбярыцеся, калі ласка. Пеця, зробіце фота забітага і пяройдзеце ў памяшканне кніжнай лаўкі. Ну, а вас, Леанід Уладзіслававіч, папрашу шчыльна пашукаць хоць якія сляды злачынцаў.

Прыкінуўшы план пабудовы дома, я рушыў на кухню. І сапраўды, злева ад печы былі невялічкія дзверы, абабітыя чамусьці бляхай. Я пакруціў ручку, і яны адчыніліся. Так, гэта на самой справе была кнігарня Каца, і ў ёй, надзіва, гарэла святло. Я асцярожна спусціўся па прыступках і накіраваўся да сейфа, што стаяў каля супрацьлеглай сцяны. Сейф быў зачынены. Я вярнуўся ў кватэру. Кожны займаўся сваёй справай, і толькі нябожчык Кац не зводзіў вачэй са столі.

– Леанід Уладзіслававіч, – звярнуўся я да Яглінскага, – кішэні забітага яшчэ не аглядалі?

– Не, – тут жа адказаў той, – пакуль Кацам Марк Захаравіч займаецца.

– А я практычна закончыў, – адгукнуўся эксперт. – Усё астатняе па прыбыцці ў морг. Ён ваш, панове, а я патэлефаную, каб даслалі карэту з санітарамі.

Я прысеў на кукішкі каля Каца і пачаў выварочваць змесціва яго кішэняў. У іх амаль нічога не было: невялічкая лупа ў металічнай аправе, нейкая квітанцыя на аплату чагосьці і палова алоўка. А вось на шыі на срэбраным ланцужку вісеў невялічкі ключык. Я акуратна зняў яго з нябожчыка і вярнуўся да сейфа. Ключ ідэальна ўвайшоў у адтуліну, два разы павярнуўся, але дзверы не адчыніліся. Я разгублена пачаў аглядаць сейф і ад злосці ляпнуў сябе па галаве: якраз над дзірачкай для ключа тырчыць чорны дыск з лічбамі ад 0 да 10. Шыфр. Вось чаму бібліяфілы і хавалі ў Каца некаторыя свае кніжкі. Надзейнае месца. Але атрымліваецца, што і зладзеі не змаглі ўлезці. А калі ім непатрэбныя былі кнігі? Тады за што забілі старога? Можа, якое золата было прыхавана? Але почырк не "двайнікоў". Тады хто? Ад шматлікіх пытанняў пачала пухнуць галава. Я абвёў вачамі кніжныя шафы, на якіх раўнюткімі радамі стаялі акуратна падабраныя па эпохах рэдкія кнігі забітага. Бібліятэка выклікала пачуццё шчырага захаплення. Але раптам маё вока спынілася на адной з паліц. Там выразна не хапала кнігі. На ўсіх паліцах яны стаялі шчыльна адна пры адной, а тут свяцілася прарэха. На педантычнага ўладарніка гэта не падобна. Я падышоў бліжэй. Так, кнігу выцягнулі зусім нядаўна: на крыху прыпыленай паліцы выразна быў бачны свежы след.

Я зноў вярнуўся да калег. Змушко працягваў перατрасаць рэчы забітага, Пеця, адпачываючы, гушкаўся ў крэсле-качалцы.

– Пеця, – строга загаварыў я, – вам вельмі спешнае і адказнае заданне. Вяртаецеся ў аддзяленне і перадаяце Кнышу мой загад: зараз жа прывезці сюды вахмістрыню, і няхай тая паглядзіць, якія кнігі зніклі. Затым едзеце ў слясарную майстэрню на Бажавіцкага і знаходзіце там Міколу Крышава. Скажаце, што ён мне патрэбны тэрмінова з інструментам для сейфаў, і прывозіце сюды. І любым спосабам сейф павінен быць адчынены! Вам усё, Пётр, зразумела?

– Так, – крыху спалохана адказаў юнак, прыгнечаны такімі адказнымі даручэннямі, – а грошы на вазніцу?

Я даў яму рубель і выпхнуў за дзверы. Затым няспешна прайшоўся па гасцёўні, разглядаючы карціны, што ўпрыгожвалі яе сцены. Так, нябожчык меў густ.

– Ілля Аляксандравіч, – пачуў я голас Змушко з суседняга пакоя, – калі ёсць хвілінка, зазірніце ў спальню. Цікавую рэч пакажу.

Я пакрочыў у спальню. Леанід Уладзіслававіч трымаў у руцэ гаршчок з дзіўнай раслінай.

– Гэта Амарыліс беладонна, досыць рэдкая і вельмі атрутная расліна. Навошта яна была гаспадару? Неяк не дапасуецца да ўсіх гэтых карцін, кніжак у класічным стылі.

І тут мяне нібы абухом сякеры бахнулі. Так, не дапасуецца! Я тут жа ўспомніў ранішнюю прагулку на месца забойства жанчыны. Вось што мне падсвядома дакучала: сярод дзьмухаўцоў, канюшыны і травы тырчаў кусцік сухіх ваўчкоў. Адзіны ў акрузе!

Я тут жа скамандаваў Змушко:

– Леанід Уладзіслававіч, прашу вас, калі да майго вяртання прыедзе слесар, няхай спрабуе адчыніць сейф. Можна зламаць, распілаваць, карацей, усё можна. А вахмістрыня з Кнышом няхай пагуляюць па кабінеце і паглядзяць, ці ўсё на месцы. Я хутка буду!

І я выскачыў з дома. Хвілін праз пятнаццаць я зноў быў на беразе Юрысдыкі. Вось тое месца, і вось тыя ваўчкі. Я нахіліўся, схапіў сцябло і рэзка рвануў на сябе. Кусцік досыць лёгка выдраўся. Штосьці на імгненне бліснула, але тут жа схавалася пад зямлёй, якая асыпалася. Тады я рукамі пашырыў гэтую ямку, выграбаючы зямлю. І сапраўды тут жа ўбачыў нешта металічнае. Дзёрн здымаўся роўнымі пластамі, і неўзабаве паказаўся металічны люк. Але як яго зачапіць, бо ніякага кальца ці ручкі не было. Што ж за дзень такі – усё разам навалілася. І не кінеш цяпер ніяк. Азірнуўся. Метраў за 30 ад мяне два хлопцы лавілі рыбу. Я накінуў на люк паліто і гучна крыкнуў:

– Гэй, рыбакі!

Хлопцы азірнуліся, я замахаў ім рукой, запрашаючы падысці. Яны няспешна падышлі да мяне.

– Маладыя людзі, ці не жадаеце зарабіць рубель? – ласкава запытаў я.

– Жадаем, – коратка адказаў адзін з іх.

– Тады вам трэба зараз збегаць па гарадавога Патапава і прывесці сюды. Ведаеце, дзе ён жыве?

– Хто ж не ведае? – разважліва адзначыў чарнявы. – Толькі яго зараз няма дома.

– А дзе ж ён? – крыху здзівіўся я такой абазнанасці.

– У гэты час ён у карчме п’е гарбату.

– А ці далёка тая карчма?

– Ды не, вось бачыце, дом з пеўнікам на даху? Гэта і ёсць карчма Рохліна.

– Дык чаго стаіце? Бягом па Патапава. І скажыце: сыскны кліча!

– А рубель праўда дасі? – недаверліва перапытаў бялявы.

– Святы існы крыж! – запэўніў я і перахрысціўся.

– Тады прыглядзі за вудамі, а мы хутка!

І яны пабеглі. Вярнуліся з гарадавым хвілін праз пятнаццаць. Патапаў адразу ж пазнаў мяне, падцягнуўся, пасуровеў.

– А я, ваша благароддзе, гэтым падшыванцам адразу і не паверыў. Але як сказалі сыскны, не, думаю, такога не выдумаюць.

Я аддаў шчаслівым рыбакам рубель, і яны імгненна зніклі са сваімі вудамі.

– Мітрафаныч, – звярнуўся я да гарадавога, паколькі таксама ведаў яго па адной мінулагодняй справе, – зірні.

І я падняў паліто.

– Нічога сабе, – прысвіснуў гарадавы. – Гэта хто ж выкапаў?

– А вось гэта мы і павінны з табой высветліць.

– Дык, можа, дапамогу клікнуць?

– Мітрафаныч, няма часу. Тэрмінова патрэбны лом і сякера. Знойдзеш?

Ён азірнуўся і пакрочыў да бліжняй хаты, кінуўшы праз плячо:

– Зараз будуць.

І праўда, неўзабаве вярнуўся з поўным інструментам ды яшчэ матком тоўстай вяроўкі.

У шчыліну каля люка мы ўставілі вастрыё сякеры і пару разоў прыстукнулі па абуху ломам. Сякера ўвайшла глыбей. Тады пачалі пакрысе расхістваць яе, падбіваючы то па адным баку, то па другім. Сякера рыпела, звінела і нарэшце не вытрымала і зламалася. Але шчыліна крыху павялічылася, што дало магчымасць сантыметры на тры-чатыры ўвагнаць туды лом. І зноў прадоўжылася гайданіна ўправа і ўлева. Так адваявалі яшчэ сантыметры тры, пасля чаго з Мітрафанавічам з усяе сілы націснулі на лом. Штосьці пстрыкнула, люк адскочыў уверх, а мы пападалі на траву. На нас чорным жэрлам глядзела пустэча.

– Ну што, – я зірнуў на гарадавога, – пайшлі, герой.

– Герой не герой, а ісці трэба, – разважліва прамовіў паліцэйскі, закінуў за плячо вяроўку, перасунуў на жывот кабуру з пісталетам і накіраваўся да ўвахода.

– Дазвольце, Мікіта Мітрафанавіч, я першым пайду, – апярэдзіў я старога.

– Дык вы ж начальнік? – шчыра здзівіўся той.

– Вось таму і першым!

Тады Патапаў моўчкі разматаў вяроўку, прывязаў да майго рэменя, а другі канец узяў у рукі.

– Хто ведае, якая дарога да нізу. Лепш перасцерагчыся, – мудра заўважыў ён.

Я лёг на жывот, спусціў ногі ў гэтую трубу і адразу ж намацаў металічныя пруткі лесвіцы.

– Тут лесвіца, – паведаміў я напарніку і пачаў спускацца. Метраў праз пятнаццаць адчуў пад нагамі каменную падлогу і два разы моцна тузануў вяроўку, адначасова адчапляючы яе ад пояса. Неўзабаве спусціўся і Мітра-

фаныч. Было жахліва цёмна. Я запаліў сярнічку, агледзеўся і заўважыў, што ў сцяне тырчыць паходня. Падпаліў яе – і ажно дыхаць стала лягчэй. Прынамсі, мы бачылі адзін аднаго і дарогу наперад. Гэта быў нізкі, метры паўтара, звод, і знізу, і зверху выкладзены камянямі. І мы рушылі наперад. Дарога рэзка пайшла ўніз, але крокаў праз дваццаць зноў паднялася.

– Пэўна, пад рэчкай прайшлі, – выказаў здагадку паліцэйскі.

– Хутчэй за ўсё, – пагадзіўся я.

І вось наша дарога ўперлася ў дзверы.

– Эх, – спахапіўся Мітрафанавіч, – а лом не ўзялі!

Я націснуў на ручку і пацягнуў дзверы на сябе. Яны лёгка адчыніліся. Наперадзе пачуліся чыесьці галасы. Гарадавы ўзяў у руку рэвальвер, я выцягнуў з кішэні свой. За дзвярыма быў невялічкі пакойчык, з якога выходзіў калідор. А справа і злева ад калідорчыка таксама знаходзіліся дзверы, прычым распісаныя ў кітайскім стылі. Я прыклаў вуха да правых. Цішыня. Тады перамясціўся да левых. Адтуль гучаў дзявочы смех, зазвінела шкло.

– На тры ўрываемся ў пакой, – прашаптаў я Патапаву. – Раз, два, тры!

Я рвануў на сябе з усяе моцы дзверы, дзінькнула сарваная клямка, і яны ледзь не накрылі мяне. Мітрафанавіч з дзікім крыкам: "Усе на падлогу!" уляцеў у пакой і нават стрэліў уверх. Я забег за ім. Карціна была яшчэ тая. Увесь пакой займаў вялізны драўляны ложак, на якім ляжала абсалютна голая (калі не лічыць чорных панчох) дзяўчына. А каля маленькага століка стаяў таксама абсалютна голы пузаты мужчына, упрыгожаны ружовым гальштукам на шыі. Ён якраз разліваў шампанскае па фужэрах. Пасля нашага нечаканага візіту пузан імгненна ўпаў на падлогу і папоўз пад ложак. Дзяўчына ж заверашчала і накрыла галаву падушкай.

– Мне здаецца, Ілля Аляксандравіч, што гэта бардэль, – спакойна заўважыў Патапаў, нахіліўся і выцягнуў за гальштук небараку-кавалера. Той тросся ад страху, не ў сілах вымавіць і слова. Я ж накінуў на дзяўчыну коўдру, што ляжала на падлозе, і сцягнуў з галавы падушку.

– Хопіць лямантаваць! – строга загадаў ёй. – Мы з паліцыі!

Дзяўчына адразу ж змоўкла, падазрона гледзячы на мяне. Я паказаў пасведчанне. Тады яна зусім ужо супакоілася і нават пачала з цікавасцю разглядаць нас.

– А што, мадам вам не заплаціла?

– А ты нас за каго прыняла? – у сваю чаргу запытаў я.

– А я думала, гарбары зноў прыйшлі.

Гарбароў я ведаў. Гэта былі бандыты з Гарбарнай вуліцы, якія час ад часу трэслі гаспадароў дробных магазінаў, лавак, курыльняў, карацей, тых, хто меў нейкі нелегальны заробак, а таму не мог, ды асабліва і не хацеў, звяртацца ў паліцыю. Адсюль і затрымаць іх было справай цяжкай.

– А дзе мадам? – запытаў я.

– Як дзе? – здзівілася дзяўчына. – За касай. А вы што, не бачылі яе?

– Пэўна, размінуліся, – схлусіў я. – Мітрафаныч, ты пасядзі тут з імі, а я мадам пашукаю.

Я выйшаў з пакойчыка, ламаючы галаву над пытаннем: дзе я? Тое, што гэта нелегальны бардэль, і дурню зразумела. А вось хто трымае? Хаця, спадзяюся, зараз даведаюся. Я пайшоў калідорчыкам, дайшоў да наступных дзвярэй, пацягнуў на сябе і апынуўся ў невялічкай кладоўцы, завешанай бярозавымі венікамі. А павярнуўшыся, дзвярэй, праз якія ўвайшоў, не

заўважыў. Так па-мастацку яны былі задрапаваны пад сценку. Станавілася ўсё цікавей. З кладоўкі я выйшаў у душавую і тут канчаткова зразумеў, куды трапіў. Гэта была вядомая лазня на Віленскай, якая славілася сваёй парай і добразычлівай гаспадыняй пані Вандай. Я і сам амаль кожную суботу прыходжу сюды парыцца. І на табе. Я выйшаў з душавой у хол, дзе за касай сядзела сама гаспадыня пані Ванда і размаўляла з чарговым наведвальнікам. Убачыўшы мяне, яна на імгненне збянтэжылася, але тут жа ўзяла сябе ў рукі і прыязна ўсміхнулася:

– Пан Ілля ўжо папарыўся? Хаця ж сёння, здаецца, не субота? Як гэта я прапусціла, калі такі заможны пан наведаў нашу лазню.

На яе яшчэ досыць маладым і прыгожым твары не-не, ды і прабіваліся эмоцыі. Яна сапраўды не разумела, як я прайшоў незаўважаны.

– А што пані Ванда сёння на касе? – лагодным голасам папытаў я.

– Ах, пане Ілля, наша касірка пані Аля прыхварэла, вось і прыйшлося падмяніць. А дзе, прашу пана, вашы рэчы?

Я ўсміхнуўся.

– Зараз усё пані растлумачу, калі пані дазволіць мне адну хвілінку патэлефанаваць.

– Як жа не дазволіць нашай славутай вышукной паліцыі, – напружана засмяялася тая. – Мой кабінет адчынены для пана.

Я прайшоў у яе кабінет, зняў трубку і папрасіў злучыць мяне з паліцэйскім упраўленнем. Неўзабаве ў трубцы пачуўся голас начальніка гарадскога ўпраўлення падпалкоўніка Жогінава.

– Слухаю.

– Добры дзень, Пётр Пятровіч! Непакоіць начальнік вышукнога аддзялення Рыбкоў Ігар Аляксандравіч.

– Следчым мае ўшанаванне! – бадзёра прывітаўся палкоўнік. – Чым магу дапамагчы?

– А мы тут, Пётр Пятровіч, у лазні на Віленскай бардэль накрылі. Хацеў прасіць вас выдзеліць арыштанцкую фурманку і двух паліцэйскіх.

– Цікава жывяце, Ілля Аляксандравіч! Чаму ж не дапамагчы добрым людзям. Адпраўляю.

Я падзякаваў і вярнуўся да гаспадыні лазні.

– Ну што, пані Ванда, пакуль прыедуць паліцэйскія, у вас ёсць дзесяць хвілін расказаць усю праўду без пратакола і такім чынам палегчыць будучы прысуд.

Пані Ванда, яна ж Ванда Тадэвушаўна Дабрыньская, здзіўлена акругліла вочы і голасам пакрыўджанага дзіцяці запытала:

– Але я не разумею пана. Пра што я павінна расказаць і пра які прысуд увогуле ідзе гаворка?

– Што ж, я растлумачу сітуацыю. Унізе, у адным з нумароў гарадавы Патапаў Мікіта Мітрафанавіч трымае пад прыцэлам рэвальвера вашу супрацоўніцу Нюшу і саліднага пана, прозвішча якога мы хутка высветлім, паколькі яны былі засцігнуты ў час палавога распуства. Інакш кажучы, вы, пані Ванда, арганізавалі пры лазні незарэгістраваны бардэль. І кліент гэта пацвердзіць. Больш таго, днямі была забіта адна з вашых супрацоўніц, і ў мяне ёсць падставы меркаваць, што гэта зрабіў адзін з вашых кліентаў. І вы пра гэта ведалі, але не заявілі ў паліцыю. Ну, а ўсё пералічанае якраз цягне, шаноўная Ванда Тадэвушаўна, на добрую катаргу, дзе самі можаце ўявіць, што чакае такую прыгожую і дагледжаную жанчыну, як вы.

Я заўважыў, як пачаў бялець яе твар і задрыжалі рукі. Трэба яшчэ крышачку дацiснуць.

– Ванда Тадэвушаўна, я разумею, што забойства – не вашых рук справа. Так, вырашылі крышку падзарабіць ды і патрэбных людзей прывязаць мацней да сябе, вось д'ябал і папутаў, зрабілі такі прытончык. Бог з ім, не такое ўжо і страшнае злачынства. Але забойства вісіць зараз менавіта на вас, і толькі вы можаце дапамагчы сабе.

Тут я дастаў з кішэні фотаздымак забітай, сунуў пад нос Дабрыньскай і гучна зароў:

– Хто забіў? Вы?

– Не! – істэрычна закрычала Ванда. – Гэта не я, гэта знаёмыя Лішвіца!

Я тут жа выцягнуў намаляваныя Аглаяй партрэты зладзеяў.

– Яны?

Ванда толькі зірнула на малюнкі і ад здзіўлення адкрыла рот.

– Так, яны, але адкуль вы?..

– Мы ведаем усё, пані Ванда. Я слухаю вас.

І тут яе нібы прарвала.

– Мне патэлефанаваў Лішвіц і папрасіў арганізаваць вельмі добры адпачынак двум яго знаёмым. Тады я абсталявала два пакойчыкі ў былой піўніцы, прывезла з Жытоміра чатыры паненкі для такіх вось уцех, і пра гэта ведалі некаторыя ўплывовыя нашы гараджане. Той жа Лішвіц два-тры разы і сам пакарыстаўся паслугамі. А ўжо розных правяраючых, адказных начальнікаў была тут процьма. Таму я не здзівілася званку, тым больш што Лішвіц заўсёды своечасова і шчодра аплочваў паслугі. Сапраўды прыйшлі двое: адзін высокі, пахмурны, а другі ніжэйшы за сябра, гаваркі такі, пухленькі. Я правяла іх у парылку, дзе Міхей, наш апальшчык, добра іх папарыў, пасля чаго спусціліся ў нумары. Там іх чакалі Марта і Арына. Ну, а я вярнулася ў кабінет. Хвілін праз трыццаць прыбягае да мяне Марта і крычыць, што забіваюць Арыну. Я хуценька паклікала Міхея, і мы зноў спусціліся ў нумары. У пакойчыку сядзелі гэтыя госці, прычым у маленькага рукі былі ў крыві. Я пацікавілася, што здарылася? Тады маленькі так злосна і кажа:

– Няякасны тавар у цябе, гаспадыня. Пераборлівая дзеўка нейкая: гэтага не раблю, так не хачу... Прыйшлося трохі павучыць. Дык гэтая зараза трэснула мяне па галаве падсвечнікам і хацела збегчы праз нейкі падземны ход. Але ад мяне так проста не збяжыш!

– Вы забілі яе? – з жахам запытала я.

– Так, – ужо спакойна адказаў той. – І выкінуў праз люк у канцы праходу. А ты, курва, слухай уважліва: нас ніколі не бачыла, куды знікла твая супрацоўніца, не ведаеш, а рот хоць раз адкрыеш – пойдзеш за сваёй лярвай.

І сышлі. А ўвечары прыйшоў Лішвіц, доўга выбачаўся і, дарэчы, заплаціў немалыя грошы. Ну вось і ўсё, пан следчы.

– Дарэчы, – пацікавіўся я, – а адкуль з'явіўся гэты падземны ход?

– Па праўдзе сказаць, – уздыхнула пані Ванда, – я дакладна і не ведаю. Калі купляла гэты дом у Фрумкіна, ён пра тунэль нічога не сказаў. А ўжо потым, перарабляючы памяшканні пал лазню, мы выпадкова яго знайшлі. Людзі казалі, што раней на гэтым месцы была капліца, можа, манахі і выкапалі.

– Зразумела, – адказаў я. – Ну а хто з паліцыі вас ахоўвае, Ванда Тадэвушаўна?

Дабрыньская спалохана падціснула вусны.

– Ванда Тадэвушаўна, сказаўшы „а“, трэба вымавіць і „б“. Не бойцеся, мы яго адразу ж возьмем у абарот.

Яшчэ з хвіліну павагаўшыся, яна ледзь чутна прашаптала:

– Мітрохін Сямён Феліксавіч.

Надышла чарга здзіўляцца мне. Мітрохін, гэты пісклявы недарэка, патаемны бандыт? Вось на каго б ніколі не падумаў.

Тым часам пад’ехала фурманка з паліцэйскімі. Я перадаў ім пані Ванду, схадзіў па Мітрафаныча і яго кампанію і прайшоўся па кабінетах лазні. Навокал было пуста, чаго і трэба было чакаць. Інфармацыя хутка распаўзаецца. Толькі наверсе, дзе месцілася мужчынская парная, чуліся галасы. Я падняўся туды, зайшоў у аддзяленне і абвясціў прысутным, што вышукная паліцыя замыкае лазню і ў іх ёсць 10 хвілін, каб апрануцца і пакінуць будынак. Хтосьці абурана крыкнуў:

– Сатрапы! Нават у лазні ад вас няма спакою!

Тады я пагразіў перадаць крыкуна жандарам. Ён тут жа сціх.

“Добра, – падумаў я, – але ж яшчэ павінна быць і жаночае аддзяленне. Здаецца, на першым паверсе”. І я зноў спусціўся ўніз.У фае стаяў Патапаў.

– А дзе тут жаночае аддзяленне? – запытаў я. Замест адказу Мітрафаныч паказаў пальцам на сцяну. Там вісеў указальнік “Аддзяленне для дам”. Я накіраваўся туды, як раптам спыніўся. А як я туды зайду? Там жа аголеныя дамы!

– Мітрафаныч! – закрычаў я праз хол. – Ты тут не бачыў каго з абслугі?

– Ілля Аляксандравіч, – сумна пакачаў галавой гарадавы. – Вы як дзіця малое. Усе даўно разбегліся і пахаваліся па норах. Яны ж ведалі пра бардэль, атрымлівалі даплату, і зараз ім ёсць чаго баяцца.

– А як жа я папярэджу дамскае аддзяленне, каб разыходзіліся?

Мітрафаныч, поўны скрухі, толькі махнуў рукою і накіраваўся ў гэтае аддзяленне. Тут жа пачуўся жаночы віск, які ўмомант перакрыў бас гарадавога:

– Чаго верашчыш, як сука на марозе? Было б што хаваць... Так, паліцыя зачыняе лазню, усім хутка апранацца і на выхад!

Ён выйшаў з дзвярэй і вярнуўся на свае месца. Неўзабаве адна за адной з аддзялення пасыпаліся жанчыны, нізка нахіліўшы галовы.

– Сарамлівыя, – усміхнуўся Патапаў.

Я ўзяў у касе вялікі замок з ключом і, калі ўсе пакінулі будынак, зачыніў дзверы. І толькі тут успомніў.

– Мітрафаныч, а дзверы ў падземны ход ты зачыніў?

– Ну а хто, апроч мяне, іх зачыніць? – сварліва буркнуў той.

Мы селі ў фурманку і паехалі ў аддзяленне. Там размясцілі ў камеры ўжо апранутую пару “закаханых”, а пані Ванду я зачыніў у сваім кабінеце. На калідор выйшла ўся мая група і з цікавасцю назірала за арыштаванымі. Я паказаў рукою, каб вярталіся назад. Затым падзякаваў паліцэйскім і папрасіў іх крыху пачакаць у будынку. Тады звярнуўся да Патапава.

– Мітрафаныч, вялікі табе дзякуй за дапамогу. Я паведамлю твайму начальству аб гэтым.

Гарадавы згодна кіўнуў галавой.

– І такая просьба: замаскіруй і неяк прыкрый люк у падзямелле, каб ніхто не палез. Там, можа, яшчэ якія сляды ёсць.

Патапаў зноў мантыльнуў галавой, працягнуў мне руку і прабасіў:

– Звяртайцеся, калі што, ваша благароддзе! Асабліва што тычыцца голых кабет!

І, задаволены жартам, гучна зарагатаў.

Я толькі ўсміхнуўся і пайшоў да сябе. Дабрыньская сядзела ў маім крэсле і нервова курыла.

– А адкуль у вас цыгарэты? – строга запытаўся я.

– З маёй сумачкі, – адказала Ванда і прыпадняла над сталом дамскую сумку.

“От жа халера, у гэтай мітусні я ж не абшукаў арыштаваных, не адабраў асабістыя рэчы. Ну, як дылетант-пачатковец які”, – аблаяў я сябе ў думках. Ну а зараз гэта рабіць тым больш смешна. Я паклаў перад Вандай стос чыстых аркушаў.

– Пані Ванда, а зараз апішыце падрабязна ўсё тое, што расказвалі мне ў лазні. І нікога не бойцеся. Вы пад надзейнай аховай.

– А Лішвіц?

– Хутка будзе арыштаваны.

– А Мітрохін?

– Яшчэ хутчэй.

Яна ледзь прыкметна ўсміхнулася:

– Як у вас, маладых, усё хутка і добра.

– А хіба вы не маладая? – шчыра здзівіўся я.

– Ой, хітрун! – ужо гучна засмяялася Ванда, нават шчочкі крыху паружавелі. – Ну добра, зараз напішу для такога гжэчнага пана.

Калі я зайшоў у службовы пакой, дзе сядзела ўся група, гул адразу ж сціх. Усе зацікаўлена пазіралі на мяне. Я ж, вытрымліваючы тэатральную паўзу, няспешна прайшоў праз пакой, сеў за стол і абвёў усіх суровым позіркам.

Першым не вытрымаў Кныш.

– Ілля Аляксандравіч, ваша благароддзе, не таміце...

– Так, – працягнуў я, – давайце спачатку кожны паведаміць пра вынікі сваёй працы, а потым абагулім з маёй. З вас, Кныш, і пачнём. Чым пахваліцеся?

Той ускочыў, дастаў запісную кніжку і, час ад часу зазіраючы туды, пачаў:

– Вахмістрыня апазнала, што з бібліятэкі зніклі тры кнігі. Ну і таксама грошы, што нябожчык трымаў у сакратэры. Каштоўнасцяў у яго не было. Што тычыцца сейфа, то, скажу я вам, Мікола Крышаў – сапраўдны майстар. Такі мудрагелісты шыфр, а ён са слухаўкамі ў вушах запраста адчыніў. Дзе такому толькі і вучаць?

– Справа ў тым, – зазначыў я, – што Мікола раней сам быў медзвяжатнікам, але потым завязаў. Ну, а што ў сейфе?

Кныш зноў зазірнуў у кніжачку.

– Дзве старыя кнігі “Аб сыне Божым, чалавеку Хрысце” і “Дыярыуш”, а таксама дыядэма і завушніцы з каштоўнымі камянямі.

– Усё так, – адзначыў я. – Гэта кнігі Меньчыца, як, зрэшты, і каштоўнасці. Добра, дзякую, Кныш. Што ў вас, Мітрохін?

Сямён Феліксавіч зрабіў пакрыўджаную фізіяномію і пачаў дакладаць:

– Я праверыў публічны дом, а таксама пагутарыў з двума суцянёрамі, паказаў здымак – ніхто гэтай дзяўчыны не бачыў ніколі. Думаю, гэта прыезджая, якую і абрабавалі, і забілі па п’янцы.

– А чаму не зайшлі пацікавіцца на Віленскую, 3? – запытаў я.

– А што на Віленскай, 3? – тут жа перапытаў Кныш. Астатнія таксама здзіўлена ўперылі позіркі ў мяне. Мітрохін ледзь прыкметна пачырванеў.

– На Віленскай, 3 – лазня, чаго мне туды сунуцца? – буркнуў ён.

– Лазня там на першых двух паверхах, а вось ніжэй даўно ўжо працуе элітны бардэль. І вам, Сямён Феліксавіч, гэта добра вядома, – адзначыў я.

У пакоі завісла цішыня. Следчыя пераводзілі позіркі то на мяне, то на Мітрохіна. Нарэшце той не вытрымаў:

– А чаму гэта мне павінна быць вядома? І адкуль там увогуле бардэль?

– Бардэль там арганізавала гаспадыня лазні Дабрыньская Ванда Тадэвушаўна па просьбе Лішвіца Барыса Маркавіча. А паколькі вы, Сямён Феліксавіч, нейкім чынам пра гэта даведаліся, давялося браць вас у долю. Ну, і інфармацыйнае забеспячэнне на вас павесілі.

– Гэта агідная хлусня! – нервова закрычаў Мітрохін.

– Ну, чаму ж адразу хлусня? – спакойна адрэагаваў я. – Зараз піша паказанні Дабрыньская, неўзабаве арыштуем Лішвіца, і той таксама не пашкадуе вас. Так што, пан Мітрохін, пакуль не позна, давайце выходзіць на шчырае прызнанне.

Мітрохін знясілена плюхнуўся ў крэсла. Тут жа падняўся са свайго месца Дзябёлаў.

– Ілля Аляксандравіч, а што тут адбываецца?

– Так, што? Хто такі Лішвіц? Пры чым тут лазня? – пасыпаліся адно за адным пытанні ад калег. Я падняў руку.

– Шаноўнае спадарства, пакуль пан Мітрохін абдумвае сітуацыю, я ў некалькіх словах раскажу пра апошнія здарэнні.

І я распавёў ім пра наш з Патапавым выхад на падпольны прытон. Зноў падняўся страшэнны вэрхал. Кожны нешта крычаў, даказваў, нават спрабавалі штосьці сказаць Мітрохіну. І той не вытрымаў.

– Добра, – пачаў гаварыць Мітрохін, і ўсе сціхлі, – я ўсё раскажу, але не так шмат чаго і ведаю. Калі мы займаліся справай абрабавання ювелірнай лаўкі Лапідуса, я пазнаёміўся з ювелірам Кавальскім, які, будучы на добрым падпітку, аднойчы і расказаў мне па сакрэце пра бардэль пані Ванды. Я прасачыў за яго дзейнасцю, сабраў крыху фактаў і выклаў усё перад гаспадыняй. Яна моўчкі выслухала, затым папрасіла пасядзець хвілін пятнаццаць, а сама выйшла. Я нават крыху спалохаўся: прыйдуць, думаю, зараз мардавароты і закапаюць беднага Мітрохіна. Але замест мардаваротаў неўзабаве з'явіўся Лішвіц.

– Што ж, – адразу ж з парога заявіў ён, – паколькі вы, шаноўны Сямён Феліксавіч, валодаеце нашым сціплым сакрэтам, мы гатовы за яго надзейнае захаванне плаціць добрыя грошы. І паралельна невялічкая просьба: калі з'явіцца інфармацыя, што паліцыя ці хто іншы зацікавіліся нашай цяпер ужо агульнай таямніцай, як прадстаўнік сур'ёзнай арганізацыі паспрыяйце знікненню гэтай цікавасці. Безумоўна, такі клопат будзе добра аплачаны.

І тут жа шчодра разлічыўся са мной, прычым настолькі шчодра, што я ўжо дарогі назад не бачыў. Так я стаў супрацоўнічаць з Лішвіцам, перадаючы яму час ад часу некаторую інфармацыю пра справы вышукнога аддзела.

– Лішвіц прыводзіў да Ванды патрэбных людзей, чыноўнікаў, каб станоўча вырашыць нейкія свае пытанні. Гэта мне зразумела. Але такія людзі не так ужо часта і патрэбны, а выдаткі на дзяўчат, Ванду, вас, Мітрохін, пастаянныя. Ці акупляецца такая справа? – зацікавіўся я.

Мітрохін толькі гмыкнуў:

– Лішвіц прывозіў важных чыноўнікаў з Мінска, Варшавы, нават Пецярбурга і Масквы. Абавязковае паляванне ў пушчы, пікнік у паляўнічым доміку, а затым лазня з дзяўчатамі. А за сценамі абодвух пакояў размешчаны невялічкія падсобкі, адкуль вядомы вам Міхей фатаграфаваў забавы чыноўнікаў. А назаўтра ім паказваліся гэтыя фота з пагрозай перадачы іх кіраўніцтву, або прэсе, або жонцы, у залежнасці ад сітуацыі.

– Гэта значыць, шантаж? – ахнуў Кныш.

– Так, – пагадзіўся Мітрохін, – самы звычайны брудны шантаж. Затое для Лішвіца не было невырашальных пытанняў.

– І яго ні разу не спрабавалі ліквідаваць? – здзівіўся я.

– Лішвіц адразу ж папярэджваў, што ў выпадку яго смерці фота абнародуюць. Вось усе і баяліся. Тым больш, што ён, як і абяцаў, выкарыстоўваў ахвяру толькі адзін раз. Многія і вырашылі для сябе: адзін раз не лічыцца.

Тут мяне асяніла.

– Сямён Феліксавіч, а Строеў заязджае ў Гродна па запрашэнні Лішвіца?

– Так. Яны пазнаёміліся дзякуючы Кацу. Дамаўляліся нешта наконт кніг, бо Строеў кніжны вар'ят. Дарэчы, і добрую лазню любіць. А вось ад палявання, па словах Лішвіца, вельмі далёкі.

Што ж, карціна пачала пакрысе для мяне праясняцца. З нейкае прычыны Лішвіцу вельмі патрэбны мільянер Строеў. Ён выкарыстоўвае Маісея Каца, а потым адштурхоўвае ўбок. Кац, безумоўна, крыўдзіцца, вось і паказвае мне артыкул пра паездку Строева ў Гродна. А Лішвіцу неабходна неяк зацягнуць мільянера ў Гродна, каб потым мець магчымасць шантажаваць. Што можа зацікавіць у маленькім правінцыйным гарадку такога чалавека? Толькі кнігі. У самога Лішвіца старадаўніх фаліянтаў, зразумела, няма. Але яны ёсць у некаторых гарадзенцаў. І Лішвіц запрашае аднекуль банду зладзеяў, якія і павінны забяспечыць яго самымі рэдкімі кнігамі.

– Так, а што мы ведаем пра Лішвіца? – гучна запытаў я ў прысутных.

У адказ цішыня.

– Ясна! – падвёў вынікі я. – Зараз тэрмінова трэба браць гэтага Лішвіца, пакуль пра ўсё не даведаўся і не кінуўся наўцёкі. Са мной Змушко і два паліцэйскія, што чакаюць у калідоры. Леў Пятровіч, – звярнуўся я да Пузырова, – адвядзіце Мітрохіна ў камеру, дайце яму паперу, чарнілы. Мітрохін, падрабязна апішыце, што, дзе і калі адбывалася, якія сакрэты і каму выдалі. Вася Кныш, вы зачыніце пані Ванду ў другой камеры, а самі ў картатэку. Можа, што ёсць на Лішвіца. А вы, Іван Ільіч, – я звярнуўся да Дзябёлава, – дапрасіце гэтую каштоўную прастытутку па імені Марта. За справу, панове.

Лішвіца ўзялі надзіва лёгка. Мітрохін даў дакладны адрас, і ўжо праз хвілін дзесяць мы былі на месцы. Добры цагляны дом, багаты сад, моцныя дубовыя дзверы. Я крутануў ручку званка, і амаль тут жа адчыніліся дзверы. Маладая і досыць прывабная служанка ўважліва агледзела нас, заўважыла паліцэйскіх і здзіўлена запытала:

– Вам каго, панове?

– Нам пана Лішвіца, – адказаў я, ахіліў убок дзяўчыну і ўвайшоў у дом. Так, заможна жыў яго гаспадар. Персідскія дываны на падлозе, пазалочаныя люстры, дарагая мэбля – усё проста крычала пра багацце яго ўладальніка. Па лесвіцы з другога паверха спускаўся мужчына гадоў сарака, чарнявы, апрануты ў сіні халат.

– Што тут адбываецца? – строга запытаў ён.

– Вышукная паліцыя! – адказаў я. – Вы арыштаваны, пан Лішвіц!

Ён тут жа павярнуўся і кінуўся наўцёкі, але пры развароце наступіў на крысо халата, спатыкнуўся, упаў і пакаціўся па лесвіцы прама да маіх ног. Засталося толькі начапіць кайданкі.

Уладкавалі мы Лішвіца ў камеры, каб крыху астыў, а самі зноў сабраліся ў пакоі. Крыху недарэчна глядзеўся сярод нас Мітрохін.

– Сямён Феліксавіч, дзякуй вам за супрацоўніцтва са следствам, але надалей знаходзіцца сярод нас вы не можаце. Заключаю вас пад хатні арышт. Думаю, бегчы вам няма куды, таму, Сямён Феліксавіч, самастойна дойдзеце да кватэры. Усяго добрага.

Мітрохін абвёў усіх сумным, нейкім шчанюковым позіркам, узяў каплюш і ледзь чутна вымавіў:

– Даруйце мне, панове...

І выйшаў з пакоя.

Я павярнуўся да Дзябёлава.

– Іван Ільіч, ці дапрасілі Марту?

Той раскрыў папку і пачаў чытаць:

“У пачатку чэрвеня Лішвіц павёз мяне і Арыну ў свой летні дом у Панямуні. Чакалі нейкага вельмі важнага госця. Афіцыянты сабралі на стол і былі адпраўлены ў горад. Засталіся толькі мы і целаахоўнік Барыса Маркавіча Васіль. Неўзабаве на дрожках прыехаў багата апрануты пан гадоў сарака з невялікім медыцынскім саквояжам. Мы з Арынай нават падумалі, што гэта доктар. Госця Лішвіц прадставіў нам як Івана Іванавіча Іванова, ну, а нас назваў сваімі пляменніцамі. І ўсе селі за стол. Крыху выпілі, закусілі, і Іван Іванавіч запытаўся ў гаспадара, ці не час перайсці ў кабінет і абмеркаваць фінансавыя пытанні. Я тут і пацікавілася, чым займаецца госць.

– Нерухомасцю, – адказаў той і чамусьці засмяяўся.

– А ты не будзь такой цікаўнай, а то згубіш прыгожую галоўку, – як бы жартам папярэдзіў Лішвіц. Але я адразу ж зразумела, што ён не жартуе, і госць – важная і багатая асоба. Тут падышоў Васіль і сказаў, што лазня гатова. Лішвіц адправіў нас падрыхтаваць венікі, сказаўшы, што праз хвілін дзесяць яны падыдуць. Мы зайшлі за рог дома, і тут я сказала Арыне, што забыла хустачку і хутка даганю яе. Арына пайшла, а я, абышоўшы дом, схавалася ў кустах бэзу. Вельмі цікава было даведацца, чым усё ж займаецца гэты Іван Іванавіч.

Мужчыны якраз выпілі яшчэ па чарцы, і Лішвіц запытаў госця:

– І нашто табе гэты мільянер?

– А ў яго трэцяя частка трыпціха, – няспешна адказаў той.

Лішвіц ледзь не зваліўся з крэсла ад здзіўлення.

– Не можа быць! – закрычаў ён.

– Можа, – усміхнуўся Іван Іванавіч. – І я гэта дакладна ведаю.

– А Строеў пра гэта ведае?

– Упэўнены, што не. Ён проста бібліяфіл, і старыя кніжкі любіць за іх старыну. Таму трэба прапанаваць яму такі абмен, каб ён і хвіліны не сумняваўся.

Лішвіц ускочыў з крэсла і пачаў хадзіць вакол стала.

– Нават не верыцца. А як ты выйшаў на кнігу?

– Так, як і на папярэднюю: дакладным зборам інфармацыі. Я амаль год ездзіў па ўсіх выставах старой кнігі, па злётах букіністаў, я пераznаёміўся

з паловай уладальнікаў кніжных антыкварыятаў. І нарэшце выйшаў на Строева. Цяпер трэба прадумаць, як выцягнуць з яго гэтую кнігу.

Лішвіц падышоў да стала, наліў па келіху і прамовіў тост:

– За настырнасць! А зараз у лазню. Каб ідэі былі святлейшымі!

Я кінулася ў лазню, хуценька распранулася і ўжо чакала з Арынай гасцей. Неўзабаве прыйшлі і яны. Я занялася Іванам Іванавічам і прыклала ўсё сваё майстэрства, каб паклікаў мяне і на ноч. Вельмі ж карцела даведацца, што за кнігу яны мелі на ўвазе. Але каханак з Іванова аказаўся ніякі: трохі паёрзаў каля мяне і здзьмуўся. Праз гадзіну нас адправілі дамоў. Больш я Івана Іванавіча і не бачыла".

– Аднак, – толькі і сказалі калегі, калі Дзябёлаў скончыў чытаць.

– Зноў тамплiеры выходзяць на сцэну, – падумаў я ўслых. – Што ж, час круціць Лішвіца. Каб не ператрымаць залішне. Панове, займаемся сваімі справамі. Кныш, Лішвіца дастаўце мне ў кабінет.

Лішвіцу з парога я даў пазнаёміцца з паказаннямі пані Ванды. Ён прачытаў, усміхнуўся і папрасіў закурыць. Глыбока зацягнуўся, выпусціў воблака дыму і запытаўся:

– Вы сур'ёзна лічыце, пан следчы, што вось гэтых абвінавачванняў хопіць, каб пасадзіць мяне ў турму?

– Чаму толькі гэтых, Лішвіц? – здзівіўся я. – Яшчэ ёсць паказанні апалышчыка Міхея Пызіна, прастытутак Марты Хамяковай і Ілоны Займан. І самае галоўнае – пакуль мы лічым, што гэта Вы забілі Арыну Сіціну.

– Чаму я? – аж пасінеў ад абурэння Лішвіц.

– Бо мы так лічым, – спакойна адказаў я. – І падбяром пераканаўчыя для суда факты. Мінімум катарга вам забяспечана.

– Вы не пасмееце, – не зусім упэўнена заявіў Лішвіц.

– Пасмеем, Барыс Маркавіч, яшчэ як пасмеем. Мы, маладыя, як Вы кажаце, беспрынцыпныя, нахабныя і цынічныя. Нам абы справу закрыць. Так жа?

Было бачна, што Лішвіц пачаў губляць сваю ўраўнаважанасць. Трэба дацiскаць.

– Хаця, Барыс Маркавіч, калі вы праясніце мне адзін момант, абяцаю перавесці вашу справу ў катэгорыю спробы шантажу. Гэта да пяці гадоў, а пры наяўнасці добрага адваката, які, мяркую, у вас ёсць, і ўвогуле да двух можна скасаваць.

– Што за момант? – тут жа па-дзелавому пацікавіўся Лішвіц. Я працягнуў яму паказанні Марты Хамяковай.

– От сучка! – са злосцю вымавіў праз пару хвілін Барыс Маркавіч. – Дабегла, лярва!

– Я так разумею, гаспадзін Лішвіц, што вы запрасілі Строева, паабяцаўшы яму скрадзеныя ў Кавальскага, Твардоўскага і Каца кнігі, у Гродна, а для падстрахоўкі яшчэ паспрабуеце і шантаж. І ўсё гэта за адну толькі кнігу. Дык што гэта за кніга?

– Гэтага я вам не скажу! – адрэзаў Лішвіц.

– Барыс Маркавіч, уключыце логіку: Строеў ужо адназначна прыедзе ў Гродна і прывязе заказаную вамі кнігу. Праўда? Праўда. І я буду ведаць, што за яна. Больш таго, мы яе падрабязна вывучым і зразумеем, у чым таямніца. А там зловім і таямнічага Івана Іванавіча. Але вы ўжо будзеце на катарзе і нічога пра гэта не даведаецеся. Дык у чым ваша выгода?

– Мне трэба падумаць, – стомлена адказаў Лішвіц.

За вакном пачало цямнець. Калегі ўжо разышліся па дамах, час і мне збірацца.

Я падышоў да дзвярэй сваёй кватэры і насцярожана прыгледзеўся: на табе, валасок, які я традыцыйна на выхадзе прычапляў ад дзвярэй да вушака, адсутнічаў. Значыцца, у кватэры нязваныя госці. Я выцягнуў рэвальвер і павольна пачаў націскаць на дзвярную ручку. І тут у на пляцоўцы запалілася святло. Я рэзка павярнуўся. Па лесвіцы павольна падымалася хатняя гаспадыня Агнія Фадзееўна з самаварам у руках.

– Добры вечар, Ілля Аляксандравіч! – прывіталася яна. – Позна вяртаецеся. Кузіна ўжо зачакалася вас.

– Чыя кузіна? – перапытаў я.

– Ваша, зразумела. Зоя Аляксандраўна. Яна ў нядзелю планавала прыехаць, але вы папрасілі раней быць. Я ёй адчыніла, вось і самавар падрыхтавала. А вас усё няма...

Я прапусціў перад сабой Агнію Фадзееўну і ўвайшоў следам. У гасцёўні на канапе сядзела Зоя Аляксандраўна Дарашава і пры святле настольніка чытала нейкую кнігу. Убачыўшы нас, імгненна заўсміхалася, адклала яе і кінулася мне на шыю.

– Іллюшка! – радасна закрычала яна і расцалавала мяне ў шчокі.

Агнія Фадзееўна расчулена глядзела на нас, і ў вачах яе блішчалі слёзы.

– Божухна, як прыемна бачыць, што людзі яшчэ трымаюцца сваяцтва.

Яна паставіла на стол самавар і выйшла. Зоя, гледзячы мне ў вочы, ціха прагаварыла:

– Ведаеш, мне неяк увесь дзень было неспакойна, ціснула сэрца, і я баялася, што з табой здарылася нешта дрэннае. А калі пачало вечарэць, ужо проста не сцярпела, прыбегла сюды і напрыдумвала Агніі Фадзееўне пра кузіну і абяцаны прыезд. Я распусная?

– Ты самая найлепшая і самая мая каханая! – пяшчотна прамовіў я. Зоя прыпала да маіх вуснаў.

Прачнуўшыся ад промняў сонца, што свяцілі прама мне ў вочы, я выявіў, што Зоя знікла з майго ложка. Разгублены, здзіўлены, зняважаны, я скочыў на падлогу і тут убачыў аркуш паперы з нейкімі запісамі.

“Мілы Іллюшка! Не надзімай вусны. Я твая кузіна, і добрая Агнія Фадзееўна адвяла яшчэ ўчора мне пакой паверхам ніжэй. Не магу ж я кампраметаваць начальніка вышукной паліцыі. Да сустрэчы, каханы! Твая кузіна Зоя”.

Я з палёгкай засмяяўся і пачаў апранацца. З Зояй мы паснедалі ў кавярні, і я пабег на працу, дамовіўшыся сустрэцца вечарам ужо ў Зоіным пакоі.

За ноч Лішвіц змяніўся непазнавальна: неяк увесь пастарэў, пашарэў, з’явіліся кругі пад вачамі, поўнасцю знік свецкі лоск.

“Хутка ж ён здзьмуўся, – падумалася мне. – Можа, і даціснем сёння”.

Я прывітаўся з арыштаваным і прапанаваў гарбаты. Лішвіц паглядзеў на мяне мутнымі вачамі, з хвіліну памаўчаў і згодна кіўнуў галавой. Я пакінуў яго ў кабінеце пад наглядам паліцэйскага, а сам накіраваўся да Кныша. Васіль Яўгенавіч гартаў нейкі часопіс, усміхаючыся на ўвесь рот. Убачыўшы мяне, тут жа пасур’ёнеў, загарнуў часопіс і ўскочыў па стойцы смірна. А ў вачах па-ранейшаму скакалі вясёлыя чорцікі.

– Добрай раніцы! – прывітаўся я і паказаў рукой на крэсла. Вася сеў на ранейшае месца, непрыкметна сцягваючы са стала часопіс. Я сеў насупраць, робячы выгляд, што не заўважыў гэтага.

– Ці ёсць у нас што па Лішвіцу? – запытаўся я.

– Зусім няшмат, Ілля Аляксандравіч, – пачаў дакладваць Кныш. – Прыехаў у Гродна чатыры гады назад, калі памёр яго дзядзька. Паколькі той быў адзінокім, па тэстаменту ўся маёмасць старога Лішвіца, а гэта двухпавярховы дом і магазін скабяных тавараў, дасталіся Барысу Маркавічу.

– Пачакай, – перапыніў я Кныша, – ты хочаш сказаць, што на цвіках і засаўках дзядзька Барыса Маркавіча пабудаваў сабе той шыкоўны асабняк, што я ўчора бачыў? І гэтая багатая мэбля, дываны, карціны?

– А вось тут самае цікавае, Ілля Аляксандравіч, – чорцікі яшчэ весялей заскакалі ў вачах Васіля. – У архіве я знайшоў матэрыялы, паводле якіх восем гадоў назад у Гродне быў арыштаваны кур'ер з вялікай партыяй скрадзеных каштоўных камянёў. І сляды вялі да Лішвіца Арона Барухавіча. А паслаў кур'ера не хто іншы, як наш Барыс Маркавіч. Але тым разам даказаць нічога не ўдалося, паколькі кур'ера знайшлі раніцай у камеры павешаным. Спісалі на самагубства. Я паслаў запыт па Лішвіцу ў вышукны аддзел Маскоўскай паліцыі, паколькі Барыс Маркавіч тады жыў менавіта ў Маскве.

– Добра папрацаваў, Васіль Яўгенавіч, малайцом! А зараз запар, калі ласка, кубачак гарбаты і занясі ў мой кабінет Лішвіцу. Буду дацiскаць хлопца!

Вырашыўшы некалькі тэрміновых спраў, я нарэшце дабраўся да свайго кабінета, дзе Барыс Маркавіч Лішвіц дапіваў гарбату ў кампаніі Васіля Кныша і маўклівага паліцэйскага. Я падзякаваў абодвум і правёў іх з пакоя, а сам, вярнуўшыся, сеў насупраць Лішвіца.

– Ну што, Барыс Маркавіч, – пачаў я лагодным тонам, – часу на роздум было дастаткова, таму слухаю вас.

Лішвіц затраўлена паглядзеў у акно, потым перавёў позірк на мяне і хрыпла запытаў:

– Чаму да мяне ўначы падсадзілі нейкага крымінальніка? Вы не маеце права. Я знаходжуся пад следствам і павінен сядзець адзін.

І раптам перайшоў на істэрычны лямант:

– Гэта самаўпраўства, я буду скардзіцца! Я паважаны чалавек! Мяне ў Маскве ўсе ведаюць, у Пецярбургу!

Што Лішвіц начаваў з крымінальнай асобай, для мяне была навіна. Я зірнуў у каляндар: уначы па аддзяленні дзяжурыў Леў Пятровіч Пузыроў, вялікі тэарэтык псіхалогіі арыштаваных. Прынамсі, ён так сам сябе называў. Значыць, вырашыў дапамагчы мне і закінуў на ноч якуюсь шасцёрку, каб стварыць Лішвіцу адпаведныя ўмовы для роздуму. Самадзейнасць, канечне, але, магчыма, на карысць.

– Барыс Маркавіч, супакойцеся і кіньце істэрыку! – строга загадаў я. – Падсялілі да вас таксама падазраванага, бо больш не было месцаў, а гэта законам дазваляецца. Падзякуйце, што аднаго, а не парачку.

Лішвіц толькі адкрыў рот, але я рукой спыніў яго:

– Што датычыцца вашых знаёмых у Маскве, дык гэта, як я разумею, былыя калегі па крадзяжы каштоўнасцей і перапраўцы кур'ерамі сюды вашаму дзядзьку, нябожчыку Арону Барухавічу, які адпраўляў іх далей у Еўропу?

Лішвіц ашалела глядзеў на мяне, потым адкінуўся на спінку крэсла і заплакаў. Я працягнуў шклянку вады. Бразгаючы кайданкамі і зубамі, Лішвіц неяк дапіў ваду, паставіў на стол шклянку і пачаў гаварыць:

– Я ніколі не сядзеў у турме. Мяне ніколі не білі, не прыніжалі. Я не змагу жыць у турме. Лепш смерць. Але я і болю баюся. Што далей? Куды дзецца?

– Барыс Маркавіч, вяртаючыся да ўчарашняй размовы. Турмы таксама бываюць розныя. Вы супрацоўнічаеце са следствам, дапамагаеце нам, суд гэта ўлічвае і дае мінімальны тэрмін. Грошы ў вас ёсць, атрымаеце асобную адзіночную камеру, калі захочаце, зробяць вам там усе выгоды, а неўзабаве адвакат падвядзе вас пад амністыю. А вось у адваротным выпадку з катаргі вас ніхто не выцягне. А там жывуць у бараках па пяцьдзясят чалавек, і большасць з іх забойцы, садысты і гомасексуалісты. Уяўляеце, што яны могуць зрабіць з інтэлігентным чалавекам?

Лішвіц, пэўна, уявіў, пакольк ажно збялеў і здрыгануўся.

– Добра, – панура адказаў ён, – я ўсё раскажу, толькі гарантуйце мне, што катарга адпадае.

– Гарантую, – з лёгкім сэрцам пацвердзіў я дзеля добрай справы.

– Дык вось, – пачаў расказваць Лішвіц, – у час вучобы ў Маскоўскім універсітэце я пазнаёміўся з хлопцам са Свіслачы, які таксама быў студэнтам гэтага ўніверсітэта. Улічваючы, што я часта прыязджаў да свайго дзядзькі ў Гродна і добра ведаў мясцовасць, мы лічылі сябе амаль землякамі. І аднойчы Кастусь, так звалі гэтага хлопца, расказаў мне такую сямейную легенду. Калі пачалося паўстанне Каліноўскага, мясцовыя сяляне на Свіслаччыне таксама пачалі праяўляць бунтарскую актыўнасць. Дзядуля Кастуся Лявон Запольскі быў хаця і дваранінам, але са шматдзетнай дробнапамеснай сям'і, і таму ледзьве зводзіў канцы з канцамі. І тут яму прыйшла адна думка. Перагаварыўшы з двума братамі, ён стварыў інсургенцкі атрад на свіслацкай зямлі для барацьбы з царскім самаўладдзем. Чалавек ён быў адважны, кемлівы і асцярожны, а таму пачаў сваю дзейнасць з нападаў на практычна безабаронныя фальваркі дробных шляхцічаў, якія нібыта падтрымлівалі царскі рэжым, аддаючы пры гэтым збожжа, худобу, маёмасць сялянам. Хутка да яго стаў далучацца мясцовы люд, атрад разросся, набраў моцы. Але колькі ні спрабавалі іншыя атрады, сам Каліноўскі ўсталяваць з ім сувязь, практычна нікому гэта не ўдавалася. Пасланцы гінулі, лісты не даходзілі да адрасата. А пра мужнасць і жорсткасць Запольскага ледзьве не складалі легенды. Праўда, ён вельмі рэдка і неахвотна сутыкаўся з царскімі рэгулярнымі войскамі. Палюбіў нападаць на багатыя маёнткі. І вось што яшчэ дзівіла паплечнікаў: пакуль атрад разбіраў захопленае дабро, Лявон з братамі замыкаўся ў сутарэннях, піўніцах, склепах і катаваў гаспадароў маёнтка. А пасля забіваў усіх, нават малых і старых. Але, як кажуць, шыла ў мяху не ўтоіш. Неўзабаве падцягнуліся рэгулярныя расійскія войскі, і самому Мураўёву стала вядома, што Лявон Запольскі не б'ецца, як іншыя інсургенты, за незалежнасць, а катуе заможную шляхту, каб даведацца, дзе тыя схавалі золата, каштоўныя камені, упрыгожванні. І амаль ніхто не вытрымліваў яго садысцкіх катаванняў. За год браты Запольскія нарабавалі мяхі такога багацця. А тут інсургенты пачалі адступаць. Лявон паклікаў братоў і сказаў наступнае: "Час прыйшоў распускаць атрад і ратавацца па адным, пакуль Мураўёў-вешальнік не дабраўся да нашых шый. Каштоўнасці мы вывезці не здолеем: няма часу і магчымасцяў. Таму я схаваў іх у надзейным месцы. Сустрэнемся праз два гады і раздзелім па-брацку напрацаванае багацце. Спадзяюся, вы мне верыце?

Браты згодна кіўнулі галовамі, але меншы, Язэп, запытаў:

– Два гады – тэрмін не малы. А калі што здарыцца з табой, не дай Божа, канечне? Як мы знойдзем гэты скарб?

– Добрае пытанне! – ухваліў малодшага брата Лявон. – Вось на такі выпадак я і намаляваў карту мясцовасці і ўказаў, дзе схаваныя каштоўнасці. А затым разрэзаў яе на тры часткі і кожную падклеіў у кніжку. Памятаеце, вы яшчэ пыталіся, навошта я ў маёнтку Свірыдовічаў забраў тры кнігі. Вось якраз у гэтых кнігах і ляжаць падказкі пра нашу схованку. Трэба толькі сабраць іх разам і скласці карту ў адно.

І выдаў аднаму брату “Буквар”, другому “Часаслоў”, а сабе пакінуў “Малітваслоў”. Пасля чаго развіталіся і разбегліся браты ў розныя бакі.

– Добра, – перапыніў я Лішвіца, – а хто выдаў кнігі, які год, дзе?

Барыс Маркавіч пільна паглядзеў на мяне і ледзь прыкметна ўсміхнуўся:

– Што, пан следчы, і вас апантоўвае прага шукальніка скарбу?

Я нават крыху засаромеўся: а і праўда, адчуў нейкі азарт у душы. Лішвіц тым часам працягваў.

– Калі паўстанне было разбітае, успомнілі і пра Лявона, пачалі шукаць. Таму ён быў вымушаны з’ехаць за мяжу, пакінуўшы тут жонку з дзецьмі. Два гады нічога не было чуваць пра Лявона, толькі час ад часу нейкія незнаёмыя людзі перадавалі сям’і грошы, не адказваючы ні на якія пытанні. А на трэці год разам з грашыма перадалі кнігу і канверт, на якім рукою Лявона было напісана “Адкрыць сыну майму Мікалаю ў Дзень паўналецця”. Тым часам па чарзе былі схопленыя абодва браты Лявона і пакараныя смерцю. Неўзабаве перасталі прыходзіць грошы і ад Лявона. І што з ім сталася, так ніхто да сённяшняга дня і не ведае. Дзеці падраслі, пачалі жыць сваім жыццём, і неяк ужо на сыходзе жыцця іх маці ўспомніла пра канверт. У лісце Запольскі напісаў, што карта знаходзіцца ў кнігах, выдадзеных у друкарні Спірыдона Собаля, што мясцілася пры Куцеінскім манастыры пад Оршай. Гэта “Буквар” 1631 года, “Малітваслоў” 1631 года, “Часаслоў” 1632 года. На апошняй старонцы ў кожнай стаяў подпіс “Лявон Запольскі”.

І што самае цікавае, у Кастуся быў пры сабе “Малітваслоў” менавіта з такім подпісам. І да гэтага часу ніхто не пацікавіўся, ці ёсць у кнізе кавалак карты. Ну, я ціхенька, пакуль мой сябар быў на занятках, і праверыў. Уяўляеце маю радасць, калі там сапраўды знайшоў гэтую частку карты. Я, зразумела, забраў яе сабе, а кніжку акуратна падклеіў. А вось дзе ўзяць астатнія кнігі? І я зацікавіўся старажытнымі фаліянтамі, у надзеі, што калі-небудзь абавязкова сустрэну патрэбныя. Пайшлі гады, я заняўся, як вы даведаліся, іншай камерцыяй, але пра карту не забываў. Тым больш, што Кастусь (ён, дарэчы, праз год памёр ад сухотаў) шмат каму расказаў сямейную легенду, і я адчуваў, што не адзін шукаю кнігі. І вось два гады назад, калі я ўжо перабраўся ў Гродна, да мяне прыходзіць нейкі Іван Іванавіч, камерсант з Санкт-Пецярбурга, паказвае “Буквар” з кавалкам карты і прапануе сумесна шукаць трэцюю кнігу. Я падумаў, што лепей палова скарбу, чым нішто, і пагадзіўся. Мы паднялі многіх букіністаў у Расіі, прапанаваўшы за інфармацыю пра патрэбны “Часаслоў” нядрэнны ганарар. І што вы думаеце? Прыязджае да мяне аднойчы Іваноў і расказвае, што ў Строева ёсць падобная кніга і таксама нейкай беларускай друкарні. Я папрасіў Каца ўдакладніць інфармацыю, і ўяўляеце, што я адчуў, калі ўсё супала. Я ледзь не звар’яцеў ад шчасця. Таму тут жа папрасіў Каца за добрыя грошы ўгаварыць Строева прадаць мне кнігу.

– А Каца не зацікавіла, чаму вам патрэбна менавіта гэтая кніга? – запытаў я.

– Гэта не праблема, – адмахнуўся Лішвіц. – Я сказаў, што збіраю кнігі беларускіх друкарняў 16-17 стагоддзяў. І ён адразу ж паверыў. А вось Строеў заўпарціўся. Сказаў, што грошы яму не патрэбны, а вось памяняцца гатовы. І пераслаў пералік кніг, на якія можа зрабіць абмен. Прычым, жываглот, тры на адну. У спісе было каля пятнаццаці выданняў. І я пачаў шукаць. І мне зноў пашанцавала. Адна з пералічаных была ў бібліятэцы Кавальскага, другая ў Твардоўскага, ну а трэцяя ў самога Каца. Але ўсе ўладальнікі наадрэз адмовіліся прадаваць свае кнігі. Мяняцца ж мне не было на што. І тады я выклікаў з Масквы знаёмых спецыялістаў, якія пад выглядам паліцыі і правялі выемку патрэбных кніг. Ну і для адводу вачэй узялі і пару-другую непатрэбных. Каца я бярог да апошняга, таму што ён быў як бы сувязным паміж мною і Строевым. Але Кац аказаўся занадта цікаўным, дакладна прааналізаваў сітуацыю, вылічыў, каму патрэбны былі скрадзеныя кнігі, і пачаў мяне шантажаваць, патрабуючы аддаць дом. Я крыху прыгразіў Маісею, і тады ён паабяцаў звярнуцца па дапамогу ў паліцыю. Прыйшлося прыбраць і Каца. Тым больш, што напярэдадні ён пацвердзіў: Строеў выехаў у Гродна і будзе 24 траўня.

Я механічна зірнуў на каляндар. 24 траўня. Пецярбуржскі цягнік прыбывае а 19-й гадзіне. Цяпер 11:26. Час яшчэ ёсць.

– А дзе знаходзіцца Іван Іванавіч з другой кнігай? – пацікавіўся я.

– Іван Іванавіч знаходзіцца на Гродзенскіх могілках на заслужаным адпачынку, – сумна пажартаваў Лішвіц. – Ён паспрабаваў туды ўладкаваць мяне, каб завалодаць усімі кнігамі, але я аказаўся больш спрытным. А кніга ў маёй бібліятэцы.

– Тады раскажыце, дзе хаваюцца нанятыя вамі бандыты, што рабавалі кватэры гарадзенцаў?

Лішвіц зноў цяжка ўздыхнуў.

– На дне Нёмана.

– Вы іх забілі? – майму здзіўленню не было мяжы.

– Не, – гледзячы на рукі, запярэчыў Лішвіц, – я іх атруціў. Літаральна пазамінулай ноччу. А што было рабіць? Пасля забойства прастытуткі яны сталі для мяне небяспечнымі, паколькі, арыштаваўшы іх, паліцыя магла выйсці і на мяне. Прыйшлося перастрахавацца.

– Та-ак, – толькі і змог працягнуць я. Агаломшаны, хвілін пяць я сядзеў моўчкі. Гэтак жа маўчаў і Лішвіц.

– Добра, – парушыў я маўчанне, – можа, яшчэ што-небудзь хочаце дадаць, пан Лішвіц? Можа, якія ёсць пажаданні?

Барыс Маркавіч падняў на мяне свае сумныя габрэйскія вочы.

– Так, ёсць. Я столькі гадоў марыў убачыць гэтыя скарбы і спыніўся за крок ад іх. Калі вы раскапаеце іх, пакажыце мне, калі ласка.

Я ўсміхнуўся.

– Сам скарб, Барыс Маркавіч, наўрад ці атрымаецца, але фотаздымкі абяцаю. І дзякуй за супрацоўніцтва.

А 18:50 я стаяў на пероне Гродзенскага чыгуначнага вакзала разам з начальнікам губернскай паліцыі Іванам Апалінар'евічам Істоміным, якому паспеў падрабязна дакласці пра вынікі следства. Я вельмі разлічваў на дапамогу палкоўніка паставіць у гэтай справе апошнюю кропку, паколькі размаўляць з наравістым Строевым было складана. Цягнік, цяжка пасопваючы парай, павольна пад'ехаў да перона і спыніўся. Мы накіраваліся на

трэцяга вагона, у якім і ехаў мільянер. З вагона выйшаў правbooднік, працёр парэнчы, а следам... выйшлі два санітары ў белых халатах з насілкамі ў руках. За імі спусціліся на перон жандарскі капітан і чалавек з доктарскім сакваяжам у руцэ. Прадчуваючы страшнае, я кінуўся да іх, на хаду разгортваючы службовае пасведчанне.

– Начальнік губернскага вышукнога аддзялення, – пракрычаў я, сунуўшы паперыну пад нос капітану, і адкінуў прасціну з насілак. На іх ляжаў нерухома мужчына гадоў шасцідзесяці з перарэзаным горлам.

– Строеў? – запытаўся я.

– Так, – пацвердзіў жандар.

– А дзе яго багаж?

– У купэ пад аховай маіх людзей.

– Мне тэрмінова трэба яго агледзець.

Капітан на хвіліну задумаўся, потым прайшоў некалькі крокаў уздоўж вагона і крыкнуў:

– Вавулін, упусці сыскнога!

Я імгненна ўляцеў у вагон і заскочыў у купэ, каля якога стаяў жандар. Калі не лічыць лужыны крыві на скураной канапе, дзе, верагодна, і быў забіты Строеў, навокал дзівілі вока парадак і чысціня. Каля стала стаяў невялікі куфар, абабіты аксамітам. Вечка яго было паднята. Я зазірнуў туды і ўбачыў акуратна складзеныя кнігі.

– Кнігі не чапалі? – запытаўся я Вавуліна.

– Ніяк не! – адрапартаваў той. – Рэчы пан капітан загадаў не чапаць да прыезду ў Гродна.

– А вы дзе падселі? – пацікавіўся я

– У Лідзе, ваша благароддзе. Да нас прыбег праваднік і сказаў, што ў вагоне забіты. Каб не затрымліваць цягнік, мы ўзялі доктара і прыехалі сюды.

Тут да купэ падышоў праваднік.

– Пан паліцэйскі, цягніку праз дваццаць хвілін адпраўляцца на Варшаву. Давайце вынесем рэчы нябожчыка. Я і насільшчыкаў прывёў.

– Добра, – згадзіўся я, – выносьце. Усё роўна слядоў тут ужо ніякіх не знойдзеш.

Усе рэчы перанеслі ў пакой дзяжурнага па станцыі, я перагледзеў усе шчыліны ў купэ, каб чаго не пакінулі, прайшоўся па вагоне, запытаў пасажыраў (ехалі ў вагоне ўсяго шэсць чалавек), ці не бачылі каго чужога, ці не чулі якіх гукаў барацьбы. Потым дапытаў правадніка. Апошні раз ён бачыў забітага ўчора ўвечары, калі разносіў гарбату. А раніцай ужо знайшоў толькі цела. І таксама нікога не бачыў чужога, нічога не чуў. Пэўна, п’яны быў.

У куфры ляжалі восем кніжак 16-17 стагоддзяў. “Часаслова” сярод іх не было. Але ж не толькі Лішвіц ведаў паданне пра скарб і шукаў ключы ад яго таямніц. Два тамы знаходзяцца ў мяне. Таму гэтая гісторыя, мяркую, яшчэ не закончана...

---

“Дзеяслоўцы” найшчыра віншуюць
шаноўнага **Віктара ВАРАНЦА** з шасцідзесяцігоддзем
і зычаць яму душэўнае трываласці, Божае ласкі
і натхнення на новыя захапляльныя творы!

Фелікс Баторын



...Час бяжыць і бяжыць –

І зусім не змарыўся...

# Людскасці ген

## *КАР'ЕРА*

*Конскія гонкі па клавішах камянёў*
*бываюць гучнейшыя за Бетховена.*

**Б. Пастарнак**

У гонках, дзе прызам
прыступкі на лесвіцы ўлады,
Не месца капрызам,
не час, каб выслухваць парады.
Ступай па нагах,
па плячах, па чыіхсьці галовах,
Утоптвай у прах
да такой барацьбы не гатовых.
Назад не глядзі:
хто сапе там задышліва цяжка.
Зважай на суддзі
выраз твару, свісткі і адмашкі.

Адзін толькі ён
табе месца пад сонцам падкажа.
А ўвесь іпадром –
гэта толькі дэталь антуражу.




** Пачатак сімфоніі № 5 Л. ван Бетховена.*

## COVID-19

*Антываксерам*

Пад грузам цэнтразрушлівых амбіцый
Свет дагары перакуліўся дном.
Нічога толькі дурань не баіцца,
Падначаны падступным хітруном.

Злятаюцца не галкі і вароны,
А крумкачы з кладоў усіх вякоў.
І сыплюцца каменьчыкі з кароны
Глыжамі на галовы працякоў.

## У ПОШУКУ НАЗВЫ

Доўгі час, як цягнік,
І, як шпалы, хвіліны...
Да вакна я прынік –
Да маруднай даліны,
Што ў кружэнні назад
Адступае памалу:
То бытоўка, то сад.
То іржышча, то гала.

Над асеннімі пожнямі
Навісаюць аблокі.
Да прыпынку апошняга
Шлях зусім недалёкі.

Пагусцела смуга,
Ахінула даліну.
Уваччу мітульга –
Замільгалі ўспаміны.

Гэтак шмат іх нажыць
Я калі ж ухітрыўся?
Час бяжыць і бяжыць –
І зусім не змарыўся.

Над асеннімі пожнямі
Навісаюць аблокі.
Да прыпынку апошняга
Шлях зусім недалёкі.

Рэшту волі і сіл
Заціскаючы ў жменьку,
Я б спыніцца прасіў
На паўстанку маленькім,
Дзе ў жывой цішыні
Ні віхуры, ні ночы.
Ды мяне машыніст
Ці ж паслухаць захоча?

Над асеннімі пожнямі
Навісаюць аблокі.
Да прыпынку апошняга
Шлях зусім недалёкі.

* * *

Быў бераг плыткае ракі,
Дзе ў плыні сонейка вяслуе,
Куды занеслі скразнякі
Маю бязважкасць веснавую.

І быў наіўна-звонкі спеў
Нязнанай мне дагэтуль птушкі.
І я на купіну прысеў,
Душу, як немаўлятка, гушкаў.

Шаптала з зарасцяў рака,
Як сарамліўка на спатканні.
І вадзянік са старыка
Глядзеў сюды з замілаваннем.

* * *

Зноў сыпле снег. Ізноў мятла з лапатай –
Не даць жывой дарогі пахаваць.

Здаля здаецца постаць зухаватай,
А вочы з цяжкай стомаю глядзяць.

Але не паддавацца ж той кірпатай,
Што шые й шые саван дзень пры дні.
Махаю зноў шырокаю лапатай
Сярод магільна-белай цішыні.

* * *

Мы існуем, уціснуўшыся ў плечы
І ўросшы мёртва ў дол карэннем зроку...
А хочацца ж пажыць па-чалавечы
Перш, чым растаць у апраметным змроку.

* * *

– А ці будзеш? – І буду! І буду!
А яна – ручніком! ручніком!
І смяяліся Софка і Люда
Разам з Лёнікам і Петраком.

Людзі цягам жыцця забываюць
Многа дробных падзей і прыгод.
А дзіцячыя крыўды ўсплываюць
З глыбіні немагчымае год.

* * *

Я помню старадаўнюю Нямігу –
Не супрацьнатуральны навабуд,
Што носіць у сваёй кішэні хвігу
І на асфальце – нетутэйшы люд.

Я помню, як габрэйскімі кладамі
Хадзілі мы сярод чужых магіл,
І літары, што ўзніклі пры Адаме,
Каб разгадаць, нам не ставала сіл.

Быў брук дарожны грукаткі і трускі.
А Юбілейны рынак аж вірыў.
Я помню, як народ па-беларуску
Паміж сабой ахвотна гаварыў.

Вымаю з патаемных сховаў сэрца
Ўспаміны. Што і грэюць, і баляць.
Расказваю, а ўнучкі ў паняверцы –
Ім немагчыма гэткае ўяўляць.

* * *

*І. С.*

У двухсэнсоўных снах, дзе боль і слодыч,
Шукаю я з'яўленняў Вашых сэнс.
Калі Вы жарсцяў д'ябальскіх адплодак,
Пякельным мусіў быць зачацця сэкс.

І з гэтаю пякельнасцю ў паглядзе,
З няўтольнасцю пажаднаю ў крыві
Вы мерыцеся кожны раз прыгладзіць
Скамечаныя посцілкі краі.

На посцілцы ў адкрытай дамавіне
Ляжу не я – дакладны мой двайнік.
І робіцца мне мулка на пярыне,
Дзе ў сон мой гэты жах ізноў пранік.

Я ж помню Вас цнатлівай, сарамлівай
Дзяўчынкаю з суседняга двара.
Я ж уяўляў, як Вас зраблю шчаслівай...
Наіўная юначая пара!

Нас назаўсёды разлучыла доля.
І з той амаль прыдуманай вясны
Пра Вас я нават і не чуў ніколі.
Чаму ж **такой** прыходзіце Вы ў сны?

* * *

Узяў я лодку танна напракат,
На ёй праплаваў некалькі гадзін.
Даплыў да выспы нейкай наўздагад –
І апынуўся там зусім адзін.

І, прывязаўшы лодку да вярбы,
Зашыўся я ў збуялы вербалоз.
Там дагнівалі нейкія грыбы,
Кружыла плойма цэлая стракоз.

Было не сесці: сырасць скрозь была
І выступаў з-пад ног балотны сок.
Прапала сонца: хмара наплыла.
Прабег паміж лапатак халадок.

Пачуўся раптам шаматлівы рух,
Нібы паўзла ў густой траве змяя.
І выпарыўся рамантычны дух,
І па камфорце занудзіўся я.

Я гроб – аж вецер увушшу шумеў.
Я пырскамі адзенне прамачыў.
І лодачнік, як штосьці зразумеў,
Мяне паляпаў моўчкі па плячы.

## ТЭТРАПТЫХ

### 1

Ёсць нешта шчымлівае ў вогнішчы, што дагарае,
Нібыта – жывое – ў пакутах яно памірае.
І хочацца кінуць у прысак сухую галіну,
Якая працягне жыццё яму хоць на хвіліну.
Калі ж і яна стане попелам, холад ахопіць
І цемра ў цябе свае чорныя вочы ўтаропіць.

### 2

І пакоціцца колам,
І ўвапнецца калом,
Спляжыць кветкі наўкола,
Пусціць сэрца на злом
Ржа душы, набрынялай
Злою стомай крыві.
Ды разворваю гала.
Шэпчуць вусны: жыві!

### 3

Пад цвырканне склерозных цвыркуноў
Пытанні нагрувашчвае бяссонне.
З іх кожнае – не гузік ад штаноў,
І кожнае пра заўтра, як пра сёння.

А заўтру гэтак лёгка не настаць,
На што гляджу цвярозымі вачыма.

Ды мкнецца супраць розуму паўстаць
Душа, якой змірыцца немагчыма.

*4*

У цнатлівай цішы рання
Абнаўляе свет душу.
Ані ценю памірання,
Ані ўсхліпвання ўвушшу.

Вось бы ўранку мне памерці –
Як звычайна, з ложка ўстаць
І без адчування смерці
Выйсці з дому – і растаць...

* * *

І там, і тут ахапкі слоў,
Чый сэнс нібы сам чорт зыначыў.
І ў бурыданавых аслоў
Невырашальная задача.

Ахутаў чад глузды, а дух
У цяжкіх голаду пакутах,
І ногі путамі да дзвюх
Бяроз прывязаны прыгнутых.

* * *

Ёсць нешта фатальнае ў цэнніках крам:
Усё даражэе, а людзі таннеюць.
Заўсёды ў прыбытку адзін толькі нелюдзь,
Што жывіцца ропай трагедый і драм.

І гэтак вядзецца на свеце здавён,
Напэўна, таму, што прабацька наш – Каін.
Мы людскасці ген у сабе ўсё шукаем
З надзеяй, што калісь праявіцца ён.

* * *

Красавік. Ватэрлоа зімы.
Ажно лыжам свярбіць пад чахламі.
Не відаць вераб'інай гурмы,
Той, што ўчора капалася ў хламе.

Кот за дзверы хацеў – не пайшоў,
А прыладзіўся на батарэі.
Я нібы застудзіўся душой
І ніяк яе не адагрэю.

А варэння з малінаў няма,
Спажылі мы яго без астачы.
І зрабілася нібы турма
Напаўзмрокам залітая дача.

Завіруха шалее ў вакне,
У смяротным адчаі сваволіць,
Сілы – ведае – хопіць вясне,
Каб зіму канчаткова адолець.

## *ГАРТАЮЧЫ СТАРЫ АЛЬБОМ ЖЫВАПІСУ*

Колькі лісця перапрэла,
Адляцела явы ў сны,
Колькі сонцаў адгарэла
З нашай даўняй даўніны...

Колькі велічных імёнаў
Пакрывае шэры пыл...
Мона Ліза... слухай, Мона.
Ты – была, а я – ці быў?

* * *

Божа, нас не пакінь,
Дай патолі хоць вобмаль!
Што ні дзень, то Хатынь
Ці маральны Чарнобыль.

Хоць зусім не жыві,
Бо няма дзе падзецца.
Столькі ў свеце крыві,
Што вось-вось захлынецца.

Столькі гнюснай маны,
Што – як сонца шчэ свеціць?
І няма без віны
Анікога на свеце.

Стася Наркевіч



*...запомніце, мой анёл, мая прынцэса, што ніколі і ніхто не можа змяніць волю Божую...*

# У калючых абдымках лёсу

***Апавяданне***

Кацярына стаіць ля люстэрка з грэбнем у руцэ. Глянула, усміхнулася і прашаптала:

– Прывітанне, маё адлюстраванне Кацюха! Ніколі не думала, што буду з табою вітацца ды ў такую рань.

– Прывітанне, мая спадарыня, мая пані! Я рада, што ты нарэшце спынілася ля мяне. Раней табе не было часу паглядзець на сябе вось так – вочы ў вочы. Ты ж на яго пазірала і ўсё бегала за ім. А дзе ён? Перажываеш, таму і не спіш?

– Ужо не перажываю. Чэрствай і сухой стала душа. А што датычыцца сну, то не сплю я даволі даўно. Калі падлічыць, то, відаць, назбіраецца гадоў з дваццаць. Але ж ты не ведаеш прычыну маіх бяссонных начэй, так, адлюстраванне маё Кацюха?

– Не, не так, мая Кацярына. Я ўсё ведаю, да драбніц памятаю твой кожны дзень. Асабліва тую раніцу, як ты

лавіла грабянцом першыя павуцінкі – валасінкі срэбнага колеру, якія пераблыталіся з тваімі чорнымі, як смоль, валасамі той зімовай ноччу. Як жа табе было тады страшна і холадна сядзець на прыступках ля сваёй кватэры на пятнаццатым паверсе! Не магла ў яе трапіць, бо забылася ключы ў майстэрні. А ён не адкрыў дзверы, хоць ты трызвоніла бясконца. Толькі пад самую раніцу пашкадаваў.

– Любае адлюстраванне Кацюха, прашу цябе, не ўспамінай. Гэта ж так даўно было! Лепш зірні на маю новую бялюткую пасмачку, якая зачапілася за пальцы. Якая ж яна прыгожая! Учора я не бачыла яе. А ты?

– Не ведаю. Калі мая пані Кацярына прабягала ля люстэрка вечарам, каб пераапрануцца і разагрэць яму вячэру, якую ён потым піхнуў са стала так, што тая рыба з бульбай разляцеліся па ўсёй кухні, я нават не паспела паглядзець на цябе. Во, цяпер бачу, быццам снегам запарушанае валоссе, які ты толькі што рассыпала па галаве. Як і глыбокія маршчыны-барозны на твары. Божачкі, як жа ўчарашнія падзеі цябе скалечылі! І як жа ты змянілася да непазнавальнасці! Але ж, як я разумею, зрабілі цябе рашучай? Інакш ты б ніколі ў жыцці не ўстала з пасцелі так рана. Што здарылася ноччу на самой справе? Раскажы, і табе лягчэй стане, вось пабачыш!

– Прабач, але ў мяне няма сілы ні гаварыць, ні самой разбірацца ва ўсім гэтым. І цябе не падпушчу да сябе. Не дазволю ў маім жыцці капацца, што тая курыца ў зямлі. Зразумела, адлюстраванне Кацюха?

– А ты і ёсць курыца. Сляпая і без мазгоў. Вось толькі не магу зразумець, калі згубіла гэтае шэрае рэчыва? А мо ў цябе яго не было ніколі?

– Маўчы, адлюстраванне Кацюха. Было і ёсць. І маладосць была, і каханне, якое ў мяне яшчэ трапечацца, хоча ажыць, ды толькі ўжо сіл не стае яму. А тады яно ў мяне ўспыхнула раптоўна, загарэлася, быццам ягады каліны восенню. Прыгожыя ды занадта вязка-горкія. Тая гарката і зараз пячэ ды сцінае вусны. Толькі ў свае дваццаць з хвосцікам не адчувала той пекаты. А мо не хацела яе адчуваць? Не памятаю.

– О-о-о! Не памятаеш. А ці памятаеш, чаго ж хацела?

– Хацела... Не вельмі шмат. Але, як і ўсе мае сяброўкі: закончыць універсітэт, сустрэць таго адзінага, без якога нельга ні думаць, ні дыхаць, ні жыць! Нараджаць дзяцей і гадаваць іх разам з чалавекам, якога выбрала і якога пакахала... Хацела, каб была моцная і дружная сям'я.

– Ну і як?

– Што ну і як?! Быццам ты не ведаеш і не бачыш! Сям'і няма. Бог дзетак не даў. А тое шчасце, якое нарадзілася ад кахання, тая радасць, быццам гліняны жбанок, разбіліся на шматлікія аскепкі вельмі рана. Бывае, на тыя чарапкі і сёння наступаю. Але яны не ногі мне рэжуць, а балюча крамсаюць скалечаную душу. Толькі таго болю ніхто, акрамя мяне, не адчувае, не бачыць. І тады, і цяпер, як, дарэчы, і заснежаных сцяжынак-дарожак на галаве. Як жа я спачатку хавала іх ад усіх! Ты ж таксама не бачыла, маё любае адлюстраванне Кацюха? Скажы, не бачыла?

– Бачыла, не бачыла... Я аднаго не магу зразумець, навошта хавала? Табе ж такі колер пасуе. І, відаць, не раздражняе.

– Так, маё адлюстраванне Кацюха. Цяпер не. А раней не магла праўды нават сяброўкам сказаць, чаму на вачах бялею. Цяпер я сівізны не саромеюся. Срэбра ў валасах жанчыны прыдае ёй мудрасць.

– Воечкі, насмяшыла. Была б мудрай, не дазволіла б аб сябе выціраць ногі, здзеквацца...

– Усё, хопіць мяне даймаць, адлюстраванне Кацюха! Спыніся! Маўчы! У іншы раз дагаворым, у іншы. А цяпер трэба ў дарогу збірацца. Уцякаць, уцякаць, уцякаць! З яго кватэры, ад яго. Хоць на дзень, тыдзень, месяц! Каб забыцца, супакоіцца ды прыняць адзінае правільнае рашэнне. Зараз я нават не магу сказаць, якое.

Кацярына кідае на трумо грэбень. Спешна адыходзіць ад люстэрка, ідзе да канапы. Там ляжаць рэчы, якія падрыхтавала ўначы, каб упіхнуць усё ў дарожную сумку і збегчы, пакуль ён яшчэ не вярнуўся ад сябрука, а мо і ад... Не дадумвае, нахіляецца над паклажай, і ўжо праз хвілін дваццаць яна ў таксоўцы, якая імчыць у бок вёскі, да хаты сяброўкі. Добра, што Любка дазволіла пабыць да таго часу, пакуль яна, гаротная бяглячка, у рэшце рэшт не разбярэцца ці то з ім, ці то з сабою.

Кіроўца раз-пораз пазірае на Кацярыну, на твары якой, быццам застылая слюда, блішчаць танюсенькія ніточкі высахлых слёз. Ён хоча штосьці спытаць, але не адважваецца. Ён толькі кіруе. Моўчкі сядзіць і Кацярына. Калі машына з шашы выязджае на прасёлкавую дарогу, раптам жанчына просіць спыніць яе. Разлічваецца і выходзіць, каб кіламетры тры прайсці пешшу.

Яна любіць хадзіць. Асабліва цяпер, у залатую восень. У яе любімую пару года. І не мае значэння, што ў яе цяжкая сумка...

Знаёмая дарога. Яна, быццам стужка, уецца па змяшаным лесе. А то, бывае, узбяжыць на горачку, дзе тоўстыя елкі. Ці раптам абарвецца насупраць сасонніка. Потым нечаканна народзіцца ў нізінцы, перад выспачкай, на якой красуюцца клёны. Гэта яе самы любімы адрэзак шляху. Клёны растуць і далей, абапал дарогі. І, быццам тыя воі, суправаджаюць яе аж да хаціны, якая быццам прытуліла свае бакі-бярвенні да разгалістых дрэў, а агонь восеньскіх лісточкаў ахапіў увесь будынак. Толькі гэта яна ўбачыць потым.

А цяпер Кацярына ідзе. Ідзе марудна, ледзь перастаўляе ногі. А куды ёй спяшацца? Дый думкі, якія так і круцяцца ў галаве, не даюць спрыту жанчыне, як і ранішняя размова са сваім адлюстраваннем Кацюхай. Дзякуй богу, у гэтым лесе Кацюхі няма. Можна і ад яе адпачыць, спыніцца на хвіліну-другую, пастаяць. Нахінуцца над грудкай апалых кляновых лістоў-далонек, падняць адзін з іх і доўга глядзець на яго. Потым погляд перавесці на руку, каб параўнаць пражылкі ліста з безліччу ліній на сваёй далоні.

Вось і цяпер Кацярына падняла лісток, глядзіць, а падабенства не знаходзіць. Лініі на руцэ пераплеценыя, перакрыжаваныя. Пражылкі ж лістка роўныя, як і яго жыццё: вылупіўся з пупышкі, вырас, зжаўцеў і зваліўся долу. Усё проста.

У Кацярыны не ўсё проста. Яе лёс, што клубок заблытаных нітак, – не разблытаць, каб потым скруціць дый па-свойму пачаць ткаць новае жыццёвае радно так, як ёй хочацца!

Хочацца?! Але чаму не атрымліваецца так, як хочацца? Чаму на яе шляху трапляюцца людзі, якія, гледзячы ў яе вочы, здольныя з яе пасмяяцца, прынізіць, паздзекавацца з яе пачуццяў ці правесці вакол пальца? Яна ж гэта ўсё бачыць, адчувае, але чамусьці не вельмі абураецца, а наадварот, апраўдвае нікчэмныя людскія ўчынкі і працягвае давяраць. Нават і яму, адзінаму. Любаму свайму мастаку!

Што ў яе вачах не так, што?! У іх жа спакойны, разважлівы позірк, мабыць, дабрыня? А мо ў тых зялёных вачах бачна адзінота, якая так прыцягвае?

А-дз-і-н-н-о-о-т-а-а... Нота журбы і суму. Вось якое гэта слова! Дакладна, на нотным стане такой ноткі няма. Гэта ў музыкаў няма. У яе яна ёсць. Кацярына амаль трыццаць гадоў выводзіць ноту адчаю бязгучна, толькі з унутраным надрывам. Не адкрываючы рот, але ж душачыся слязьмі.

Цяпер, ідучы па лесе, які напоўнены крыштальнай цішынёй, жанчына можа ўдосталь наплакацца, нашкадавацца. Але яна гэтага не будзе рабіць. Не хоча палохаць ціш, якая яе ахінула, быццам пуховай хусткай, супакоіла.

Кацярына наравецца да хрыпаты, калі зойдзе ў дом, у якім мяркуе правесці нейкі час, і, як тая котка, залізаць свежыя ранкі ды зняць з іх даўнія струпы, якія перашкаджаюць ёй дыхаць. Толькі ці зможа яна да душэўных нарываў дацягнуцца? Як ведаць! А мо перадумае румзаць? Усё будзе залежаць ад настрою, разважанняў-дум, ад набеглых успамінаў, якія, як пчолы, гудуць у галаве.

“Чаму так доўга трывала здзекі, жывучы з чалавекам, які ніколі не кахаў, не разумеў мяне? Чаму туман засцілаў вочы, каб не бачыла ўсе сямейныя хібы? Мяне ж нічога не трымала ля яго!” – не думае, а гаворыць Кацярына, нахіляючыся над чарговым жоўтым лістом, які, танцуючы, упаў пад самыя ногі.

– Як нічога!? – раптам пачула. Ад гэтых слоў Кацярына аж схамянулася. Азірнулася. Побач – ні душы.

– Хто тут, ці я ўжо з глузду з’ехала? – спытала ў сябе.

– Не, ты здаровая. Пакуль. А з табою размаўляю я, тваё Сэрца. Здзіўлена? Дарэмна. А цяпер дазволь прадоўжыць мне думку. Ты сказала, што цябе ля яго нічога не трымае і не трымала. Не хлусі сабе. Ты ж усе гады дамагалася ад яго кахання! Не, не так. Ты чакала кахання! Ты ўвесь час думала, што аднойчы ён прыйдзе і скажа: “Кацечка, любая, я так кахаю цябе! Лепшай жанчыны, як ты, няма!” Не сказаў. Ты для яго была, як прыгонная! Ты яму патакала заўжды. Служыла, бы тая дваровая псіна. А калі ўрэшце зразумела, што яго каханне можа толькі прысніцца, супакоілася і працягвала жыць пад адным дахам. Жыць, як суседзі. Сварлівыя і бяздушныя. Бо табе, горкай сіраціне, не было куды ісці. А набыць сваё жыллё – грошай бракавала.

– Сэрца, маўчы! Сэрцайка, супакойся! Я не магла яго кінуць! Ён жа хворы! Псіхічна хворы. Я яго баялася і баюся. Як і ведала, што яшчэ адзін прыпадак яго рэўнасці ці падазронасці можа справакаваць мяне на жорсткасць. Нават на забойства. Ды толькі навошта пэцкаць рукі аб дурную кроў, якую потым не змыць за гады, седзячы на нарах?

– Ну-у-у-у, што прыдумала? Ты ж на такое не здатная! Ты ж падобная да мяне, сардэчная. Але, відаць, ён да цябе так дакалупаўся, так дапёк, што кінула-рынула ўсё і ідзеш у гэтую пустэчу. Відаць, поўны саганок назбіраўся крыўд і кпінаў?

– Правільна думаеш. Назбіраўся. Ты ж ведаеш, Сэрцайка, што да пары да часу гаршчок ваду носіць. Вось данасіла і я, толькі абразы і недаверы. А наконт таго, што ў вёсцы пуста... дык я ж не баюся той пустаты. Мне не патрэбны людзі. Я баюся жывых людцаў. Адной – самае тое. А калі ж стане сумна, інтэрнэт уключу, залезу ў павуціну. Тэлефон у мяне заўсёды пад рукой. А мо хто-небудзь у госці па скайпе зойдзе, інстаграм наведае. Ухваліць мае экспрэсіўныя работы, у якіх столькі эмоцый, столькі крыку і болю! Водгук пакіне, па якім я вызначу, што аўтар паведамленняў такі ж

гаротны і адзінокі, як і я. Не спадабаецца, выйду з інтэрнэта. Застанецца яшчэ час паразважаць...

– Ну, досыць пустых размоў, – спыняе гутарку Кацярыны Сэрца. – Ты ўжо прыйшла.

– Зараз, зараз. Толькі ты, Сэрцайка, не трапячыся. Не выскоквай з мяне. Супакойся, і я з табою супакоюся, – просіць Кацярына і кладзе руку на грудзі, быццам не дае Сэрцу ўцячы. Падыходзіць да брамкі. Нагой штурхае яе. Крочыць да хаты. Дастае з сумкі ключ, адчыняе дзверы.

Пах антонавак, якія ляжаць на стале, прымушае Кацярыну застыць на месцы і глыбока ўдыхнуць спёртае паветра ўперамежку з гэтым незвычайным кіславата-саладкаватым водарам яблыкаў.

– Што стаіш, як манекен! Распранайся. Хатулі свае палажы на канапу. Прыгледзься. Бачыш, дроў няма. Прынясі іх, каб вечарам стаяк-печку растапіць. Холадна ў хаце. Усё ж восень на двары. Падсілкуйся. З самага ранку ў цябе нават макавага зярняткі не было ў роце. Ці тут, у вёсцы, будзеш фігуру наводзіць? Не трэба табе худзець.

– Многа ты ведаеш, Сэрца, што мне трэба!

– Канечне, ведаю. Толькі ты, бывае, не слухаеш мяне. Вось і жывеш без разбору, закаханая дурніца.

– А чаму ты, разумніца, маё Сэрца, дазволіла так жыць? Калі я першы раз яго ўбачыла і страціла галаву і спакой, ты ж таксама закалацілася, як у ліхаманцы. Чаму тады не перасцерагло, не спыніла? Відаць, і табе было хораша разам са мною. Чаго маўчыш?

– Штосьці не прыпомню. Я толькі ўзгадваю часіну, як было табе балюча ад яго першай здрады. Потым ад іншых. Ты ж сваімі слязьмі ледзь не ўтапіла мяне. Кідай ты яго, кідай сваё салёна-горкае каханне. Кінеш, і ў нас пачнецца іншае жыццё. Мы з табою такога наробім! У нас будзе шмат вольнага часу. Ты не станеш справаздачыцца: дзе была, чаму столькі хвілін знаходзілася ў краме ці цырульні, майстэрні. Мо нарэшце зоймешся мастацтвам. Даўно ў рукі пэндзаль не брала. Хутка кваліфікацыю страціш.

– Ай, Сэрцайка, не хачу цябе нават і слухаць. Ты нейкае сварлівае сёння, незадаволенае. Давай дажывем да вечара. Я зараз усё падрыхтую: клункі свае разбяру, дроў прынясу, вады. Пагляджу на Любчыны прыпасы. Яна казала, што іх процьма. Свае ў лядоўню пакладу. А калі сцямнее, затаплю печку, сядзем ля агню і пагамонім. Згода?

– Згода. Але ж ты мяне падманеш. Трошкі пасядзіш, а потым ляжаш і ўключыш інтэрнэт. І забудзешся, што побач я, прагоніш нават са сваіх думак.

– Ну, уключу, але цябе, маё гаротнае Сэрца, не праганю. Хто я без цябе? Бяздушная істота. Ты мне столькі падказваеш, ты так перажываеш за мяне! Мо і сёння, як і ў іншыя дні, без тваёй парады не абыдуся, калі пачну пошту чытаць і на тыя лісты адказваць. Думаю, іх там незлічоная колькасць сабралася. Месяц мінуў, як я апошні раз адкрывала электронную скрынку. Так што не хвалюйся. Адбівай рытм спакойна, адлічвай свае гадзіны і мае таксама. Глядзі, мабыць сведкай важных падзей станеш. Як табе мая перспектыва?

– Цудоўная. Але я баюся, што ты зноў уляпаешся ў што-небудзь, як гэта зрабіла трыццаць год таму, мая любая мастачка. Гаротнае Сэрца не вытрымае твайго новага эмацыйнага ўзгарання ці згарання на маіх вачах. Май гэта на ўвазе, мая даражэнькая, разумей.

– Канечне, я ўсё разумею. Пастараюся цябе не падвесці. І дзякуй табе

за падтрымку. Бачыш, у хаце я ўжо ўправілася. Цяпер дазволь спыніць наш дыялог. Я хачу ў Любчын сад, – сказала Кацярына і хуценька пайшла да дзвярэй.

Сад у сяброўкі быў не вельмі стары. Вясною яна яшчэ панасаджвала танюсенькіх дубчыкаў-яблыняк, кожны лісточак на якіх шапацеў, быццам сардэчна вітаў госцю.

А запрашалі Кацярыну хутчэй падыйсці да сябе старыя яблыні, галінкі якіх нахіліліся амаль долу ад мноства спелых пладоў. Да іх і накіравалася жанчына. Сарвала некалькі чырвоных яблыкаў, паклала ў кішэню ды й пайшла шукаць дровы. Калі трошкі адышла ад дрэў, заўважыла кусты руж. Іх было так многа, што Кацярына аж ахнула.

“Малайчына Любка! Як яна спраўляецца?! Тут каля адных кветак ад працы можна памерці, столькі ўвагі і цярпення яны патрабуюць. А цяпліцы? Бачу, бульбу пачала капаць. Я ёй пасаблю, пакуль яна будзе на курорце адпачываць, лячыцца. Можа, работа мне дапаможа нуду прагнаць. А цяпер мне трэба па дровы. Узяць абярэмак-другі дый прынесці ў хату“, – падумала Кацярына і пайшла да хлеўчыка, дзе звычайна яны ляжалі. Набрала цэлае бярэмя роўненькіх бярозавых паленцаў і панесла ў хату. І ўжо праз паўгадзіны па іх скакалі і пішчалі чырвона-вогненныя чарцяняты, а язычкі полымя асвятлялі і сагравалі пашчу грубкі.

Кацярына ціха сядзіць на зэдліку ля печкі, не варухнецца. Глядзіць на агонь. Уплятае за абедзве шчакі бутэрброд і запівае гарбатай.

Ёй смачна, цёпла, утульна і добра. Начныя сваркі, крыўды пачалі рассейвацца, быццам лёгкі туман над рэчкай. І постаць яе крыўдзіцеля, твар, тоўсты і чырвоны, пачаў расплывацца, быццам алей на патэльні, і нарэшце знік з вачэй Кацярыны. Дый і Сэрца больш нічога не кажа. Супакоілася, сцішылася.

Жанчына дастала тэлефон і ўключыла яго. Спярша зайшла ў “Аднакласнікі”, потым у “Фэйсбук,” адкрыла пошту. Ніякіх паведамленняў не было, як і лістоў. А вось “Інстаграм” зацікавіў. Чырвоная кропачка так і вабіла да сябе. Малюсенькая, але заўжды такая жаданая! Яна пачынала красавацца ў тым выпадку, калі на тваю старонку хтосьці заходзіў і ставіў адзнаку тваім малюнкам ці здымку.

Кацярына ледзь дакранулася да кружочка, як адразу заўважыла паведамленне. Калі прачытала некалькі слоў таго нязграбнага паслання, зразумела: пісаў мужчына-іншаземец.

“Ну, яшчэ мне не хапала адказваць на яго пытанні: як ідуць справы, якое ў мяне здароўе, надвор’е?”, але, сцiснуўшы зубы, напісала тое, пра што і думала: “Прабачце, каб адказваць на Вашы пытанні, трэба ведаць чалавека, а я Вас не ведаю. І ў рэшце рэшт, якая Вам справа да майго здароўя? Калі я нават і хворая, хіба Вы мяне вылечыце?”

“А чаму б і не. Я ўрач і хачу, каб Вы былі здаровая. Такая прыгожая жанчына не павінна хварэць! Не ведаю, паверыце Вы мне ці не, але калі я натыкнуўся на Ваш профіль падчас пошуку свайго сябра, на якога хацеў падпісацца, мяне як маланкай прабіла, і я тут жа напісаў Вам. Скажыце, колькі Вам гадоў, калі не сакрэт?”

“Не сакрэт. Толькі навошта Вам? Хаця, адчуваю, што Вы не адчэпіцеся, і таму адказваю: мне пяцьдзясят пяць”.

“Ваў! Няўжо! А выглядаеце на гадоў сорак. Як даўно Вы фатаграфаваліся? Вы жанаты?”

“А Вам не ўсё роўна? Замуж выходзіць за Вас не збіраюся! І давайце развітаемся”.

“Не хачу развітвацца. Я хачу з Вамі размаўляць у інтэрнэце, а калі даведаюся, што Вы жанчына маёй мары, я забяру Вас у Амерыку”.

“Што значыць забяру? Я не рэч, якую можна браць, перадаваць, пазычаць. Тым больш, у мяне ёсць муж. І нават калі я скасую з ім шлюб, і хоць мяне потым абсыплюць золатам, я больш ніколі не буду звязваць свой лёс ні з адным мужчынам. Сённяшнім замужжам я сытая па самае горла! Ні шчасця, ні радасці, ні дзяцей...”

“Дык у мяне ёсць! Такі цудоўны хлочык! Разумны і таленавіты. Вельмі прыгожа малюе”.

“Не смяшыце мяне. Дарэчы, хто Вам дапамагае перакладаць мае беларускія тэксты, і даволі пісьменна? Вы ведаеце маю родную мову?”

“На жаль, не ведаю. Я ніколі не быў у вашай краіне, але пра яе трошкі чуў. Думаю, што Вы мне больш раскажаце і падрабязней пра сваю Радзіму. Так? А дапамагае мне перакладваць Вашы пасланні гугл. А ўсё ж, як Вас завуць?”

“А Вы спытайце ў гугла. Ён раскажа і пра край сінявокіх азёраў, які я вельмі люблю, і пра мяне”.

“Ок. Гугл таксама падкажа, як Вас завуць?”

“А чаму бы і не?”

“Вы насміхаецеся з мяне, не магу ніяк зразумець?”

“Не, я сур’ёзна гавару”.

“А я сур’ёзна хачу з Вамі пасябраваць і сказаць, што беларусы цудоўныя людзі. Асабліва жанчыны”.

“Як можна такое гаварыць пра беларусак, калі Вы ў нашай краіне не былі, не бачылі і не чулі пра іх амаль нічога. Тут нейкая нестыкоўка. Пахваліўшы маіх суайчыннікаў, Вы такім чынам хочаце мне спадабацца?”

“Справа не ў гэтым. Але ж доля праўды тут ёсць. Я ведаю некалькі беларусак, якія жывуць недалёка ад майго асабняка ў Амерыцы. Яны выйшлі замуж за маіх землякоў. Жанчыны вельмі клапатлівыя, спакойныя, працавітыя. Умеюць выхоўваць дзяцей, добрыя кухаркі. Вы такая? Дык як жа Вас завуць? Хто Вы па прафесіі?”

“Кацярына. І давайце на гэтым закончым нашае павуціннае знаёмства”

“Не хачу! Не пакідайце мяне, калі ласка. Давайце яшчэ пагутарым. Мне так адзінока!”

“Мне таксама адзінока. І што з гэтага? Вы ж не выскачыце з тэлефона, як чорт з табакеркі”.

“Не разумею...”

“Як Вам растлумачыць... Ай, відаць, ніяк. Гугл усё роўна не так перакладзе. Скажыце, што Вы хочаце ад мяне? Дарэчы, Вы таксама не назвалі сваё імя”.

“Прабачце. Я Джон. Мне сорак пяць гадоў. Амерыканец. Зараз працую хірургам-артапедам у Сірыі. Пяць гадоў таму скасаваў шлюб з жонкай Мэры. Яна мне здрадзіла, калі я быў у чарговай камандзіроўцы, якая цягнулася паўгода. Са мною жыве сын, я ўжо Вам пісаў пра яго. Майклу чатырнаццаць гадоў. Пакуль я за мяжой, хлопчык жыве ў інтэрнаце. Я яго забяру дамоў, калі вярнуся ў Штаты. А чаго я хачу ад Вас? Я ж ужо таксама пісаў – сяброўства. Думаю, яно ў нас атрымаецца. Мне здаецца, Вы шчырая і добрая жанчына”.

“Я сама не ведаю, якая я. Мой настрой, мае эмоцыі бывае цалкам залежаць ад абставін. Вось і зараз, прачытала пра Вашага сына і мне яго стала шкада. Так і хочацца крыкнуць: “Бедны хлопчык! Самы крытычны ўзрост для падлетка, а побач – нікога: ні маці, ні бацькі!”

“Вось, вось. Каб быць побач з сынам, я канчаткова вырашыў, што памяняю працу. У сваім горадзе адчыню прыватную дзіцячую клініку. А яшчэ жанюся на добрай і тактоўнай жанчыне. Каб яна стала для мяне руплівай жонкай, а для хлопчыка сардэчнай маці”.

“Думаю, для Вас гэта не праблема. Вельмі шмат прыгожых маладых дзяўчат. Мяркуючы на Вашым профільным здымку, Вы даволі прыкметны мужчына. Шыракаплечы. За такой спіной можа любая схавацца і адчуваць сябе самай шчаслівай у свеце. Пра такіх мужчын-асілкаў мараць многія дзяўчаты”.

“Я маладых не хачу. Я хачу жанчыну вопытную, якая жыццё ведае без усялякіх прыўкрас. Нават, калі яна будзе старэйшай за мяне гадоў на дзесяць ці нават больш. Але пакуль гэтае пытанне пакінем адкрытым. Я хачу больш пра Вас даведацца”.

“У якім сэнсе?”

“Які алкаголь Вы ўжываеце штодзённа?”

“Дзівак чалавек. Я не п’ю. Толькі ў святы магу трошкі прыгубіць каньячку”.

“Ці любіце Вы гатаваць?”

“Люблю. І ўмею. Сябрам падабаюцца мае розныя фірмовыя стравы, як беларускія, так расейскія і ўкраінскія”.

“Вы любіце агародніну, фрукты? Якія?”

“Ем тое, што карысна, шаноўны доктар” .

“Якую Вы любіце музыку, Кацярына?

“Эстрадную, шансон, класічную. Усё залежыць ад настрою”.

“Я таксама такую музыку люблю”.

“А што Вы чытаеце?”

“Шмат чаго. Фантастыку, крымінал, гістарычныя раманы беларускіх, расейскіх і замежных аўтараў. А Вы?”

“Ок. Я больш чытаю спецыяльную медыцынскую літаратуру. Падабаюцца таксама гістарычныя раманы”.

“Кацярына, я зараз дашлю свой электронны адрас, а Вы прышліце свае здымкі. Добра?”

“Вось яшчэ чаго не хапала! Навошта гэта? Зірніце на здымак профілю і хопіць. Можаце з яго зрабіць копію і глядзець на мяне да болю ў вачах, калі ён так Вам спадабаўся. Іншых фотак у мяне няма. І, відаць, трэба спыняць нашу размову не таму, што ўжо даўно за поўнач, а таму, што не бачу сэнсу ў гэтай перапісцы. Бывайце!”

“Не, прашу яшчэ трошкі пабудзьце са мною. Я не хачу Вас губляць, Кацярына! Мне цікава з Вамі перапісвацца. Ведаеце, што я зараз падумаў? Калі закончыцца мой кантракт, а гэта адбудзецца ў пачатку снежня, я прыеду ў Беларусь. Найму перакладчыка, які будзе дапамагаць мне з Вамі размаўляць. Я хачу бачыць Вашы вочы! Вы так шчыра адказваеце на мае пытанні!”

”Цікавую песню Вы выводзіце, доктар. Толькі ж Беларусь вялікая. Дзе Вы мяне знойдзеце?”

“Няўжо Вам цяжка назваць свой горад?”

“Горад мой вядомы многім іншаземцам, асабліва тым, хто цікавіцца мастацтвам. Бо ў ім жыў мой самы любімы, самы таленавіты беларускі мастак – Міхась Савіцкі...”

“О-о-о! Гэта Мінск. Я гэтага мастака таксама ведаю. Мяне ўразіла яго карціна “Партызанская мадонна” і шэраг іншых палотнаў на ваенную тэматыку. На жаль, не ведаў, што Мінск знаходзіцца ў Беларусі. Мне нават сорамна. Цяпер я больш уважліва прачытаю пра вашага Майстра. Я даўно цікаўлюся мастацтвам. У маім асабняку шмат карцін. Некалькі палотнаў сусветна вядомых майстроў пэндзля ўпрыгожваюць залу. Я не шкадую грошай на набыццё работ сучасных майстроў жывапісу. А Вы купляеце карціны?”

“Я не набываю карціны, я сама пішу іх. Па прафесіі я мастачка. Калі дашлеце свой фотаздымак, з яго я намалюю Ваш партрэт. І напішу: “Майму новаму замежнаму знаёмаму Джону”.

”Ок. Гэта будзе цудоўны падарунак! Але ў мяне да Вас ёсць адна невялічкая просьба: давайце далей будзем размаўляць ці пісаць праз скайп. Мне нельга завісаць надоўга ў інстаграм у мэтах бяспекі. Гэта ўсё ж Сірыя. У Вас ёсць скайп? Я хачу не толькі Вам пісаць, але час ад часу бачыць Вас, Кацярына”.

“Ёсць. Толькі заўтра я Вас дадам у кантакты. А цяпер добрай ночы!”

“Добрай ночы, Кацярына! Дашліце адрас Вашай скрынкі і хатні адрас, Ваша прозвішча. Я хачу Вам напісаць вялікі ліст і даслаць падарунак па звычайнай пошце. Добра?”

“Добра”.

Кацярына машынальна напісала ўсё, пра што ён прасіў, адправіла. І толькі потым падумала: “І што гэта такое было, што я нарабіла?.. Не магу зразумець і сябе не пазнаю. Чаму столькі страціла часу на пустую балбатню? Старэю, відаць. А цяпер спаць, спаць. А то зараз затрапечацца маё любае Сэрца, і мы з ім не заснём аж да раніцы, – разважыла Кацярына, ідучы да канапы. Лягла. І ўпершыню за многія гады хутка заснула і соладка спала да таго часу, пакуль сонечныя праменьчыкі, якія спускаліся ў пакой па нябачнай лесвіцы, не пачалі асляпляць ёй вочы ды скакаць па пакоі.

Паднялася Кацярына з ўзнёслым настроем, з усмешкай на твары. Начная перапіска, відаць, прыбавіла ёй сілы.

Прывяла сябе ў парадак, паснедала. Было каля дзевяці гадзін, калі яна выбегла на двор. Жанчына абвяла вачыма ўладанні Любкі і зноў накіравалася да ружоўніка, які вечарам яе так уразіў. Прыпынілася ля буйна квітнеючага куста. Нахіліла галаву над самай вялікай кветкай і тут жа імгненна яе падняла. Надыхацца салодка-дурнап’янавым водарам не дала пчала, якая выпаўзала з сярэдзіны ружы.

“Было б прыкольна, каб яна мяне яшчэ і ўджаліла”, – праводзячы поглядам адлятаючую пчолку-руплівіцу, падумала Кацярына. І больш не стала сунуць свой нос туды, куды не трэба, а пачала спакойна разглядаць кветкі. Відаць, стаяла б ля іх доўга, каб не званок сотавага. Кацярына мусіла пайсці ў хату.

Пакуль шукала тэлефон, які закапала ў пасцелі, выклік сціх. Нарэшце знайшла апарат. Зірнула на дысплей і ўбачыла незнаёмы нумар.Ператэлефаноўваць не стала, а толькі падумала: ”Калі я камусьці пільна патрэбна, набяруць яшчэ раз. А вось я зараз мушу праверыць скайп, знайсці Джона, каб дадаць у кантакты”. Што неўзабаве і зрабіла.

Не прайшло пяці хвілін, як убачыла першае паведамленне на скайпе. Начны госць пісаў:

“Добрага ранку, мая дарагая Кацярына! Як Ваша здароўе, настрой? Якое ў вас надвор’е? Вы добра паснедалі?”

“Ну, пачынаецца... Дарагая, не дарагая... Добра, не добра... Як паснедала, так і паснедала”, – прагаварыла, а напісала наступнае:

“Добрага ранку, шаноўны доктар! Паснедала я цудоўна! Заварыла аўсянку з разынкамі. Выпіла каву без цукру. Настрой адмысловы. Пачну маляваць. А чым Вы будзеце займацца?”

“Я трошкі адпачну і пайду на працу. Учора, пасля нашай размовы, мяне выклікалі ў шпіталь. Прывезлі хлопчыка з асколачным раненнем. Рабілі аперацыю. Дзякуй Богу, аперацыя прайшла ўдала. Малы будзе жыць, але, на жаль, застанецца без нагі”.

“Які жах! Вы хоць беражыце сябе. Для сына! Каб вярнуліся да яго не калечаным, а здаровым і бадзёрым. А цяпер я Вас адпускаю. Адпачывайце”.

“Ок. Але я хачу, пакуль не заснуў, спытаць у Вас, як беларусы-мужчыны адносяцца да сваіх жанчын. Ці дазваляюць ім працаваць?”

“Цікавае пытанне. У нас беларускі ўсе працуюць, акрамя тых, у якіх мужы займаюцца бізнесам. Такіх сямей не дужа шмат. А як адносяцца? Па-рознаму. Гэта ўжо залежыць ад выхавання і ад кахання. Калі муж не кахае, але па нейкіх абставінах жыве побач, ён не заўважае сваю палавінку. Не шануе, не шкадуе і не песціць”.

“А ў Вас які муж? Спадзяюся, ён не такі, пра якіх Вы толькі што напісалі?”

”Я не буду адказваць на гэтае пытанне. Не хачу варушыць у душы тое, што напластавалася за гады”.

“Значыць, Вам дрэнна... Не адчайвайцеся, дарагая Кацярына! Я побач, хоць і далёка! Я з Вамі! Вам не трэба цярпець! Вам патрэбна дзейнічаць! Вам трэба скасаваць шлюб! Неадкладна! Вы цяпер дзе?”

“У сяброўкі ў вёсцы, на яе лецішчы”.

“Ок. Не ведаю, чаму, але Вы з кожнай хвілінай усё больш і больш мне падабаецеся. Вы вельмі абаяльная! А Ваша ўсмешка, яна заварожвае і прыцягвае да сябе магнітам”.

“Што Вы яшчэ прыдумалі. Мой профільны здымак не вельмі прыгожы. Я там нават не ўсміхаюся. Вы казачнік. Нельга па адным здымку вызначыць прывабнасць чалавека, яго хараство. Ці Вы бачылі мае іншыя здымкі? Калі так, то дзе?”

“Так. Я адшукаў Вас у «Фэйсбуку». Там столькі Вашых партрэтаў! Неверагодна цікавых. Вы што прынцэса! І, відаць, для многіх анёл, які крочыць побач і не дае чалавеку прапасці. Думаю, Вы і мяне будзеце ахоўваць, хаваць ад бяды хоць адным крылом. А яшчэ, у Вас такая мудрагелістая графіка!”

“Згодна, графіка мая, па водгуках мастацтвазнаўцаў, незвычайная. Пачала рыхтаваць наступную выставу, на якой пакажу карціны, напісаныя алеем. І Вас запрашу на яе адкрыццё”.

“Ок. Буду ўдзячны. А цяпер дазвольце мне паспаць. І чакайце ад мяне ліст. Да сувязі вечарам”.

“Да вечара”.

“Цікава, што ён можа яшчэ напісаць? Што спытаць?” – падумала Кацярына. Падышла да стала, на якім ляжалі папера і алоўкі, узяла ў руку адзін з іх, пачала маляваць.

Папера трывае ёрзанне алоўка, скрыпіць, бо бачыць на сабе розныя лініі, штрышкі, кружочкі, спіралі. Застывае, калі раптам пасярод іх з’яўляюцца сардэчкі, такія маленькія, але тлусценькія, упрыгожаныя кветкамі.

Кацярына глядзіць на ватман і, відаць, не кантралюе дзеянні сваёй рукі. Бо не рука гэта робіць. Малюнак ствараюць яе эмоцыі, якія набеглі пасля знаёмства з Джонам. Хоць начныя допісы ні аб чым не гавораць, але жанчына адчувае, што ў доме сяброўкі яна ўжо не адна. Ён побач: і вечарам, і ўранку. Такі ўважлівы, клапатлівы! Толькі б ён быў! Толькі б не забілі! Ён жа там, дзе страляюць! Дзе выкрадаюць урачоў са шпіталяў, дзе яго жыццё можа абарвацца ў любую хвіліну.

“Відавочна, у Джона, як і ў мяне, самы складаны перыяд жыцця. Нам абоім не хапае ўвагі, падтрымкі, душэўнага цяпла. Мы ж абое цягнемся да такіх эмацыйных усплёскаў і, думаю, атрымаем іх, калі шчыра і праўдзіва будзем адказваць на пытанні адно да аднаго ў сеціве”, – разважае Кацярына.

“Я ж адчуваю кожнай сваёй клетачкай, што маё жыццё ў хуткім часе зменіцца да непазнавальнасці. Божа, дапамажы!” – просіць яна Усявышняга і спыняе работу. Глядзіць на бессэнсоўную сваю графіку, ухмыляецца і крочыць на кухню гатаваць абед.

Спраўляецца хутка. Пазірае на гадзіннік. Да вечара далёка. Паскорыць час дапаможа толькі прагулка ў лес, які знаходзіцца недалёка ад доміка Любы. Кацярына наважваецца туды пайсці зараз жа. І вярнуцца на змярканні, каб зноў заблытацца ў інтэрнэтаўскай павуціне і, як учора, пагутарыць з чалавекам, які чамусьці зацікавіў яе сваім лёсам і сваімі чалавечымі адносінамі, як падалося, да яе.

Аднак шпацыр па лесе не ўдаўся. Настрой трошкі сапсаваўся. Відаць, таму, што грыбы, якія Кацярына любіць збіраць, недзе схаваліся, а мо лісты іх закрылі, якія ў гэтую восень пачалі вельмі рана злятаць з дрэў.

Хадзіла вытаптанымі грыбнікамі сцежкамі без асаблівай радасці. Фатаграфавала дрэвы, павуцінны кужаль, што вісеў паміж галінак, у якім заблытваліся розныя насякомыя. А калі ў адной павуцінай пастцы ўбачыла невялічкую мушку, якая слаба тузала лапкамі, усё больш і больш зацягваючы на іх петлі смерці, чамусьці прыгадала сябе на яе месцы, як і Джона – інтэрнэтаўскага павука-залётніка, які здаля і вельмі асцярожна пачаў накідваць на Кацярыну павуціну з прыгожых слоў, якіх так не хапала ў паўсядзённым яе жыцці.

Чаму такія думкі набеглі раптоўна, не магла растлумачыць. Але ж шостае пачуццё, якое яе амаль што ніколі не падводзіла, насцярожвала. Толькі спыніць рух падзей, якія зарадзіліся ноччу, ці то не магла, ці то не хацела. Слухала посвіст нябачных птушак – такі рэдкі і жалобны, што і самой станавілася маркотна.

– Ну, любая Кацярына, што здарылася? – пачула голас Сэрца, такі дарагі і вельмі прыемны. – У цябе прапаў настрой? Хутка вечар, і зноў з’явіцца ён. Хоць ты не хвалявала мяне, саваё Сэрца, але ж я ўсё адчувала. Толькі скажы, чаму ты на некаторыя пытанні свайго знаёмага адказваеш так, быццам утыкаеш іголкі ў яго? І асабліва не падпускаеш Джона да сваёй душы?

– А таму, дарагое Сэрца, хоць ён і мілы, выхаваны, але ж мне здаецца, што гэта знаёмства не простае. І за ім хаваецца нешта страшнае і недарэчнае.

– Кацярына, не рабі паспешных вывадаў. Хто ведае, як яно ўсё складзецца? А мо гэта той чалавек, які табе падыходзіць? І вы ўдвух

створыце гарманічную сям'ю. Ён будзе лекаваць, а ты маляваць на беразе акіяна. Мо ён іншы, не падобны на твайго мастака. Твой жа Генадзь толькі пра сябе клапоціцца, толькі сябе лічыць самым таленавітым і разумным. Марыць аб сусветнай славе. Але ж твае работы, твая графіка і твае карціны, напісаныя алеем, куды мацнейшыя за яго абстракныя палотны.

– Не ведаю, шаноўнае Сэрца, не ведаю. Джон пісаў, што цікавіцца мастацтвам. Ён нават знайшоў у інтэрнэце фотарэпартаж з адкрыцця маёй выставы. Праўда ці не, але яму я вельмі спадабалася. Але ж я штосьці не веру. Пачакаю вечара. Што ён сёння запяе. А цяпер, Сэрцайка, пойдзем дахаты. Мы з табою доўга блукаем сярод елак ды соснаў. Можа Любка патэлефануе. Але я ёй нічога не скажу. Няма чым хваліцца. Размовы будуць потым.

Кацярына накіравалася да лецішча сяброўкі. Ледзь знайшла дарожку, якая вяла да вёскі. Баялася, што заблудзілася. А калі нарэшце выйшла на ўскрай леса, аж уздыхнула. У дом не пайшла. Пачала хадзіць па агародзе. Зазірнула ў цяпліцу. Сарвала некалькі памідораў і парачку агуркоў. Пастаяла ля студні. Чамусьці Кацярыне было трывожна. Трывожна і ўсё тут. Без прычыны.

Зайшла ў дом. Вячэраць не хацела. Села ля акна і пачала назіраць за драздамі, якія валтузіліся на чорнай рабіне, дзяўбалі спелыя ягады. Кацярына не варухнулася, каб выйсці і прагнаць птушак ды зберагчы Любчын ураджай.

Без настрою ўзяла ў рукі тэлефон, уключыла інтэрнэт. Джона яшчэ не было ў павуціне. Толькі недзе праз паўгадзіны ён з'явіўся, і заскакалі маленькія, але такія жвавыя чорныя кропелькі. Праз колькі хвілін выскачылі словы:

“Добры вечар, мой любы анёл! Я думаю, што ў Вас усё добра? Як прайшоў дзень? Што карыснага Вы зрабілі? Вы добра павячэралі?”

“Добры вечар. Дзень прайшоў так сабе. Подзвіг не здзейсніла. Гуляла па лесе. Не вячэрала. Няма апетыту. Якой была Ваша вячэра?”

“Ок. Сёння нам давалі салат і курыцу. Я сёння раніцай хацеў у Вас спытаць пра Вашу сям'ю. Вы адна, ці ў Вас ёсць сёстры, браты?”

“На жаль, у мяне нікога няма. Я сірата. Расла ў інтэрнаце, як і Ваш Майкл, і ведаю, што гэта такое – жыць без бацькоў. Мая матуля і тата памерлі ад гарэлкі, калі мне было пяць гадоў. А Вы ў бацькоў адзіны?”

“Не. У мяне ёсць брат, з якім я не так даўно пасварыўся. Ён цяпер жыве ў Кувейце. Бацькоў у мяне таксама няма. Маці памерла ад раку, а бацька ад інфаркту. Бацька вельмі хацеў, каб я атрымаў дыплом урача. Я таксама аб гэтым марыў. Закончыў медінстытут і ўжо дваццаць гадоў працую ў ААН у Амерыцы. За гэты час я пабываў у самых гарачых кропках свету. Мабыць, мае камандзіроўкі разбурылі нашу сям'ю. Калі я быў за мяжой, Мэры пачала адзіноту заліваць каньяком. Не сачыла за сынам. Пра гэта мне расказвалі суседзі. Я вельмі пакутаваў. Прыйшлося скасаваць шлюб. У хуткім часе Мэры выйшла замуж і з'ехала з горада. Яна ні разу не пацікавілася, як жыве Майкл. Здаецца, я ўжо Вам гэта расказваў. Цяпер у мяне адно жаданне: хачу сустрэць такую жанчыну, каб яна палюбіла Майкла. Мне здаецца, я ўжо з ёй пазнаёміўся. І гэта Вы. Будзьце, Кацярына, маці майму хлопчыку. Я ўжо сыну напісаў пра Вас. Я нават паслаў яму Вашы здымкі. Вы Майклу вельмі спадабаліся. І ён ужо Вас таксама, як і я, любіць. Напішыце майму хлопчыку ліст. Я вышлю яго адрас. Я вельмі прашу Вас!”

“Што за дзікунства?! Вы што творыце? Вы вар’ят! Я не магу яго палюбіць, я не ведаю яго. І, увогуле, я не знаю, як паводзіць сябе з дзецьмі, а з падлеткам тым больш. Вы лепш адшукайце біялагічную маці. Калі не можаце памірыцца, хоць дазвольце бачыцца хлопчыку з ёй. Мабыць Мэры змянілася. Мы з Вамі знаёмыя не так даўно, і такая, на мой погляд, недарэчная прапанова. Дружа, не ганіце гусей. А ўвогуле, Вы бяздушны чалавек”.

“Ок. Я зразумеў. А што такое “не ганіце гусей?”

“Ай, што Вам гаварыць, усё роўна не зразумееце. Для іншаземцаў наша мова быццам космас, як, дарэчы, і для некаторых беларусаў. А цяпер я пайду спаць. І Вам жадаю спакойнай ночы і каляровых сноў. Беражыце сябе!”

“Ок. Я Вам сёння дашлю пісьмо. Чакайце. Я Вас цалую. Добрай ночы, мой чароўны анёл”.

Кацярына яшчэ раз прачытала пасланне, і ёй стала няёмка. Размова з Джонам не выходзіла з галавы.

“Як гэта расцаніць? Што за розыгрыш! Навошта? Чаму ён умешвае ў наша знаёмства сына? Пакуль я не магу зразумець”, – прамовіла Кацярына і выключыла тэлефон. Лягла спаць, але доўга круцілася. Толькі пад раніцу жанчыну змарыў сон. І сніліся ёй акіян, Джон, Мэры і іх сын. Бацькі, такія шчаслівыя, трымалі яго за рукі. Хлопчык падымаў ногі і збіваў імі толькі што набеглыя высокія хвалі. Яны ўсе смяяліся і штосьці крычалі. Ад іх крыку жанчына прачнулася. Рука пацягнулася па тэлефон. Уключыла апарат і палезла ў электронную скрынку, у якой ужо ляжаў ліст ад Джона.

“Мая прынцэса, мой любы анёл, як Вы сёння? Я прачытаў нашу перапіску двойчы. Я зрабіў паўзу і два разы падумаў, перш чым Вам напісаць. Я Вас вельмі добра разумею. Вы не вольная жанчына. У Вас муж. Але ж я не магу без Вас, і Вы гэта павінны ведаць. Як і вельмі добра падумаць і зразумець адно: каб Бог не хацеў нас пазнаёміць праз інтэрнэт, ён бы не пазнаёміў.

“Аж смешна! Знайшоў прынцэсу на гарошыне”, – пакпіла Кацярына і працягнула чытанне.

“Так, мы павінны быць разам. Каб гэта было не так, я б ніколі не заўважыў Вас у *Instagram* і не пачалася б наша перапіска”.

“Яна ж можа і закончыцца”, – адарваўшы погляд ад тэлефона, падумала Кацярына і зноў вярнулася да тэкста.

“І гэтаму паспрыяў Бог. І, калі ласка, запомніце, мой анёл, мая прынцэса, што ніколі і ніхто не можа змяніць волю Божую. Я з Вамі знаёмы не так даўно, але мне здаецца, што я Вас ведаю шмат гадоў”.

“Мая прынцэса, я забяру Вас у ЗША, і мы пачнем новае сямейнае жыццё з чыстага ліста. Дачакайцеся снежня. Я прыеду, абавязкова!” – прачытала Кацярына, і яе твар заліўся чырванню.

“Што напісаць? Як адказаць, каб не пакрыўдзіць? Мо аджартавацца?” – думала Кацярына ў той час, калі пальцы пачалі набіраць іранічна-праўдзівыя прызнанні:

“Мой прынц, які гонар быць тваёй прынцэсай і не здагадвацца пра гэта. Я таксама думаю пра наша знаёмства. Нам бы сустрэцца трошкі раней. У той час, калі ты скасаваў шлюб, а мае жыццё з чалавекам, якога я шчыра пакахала і чакала дзесяцігоддзі ўзаемнасці, стала невыносным. Але ж Бог тады не захацеў мне дапамагчы. Не змяніў мой лёс. Чаму? Якое

выпрабаванне Боханька мне падрыхтаваў зараз?” – пытаннем закончыла пасланне Кацярына і тут жа адправіла яго адрасату.

Адказу ў той вечар не атрымала. “Напэўна, зноў Джона выклікалі ў шпіталь”, – мільганула ў галаве. Яна выключыла тэлефон і, відаць, з тыдзень не брала яго ў рукі. Хадзіла, разважала, прыкідвала і... марыла. Яна не ведала, што рабіць. Унутры ўсё калацілася, як пры землятрусе. Нарэшце ўзяла ў рукі айфон, хацела ўключыць яго, але баялася. У жанчыны трэсліся рукі. Невядома, колькі б часу вагалася, каб не Сэрца. Яно так штурхнула Кацярыну, што тая аж прысела і неўзабаве пачула:

– Кацярына, не ведаеш, як сябе паводзіць? Я таксама. І, на жаль, не падкажу. Бо зараз з табою расплачуся, і саб'ецца мой рытм. А гэта небяспечна для твайго і майго здароўя. Папрасі свой Розум. Ён, думаю, не такі эмацыйны, як мы. Ён табе дапаможа. А я буду ціхенька сядзець усярэдзіне, і ад мяне ніхто ні гука не пачуе.

– Дзякуй, маё родненькае Сэрцайка, дзякуй за падказку і разуменне! – сказала Кацярына і ўжо праз некалькі хвілін звярнулася да Розума.

– Розум, ты мяне таксама, як і Сэрца, ніколі не падводзіў. Што мне цяпер рабіць? Спыніць перапіску? Я ж магу хоць цяпер гэта зрабіць і зноў застацца адной. Але ж яго прызнанні ў каханні, якія за сваё жыццё нават не чула і дзясятай долі, падНялі мяне. Ды так ускалыхнулі душу, што я не знаходжу месца ні ў хаце, ні на двары, хоць добра разумею, што гэта прыгожыя выказванні, але, на жаль, пустыя.

– Я цябе разумею, Кацярына. Добрыя словы і котка любіць. А тут яшчэ такая прапанова... А ты падумала, колькі табе гадоў? Азірніся, паглядзі на сябе, ты ўжо не маладка. Хаця, хто яго ведае... Можа, сапраўды твой лёс? Пажывем – пабачым. Паназірай, што будзе далей. Не сячы з пляча. Думай, моцна думай. Уключы скайп, пагутары.

– Розум, якім чынам? Я не вучыла ангельскую мову, а ён не ведае ні расейскай, ні нашай. Будзем глядзець адно на аднаго, як нямыя. Ведаеш, я не ўмею размаўляць на мігах. Мы можам толькі перапісвацца.

– Вось і выдатна! Кацярына, не сядзі, як сонны чмель, уключы інтэрнэт, зайдзі, адкрый паштовую скрынку. Мне здаецца, ён табе за гэты тыдзень столькі лістоў напісаў, што ў цябе не хопіць некалькі начэй, каб прачытаць іх. Акуніся ў перапіску, быццам у патокі чыстай вады. Асвяжы свае пачуцці, але ж глядзі, не згубі галаву, а то ні я, ні Сэрца табе не дапаможам. Не заблытайся ў павуцінні кахання. У такія моманты людзі губляюць свой розум. Баюся, што і ты мяне страціш. А не хацелася б з табой развітвацца. Ты ўсё ж хоць і летуценная, але ў меру, трошкі здольная, не пустая. Але... прабач, на ўсю галаву непрадказальная. Нягледзячы на гэтыя, не зусім станоўчыя, якасці, мы ўсё ж з табою выдатна праводзім час, ладзім, асабліва калі ты малюеш і думаеш, як найлепш выканаць работу.

– Добра, Розум, уключу, можа палягчэе, – сказала Кацярына і зайшла на віртуальную пошту, дзе, сапраўды, яе чакалі лісты. Іх было шмат. Кацярына адзін за адным адкрывала, але прачытвала толькі некалькі сказаў. Астатняе пакідала на вечар. Толькі на адным, самым вялікім пасланні, засяродзіла больш увагі. Ліст быў незвычайны.

“Добрай раніцы, мой любы анёл! Як Ваша здароўе? Спадзяюся, што ў Вас усё цудоўна. Вы амаль тыдзень не хацелі са мною размаўляць. Я вельмі сумаваў і не знаходзіў месца, думаючы, што здарылася. Я не мог нават працаваць. А Вы мне так былі патрэбны, так патрэбны! Але, перш

чым я раскажу, навошта я хацеў Вас чуць, хачу яшчэ раз прызнацца ў каханні і крыкнуць на ўвесь свет: “Мая Кацярына, мая прынцэса, як горача я Вас кахаю!” У мяне можа нават не хапаць правільных і прыгожых слоў, каб сказаць, як многа Вы для мяне значыце, наколькі Вы важныя для мяне і як дарагія майму сэрцу! Я стаў самым шчаслівым чалавекам на гэтай зямлі, калі з Вамі пазнаёміўся і пачаў перапіску. Вы прыйшлі ў маё жыццё не проста з каханнем, Вы ўварваліся ў яго з клопатам і са шматлікімі блаславеннямі.

Кацярына, я хачу, каб Вы сталі маёй жанчынай, не, не так... Я хачу, каб Вы сталі маёй жонкай. Я люблю Вас без слоў, мой анёл”, – прачытала Кацярына. Адвяла вочы ад тэлефона і задумалася. Сядзела моўчкі даволі доўга. Думала, чапаць Розум ці самой пачынаць разбірацца ў гэтых мудрагелістых абставінах. Нічога добрага ў галаву не лезла, і жанчына звярнулася да Розуму.

– Розум, скажы, як гэта зразумець? Цікава, у якім куточку яго сэрца я знаходжуся? Збоку ці пасярэдзіне? І сваімі пальцамі кранаю, каб яно хвалявалася і выкідвала такія прызнанні? Ніколі не паверу, ніколі, каб чалавек закахаўся ў здымак! Тут штосьці не так.

– Кацярына, тваё права, верыць ці не. Але ж бываюць выпадкі, што фатаграфія на самой справе прыцягвае да сябе. Яго ж фотаздымак табе таксама спадабаўся і, як мне падалося, ты таксама на мужчыну запала. А цяпер спалохалася не толькі яго прапановы, але, відаць, і сваіх пачуццяў, якія толькі-толькі пачалі выпускаць малюсенькія парасткі. Зараз ты не ведаеш, што рабіць? Ты баішся развязкі вашай перапіскі? Не бойся. Ён вельмі далёка ад цябе, не прыляціць. Твая анлайн-сувязь хутка знікне, прападзе, як учарашні туман. Не бяры так блізка да сэрца. Жыві, як і жыла, спакойна. Тым больш, што цяпер пандэмія. Як урач, твой знаёмы добра ведае, што гэта такое. Ты лепш пажадай Джону, каб ён здаровым вярнуўся да сына і знайшоў сабе жанчыну, з якой яму будзе лёгка і ўтульна. Бо, як бы там ні было, ты ніколі не пакінеш родны кут, Беларусь, якую ты любіш так моцна. Як і не кінеш свайго гаротна-хворага мастака. Ты ж такім яго лічыш? А цяпер збярыся і дачытай пасланне. Я таксама яго паслухаю.

– Ай, Розум. Не буду, бо зараз Сэрца падыму. Лепш пачытаю іншыя. Вось гэта, напрыклад.

Кацярына адкрыла наступны ліст. Ён быў другога складу. І больш зацікавіў мастачку, чым папярэдні. Без узнёслых прызнанняў. Жанчына бліжэй да вачэй паднесла мабільнік і пачала ўслых агучваць тэкст, каб чуў і Розум.

“Добры дзень, дарагая Кацярына. Я доўга думаў і вагаўся: расказаць пра тое, што хаваю ў сваім сэрцы, ці не. Можна, я перайду на ты. І ўсё ж я вырашыў адкрыць свой сакрэт жанчыне, якая мне стала самым блізкім і дарагім чалавекам! Маёй будучай жонцы!

Справа ў тым, што перад тым, як мне давялося вылецець у Сірыю, я ў тайне ад ААН, што нельга было рабіць, адправіў у Чырвоны Крыж Турцыі медыцынскае абсталяванне. За яго мне павінны заплаціць. Я доўга чакаў гэтага моманту і нарэшце ён наступіў. Але ж тут я не магу атрымаць грошы, таму што знаходжуся ў зоне баявых дзеянняў. І яшчэ, калі ў ААН даведаюцца пра маё пагадненне, мяне будуць судзіць і на доўгія гады пасадзяць у турму.

Любая Кацярына, я напісаў у Чырвоны Крыж Турцыі, што ты мая

жонка, і папрасіў, каб чэк даслалі табе. І калі я вярнуся з Сірыі, я наведаю Беларусь, забяру яго. Тых грошай хопіць не толькі на клініку, але і каб купіць нам кватэру. Але ёсць адна ўмова. За перасылку чэка трэба тэрмінова пераслаць 500 еўра. Я потым напішу адрас і прозвішча, хто павінен атрымаць грошы. У цябе такая сума ёсць? І яшчэ. Скажы, мой любы анёл, дзе хочаш жыць: у Беларусі, Расеі ці ў іншай еўрапейскай краіне?" – прачытала Кацярына і амаль што праглынула язык. Сядзела нерухома хвілін з пятнаццаць, аслупянелая, і ўсё глядзела на тэкст.

– Во які шчодры жаніх, – нарэшце выціснула з сябе і тут жа звярнулася да Розуму: – Ну, дружа Розум, і што ты скажаш? Няўжо я хутка буду жыць у ЗША ці ў нейкай краіне Еўропы і развітаюся са сваім крыўдзіцелем?

– Не, не будзеш, бо паслухаеш мяне. А я табе вось што скажу. Гэта ж пастка! А Джон – аферыст! І пра грошы нават не думай! Успомні прымаўку: бясплатны сыр толькі ў мышалоўцы бывае.

– А які ж ён бясплатны! Ён жа 500 еўра просіць за дастаўку чэка.

– Вось, нарэшце дагрукалася да мяне, свайго Розуму. Малайчына, Кацярына! Не ўдзельнічай у гэтым танным спектаклі з налётам кахання. Не згаджайся на атрыманне пісьма з чужым чэкам. Хаця, думаю, яго не будзе. Ты ж не пашлеш грошы?

– Не, не пашлю, бо ў мяне іх няма. А вось ліст напішу. І калі на самой справе Джон існуе, а яго каханне з першага погляду таксама такое моцнае, ён мяне знойдзе, нягледзячы на маю адмову дапамагчы. І мы сустрэнемся. І мой лёс, што загартоўваў доўгія гады, збожыцца і возьме ў свае абдымкі. Толькі якімі яны будуць: цёплымі, халоднымі ці калючымі – невядома. Ну што, пісаць яму?

– Пішы. Напішаш, пачытай, каб і я, і Сэрца паслухалі.

Кацярына нахілілася над тэлефонам і пачала то набіраць тэкст, то яго выдаляць. Нарэшце закончыла пісаніну і пачала перачытваць, быццам правярала, ці правільна выказала свае думкі, уголас, каб чулі Сэрца і Розум. Ціха, але пранікнёна.

"Шаноўны доктар! Я некалькі разоў парывалася закончыць нашу перапіску, але ўсё не магла. Хацелася даведацца, да чаго ж твае прызнанні давядуць. Даведалася.

Я не хачу зараз табе даваць мянушку «аферыста», бо не ведаю, чаму ты ўкраў медыцынскае абсталяванне. Як і не магу зразумець, чаму ты выбраў мяне, выкарыстаўшы нашае знаёмства ў сваіх шкурных інтарэсах. На што ты разлічваў? Відаць, на тое, што жанчына, у якой праблемы ў сям'і, кінецца ў твае віртуальныя абдымкі, спакусіцца на дармавыя грошы і, каб іх атрымаць, вышле еўра на дастаўку пісьма з чэкам, якога, думаю, няма. Цікава, колькі любоўных прыманак ты, быццам рыбак, закінуў у сеціва, а цяпер сядзіш у чаканні, якая ж дзяўчына ці кабета на іх клюне? Са мною ў цябе атрымалася асечка. Ты памыліўся.

У вырашэнні тваіх фінансавых праблем, калі яны на самой справе існуюць, я не памочніца. Калі Богу будзе пажадана, ты без мяне ўкрадзеш тыя грошы і твая мара здзейсніцца.

Але ў мяне ёсць для цябе прапанова. Джон, а чаму б табе не памірыцца з родным братам (калі гэта не хлусня) і не папрасіць Чырвоны Крыж Турцыі даслаць на яго адрас ліст з гэтым важным дакументам? І не будзеш маніць, што нейкая жанчына з Беларусі – твая жонка. Не трэба будзе ляцець праз акіян па грошы, ці з той жа Сірыі. Ды й як ты пряляціш,

калі ў нашу краіну няма авіярэйсаў? Пандэмія ж і санкцыі. Ці ў цябе ёсць асабісты чароўны дыван-самалёт?

Але цяпер ужо гаворка не аб гэтым. Паколькі гэты ліст ад мяне апошні, я хачу расказаць, што адчувала, калі мы з табою вялі перапіску.

Прызнаюся, з таго дня я нават не заўважыла, як маё жыццё змянілася і мой настрой пачаў залежаць ад нашай перапіскі і ад тваіх паведамленняў-прызнанняў. Хаця добра разумела, што тыя словы былі не больш як словы: своеасаблівая гульня ў каханне. Гульня, заўважу, падрыхтаванага псіхолага. Ты што, кваліфікацыю мяняеш? Надакучыла быць хірургам? Будзеш лекаваць душы? У цябе гэта, у нейкай ступені, атрымалася. Але ж, каб на самым пачатку нашай перапіскі ў мяне быў іншы настрой, а не плаксліва-нудны, я ніколі б не адказала ні на адно тваё пытанне! Вось тут, як кажуць, Бог табе дапамог! А ты мне ў нейкай ступені таксама. Бо мая душа ўспыхнула, ажыла. І мой новы дзень на працягу трох тыдняў пачынаўся з перагляду нашай размовы-тэкстаў, якія я захавала, з вывучэння твайго здымка.

Я глядзела на тваё фота і бачыла вялікія вочы, у якіх схаваўся, як і ў мяне, смутак. На прыгожы малюнак вуснаў, шырокія плечы. І аднойчы мне так захацелася схавацца за імі, стаць такой маленькай, слабай жанчынай, што я нават расчулілася, але тут жа супакоілася і сказала сабе: “Не тваё, не раздзірай душу”, як і падумала, што пашанцуе той жанчыне, якая стане тваёй жонкай.

Больш не пішы. Прабач, калі пакрыўдзіла. Не шукай мяне. А ўсё ж я мару аб тым, што калі-небудзь сустрэну цябе і Майкла. Вось толькі ці пазнаю я амерыканскага ўрача-прынца? Таму што да канца не ўпэўнена, што гэта твой здымак. Бывай! Твой “любы анёл”.

*P.S.* Заўтра, калі прыеду ў горад, зайду ў царкву. Пастаўлю свечку і папрашу Бога, каб ён дапамог табе вярнуцца дадому жывым і здаровым”.

Ну, вось і ўсё! Вы чулі, Розум, Сэрца? Шкада, што так атрымалася. Каб не тая недарэчная просьба, мы б з Джонам маглі пасябраваць. З цягам часу ён бы з сынам, з новай сваёй жонкай прыляцелі б у Беларусь, а я наведала б Штаты. Праўда?

– Праўда, любая наша Кацярына, – падтаквае Сэрца. Розум жа маўчыць. Ён надоечы сказаў усё.

– Кацярына, паедзем у горад! – раптоўна просіць Сэрца. – Мы і так тут засядзеліся. Бульбу Любцы выкапалі, трошкі прапалолі трускаўкі, яблыкі сабралі, можна і дадому.

– Заўтра паедзем, заўтра, – падыходзячы да канапы, сказала Кацярына. Лягла, накрылася з галавой. Толькі раз-пораз з-пад коўдры даносіліся: спярша моцны плач, а потым рэдкія ўсхліпы. Апоўначы гукі роспачы і адчаю спыніліся. Кацярына заснула.

паэзія

Зміцер Захарэвіч



...Няхай вакол хоць лад, хоць разбурэнне,
Жывое прарасце і скрозь каменне!..

# Партрэт прамінулай эпохі

## ВОСЕНЬ

*Наследванне «маладнякоўцам»*

Чарніца Восень папялушкаю
Прыбрала – дбалая – палі,
Туману абвязала стужкаю
Таполяў станістых камлі.

Па-над кудлата-хвойнай пушчаю
У шарае далечыні
Штодня ніжэй вятрыска гушкае
На хмарцы сонца зжатых ніў.

Лістота змоглымі мятлушкамі
Глядзіць пакутліва з зямлі,
Пакуль завеі снежня служкамі
Яе вачэй не замялі.

Кладуцца ў гразь, бы невідушчыя,
Дажджоў струмені з вышыні,
А кроплі холадна-калючыя
Напорна точаць камяні.

Аднак, калі ўладаркай скрушнаю
Золь гасіць фарбы на галлі,
Радок звініць нязмоўчнай птушкаю,
Каб сэрцы ў нас не адцвілі.

## ***АГОНЬ (трыпціх)***

### *I. Праметэй*

Абновы справіў мне сябрук стары –
Пярэчыць не асмеліўшыся бацьку,
Надзеў на рукі кайданы ды хвацка
Прыкуў на здзек да стромае скалы.

Я ўсё прадбачыў у сваім жыцці:
І Зеўсаў гнеў, і страшную адплату –
Як будзе прылятаць хіжак глюгаты,
Каб печань пакаранаму дзяўбсці.

Струменіць па каменні з раны кроў,
Але мой дух усцешаны і горды,
Што даў смяротным пломень жыватворны,
Чым перамог напышаных багоў.

### *II. Гефест*

Кульгавы бог кавальства для братоў
На балях ёсць мішэнню п’яных кпінаў,
Але ўзлятае молат мой няспынна
Й агонь здаецца кветкай залатой.

З яе сарваў пялёстак Праметэй
Ды на зямлю прынёс з Алімпа вышы,
Умельствам неўзабаве навучыўшы
Асуджаных на змрок і звод людзей.

Мяцежны дружа, як ты ні стагнаў,
Загад грамавіка я не парушыў,
Бо да скалы прыкуць надзейна мусіў,
Хаця не молат – страх цвікі ўганяў.

### *III. Герастрат*

Мігціць цяпельца. Праз яго сваё
Імя тытан навек унесмяротніў,
Мяне ж у Леты хвалях незваротных
Чакае спадкаемцаў забыццё.

Хай гіне ў валадарстве ценяў плебс –
Няздараў статак! – а ўначы сягоння
Храм Артэміды падпалю паходняй –
Плач, ды запомні блазнюка, Эфес!

Які наедак прагнаму агню!
Палай ярчэй, былое дзіва свету!
Я не ўвайду ніколі ў воды Леты,
Злачынствам мару здзейсніўшы маю.

## *РЭЎНАСЦЬ*

Пад поўняй маладой вясны –
Прызнайся, любая, – што сніцца,
Калі ноч прарыпіць масніцай
Ці ветрык шапатне ў трысці?..

Калі спагадна, пакрысе
Апусціць стома на падушкі
І казку пёрачкам жар-птушкі
Каля ўзгалоўя пакладзе...

Калі патолі валадар
Адорыць слодыччу адхлання,
А ўсмешка ціхая да рання
Расквечвае твой шчасны твар...

Міжволі цвеліш мяне тым –
Каму ўсміхаешся ў сне ты?

## *У ДАРОГУ*

Змяніўшы вогкую смугу,
Прыйшоў маўкліва,
Рассыпаў зораў церуху,
Як з жорнаў мліва,
Дыхтоўным крэпавым плашчом
Апаў на плечы,

Нібыта ахінуў крылом,
Вандроўны вечар.

Фацэт бялявы – маладзік
Наўпрост у вочы
З крывою ўсмешкаю глядзіць
Альбо прарочыць
Тугой пракураны пакой,
Бяссоння зданяў,
Паўсцёртых дбайнаю рукой
Наканавання.

Ім не ўтрымаць у кіпцюрах
Мяне здабычай,
Бо санным следам Млечны Шлях
У вырай кліча
Скрозь вуліцаў капежны плач,
Праклёны небу,
Што я, захутаўшыся ў плашч,
Адгэтуль еду.

### *ПАЛІТРА ВОСЕНІ*

На непагодным палатне
Гаворац фарбы больш выразна,
Але паветра не стае,
Як горлу, сціснутаму спазмай,
Бо ў красамоўным харастве
Стаіўся прывід памірання
І свет пакорліва ссівеў
Дарэшты ў ранішнім тумане,
Дзе адгасаюць верасы,
А памяць трапна падказала,
Як восень дбайна ад вясны
Сваю палітру гадавала.
Тады нам неўздагад было,
Што акварэль цнатлівай вышы
Яна зацягне палатном
І ўражвальны пейзаж напіша.

### *АРГАНАЎТЫ*

Толькі Геліяс промні
                                        рассыпаў па-над даляглядам,
Асвяціўшы нам твары
                                        і мора зрабіўшы руном

Залатым, пад апекай
спагаднай Афіны Палады
Мы ўзяліся за вёслы,
нібыта за чары з віном.

У дарогу нязнаную –
да срэбнагрудай Калхіды
Пад піянне Арфея,
на злосць галашэнню сірэн,
Як баласт за борт кінуўшы
немач, нязгоду і хібы,
Прадзьмуваныя ветрам,
адважныя, ўпарта плывем.

Да пары прэч мячы –
недарэчы яны ў штормаў шале,
Загарэзуе як
без меры сівы Пасейдон.
Але покуль раз-пораз
едкі пот салонаю хваляй
Аблівае сяброў
тваіх, богападобны Ясон.

Дык вядзі, капітан!
Акрыляй малаверных надзеяй!
Хай удача спрыяе,
а ліха мінае «Арго»,
Бо па кожным з нас дома
таксама сумуе Медэя
І з выправы далёкае
чакае героя свайго.

* * *

Туга па небе, дзе яе імя,
Бязважкае, як пёрка на далоні,
Злажылі вяззю залатою промні,
Што не затуляць хмары ды імгла.

Туга па небе, поўнаму вачмі,
У водбліскаў адчаю і надзеяў,
Хоць крывадушныя не разумеюць
Ізноў азнакаў часу ў вышыні.

Туга па небе – непазбыўны крыж.
На крок бліжэй – і не стрывае сэрца,

Збалелае, ў прадон з грудзей сарвецца
І аб каменні – ў пыл, нібы гладыш.

Туга па небе... Велікодны звон
Плыве ва ўсе канцы па-над зямлёю
І следам за птушынай чарадою,
Ляціць бязважкім пёркам у далонь.

### ***ПАРТРЭТ***

Напішы мой партрэт
З прамінулай эпохі:
Фатэль мяккі і плед,
Часу мерныя крокі.

На стале «Чайльд Гарольд»,
Партабака і віскі.
Мне паэмы герой
Беспрытульнасцю блізкі –

Гэтаксама, як ён,
Я вярнуўся з блуканняў
Доўгіх на Альбіён
Да дажджоў і туманаў.

І гарыць вугалёк
У каміне, як рана.
Прысак – гэта пясок
Пекла Афганістана.

Пераход. Трэці дзень
Сонца цені прастае,
Ані студні нідзе,
Толькі шаблі гільзаяў[1].

Кандагар у смузе
Растае́ незваротна,
Мы ў атаку ідзем
Сёння на Севастопаль.

Каб жа ўбачыла ты
З недасяжнае сіні,
Як брытанскія львы
Чэзнуць у Абісініі.

---

[1] Гільзаі – адно з пуштунскіх плямёнаў Афганістана, якое прыняло актыўны ўдзел у вайне з брытанцамі ў 1838-42 гг.

Але ў вечны спакой
Адышла праз чаканне...
Грэшны перад табой,
Мармуровая пані,

Што пад шлюбны алькоў
Не паспеў, не даехаў,
Бо па свеце ліў кроў
У імя Уньён Джэка.

Кожны шнар, нібы след
Непазбыўны, глыбокі.
А партрэт? Я партрэт
Прамінулай эпохі.

* * *

Сустрэнеш вечар без трымцення
І не абурышся, калі
Ён пледам ляжа на калені,
Як тыя, што раней былі.

Хоць водар пернае гарбаты
Не нагадае ні аб чым:
Дальбог, ніхто не вінаваты,
Мінулае – салодкі дым

І попел тонкай цыгарэты,
Якая ў пальцах растае.
Ва ўтульнасці квадратных метраў
Табе ўсяго пакуль стае.

Растане й вечар пакрыёма,
Сышоўшы моўчкі за парог,
Бо ноч запанавала ў доме
І коткай лашчыцца ля ног.

## ***МАЙ***

Вясны-юначкі мятлік – май
У садзе белым да бязгрэшша
Пра скон не чуў яшчэ, канешне,
Вясны-юначкі мятлік – май.
І як да неба ні лятай,
А застанецца толькі ў вершах

Вясны-юначкі мятлік – май
У садзе белым да бязгрэшша.

### *СВЯТЛО І ПРЫГАЖОСЦЬ*

У зыркім золаце бяроз
У хованкі гуляюць промні.
Як дзіўна ўсведамляць, што ёсць
Святло і прыгажосць у сконе.

Адценнямі рудой крыві
У скверах выбухнулі клёны,
Расфарбаўшы краявід
Святлом і прыгажосцю скону.

Нібыта найвялікшы скарб,
Бурштын каштана на далоні,
А ў горадзе наўсцяж пажар
Святла і прыгажосці скону.

Сканае восень ля крыжа –
Вятроў і часу раздарожжа –
І сточыць без астачы ржа
Было што светлым і прыгожым.

### *ДАРОГІ*

Нервовыя вузлы маіх дарог –
Вакзалы, расставанні, строфы, спевы,
Рассыпаліся па календарох,
Бы попел ад раптоўнага павеву
Вятрыскі, на якім не варажыць
Аб будучай ці прамінулай славе,
Адно струна найтонкая дрыжыць –
Пра новыя дарогі мне спявае.
А значыць, яшчэ ўзыдзе вершаў рунь,
Мелодыя паводкай разальецца.
Мае дарогі – шэсць нязмоўчных струн,
Нацягнутых за далягляд ад сэрца.

### *БАЛАДА ПРА РЫЦАРА*

Невылазна ў сядле.
Нават конь сяміжыльны знясілеў –
Ані каліва зранку,
а ў біклазе – ні кроплі віна.

Свечкай Зорка Палярная
гарыць у начным небасхіле,
На даспехах люструецца,
нібы водбліск пагаслага дня.

Не відаць наўсцяж корчмаў,
толькі зырка вакенца мігціцца
На самотным падворку,
што на ўзлеску і ўдалечыні,
Скуль чуваць голас тонкі:
«Ты дарэшты здарожыўся, рыцар.
Завітай на агеньчык –
падсілкуйся, крыху адпачні!..»

Спакусіўся напевам,
мімаволі да ўтульнасці збочыў,
Дзе еў мяса гарачае,
піў хмельна-барвяны напой,
А, як легчы ў пасцель,
глянуў у гаспадыніны вочы
І вабноты дзявочыя
адчуў ушчыльную з сабой.

На світанку прачнуўшыся
ў распушчаных косаў цянётах,
З вуснаў прагных пачуў:
«Не спяшайся, паніч, на вайну,
Бо з цябе за вячэру
і маю сплюндраваную цноту
Я замест залатовак
Ноч любошчаў вазьму шчэ адну».

Завіднеў новы золак –
незлічоны раз даў цемры рады,
Ды залівісты голас
дагнаў воя, што быў на кані:
«Калі ты, хай вандроўны,
але ўсё ж такі рыцар сапраўдны –
Дакажы сваю вернасць
у святым шлюбе, а не ў баі...»

У касцёле спічастым
ксёндз прамовіў над імі малітву,
Спачывальню аздобіў
шчыт шляхетнага роду гербом,
Перамогі ўлюбёнец
з маладою забыўся пра бітвы

І гаспода на выселку
зрабілася знаным шынком.

...Граюць сурмы напята,
б'юць адчайна званы на трывогу –
Заклікаюць да зброі,
каб кайда́намі ў свет не грымець,
Толькі грозныя зыкі
не ўзрушаюць ваяку былога –
Ён змарнеў і няздольны
ўзняць іржою пашчэрблены меч...

## ***ПАДАРОЖНІКІ***

Па дні ў цьмяную Вечнасць праводзін,
Як калісь пілігрымы, здалёк,
Пахіліўшы галовы, прыходзім
Да капцоў заканчэння дарог.

Цішыня. Адно лісце шапоча,
Сунімаючы памяці боль,
І ўзіраемся ў ветлыя вочы
Тых, з кім стрэцца не выпадзе больш.

Колькі разам спазналі нягодаў!
Мелі святаў даволі ў жыцці.
А цяпер... Яны ўжо за парогам,
Да каторага нам яшчэ йсці.

Не спяшай. Не злуй бога дарэмна.
Ці свет гэты не варты, каб зноў
На плячах адчуць Колядаў срэбра
Альбо ўлетку піць водар садоў?

Апячэ вусны сумная ўсмешка
Падарожнікам цераз гады,
Калі ўперад нязнаная сцежка
Адышоўшых пакажа сляды.

Адылі і без іх дапамогі,
Нібы спраўдзіць нязбытны зарок,
Дойдзем мы, да крыві збіўшы ногі,
У той край, дзе нямашка дарог.

## *НА ЗАПАВЕТНЫХ БЕРАГАХ*

На запаветных берагах
Нас стрэнуць ветла і ўрачыста
І паднясуць за доўгі шлях
Па шклянцы, поўнай спіртам чыстым.

Пасля запросяць да сталоў,
Каб не астылі пачастункі,
Дзе без напышлівых тастоў
Раскажам пра свае справункі.

Успомнім тых, хто не прыждаў
Адвольнай, хмельнае бяседы,
Бо іх раз’юшаны хіжак
За непакору звёў са свету.

І слёзы бліснуць у вачах,
Калі пачнем малазнаёмым
Распавядаць аб сваяках,
Якія засталіся ўдома.

Нам будуць шчыра спачуваць,
Ва ўсім спрыяючы гасцінна,
Пакуль не звыкнем шчыраваць
Пад сонцам новае радзімы.

А цераз год турбот рака
Ні дробкі суму не пакіне
На запаветных берагах.
Але ці існуюць такія?

* * *

Неба выраю звабіла птушак
І на хорах нямой вышыні
Паказалася здань немінучай
У сваім надыходзе зімы.

Колабегу давечнае скерца
То чуваць у прысадах ледзь-ледзь,
То імжой астуджальнай ліецца
На каштанаў падпаленых медзь.

Разам з імі падводжу рахункі
І дымлю ў свет апалым лісцём,

Бо штогод выпраўляю лятункі
Я не ў вырай, але ў небыццё.

І, паводле зямнога закону
Пару́ росквіту ўсклаўшы на шчыт,
Сівізна са шчаціння ды скроняў
Першым снегам сканання блішчыць.

Нават ён у жыцці непазбежны,
Як паводка нястрымнай вясной,
А таму растае сум бяследна
У прасторы па-над галавой,

Дзе на роўнядзі зацішнай сіні,
Што расплёхалася з краю ў край,
Вецер пёркам выводзіць гусіным
Развітальнае:
«Не забывай!..»

### *ЖЫВОЕ*

Валадары ўзвялі мuроў чароды,
Наіўна верачы, што назаўсёды.

Але стагоддзі ў хронікі мінулі
І сном павою сцены ахінулі.

Куды ні глянь – усё ў глухім спакоі,
Ля рэштаў брамы ні сцягоў, ні вояў.

Друз крохкі ўсцяж замест цвярдыні грознай,
Шугае вецер праз байніцы борзда.

Паноў і катаў, грэшных і прарокаў
Нячулы час знёс у нябыт патокам.

Адно над крушняй да аблок імкнецца
На Княскай вежы маладое дрэўца.

Лагодзіць вочы сукняю зялёнай,
Паводле неадменнага закону:

Няхай вакол хоць лад, хоць разбурэнне,
Жывое прарасце і скрозь каменне!

Канстанцін Касяк



...лёгка прытапліваць за перамены,
але зусім няпроста за іх ваяваць
і тым больш паміраць...

# Самаізаляцыя

*Заканчэнне. Пачатак у №2 (117).*

### Апавяданне пра вайну

Добры твор пра Вялікую Айчынную вайну я выпадкова прачытаў у Піліпа Пестрака.

Зайшоў неяк у букіністычную кнігарню, а там поўны збор твораў гэтага, цяпер ужо амаль забытага, пісьменніка. Узяў нейкі з тамоў у рукі, разгарнуў і адразу ж трапіў на цікавае апавяданне.

Сюжэт, прыблізна, такі: павялі немцы на расстрэл партызана. Магілу сабе прымусілі капаць. Усё стандартна. А ён, капаючы, прыгледзеўся, прыцэліўся добра ды пазабіваў сваіх катаў самай звычайнай рыдлёўкай. Забраў зброю і сышоў у лес.

Ясна, што расклад абсалютна фантастычны, але тым не менш чытаецца тэкст добра, бо ў мастацкай літаратуры можна ўсё. І ў творы добра адчуваецца байцоўскі характар аўтара – Пестрак жа не проста пісьменнік з Заходняй Беларусі. У маладыя гады ён быў сябрам КПЗБ.

За сваю дзейнасць у шэрагах гэтай арганізацыі Пестрак атрымаў турэмны тэрмін. Каля дзесяці гадоў адседзеў у польскай турме, тры з іх – у адзіночнай камеры. Таму ён бы, каб трапіў у такую гісторыю, забіў бы сваіх катаў нават не міргнуўшы вокам, або дакладна паспрабаваў бы гэта зрабіць.

Чалавек быў крутога нораву. Дзеля справядлівасці варта адзначыць, што і Цанавы ён пасля вайны таксама не баяўся – на нейкім банкеце паслаў яго па вядомым маршруце далёка і без хлеба.

## Дробязь

Бывае так: выйдзе кніга, з'явіцца рэклама, напішацца колькі рэцэнзій. Усе вакол у захапленні.

Ідзеш у кнігарню, набываеш, адкладаеш усе іншыя справы ды бярэшся чытаць. І на пачатку цябе таксама захапляе напісанае. Яшчэ б! У наш час насамрэч цяжка напісаць нешта вартае, бо колькі ўсяго ўжо напісана-перапісана. А гісторый, паводле Борхеса, усяго чатыры.

І тут трапляе ў вока адна дэталь – невялічкая дробязь, якую аўтар, хутчэй за ўсё, проста забыў, а бэта-рыдары, захопленыя аповедам, рэдактар і карэктар, па-простu не заўважылі. Але драбяза гэтая ламае сюжэт.

Ужо і цікавасці няма, і грошай, аддадзеных за кнігу, шкада. Створаны аўтарам свет разбураецца з-за нейкай там драбязы, на якую іншыя нават і не звярнулі ўвагі. Пераадолеў сябе, дачытаў, але задавальнення ўжо ніякага не атрымаў. Бо магія стварэння тэксту разам ператварылася ў банальны фокус-покус. Падзяліўся думкамі з сябрам, які добра цяміць у прыгожым пісьменстве. Той майго расчаравання не падтрымаў:

– Ай, да сюжэтнай літаратуры трэба ставіцца прасцей, як да фантастыкі катэгорыі "Б"! – сказаў ён ды змяніў тэму.

## Вяхотка

Маці аддала мяне ў беларускамоўны дзіцячы садок. Тады гэта было трэндам. Я ў поўным сэнсе дзіця незалежнасці. Многа думаў, як буду апісваць гэты эпізод калі-небудзь у сваёй гераічнай біяграфіі.

Маўляў, бацькі хацелі выгадаваць з мяне сапраўднага свядомага беларуса, таму выбралі садок з беларускай мовай навучання. Насамрэч, ён проста быў самым блізкім ад нашага дома. Стаяў на ўзгорачку побач з суседнімі гмахамі. У садку было весела, я любіў туды хадзіць. Там было шмат усяго цікавага.

Нас вучылі размаўляць па-беларуску, мы спявалі беларускія песні, а, бывала, і танчылі. З садка я прыносіў беларускія словы. Неяк да нас завіталі госці. Шумная кампанія. Загаварылі пра мову. Тады такое было надзвычай актуальна. І тут нейкая матуліна сяброўка запытала:

– А как по-белорусски будет мочалка?

– Может, мачалка? – адказаў нехта.

– Вяхотка! – нахабна ўлез я. – Па-беларуску мочалка – гэта вяхотка.

## Падзік

Напісаць тры абразкі – дзень пражыты недарэмна. Знікае адчуванне пустэльніка, хаця ніхто яшчэ іх не чытаў. І ці прачытае наогул?

Зусім не факт, што твае рукапісы з думкамі камусьці прыдадуцца. І нехта возьмецца іх вывучаць, каб потым напісаць пра твае прыгоды навуковую працу.

Якія прыгоды? Сказаць складана. Бо цікавае жыццё цяжка прыдумляць у нашых шыротах. Шукаць дарог, якіх яшчэ ніхто не зведаў, таксама.

Запаліў у цёмным падзіку, дапісаўшы свае радкі, ды ўзгадаў дзяцінства. Калі з твайго пад'езда ўсё і пачыналася. На лесвіцы сядзелі *старшыя*, рубіліся ў карты, і ты хацеў, але ж не ведаў, як трапіць у іхнюю абойму.

У іх жыццё, а ў цябе – так, існаванне. Школа, дом, двор. Яны ж каталіся па горадзе, махалі рычагамі на дыскатэках за гонар прыўкрасных герцагінь і свайго раёна. Калі ты сам падрос і ўсё ж такі трапіў у іхні шэраг, то і там аказалася сумна. Усё адно і тое ж: выпіўка, дзеўкі, карты і пад'езд. Бастыён быцця. Або лаўкі ў двары. Куды прывабней глядзеўся цэнтр з тусоўкамі і вірлівым жыццём. Але і там ўсё аказалася тым жа самым.

Цяпер мяне ўсё больш захапляюць нежывыя. Тыя, хто даўно ўжо адышоў, пакінуўшы пасля сябе груваcткую, але насычаную падзеямі спадчыну. Хацеў бы і я да іх...

Але баюся, што як траплю, то і там будзе ўсё тое ж самае.

## Дзённікі

Відаць, болей за ўсё з літаратуры я люблю чытаць чужыя дзённікі.

Непрыдуманыя сюжэты, драматычныя падзеі, складаныя лёсы. Ну і, вядома, эпоха. Куды ж без яе... Што можа быць лепей, чым запарыць сабе на кухні гарбаты ды акунуцца ў віхор чужога жыцця?

Тым больш, калі сам хварэеш і не асабліва здатны пражываць кожны дзень эфектыўна. Бадай што адзінае, аб чым даводзіцца глыбока шкадаваць – не ведаю дасканала іншых моваў. Іначай можна было б чытаць усё, што цікавіць, у арыгінале.

Дзённікі жывых часам чытаць вельмі самотна. Асабліва, калі ведаеш чалавека асабіста. Вось натрапіў на ягоныя ранейшыя запісы, дзе ён невядома ад чаго пакутуе без дай прычыны. Чытаеш, чытаеш, а ўжо самому самотна робіцца.

## Багдановіч

У школе я не надта любіў беларускую літаратуру. Даволі дзіўнае прызнанне для чалавека, які піша выключна па-беларуску. У той час галава была забіта іншым. Але адзін з нямногіх, хто мне быў сапраўды цікавы ў той час – Максім Багдановіч.

Малады, прыгожы, таленавіты – на фоне большасці паэтаў, якіх праходзяць па школьнай праграме, ён быў звышцікавы. Тым больш калі ў тваёй сям'і да Багдановіча ставяцца з асаблівай цеплынёй.

Маці, бібліятэкарка па спецыяльнасці, зацікавілася творчасцю Багдановіча яшчэ ў часы студэнцтва. Яе настолькі ўразіла патрыятычная і любоўная лірыка Максіма, што на ўсё жыццё яна захавала цікавасць да яго. У нашай хатняй бібліятэцы ёсць многа кніг, якія прысвечаны Багдановічу. Многія з іх былі выдадзены яшчэ за савецкім часам.

У восьмым класе нас павезлі на экскурсію ў музей паэта. У той дзень я зірнуў па-новаму на творчасць класіка. Бадай што болей за ўсё запомніла-

ся, як дзяўчына-экскурсавод распавяла, што падчас навучання ў гімназіі Багдановіч лічыў сябе анархістам. Чытаў Бакуніна, Крапоткіна, Прудона ды іншых тэарэтыкаў. Я таксама пэўны час лічыў сябе чырвона-чорным, але захапленне гэтае даволі хутка прайшло, яшчэ ў школе.

Узгадаў я Багдановіча і калі першы раз патрапіў у Вільню. Памятаю, вельмі хацелася пабачыць Вострую Браму, якую ён апісаў у сваім знакамітым вершы. Да гэтага я бачыў яе толькі на малюнках. Жыўцом яна аказалася не менш велічнай, чым на выявах. Вельмі ўразілі людзі побач – яны стаялі на каленях і маліліся.

З той пары кожны з куточкаў гэтага горада асацыюецца ў мяне з вядомымі беларусамі, якія там жылі і пісалі пра яе: Вежа Гедзіміна з Якубам Коласам, вуліца Пііма з Вацлавам Ластоўскім, Вострая Брама з Максімам Багдановічам.

Добра, што ў Менску ёсць помнік яму, ёсць музей і ёсць шырокая вуліца, якая носіць ягонае імя. Максім-кніжнік іх адназначна заслужыў. Калі б яго не было ў нашай літаратуры, яго б варта было выдумаць.

## Сшыткі

Навучыўся весці дзённікі я ад яе – сваёй першай дзяўчыны, з якой пачаў сустракацца яшчэ ў школе. Яна вяла іх з самага дзяцінства. Прынамсі, так мне сама распавядала.

Запісвала туды сваім акуратным і вытанчаным почыркам усё самае важнае, што з ёй здаралася. Добрыя адзнакі, сваркі з бацькамі ці аднакласнікамі, думкі пра хлапцоў са свайго ці старэйшых класаў.

Пра мяне там было надзвычай многа. Я ніколі і не падумаў бы, што яна стане занатоўваць усе нашыя прыгоды. У літаральным сэнсе – з педантычнасцю ўрача яна апісвала ў сваіх ружовенькіх і зялёненькіх сшытачках усё, чым мы займаліся, калі бацькоў не было дома. У мяне, ці ў яе, гэта не мела ніякага значэння.

Даведаўся я пра яе дзённікі выпадкова, калі мы ўжо рассталіся. Яна сама мне расказала і прапанавала прачытаць, але з адной умовай – гарантыяй звароту. Канечне ж, я пагадзіўся і нават не думаў яе падманваць. З нейкай трывогай ў вачах яна ўручыла мне дзясятак прыгожанькіх сшытачкаў, якія былі спісаны ад першай да апошняй старонкі.

Дома, у поўнай адзіноце, я ўзяўся іх чытаць. І быў у пэўным шоку ад таго, што там знайшоў. Бо не чакаў такіх падрабязных апісанняў пасцельных сцэнаў. Я нават пачаў зайздросціць самому сабе, бо цяпер вёў дастаткова спакойны лад жыцця.

З яе б выйшла неблагая пісьменніца, калі б яна ўзялася рабіць з гэтага матэрыялу моладзевыя раманы. Пра першае каханне, а там жа і першы сэкс, і сваркі, і звады, і драмы. Чыталася б вельмі добра, я думаю. Асабліва тымі, у каго падобнага не было. Хто не такім чынам праводзіў сваё юнацтва.

## Апошняя кніга

Апошняя кніга Эдуарда Лімонава называецца “Стары вандруе”. Калі аўтар пісаў яе, то, відавочна, разумеў – яна апошняя ў ягонай бібліяграфіі. Нездарма ж там шмат месца адведзена пад смерць. Вельмі ўдалы некралог сабе самому атрымаўся.

Лімонаў цікавы тым, што ўмеў мяняцца. Пачынаў такім сабе панкам,

якому ні нормы, ні мараль не патрэбныя. А скончыў самотным старым, які разважае пра жыццё ў сваёй невялікай здымнай кватэры.

Ягоная кніга – травэлог памерам у жыццё. Мясціны, дзе яму было добра, або, як мінімум, цікава – харкаўскія ўскраіны, парыжскія і рымскія вуліцы, непрызнаныя рэспублікі.

Жанчыны...

## Лімонаў

Эдуард Лімонаў – гэта хутчэй не чалавек, а з'ява. Пры чым не толькі ў літаратуры, але ў культуры, палітыцы ды, нарэшце, жыцці.

Ён напісаў вялікую колькасць кніг вершаў і прозы, у большасці з якіх у якасці галоўнага героя адзін чалавек – Эдзічка, то бок ён сам. Сюжэты гэтых кніг часта паўтараюць самі сябе, а іх галоўная мэта – гэта ўпісаць аўтара ў гісторыю, прычым не толькі літаратуры, прычым не толькі расійскай. Кнігу Эмануэля Карэра пра Лімонава, якая была перакладзеная на многія мовы свету, раіў да прачытання ў свой час Нікаля Сарказі, яшчэ калі быў прэзідэнтам Францыі .

Народжаны ў расейскім Дзяржынску, Лімонаў вырас у Харкаве. Маладым паэтам перабраўся ў Маскву, дзе вельмі хутка трапіў у асяродак савецкай багемы. Разам з жонкай Аленай Шчапавай эміграваў у ЗША, дзе аказаўся незапатрабаваным, як і ў СССР. Сыход маладой жонкі, якая ў перспектыве добра ўладкавала ўласнае жыццё ды атабарылася ў Рыме, стаў тым самым каталізатарам, які і спарадзіў Эдзічку.

Атрымаўшы першы літаратурны поспех, Лімонаў перабіраецца ў Парыж. Там ён зблiжаецца з палітыкамі і літаратарамі як французскай правіцы, так і левіцы. Дзякуючы настойлівым патрабаванням французскай інтэлектуальнай супольнасці, ён атрымлівае французскае грамадзянства.

У Парыжы Лімонаў напіша яшчэ шэраг кніг, з яго ж адправіцца спачатку на войны ў палаючую Югаславію, а потым і ў гарачыя кропкі былога СССР.

З пачаткам развалу Саюза ён зойме пазіцыю ГКЧП і апынецца ў адной кампаніі з Прахановым, Жырыноўскім і Анпілавым. У сваіх тагачасных кнігах і артыкулах ён будзе ўвесь час пісаць пра мільёны рускіх, якія апынуліся за межамі новай Расіі, а таксама пра несправядліва аддадзеныя "спаконвечныя рускія землі". У прынцыпе ўсё тое ж самае, што зараз можна пачуць з экрана тэлевізара.

У 1993 годзе Лімонаў разам з шэрагам аднадумцаў стварыў нацыянал-бальшавіцкую партыю, якая спалучала ў сабе правыя і левыя ідэі. Эпатажнасць арганізацыі, крыклівыя лозунгі і эстэтыка прыцягвалі да сябе моладзь. Варта адзначыць, што з НБП выйшлі многія вядомыя цяпер у Расіі людзі.

Маргінальнасць – гэта асноўны канёк Лімонава. Ён ніколі не баяўся дзяліцца перажытым досведам, апісваючы жыццё не самых лепшых прадстаўнікоў амерыканскага (або любога іншага) грамадства. Многія любяць цытаваць радкі з самага вядомага ягонага рамана, дзе ён вельмі красамоўна, з падрабязнасцямі, апісвае свой даволі смелы сексуальны досвед. Але ж запомніцца Лімонаў не толькі гэтым.

У апошнія гады жыцця ён бачыў сябе ўжо не эпатажным пісьменнікам ці радыкальным палітыкам, але смелым мысляром, які здольны бачыць абрысы будучыні.

## Пакуты

Адна з рэчаў, якая мяне злуе ў беларускай літаратуры – пакуты. Часцяком людзі без дай якой прычыны надта моцна пакутуюць. Пераймаюцца на пустым месцы ў сваіх творах.

Думаюць, відаць, што гэта і ёсць сапраўдная творчасць. Але ж калі чытаеш, як у галоўнага героя кожны дзень баліць галава – то хутка і самому балець пачне.

А ўся гэтая "агульная млявасць і абыякавасць да жыцця" – проста каронка нейкая. Як па мне, то з душэўнымі пакутамі трэба троху спакайней. Як і з нецэнзуршчынай. Без іх не абыдзешся, але трэба, каб яны не пасавалі тэкст, былі да месца.

## Ахоўнік

У бары сустрэў знаёмага. Стаяў на ахове. Павіталіся, пагаварылі, пакурылі разам і, вядома, згадалі мінулае. Канцэрт, на які я прыйшоў, яўна яму не падабаўся. Але што ж паробіш – такая праца.

Сам у свой час шмат разоў стаяў на ахове без асаблівага задавальнення. Бо так было трэба. З маіх знаёмых многа хто працаваў ахоўнікам – нехта ў клубе або казіно, хтосьці ахоўваў розных каларытных мурзікаў. За грошы, вядома, або для ўласнага задавальнення.

Добра, калі такая праца часовая – каб урваць грошы ці выканаць пэўныя дамоўленасці. Дрэнна, калі гэта робіцца не проста часткаю жыцця, але яго сэнсам. Гаворка не пра прафесіяналаў, якія з гэтага жывуць, а пра аматараў.

Гэтаму майму знаёмцу быць ахоўнікам заўжды падабалася, хаця музыка, якую граюць у клубе – вельмі рэдка. Як, дарэчы, і публіка, што прыходзіць на канцэрты. Не любіць таварыш яскравых і фрыкаватых, а яшчэ валасатых, з завушніцамі ў носе і каўтуном на галаве.

Але стаяць на ўваходзе і правяраць квіткі яму падабаецца. Вельмі!

## Выпускны

Заўжды імкнуўся пазбягаць усіх гэтых афіцыёзных святаў – выпускных, медыюмаў, карпаратываў. Таму ў мяне ніколі не было нармальнага выпускнога – ні ў школе, ні ва ўніверы.

Не было і вяселля ў традыцыйным разуменні. Не хачу я сабе і пахавання. Добра было б, каб мяне проста спалілі, без развітанняў, слёз, апошніх словаў ды іншых рытуалаў. Ясна, што мне яшчэ рана задумвацца пра гэта, але...

Начытаешся навінаў, не-не ды і падумаеш.

## Зануранасць

Я і без пандэміі вельмі занураны ў сябе чалавек. Гэта я і сам добра разумею. Я неяк не надта ўмею сябраваць і падтрымліваць камунікацыю з вялікай колькасцю людзей. Не люблю плёткі і імкнуся як мага далей дыстанцыянавацца ад тых, хто іх распускае.

Не тое, каб я быў такім ужо правільным і ўзорным, але мяне проста мала цікавіць чужое жыццё. Не бачу сэнсу яго перабіраць. У гэтым плане ў мяне пэўны парытэт з грамадствам: я не навязваюся ім, яны не навязваюцца мне.

Я даўно перастаў на нешта скардзіцца людзям, дазваляю сабе гэта хіба што з самымі блізкімі. Ды і тое з вялікай нагоды, калі ўжо сапраўды няма сілаў маўчаць. Бо потым усе гэтыя скаргі бокам вылазяць. Трэба па максімуму быць закрытым чалавекам, не паказваць сваіх слабасцяў і не раскрываць перажыванняў. Бо чым мякчэйшым ты будзеш, тым часцей потым аб цябе будуць выціраць ногі.

Менавіта з гэтай прычыны я думаю, што з людзьмі агулам лепш па мінімуму камунікаваць. Цяперашняя цывілізацыя дазваляе рабіць гэта без праблемаў. Ты нікому нічога не вінен, і ніхто нічога не вінны табе. Усе задаволеныя, пакрыўджаных няма. Казка!

## Канец года

Я ўсё яшчэ не магу прызвычаіцца да таго, што канец года ў снежні, а пачатак у студзені. Хаця, вядома, даўно ўжо не студэнт і тым больш не школьнік. Але старыя звычкі моцна заселі ў падкорцы і кожны раз у канцы траўня я пачынаю інстынктыўна расслабляцца. Нібы чакаю, што зараз будзе апошні званок, трэба будзе завітаць у бібліятэку – здаць падручнікі, а таксама вырашыць шэраг банальных пытанняў.

## Подых навальніцы

Магу цэлы дзень прасядзець у хаце, калі на двары добрае надвор'е, яснае неба і яркае сонца. А як хмары з маланкамі, дождж і навальніца – то не магу не выйсці. Шукаю хоць якую прычыну. Я не з тых, хто займае ў зале месцы ў адпаведнасці з набытым квітком.

## Вясна

Вясна была халоднай. Ва ўсіх сэнсах. Зіма сёлета вельмі доўга не хацела адступаць. Ды і проста па жыцці было таксама не вельмі. Я шмат чаго страціў.

Яна запомніцца мне тым, што я нарэшце развёўся. Першаму шлюбу прыйшоў канец. Яно чакана, бо ўсё калі-небудзь прыходзіць да свайго лагічнага фіналу. У гэтым свеце няма нічога вечнага. А шкада! Вось і нашае каханне, як у таго Маякоўскага, разбілася аб побыт.

Хаця з іншага боку я, шчыра кажучы, не думаю, што гэта канец. Мы яшчэ абавязкова сустрэнемся. Думаю, што нават не раз. Зямля круглая, Менск маленькі, дарожкі вузкія. Пабачымся! А можа нават і наноў пачнем сустракацца. Будзе смешна, калі яшчэ раз пабярэмся шлюбам.

У такім разе жаніцца варта будзе не па паганскім абрадзе, на святым камяні, як ужо было, а пайсці ў праваслаўную царкву. Прынамсі, мне б хацелася менавіта так аформіць нашыя стасункі. Бо я хрышчоны, хаця і не практыкуючы. Як і яна.

Хаця б нешта новае...

## Першы дзень лета

У дзяцінстве вельмі любіў гэты дзень. Бо ён афіцыйна азначаў прыход доўгіх вакацыяў. З гадамі час пачаў змяняцца, паскарацца. І доўгія-прыдоўгія тры месяцы, за якія ўсе мы мяняліся, ператвараліся ў кароцень-

кую пару. Якая пралятае амаль незаўважна. Адно імгненне. Чым больш старэйшым становішся, тым хутчэйшым робіцца жыццё. Малым я мроіў хутчэй стаць дарослым. А цяпер з радасцю запаволіў бы гэты бег.

### Жывая музыка

Згадалася, як аднойчы вярталіся з жонкай дамоў позна ўвечары.

На вуліцы дождж, навальніца, пустыя вуліцы. У пераходзе тусуецца моладзь. Мы таксама збіраліся так у свой час, калі не было дзе прыткнуцца. Хлопец з даўгімі валасамі і ў драных джынсах грае на гітары і спявае ў мікрафон. Слухачы яму падпяваюць.

Сярод іх адзін найбольш актыўны – нейкі модны хіпстар, які ўвесь час чапляе мінакоў. Калі раўняемся з імі, гітарыст заводзіць цоеўскі “Пачак цыгарэт”. Я ніколі не быў аматарам рускага року, але нават мне рэжа вуха ягонае скавытанне. Нейкі адзін суцэльны фальш, хаця ў песні насамрэч нічога складанага. І тут хіпстар крычыць нам у спіну:

– Спыніцеся! Паслухайце жывую музыку, такой няма ў вашых інтэрнэтах!

Спыняемся. Паварочваюся і колькі секундаў гляджу ў пустыя шкляныя вочы хіпстара. Гэтае дзіцё з тварам лесаруба выклікае толькі ўсмешку. Так і хочацца яму сказаць: “Сынок, ты калі тэлепузікаў сваіх яшчэ глядзеў ці вучыўся чытаць па буквары, я ўжо хадзіў на канцэрты”. І музыкі жывой наслухаўся на цэлае жыццё наперад.

– Хадзем! – кажа мне Святлана і мацней бярэ за руку. Сыходзім. За спінай недзе ўнізе гучыць фальшывая песня Цоя, які, калі верыць надпісам на сценах, усё яшчэ жывы.

### Каранавірус

У двары гуляюць дзеці. Носяцца адно за адным, кідаюцца мячыкам, смяюцца. Усё, як было і ў маім дзяцінстве, толькі з некаторымі зменамі.

Замест наспех зробленага мячыка з паперы і скотча – новенькі тэнісны, які добра лётае, балюча б’е і добра адскоквае. Ну і назва: мы звалі гэтую забаўку “сіфай”, а яны – каранавірусам.

### Чалавек ідзе

Мала хто ведае, што будучы класік беларускай літаратуры Янка Маўр доўгі час пісаў у стол свае творы. А стаў вядомы дзякуючы пісьменніку Алесю Якімовічу, які з 1924 года быў сакратаром, а па факце рэдактарам першага беларускага дзіцячага часопіса “Беларускі піянэр”.

Разлік Якімовіча быў просты: каб часопіс добра разыходзіўся сярод моладзі, ён вырашыў запрасіць да супрацы не толькі вядомых літаратараў, але і тых, хто піша ў стол, а таксама саміх дзяцей, сярод якіх, безумоўна, знойдуцца ахвочыя расказаць пра сваё жыццё.

Такім чынам Алесь Якімовіч і выйшаў у 1925 годзе на простага выкладчыка гісторыі і геаграфіі ў адной са сталічных гімназій Івана Міхайлавіча Фёдарава ды прапанаваў яму надрукавацца. І ўжо ў лістападаўскім нумары за 1926 год на старонках выдання з’явілася знакамітая гістарычная аповесць Янкі Маўра “Чалавек ідзе”.

## Былая

Па начах я выходжу папаліць. Бывае, што бачу яе... Не канкрэтна яе, вядома, але здань, прывід мінулага кахання. Маленькая ладная дзяўчына праходзіць побач. І мне здаецца, што гэта – яна. Маё самае вялікае каханне ў жыцці.

Мне хочацца, каб яна падыйшла да мяне, загаварыла, папрасіла прабачэння. Каб яна зрабіла першы крок – бо гэта яна не мае рацыі, а не я. Прынамсі, я менавіта так і лічу.

Але малая гэтая не мая, проста чужы чалавек, які воляю лёсу апынуўся ў гэты час побач. І з гэтым я не магу змірыцца. І пэўна не зміруся ўжо ніколі.

Можна было б зрабіць першы крок самому, напісаць або пазваніць, але гэта супраць маіх правілаў. Яна гэта таксама ведае. Таму кожны з нас будзе гарэць у сваім пекле асобна.

## Паштоўка

Ёсць у мяне знаёмы, які робіць крафтавыя паштоўкі. І дасылае іх з розных куткоў свету. Вось сёння зазірнуў у скрыню, а там свежая паштовачка. З выяваю дынамаўскага сектара, на якім мы і пазнаёміліся. Дробязь, але прыемна. Бо ў наш час гэта даўно ўжо не дробязь.

Зараз прасцей даслаць фотачку ці смайлік анлайн. А тут жа трэба спачатку тую паштоўку зрабіць, потым раздрукаваць, набыць марак ну і даслаць. Але штука забаўная, бо звычайнай поштай лісты прыходзяць цяпер вельмі рэдка.

А яшчэ нейкіх пятнаццаць гадоў таму я перапісваўся кожны дзень са сваёй дзяўчынай, калі я або яна з'язджалі з горада на вёску падчас вакацыяў. А каб нармальна пагаварыць па мабільным, трэба было лезці на гарышча або на дрэва – дзе лепей брала сувязь.

## Парыж

Я б вельмі хацеў пабываць у Парыжы, хаця і не ведаю добра французскай мовы. І гэта пры тым, што я яе вывучаў у школе. Прычым вучыўся я, каб вы ўсё правільна разумелі, у школе з трапяткім стаўленнем да гэтай мовы. Цяпер гэта ўжо гімназія, адна з лепшых у горадзе.

Тады на "фрэнч", як мы яго між сабою называлі, мне было пляваць ад слова зусім. Што добрага можна сказаць на ёй? Якія вядомыя пісьменнікі ці акторы? Віктор Гюго? Аляксандр Дзюма? Луі дэ Фюнэс? Смех ды годзе! У час, калі я ішоў у свой першы клас, а потым вучыўся ў пачатковай школе, усе захапляліся англійскай мовай.

Я, насамрэч, доўга думаў, што акрамя Жоржа Сіменона там і блізка няма нікога вартага. А лічыў так, бо мы раз за разам пісалі сачыненні па яго творах і біяграфіі. Не ведаю, ці то нашая настаўніца яго гэтак ужо любіла, ці проста ёй было лянотна нешта шукаць. Але ён быў рэкардсменам па колькасці напісаных пра яго тэкстаў.

А ўжо потым я адкрыў для сябе вар'ята Селіна з ягонай шалёнаю прозай, якая нагадвае раздалбаную маршрутку, за стырном якой прыпылены кіроўца. Ты заходзіш у салон, знаходзіш вольнае месца і сядаеш. За вакном мільгаюць пейзажы, бусік то спыняецца, то зноў рэзка стартуе з

месца. Пасажыры выходзяць, на іхнія месцы садзяцца новыя. Ты нават не паспяваеш іх запомніць як след. Гэта і ёсць проза Селіна.

Прачытаеш колькі кніг, а потым цяжка прыгадаць – у якой што было. Праз гэта і шкадую, што не вучыў як след французскую мову, бо мог бы ў арыгінале чытаць творы гэтага сапраўднага літаратурнага бунтара.

## Быкаў

З падручніка па беларускай літаратуры для 9 класа, я добра памятаю ягоную сінюю вокладку, мне спадабаўся ўсяго толькі адзін твор – аповесць Васіля Быкава “Аблава”. Моцны тэкст, выразна антысавецкі. У той час ён падзейнічаў на мяне неверагодна.

Я тады толькі даведаўся пра БНР, Слуцкі збройны чын, балахоўцаў. Аказваецца, і ў нас было нешта сваё! Далей былі “На чорных лядах” і “Доўгая дарога дадому”, мая любімая кніга Быкава. Неверагодна асабістая і кранальная. У ёй уся трагічнасць беларускай нацыі. Я вельмі люблю яе перачытваць.

Але, па праўдзе кажучы, Васіль Быкаў не мой пісьменнік і тым больш не мой герой. Мне больш імпануе Максім Танк з ягонай рэвалюцыйнасцю, неўтаймаванасцю і лірычнасцю, гэты віленскі хуліган, які эвалюцыянаваў да паважанага чалавека, па якога прыязджала партыйная “Волга”.

Быкаў, а дакладней ягоная смерць, расплюшчылі мне вочы. Дзень ягонага пахавання быў сапраўдным *Illumination* у маім жыцці. Яшчэ раніцай я выпадкова ўбачыў вялізную чаргу каля Дома літаратара. Ейны хвост сканчваўся недзе ля самай Плошчы Перамогі. Нацыя развітвалася са сваім сынам. Каб правесці яго ў апошні шлях, прыйшлі тысячы, а можа быць і дзясяткі тысяч чалавек. Толькі для гэтага варта было жыць і пісаць. І варта было вярнуцца на радзіму. Такога я ніколі не бачыў ні да, ні пасля. Гэта была сапраўдная патрыятычная маніфестацыя, у авангардзе якой ішлі правыя. На архіўных кадрах можна пабачыць бела-чырвона-чорны сцяг, які лунае ў галаве калоны. Гэта быў той выпадак, калі яго сапраўды варта было ўзняць.

Пэўна, менавіта пасля таго дня ў мяне з’явілася амаль сінтаісцкая павага да старэйшых. Да дзядоў, якія моўчкі назіраюць за намі з выраю. У тым ліку і да беларускіх класікаў. Цяпер модна іх ганіць, паліваць брудам, аплёўваць, выстаўляць нікчэмнымі. Але чаго вартыя тыя, хто гэта робіць? Хацеў бы я паглядзець на іх, каб усе гэтыя “знаўцы” і “аматары” прыгожага беларускага пісьменства апынуліся хаця б на пару хвілінаў у кабінеце Цанавы.

## Купалле

Заўжды пасміхаюся, калі нехта кажа пра смерць традыцыйных святаў. Яны не паміраюць, яны змяняюцца ды эвалюцыянуюць. Купалле – адно з такіх. Знакавае, як і Каляды, ужо найперш паводле свайго сэнсу.

З дзяцінства люблю агонь, бо гэта – мая стыхія. Адпаведна, і Купалле з ягонымі вогнішчамі мне заўжды падабалася. Малым, разам з сябрамі, не мог дачакацца цемры, калі раскладалі агонь на беразе ракі. Усё як мае быць: вялікае вогнішча, песні, карагоды ды скокі.

У горадзе, на нашым раёне, таксама заўжды святкавалі. Але крыху

іначай, мадыфікавана. Строяў ужо не было, як і бярвенняў для вогнішча. Яго раскладалі са старых шынаў. Ніхто праз іх не скакаў, карагодаў не вадзіў, песняў не спяваў – проста моўчкі назіралі.

Бывала, што старэйшыя хлапцы прыносілі пальчаткі. Тады маглі адбыцца і двубоі. А бывала, што сыходзіліся і сценка на сценку. Па тузіне байцоў з кожнага боку, аголеныя торсы, кароткія прычоскі. Без жорсткасці, удары выключна па корпусе, каб без траўмаў і сінякоў. На двары былі суворыя часы – дзевяностыя, адпаведна, і святы былі спартанскага кшталту. Нешта ў гэтым было футурыстычнае.

## Юнгер

Чэл прыцягнуў мне цэлы стос кніжак Эрнста Юнгера. Ягоныя дзённікі і раманы, на якіх пісьменнік і зрабіў сабе імя. Рэдкія і дарагія (ва ўсіх сэнсах) для нашага краю выданні.

Цяпер сярод беларускіх кніжак ды спецыялізаванай літаратуры ў мяне на паліцы стаіць і ягонае “Авантурнае сэрца”. Неверагодна цікавая і прыгожая кніга, якая складаецца з цэлага шэрагу самых розных па тэматыцы замалёвак. Такі сабе калейдаскоп жыцця: кветкі, сны, вайсковыя будні. Гэта не першая кніга Юнгера, але першая, якую я прачытаў.

Агулам пра яго я ведаў і раней, але памылкова ўспрымаў як звычайнага салдафона, якога нельга назваць пацыфістам. Цікавы філосаф, добры стыліст і шукальнік прыгодаў, які пайшоў на фронт сам, бо ў вайне ён бачыў геаічны пачатак, магчымасць праявіць сябе і свае здольнасці.

Першую ягоную кнігу “У сталёвых навальніцах”, якая прынесла яму славу і вядомасць, навукоўцы параўноўваюць з запіскамі Максіма Гарэцкага “На імперыялістычнай вайне”. Аднак, разам з гэтым, яны абсалютна розныя. Гарэцкі не ўспрымаў гэтую вайну як сваю, таму пакутваў на фронце. Для Юнгера, які чатырнаццаць разоў быў паранены, гэта была прыгода з прысмакам трагедыі. Ён не быў добрым раманістам, але досвед атрымаў круцейшы за Рэмарка, які ў адным са сваіх артыкулаў залічыў Юнгера да асаблівага чалавечага тыпу.

Юнгера таксама можна параўнаць з Максімам Танкам, які цягам жыцця таксама ўвесь час вёў дзённікі. Але ў адрозненне ад немца Танк быў рэвалюцыянерам толькі ў маладыя гады. Потым, калі стаў ужо чыноўнікам ад літаратуры, закансерваваўся. Наўрад ці ён бы стаў спрабаваць ЛСД.

Самыя крутыя ды цікавыя адкрыцці чакаюць цябе ўнутры сябе самога...

## Селін

Маргінал, нігіліст, мізантроп – прыкладна так пішуць пра яго ў артыкулах. Урач па прафесіі, які з медыцынскай дакладнасцю паказаў хібы сучаснага яму свету.

Вядомы, найперш, сваім дэбютным раманам “Падарожжа на край ночы”, які распавядае пра жахі Першай сусветнай вайны. Ён вельмі спадабаўся Троцкаму, які напісаў даволі ўхвальную рэцэнзію на яго.

Раман выйшаў у пачатку 1930-х, добра разышоўся ў Францыі і свеце, друкаваўся нават у СССР. Праўда, у жудасным перакладзе Эльзы Трыале і з вельмі істотнымі купюрамі. Але за яго Селін атрымаў салідны ганарар, за якім яму давялося ехаць у першую дзяржаву чацвёртага саслоўя. Гэтае сваё знаёмства з савецкай рэчаіснасцю ён потым апіша ў адной са сваіх кніг.

“Падарожжа на край ночы” зрабіла сапраўдную рэвалюцыю ў французскай літаратуры. Яна нарэшце загаварыла мовай вуліцы – простымі словамі звычайных людзей. Бо да гэтага ў кнігах дыялогі былі ненатуральныя, складаныя. Ды і героі...

Добра гэта бачна па ягонай другой кнізе, якая называецца “Смерць у крэдыт”. Там аўтар распавядае нібыта пра сваё цяжкае нішчымнае дзяцінства. Мне, напрыклад, урэзаўся ў памяць момант, калі яго павялі ў заапарк і ён глядзеў на чалавека ў клетцы. Было такое, што людзей з экзатычных земляў, нібыта звяроў, саджалі ў клеткі.

Чаму нібыта? Бо даследчыкі дагэтуль спрачаюцца аб тым, ці было гэта насамрэч. Імаверна, што многае Селін прыдумаў і наўмысна згусціў фарбы.

А яшчэ ён не піў. І гэтым выразна адрозніваўся ад большасці пісьменнікаў, якія грашаць ужываннем алкаголю. У нашай літаратуры зусім не ўжываў згаданы Максім Танк.

## Самагубства

У літаратуры мне заўжды вельмі падабалася творчасць самагубцаў.

Місіма, Маякоўскі, Хэмінгуэй ды іншыя – у маім асабістым топе. Тыя, хто з нейкіх уласных, незразумелых, або наадварот – вельмі нават ясных прычынаў звёў рахункі з жыццём. Вось узяць старога Хэма. Пасляховы пісьменнік, не самы лепшы сем’янін, рыбак, паляўнічы.

Ён быў вельмі таленавіты, але алкаголь разбурыў яго. Калі глянуць познія фота пісьменніка, то там на твары выразна бачны адбіткі празмернага ўжывання моцных напояў. Дык ён ім і адводзіў значную ролю ў сваіх творах. А колькі іх было ў ягоным жыцці! Цяжка сабе ўявіць нават.

Потым ён яшчэ трапіў у вар’ятню і страціў памяць, а гэта было раўназначна смерці. Таму, відаць, і застрэліўся ў ліпені 1961 года. Нягледзячы на літаратурны поспех і фінансавую незалежнасць, жыццё ягонае было разбуранае.

Аповесць, за якую ён атрымаў Нобелеўскую прэмію, нудная і выпакутаваная. Кароценькі нарыс, які быў апублікаваны ў 1936-м годзе ў адным з нумароў часопіса “Esquire”, чытаецца нашмат лепей. Менавіта ў ім Хэм і згадвае ўпершыню старога кубінца, які злавіў вялізнага марліна.

## Дзень каранацыі Міндоўга

Пару гадоў таму паехаў я ў Вільню, каб там правесці дзянёк, а трапіў на святкаванне Дня літоўскай дзяржавы. Як чалавеку неабыякаваму да мінуўшчыны, мне было цікава паназіраць за тым, як літоўцы святкуюць каранацыю Міндоўга.

Яшчэ на памежным пункце я заўважыў, што на машынах літоўскіх памежнікаў маленькія чырвоныя сцяжкі з вершнікам. У самім горадзе шмат такіх сцягоў, пераважна ў моладзі. На дзяржаўных установах вісяць сцягі сучаснай Літоўскай Рэспублікі. Шмат у каго на дамах і кватэрах вісяць і адны, і другія сцягі – то бок гэта, відавочна, ініцыятыва людзей.

Лукішская плошча, відаць, была асноўным месцам святкавання. Сцэна, камеры, побач людзі ў народных строях песні спяваюць, іншыя адпачываюць, гуляюць у гольф, забаўляюцца з дзеткамі. Плошча больш нагадвала нейкі адзін вялізны пікнік, дзе ўсе між сабою добра знаёмыя, чым месца

святкавання дзяржаўнага свята. Праваахоўнікі таксама былі, але іхняя прысутнасць была мінімальнай.

Вяртаючыся дамоў, многа думаў у начным аўтобусе пра ўбачанае. Забаўна, але з усяго гэтага рэальны толькі год каранацыі – 1253. Ні сапраўднай даты, ні тым больш месца мы дакладна не ведаем. Бо ўсё гэта толькі версіі ды гіпотэзы, якія выказваюць гісторыкі. Кожны, вядома, на свой капыл.

Зрэшты, а няўжо так важна, дзе менавіта каранавалі Міндоўга? Нават калі ў чыстым полі, чым кепска?

## Хэмінгуэй і беларус

Існуе меркаванне, што ў галоўнага героя рамана “Па кім звоніць звон” Эрнеста Хэмінгуэя быў не проста прататып з рэальнага жыцця, а да ўсяго ён быў яшчэ і беларусам. І звалі яго Кірыла Арлоўскі – вядомы савецкі выведнік і дыверсант, а потым знаны на ўсю краіну саветаў старшыня калгаса.

Тое, што Хэмінгуэй і Арлоўскі былі знаёмыя, – факт. Яны жылі пэўны час у адным з мадрыдскіх гатэляў у 1937 годзе. Абодва прыехалі ваяваць на баку рэспубліканскага ўраду. Толькі амерыканец па ўласнай волі, бо меў абвостранае пачуццё справядлівасці, а беларус па заданні Масквы. Арлоўскі займаўся дыверсіямі ў тыле франкістаў, быў цяжка паранены. Сваёй храбрасцю ўражваў і натхняў іншых.

Цікава, што ў гэты ж час на баку франкістаў змагаліся беларусы-балахоўцы, а сам генерал Балаховіч быў пры штабе Франсіска Франка, дзе адказваў за выведку і дыверсіі.

## Тутэйшае

Па жыцці я не асабліва пераборлівы. Найбольш блізкая да сэрца, вядома, тутэйшая кухня. Няма больш смачнай стравы, чым скваркі з бульбаю, або мачанка з блінамі. Пісаў – згадалася, як у бабулі кожны ранак чакаў, калі яна спячэ бліноў. Тыя былі заўжды смачнымі, але яна дзяліла іх на тыя, што “ўдаліся” і што не. Чакаў і кот, які жыў у яе. А яшчэ ж было кіслае малако – лепшае за ўсе цяперашнія ёгурты. Шкада, што з цяперашняга малака не зробіш такога прадукту. А паляндвіца! Гэта ж лепей за любы хамон! Такі ад яе пах, што, здаецца, еў бы ды еў. А сала! Я і цяпер люблю кавалак заваліць. Хаця цярпець не магу ні цыбулі, ні часнаку. Сала – адзінае, дзе я цярплю іхні смак. Я і “Новую зямлю” люблю найперш за гастраномію. Памятаю, чытаў паэму і разумеў, што ежа, накрыты стол са стравамі – якраз і ёсць той мост, што нас яднае ў прасторы і часе. Зараз застаецца хіба што ўзгадваць з настальгіяй.

## Баксёр

У вясковым клубе сёння дыскатэка. Музыка чутная мне на двары і ў хаце. Схадзіў глянуць, хто там цяпер тусіць.

Не вельмі людна, хаця наведнікі, вядома, ёсць. Большасць, як і ў часы, калі я быў малым – моладзь. Але не так многа, як тады. Бо збіраліся тут натоўпы з усёй вёскі.

*Старшыя* ганялі нас, падшыванцаў, за тое, што мы выпрошвалі ў іх

цыгарэты. На кожнай вуліцы, а іх тут ужо, пэўна, з дзясятак, была раней свая тусоўка. Часам яны пачыналі між сабою варагаваць. Былі канфлікты і з залётнымі, якія прыязджалі на дыскатэку са сваіх вёсак. Пару разоў нам нават ламалі плот, калі ён яшчэ быў драўляным. Разбіралі яго на штыкеціны.

Залаты век!

Я вельмі любіў дыскатэкі, хаця і не слухаў ніколі музыку, якую там круцілі. Вёска мяне і заразіла начным жыццём, якое плаўна перацякло і ў горад. Навучыў яму мой сябар Цёма – таленавіты мастак, якога я шмат гадоў не бачыў. Сям'я, дзеці, праца...

Ён любіў тусавацца да самага ранку – да першых промняў сонца. А потым адсыпацца да абеду. Для мяне, падлетка, тое было проста неверагодна. Я прывык, што пасля дванаццатай трэба ўжо ісці дамоў, хаця і не вельмі хацелася. А тусуючыся з ім, стаў затрымлівацца. Мае, як правіла, спалі, таму ніхто асабліва не заўважаў маёй адсутнасці. А калі і заўважалі, то мяне чакалі адносна мяккія рэпрэсіі.

Звычайна мы ішлі на Нёман, палілі вогнішча, размаўлялі. Або проста сядзелі на аўтобусным прыпынку. На беразе ракі было больш бяспечна, бо там мы нікому не заміналі. А на прыпынку маглі прычапіцца якія залётныя, або мясцовыя даць кухталёў за тое, што не даем ім спаць.

Калі ў клубе не было дыскатэкі, то хадзілі ў лагер, які месціўся ў будынку старой школы. Там яны былі кожны вечар. Можна было добра павесяліцца і пазнаёміцца з якой прыгажуняй. Галоўнае – не нарвацца на баксёраў, якія таксама туды прыязджалі адпачываць з суседняга гарадка. Я адзін раз трапіў пад удар такога *спорціка*.

Ён запікеціў мяне на самым пачатку танцаў і прапанаваў выйсці пагаварыць. Я, не адчуваючы пагрозы, пайшоў за ім.

– Ты адкуль? Што ты тут забыў?

– Якая табе розніца? – дзёрзка адказаў я

– Паўтараю пытанне! – цяпер ужо з відавочным наездам сказаў незнаёмец.

– Ты хіба на вушы долбішся? – з усмешкай на твары перапытаў я.

І ў гэты ж момант атрымаў нечаканы ўдар у сківіцу. Затым яшчэ і яшчэ. Закрыўся і сагнуўся. Удары пасыпаліся па галаве, бы град. Я зразумеў, што ў мяне разбіты нос.

– Што тут адбываецца? – піскілявым голасам перарвала экзекуцыю сімпатычная важатая.

– Нічога, мы ўжо скончылі! – адказаў мой кат, які добра мяне толькі што адмалаціў ды збіраўся ўжо сыходзіць.

– Стой! Гэта я так проста не пакіну! – яна сказала сур'ёзна і ўзяла яго за каўнер.

Мяне – таксама, і павяла некуды ўглыб будынку старой школы. У ёй некалі вучылася мая бабуля ды і шмат хто са старых вяскоўцаў, якія тут нарадзіліся і выраслі. У 1937 годзе бабуля бачыла, як зрывалі партрэт Аляксандра Чарвякова, калі той застрэліўся. Расказала яна мне пра гэта толькі калі я ўжо пачаў пісаць і публікавацца, як нейкую неверагодную цікавостку.

Аказалася, што нас павялі да дырэктара. Той, праўда, доўга не мог зразумець, у чым жа, уласна, праблема. Ну, пабіліся хлопцы на дыскатэцы, з кім не бывае. Мо дзеўку не падзялілі, ці яшчэ што. Але сімпатычная важатая

настойвала на дэтальным разбіральніцтве з суворым пакараннем. Маўляў, нельга вось так проста біць гасцей лагера, прычым з яўнай жорсткасцю. Баксёр быў і старэйшы за мяне, і яўна дужэйшы. Хаця і меншы па росце. А да ўсяго яшчэ і добра трэніраваны.

– Дык што здарылася, з-за чаго атрымаў? – звярнуўся да мяне дырэктар, а потым перавёў погляд на баксёра.

– Ды нічога не здарылася. Не падзялілі дзяўчыну... – мне і самому не вельмі хацелася расцягваць гэтую камедыю. Я выдатна разумеў, што наўрад ці яго будуць моцна караць, ды і закладваць хлопца не вельмі хацелася. У двары з малых гадоў навучылі, што так рабіць як мінімум непрыгожа, а як максімум – нельга.

– А што! Я ж казаў! – з мясцовым каларытам прамовіў дырэктар.

– А як жа разбіты нос? – сімпатычная важатая разгублена глядзела на нас.

– Хіба першы раз? – спытаў ён, а я толькі адмоўна пакруціў галавой у адказ. – Да вяселля зажыве!

– Але гэта нельга так пакідаць! – працягвала важатая, папраўляючы акуляры.

– Праз хвіліну пасябруюць, вось пабачыш. Усё! Усе вольныя! – сказаў ён і адвярнуўся.

Мы выйшлі на калідор. Важатая незадаволена паглядзела на нас, цокнула ды, акруціўшыся, пайшла.

– Шэльма, выгнаць мяне хоча! – сказаў нечакана баксёр.

– Яно заўважна... – падтрымаў крыўдзіцеля я.

– Дзякуй табе, што не здаў! Мяне Лёшам зваць! – ён працягнуў сваю руку.

– Кастусь... – я паціснуў яе.

– Калі нехта будзе тут чапаць, то кажы мне – я разбяруся! Але глядзі, не гнявi старшых, бо тут я ўжо дапамагчы табе не змагу...

– Пастараюся...

Мы моўчкі спусціліся і пайшлі на танцпляцоўку. Кожны да сваіх сяброў. Аказалася, што Лёха – мясцовы, але ў суседнім гарадку займаецца ў баксёрскай секцыі, так і трапіў у лагер.

Сябраваць мы ніколі не сябравалі, але заўжды віталіся пасля таго выпадку і перакідваліся парай словаў. Сустракаліся выпадкова і ў Менску. А потым ён трагічна загінуў. Ніхто і цяпер дакладна не ведае, як. Хаця б прыблізна, бо я чуў ужо з дзясятак самых розных версій, якія аб'ядноўвае хіба толькі адно – сам факт ягонай смерці.

Заўжды, калі бываю на вясковых могілках, адведваю і яго, свайго крыўдзіцеля...

## Мост

Мост – маё асабістае "месца моцы". Самы звычайны жалезабетонны мост, якіх, думаю, багата на ўсёй былой постсавецкай прасторы. Але канкрэтна ў гэтым ёсць нешта такое, што прыцягвае. Побач з гэтым мостам тырчаць з вады палі ад старога драўлянага моста.

Калі прыязджаю ў вёску, то абавязкова прыходжу сюды, каб паглядзець на прастор з яго. Пэўна, самы любімы краявід. Ці, дакладней сказаць, звычны – бо, разглядаючы яго, разумееш, што свет усё яшчэ такі ж, як

быў год-два таму, нічога глабальна не змянілася. І вось да гэтай стабільнасці я сапраўды маю глыбокі сантымент.

Раней, калі Нёман добра разліваўся, мы скакалі з гэтага моста ў раку. Памятаю, у першы дзень, як адважыўся сам скочыць, зрабіў гэта разоў 8 – так мне спадабалася забава. Цяпер рака зусім мелкая і скакаць у яе проста небяспечна. Ды і няма ніякага жадання.

Але добра пастаяць, выпаліць цыгарэту, падумаць пра сваё.

## Пісьменніцтва

Каб добра пісаць, нічога па вялікім рахунку асаблівага і не патрэбна. Толькі асадка і нататнік, або смартфон ці ноўтбук. Усё астатняе – ваша фантазія, талент і ўменне.

Магчыма таму пісьменніцтва так слаба цэніцца ў сённяшнім свеце. Вядома, ёсць багатыя літаратары, якія зарабляюць мяхі грошай сваёй творчасцю. Але збольшага пішуць яны канкрэтны такі попс, які любяць шырокія народныя масы. То бок яны ў гэтым плане не столькі творцы, колькі рамеснікі.

А тыя, хто менш заўважны і адпаведна менш папулярны, хто не хоча быць затычкаю ў кожнай бочцы, вымушаны зарабляць іначай. І толькі рэшту свайго жыцця адводзіць творчасці. Справядліва? Напэўна... Свет – не міністэрства добрых спраў, ніхто нічога нікому не абавязаны.

Самая горкая рэч – растрачаны або нераскрыты талент. Бачыў такое ў нашых рэаліях не адзін раз, ды і сам, відаць, з гэтай жа кагорты. Калі чалавек, у прынцыпе, таленавіты, піша нешта цікавае, мае арыгінальныя думкі, але нешта замінае яму раскрыцца напоўніцу.

Самае кашмарнае – калі прычына ў побытавых пытаннях. Скажам, трэба болей працаваць, а не займацца творчасцю. Знаёмы з некалькімі такімі людзьмі, якія кінулі ў свой час літаратуру, бо хацелі зарабляць добрыя грошы. А цяпер некаторыя з іх наракаюць на сваю нерэалізаванасць.

“Вось табе, Косцік, класна, ты вольны чалавек”, – казаў мне адзін такі недапісьменнік за куфлем піва. А я толькі ўздыхаў у адказ.

## Матылі

Бывае, у пакой, дзе я пішу, залятаюць матылькі. Белыя, чорныя, рознакаляровыя. Прыгожыя і не вельмі. Шумныя і ціхія.

Я іх выганяю не адразу, спачатку доўга разглядаю. Канечне ж, яны не такія розныя, як матылькі ў экзатычных краінах. Тыя маюць вельмі каларытную афарбоўку.

Можа быць я нават збяру калі-небудзь сабе калекцыю матылёў. Не такіх рэдкіх, як у Аляксандра Праханава, прасцейшых. А можа быць заведу сабе прыгожыя кветкі. Я іх вельмі люблю. І на старасці гадоў стану вар’ятам-садоўнікам, які вырошчвае ружы.

## Агонь

Вельмі любіў глядзець, калі бабуля пачынала паліць у печы. Найбольш важны момант – як пачынае разгарацца полымя.

Як і іншым дзецям, мне падабалася раскладаць вогнішчы. Бабуля, памятаю, усё перажывала, што рана ці позна нараблю пажару. І баяла-

ся не на пустым месцы – да вайны вёска адзін раз ужо гарэла, бо двое мальцаў расклалі вогнішча, якое потым не змаглі патушыць. Выгарэлі цэнтральныя вуліцы.

“Глядзі, бо цябе потым жыўцом у вогнішча кінуць!” – пужала мяне яна. Але ж гэта не спыняла малога шукальніка прыгодаў: я браў запалкі, ішоў на рэчку, дзе раскладаў вогнішча.

Аднаго разу пайшлі з маці на Купалле. Кампанія была вялікая – сваякі і блізкія. Вакол шмат іншых людзей. Песні, танцы, конкурсы. Мне было абсалютна нецікава, пакуль не запалілі купальскае вогнішча. Аграмаднае, яно было бачна здалёк, і я быў проста зачараваны гэтым вялікім агнём. Ніяк не мог адарвацца ад гэтай прыгажосці. Не ведаю, што мной кіравала, але я падняўся і падышоў да яго, а потым паспрабаваў выцягнуць з сярэдзіны галавешку. Сілаў не хапіла, таму ў выніку я проста апёк рукі. Добра, што шнараў не засталося.

Яшчэ любіў прыходзіць на другі дзень, каб наноў раскласці вогнішча. Нешта ў гэтым было – прыбегчы раніцой, набраўшы дома дроў, ды спрабаваць распаліць. Мне агулам падабалася запальваць чужыя вогнішчы, падтрымліваць агонь.

Аднаго разу, распальваючы такое вось кінутае вогнішча, я так заўзята дзьмуў на вугалі, што іскрынкі трапілі мне ў вочы. Давялося звяртацца да ўрачоў і лячыцца, бо са зрокам маглі быць вельмі сур’ёзныя праблемы. Але ўсё абыйшлося...

## Могілкі

Ніяк не магу пераадолець сябе – пачаць прыносіць кветкі да помнікаў нашым выбітным дзеячам у дні нараджэння і памяці. Жаданне ёсць, але разам з гэтым стаіць нейкі ўнутраны ступар. Відаць, з-за таго, што я не люблю могілкі і ўсё, што з імі звязана. Нават на “Дзяды” даўным-даўно не хаджу ў Курапаты, толькі да іх.

## Крывавы вір

Пра дзядзьку Якуба можна гаварыць бясконца...

Узяў учора пад настрой у рукі томік беларускай прозы 1920-х гадоў. Першы ў хрэстаматыі Якуб Колас з пяццю апавяданнямі.

Чытаў іх і раней, але цяпер зайшло абсалютна па-новаму. Найбольш спадабаўся “Крывавы вір”, у якім гаворка ідзе пра рэвалюцыйныя падзеі на Куршчыне.

Калі казаць пра гэты тэкст у двух словах, то гэта трагічная гісторыя студэнта Грышы, паніча, які спачатку тапіў за рэвалюцыю, а як “пачалося”, дык не змог справай даказаць вартасць сваіх словаў. За што і паплаціўся ў выніку жыццём. Бо лёгка прытапліваць за перамены, але зусім няпроста за іх ваяваць і тым больш паміраць.

Фішка ў тым, што Колас добра паказвае матывацыю кожнага з бакоў – і паноў, і мужыкоў, а Грыша атрымліваецца недзе пасярэдзіне. Маральна ён на баку мужыкоў, але паходжанне таксама дае пра сябе ведаць. І вось гэтая ягоная нявызначанасць у выніку і прыводзіць да сумнага фіналу.

Ясна, на чыім баку аўтар, але ж ён паказвае і альтэрнатыўную пазіцыю. То бок, гэта не сацыяльная агітка, дзе адны харошыя, а другія – дрэнныя.

Тут у кожнага свая праўда. Прычым раскрываецца яна не праз розныя ідэалагічныя клішэ, а праз чалавека. Гэтым тэкст пачынаецца, гэтым жа ўласна і сканчваецца.

Таму ў мяне выклікае ўсмешку, калі бачу, як у сеціве час ад часу пішуць розныя гадасці пра нашых класікаў і падмацоўваюць свае "тэзы" выдранымі з кантэкста рознымі сканамі з часопісаў і газет змрочнай сталінскай эпохі.

Трэба капаць глыбей за газеткі, а думаць – шырэй, глядзець за гарызонт. І тады, магчыма, адкрыецца сапраўдны далягляд. Дарэчы, гэты тэкст, як па мне, перагукаецца з горкаўскім "Анекдотам", які быў апублікаваны праз год пасля коласаўскага апавядання.

## Мёртвыя

Я выдатна разумею гісторыкаў і літаратараў, якія ў сваёй творчасці звяртаюцца да мінулага. Гэта не толькі спроба адшукаць нейкія разгадкі, але ж і пратэст супраць сваёй эпохі. Яна заўжды падаецца ў разы больш самотнай, чым тое, што было раней. Будучыню мы не ведаем, таму прыдумляць тое, што будзе, складаней. Не кожнаму дадзена. А вось абраць нешта з прамінулага па сваім гусце – гэта заўжды калі ласка!

Менавіта таму ў нашых шыротах, збольшага занураных менавіта ў мінуўшчыну, так шмат імперцаў, белагвардзейцаў, народнікаў, пілсудчыкаў, беларусцаў і, вядома, ліцвінаў. Людзям камфортна жыць у прыдуманым свеце, які ўжо адбыўся ў лепшым выпадку 100 гадоў таму.

Яны ведаюць, што і як было, таму галава не будзе балець за адказнасць і будучыню. Пераможцы ведаюць, як яны перамаглі, пераможаныя – чаму атрымалі паразу. І ўсіх задавальняе гэты *status quo*. Каму баляваць, а каму пакуты.

## Жыццё

Жыццё, вядома, рэч каштоўная. І распараджацца ім трэба ахайна. Некаторыя з маіх знаёмых, майго веку і маладзейшыя, ляжаць ужо на могілках. У большасці выпадкаў – праз уласную дурасць. І толькі адзінкі пайшлі да дзядоў праз хваробы і сапраўды няшчасныя выпадкі.

## Чытаць і пісаць

На вячэрні шпацыр не пайшоў – за вакном залева.

Сеў чытаць і пісаць. Я гэтыя справы люблю спалучаць – троху парабіў адно, потым узяўся за другое. Самы лепшы занятак у свеце, які толькі можна сабе прыдумаць.

Калі бяру ў рукі асадку, адкрываю файлік або разгортваю кнігу, то забываю аб усім на свеце. За кнігай магу лёгка прасядзець ноч і нават не заўважыць. Лепшая вандроўка, асабліва калі нікуды не выехаць, можа адбыцца ў тваёй галаве.

"Усё ў тваёй галаве, Косцік!" – менавіта так казаў мне калісьці трэнер, калі ў мяне нешта не атрымлівалася. І меў рацыю, бо ўсё сапраўды там.

За вакном прыемна шуміць дождж, бліскаюць маланкі, а я чытаю свежаперакладзены раман Юкіа Місімы, які быў напісаны паўстагоддзя таму. Праўда, у мяне толькі першыя дваццаць старонак. Астатняе – калі выйдзе кніга. А я ўжо хачу працягу...

## Рок-зорка

Пісьменнік Юкіа Місіма меў вельмі добрае пачуццё стылю і ўмеў добра апранацца. Любіў таксама пагаварыць з выпадковымі людзьмі. Быў блізкі да народа, як цяпер сказалі б. Адзін з ягоных таварышаў прыгадвае такую гісторыю.

Неяк ён разам з Місімам выклікаў таксі. Калі селі ў салон, разгаварыліся з кіроўцам. Нічога дзіўнага, бываюць такія таксісты, што толькі загавары – дык ён да самай высадкі не сціхне. Будзе аб усім на свеце гаварыць.

– Як вы думаеце, хто я? – спытаў нечакана Місіма кіроўцу.

– Рок-зорка! – не асабліва задумваючыся, адказаў той.

Згодны з таксістам ды і з Місімам: сапраўдны пісьменнік павінен выглядаць так, каб яго заўжды ўспрымалі рок-зоркай. Вядома, гэта ў ідэале, але ж да гэтага варта імкнуцца.

Але ў гісторыі гэтай ёсць яшчэ адзін важны момант – можна быць прызнаным, пісаць харошыя творы, якія прыносяць вельмі добры прыбытак, імя будзе на слыху, але ж пазнаць цябе могуць далёка не ўсё. Асабіста я гэта ўспрымаю хутчэй як плюс.

## Memento mori

Па вечарах я выходжу на шпацыр. Вёска, прырода, музычка, адзінота. Што яшчэ трэба?

Аднаго разу побач спыняецца бумер, апускаецца шкло.

– Заскоквай у каляску! – кажа мне сябар, якога я даўно не бачыў. Сама меней гады два, а можа нават і болей.

– Куды едзем? – не раздумваючы, сядаю, бо лічу, што самыя лепшыя сустрэчы – выпадковыя. Ціснем рукі.

– Гонім па піва ў горад. Будзеш?

– У мяне нават бабак з сабою няма... – разгублена кажу яму.

– Не праблема! – ён круціць у руках залатую картку.

Машына нясецца асфальтаванай дарогай у кірунку горада. Калісьці яна была сакрэтнай і карысталіся ёй толькі вайсковыя, простым смертным было забаронена. Але гэта было так даўно, яшчэ да вайны, калі тут была памежная зона. А за полем ужо пачыналася панская Польшча.

Рэдкія машыны едуць насустрач, з горада, бо сёння пятніца. Мы размаўляем аб усім і ні аб чым, скачучы з тэмы на тэму: палітыка, заробкі, агульныя знаёмыя, выпіўка, дзеўкі, футбол.

Крута залятаем на запраўку і тарымся бухлом. Вяртаемся назад. Сябар дае мне пляшку, сам адкрывае другую.

– Ну, за сустрэчу! – дэманстратыўна па-беларуску кажа ён, і мы чокаемся.

У салоне цішыня. Кіроўца сканцэтраваўся на дарозе, а мы з сябруком кожны глядзіць у сваё вакно. Ён паліць айкас.

– Пра што думаеш? – перарывае цішыню сябар, дапаліўшы.

– Думаю пра смерць...

– Нахуа?

– Аўтар “Хагакурэ”, японскага самурайскага кодэкса, раіць кожны дзень па некалькі разоў думаць пра смерць, і калі яна прыйдзе, ты будзеш гатовы...

– Херня! Ніколі не будзеш!

– Вашу маць! – уключаецца крыкам кіроўца і б'е па тармазах. Ад рэзкага тармажэння я разліваю сабе на шорты піва. З гушчару на дарогу, літаральна ў некалькіх метрах ад машыны, выскоквае здаровы і яшчэ бязрогі малады лось ды нясецца некуды па сваіх справах.

– Харашо, што не злавілі яго капотам, – кажа сябар з іроніяй.

– Харашо! – згаджаюся я.

– І падвязвай ты ўжо розную херню чытаць! Самураі, кодэксы, смерць – мы ж не ў сярэднявечнай Японіі жывем!

## Плітачнік

Летнім вечарам горад робіцца абсалютна мёртвым. Нават «Цэнтральны», які заўжды перапоўнены самымі рознымі персанажамі, імкліва пусцее. Застаюцца хіба што самыя стойкія экзэмпляры

Колькі дзён таму адбылася даволі забаўная размова, якая мяне ніяк не можа пакінуць абыякавым. Сабраліся мы з таварышамі выпіць піўка. Канечне ж на "Цэнтральным". Дзе ж яшчэ нам збірацца?

Мне, па праўдзе кажучы, гэты "народны тэлевізар" не вельмі падабаецца, але даводзіцца ісці на кампраміс, калі хочаш пабыць у кампаніі. І вось адзін знаёмы падыходзіць да мяне і пытае:

– Слухай, Кастусь, а ты праўда рэдактар сайта? Мне тут сказалі нядаўна...

– Праўда! – не даю дагаварыць яму да канца.

– І праўда, што яшчэ і пішаш нешта?

– Праўда! – паўтараю сказанае. – А ты што думаў? Хто я?

– Ну... – задумаўшыся, кажа знаёмы і працягвае: – Думаў, ты мо плітачнік які...

Словы знаёмца былі падтрыманыя вясёлым рогатам астатніх. А я вось думаю ўжо каторы дзень, як ставіцца да іх? Гэта абраза або камплімент? Тым больш, калі я ўсё жыццё свядома ішоў да таго, каб мяне ўспрымалі выключна такім сабе брутальным чэлам.

## Вандроўкі

Згадалася нешта пару яскравых момантаў з мінулага.

Як з сябрамі выбраліся ў паход на Вязынку ды заблукалі. Позна паехалі, было вельмі цёмна.

Як пад Крутагор'е ездзілі на возера з начоўкаю. Тады яшчэ Перчык не захацеў спаць у маім намёце ды пайшоў на чыгуначную станцыю начыць у адзіноце.

Прыкольна было, як заблукалі ў лесе пад Гальшанамі. Я тады ўпершыню ўбачыў закінутую вёску – вялікую і зусім без людзей. І брукаванка сярод лесу таксама ўразіла. Яна вяла да былога маёнтка, ад якога нічога зусім не засталося. Пра колішнюю панскую веліч нагадваў хіба што прыгожы сад, дакладней, ягоныя абрысы.

І спалі мы потым проста ў намёце побач з рэйкамі, чакаючы свайго дызеля. Людзі высоўваліся ў вокны з цягнікоў, якія праязджалі і не спыняліся, ды афігевалі з нашага лагера.

Вядома, запомніліся і некаторыя выправы на футбол. Найбольш, відаць, выезд у Гародню, на які я прыхапіў з сабою жонку. Цэлы дзень ліў дождж

і, да ўсяго, мы яшчэ не патрапілі на гульню, таму проста снаўдаліся па горадзе. Зайшлі і ў Каложу, вядома.

Пра ўсе гэтыя рэчы варта было б напісаць. Калі не апавяданні, дык хаця б абразкі. Бо сюжэту ў іх асабліва і няма, а прыдумляць нешта ну зусім не хочацца.

## У чаканні новага

Адна з самых любімых часінаў у юнацтве – перад школай. Было вельмі класна, калі вяртаўся з вёскі за некалькі дзён, а лепш за які тыдзень, да пачатку заняткаў.

Здавалася б, усё тое ж самае: той жа горад, той жа раён, тая ж тусоўка ў двары. Але глядзелася ўсё зусім па-новаму. За нейкія тры месяцы мяняліся мы да непазнавальнасці – выраслі, прыгажэлі, разумнелі, дурнелі. І ўсё было цікавым.

Кожны прывозіў з сабою ў запасе новыя ўражанні, досвед, гісторыі, рэчы. Таму нават тыя, хто цярпець не мог адзін аднаго, неяк прыціраліся – знаходзілі агульную мову. Вядома, часова. А потым пачыналіся заняткі, флёр навізны знікаў, і ўсё рабілася, як было.

## Майстэрня

Выпіваць заўжды лепей атмасферна: з раённікамі – на раёне, з фанатамі – на выездзе, з творцамі – у храме мастацтва. Жыццё павінна быць насычаным.

Раней я ніколі не бываў у майстэрні.

Мы пілі добры армянскі каньяк і размаўлялі сярод працаў скульптара. Прыгожыя, вытанчаныя, з глыбокім сэнсам – стаялі вакол нас вялікія і малыя скульптуры. На сцяне вісела электрагітара, а ў куце адпачывала груша, якую скульптар малоціць у вольную хвіліну.

– Як табе? – спытаў нечакана мяне ён.

– Крута! – адказаў я агледзеўшыся.

Я быў, насамрэч, вельмі ўражаны. Ад усіх гэтых вобразаў, а можа і ад каньяку, галава мая закружылася. Бо гэта проста неверагодна, калі ўмееш нешта рабіць рукамі і ператварыць кавалак каменя ў такую вось прыгажосць.

Я шчыра не разумею буржуяў, якія маюць вялікія грошы, але не могуць ці не хочуць аздобіць свае харомы такімі вось прыгожымі рэчамі. Замест гэтага яны часцяком гоняцца за папсовым кічам, які да ўсяго яшчэ і не танна каштуе.

"Крута!" – гэта было адзінае слова, што вырвалася тады з мяне.

## Настальгія

Праміналае лета, мякка кажучы, можна ахарактарызаваць толькі двума словамі – так сабе.

Халоднае ва ўсіх сэнсах. Па ўласных адчуваннях – даўно такога не было, а можа быць нават ніколі.

Памяць хутка прыбірае ўсё негатыўнае, пакідаючы толькі добрыя ўспаміны. Тым больш, калі за такім "ніякім" летам прыйшла фантастычная восень. І нечакана цёплае "бабіна лета", якое проста не можа не радаваць.

Нібыта прырода вырашыла кампенсаваць свой пракол. І хочаш не хочаш, але адна карцінка мяняецца другой. Ілюзія светаўспрыняцця.

Увесь час намагаюся думаць пра тое, што жыць трэба тут і цяпер. Гэта найлепшы варыянт з усіх магчымых. Але ж усё часцей думкамі вяртаюся ў мінулае. Настальгія... Адна з тых рэчаў, якая непадуладная розуму.

Колькі не адкідай яе, але ж раз-пораз усё адно будзеш вяртацца да таго, што ўжо было і ніколі не паўторыцца. Тым больш, калі з малых гадоў быў захоплены гісторыяй...

## Пхеньян

Мне прысніўся сон – я разам са Святланай нібыта прыляцеў у Пхеньян. Мы выйшлі з самалёта, і нас радасна сустракалі мясцовыя жыхары. З аэрапорта адразу ж выправіліся гуляць па сталіцы Паўночнай Карэі.

У сне горад быў вялікі і прасторны, з шырокімі праспектамі, вялікімі будынкамі і сучаснымі хмарачосамі. Аўтамабільных затораў не было, бо ў Пхеньяне амаль няма аўтамабіляў. Да гасцініцы, у якой нас пасялілі, мы даімчалі надзвычай хутка – кіроўца ляцеў на вялікай хуткасці, аб'язджаючы дзяцей, што гулялі пасярод дарогі.

Гасцініца аказалася старасавецкім будынкам, які пабудавалі яшчэ, пэўна, у часы Кім Ір Сэна. Нумар быў аскетычны і па-чучхейску просты, але ў ім можна было знайсці ўсё неабходнае.

Людзі ходзяць строем, спяваюць, танчаць, п'юць піва ды рысавую гарэлку. На плошчах з гукаўзмацняльнікаў грае вайсковая музыка. Пасля шпацыру па горадзе мы трапілі ў Акадэмію ідэалогіі Чучхэ, дзе павінны былі праслухаць лекцыю пра дасягненні паўночнакарэйскага сацыялізму.

Найбольш мяне ўразіў Манумент ідэям Чучхе, які ўяўляў сабою велізную паходню, вышынёй дзве сотні метраў. Я стаў каля манумента і паглядзеў угару. Галава закружылася. На гэтым моманце я і прачнуўся...

## Дзень Незалежнасці

Да Пхеньяна я наўрад ці калі-небудзь даеду. Дарага і далёка. Няма пакуль лішніх грошай на такія трыпы. А вось завітаць у амбасаду КНДР пры нагодзе – чым дрэнна? Тым больш для чалавека, які спрабуе стаць пісьменнікам. Выраз не мой, а Хэмінгуэя. Так ён сябе характарызаваў у маладыя гады, калі быў не асабліва яшчэ вядомым.

Пісьменнік спазнае ўсё эмпірычным шляхам, а потым, прапускаючы праз сябе, выдае ўжо нейкі твор. Нават калі сюжэт цалкам прыдуманы, за ім абавязкова павінен быць хоць бы нейкі жыццёвы досвед.

Добра пішуць дэтэктывы тыя, хто хаця б неяк звязаны з крымінальным светам, а пра вайну – хто там бываў. Ну, і далей па спісе. Нездарма ж дагэтуль усе зачытваюцца дзённікамі Юнгера, а першы раман Селіна зрабіў сапраўдны пераварот у французскай літаратуры.

Прыём з нагоды Дня незалежнасці мне спадабаўся. Людзей было няшмат, усё па-простаму, як бы вяселле ці выпускны на катэджы, як робіць цяпер часта моладзь. Я быў адзіны, хто выглядаў там як сапраўдны мілітарыст. Мне імпануе гэты стыль, і для бастыёну ідэяў Чучхе ён, здаецца, вельмі нават пасуе.

Уразіла, што не было там ні аховы, ні праверкі дакументаў, ні іншых

фармальнасцяў падобнага кшталту. Прыём як прыём. Хаця здавалася б – я быў на тэрыторыі адной з самых закрытых краінаў у свеце. У Паўночную Карэю і па запрашэнні не так проста трапіць.

Пазнаёміўся з амбасадарам і ягонымі памочнікамі, нават удалося перакінуцца з імі парай словаў. Простыя і шчырыя людзі, якія таксама ўсміхаюцца ды могуць дасціпна пажартаваць. І нават сэлфі з імі можна зрабіць.

“Все как у людей”, – як спяваў некалі неўміручы Летаў.

## Прыказка

“Першага торгу не мінай!” – так часта казала мая бабуля. Выраз гэты значыць, што як на нешта вырашыўся, то варта дзейнічаць, а не цяліцца і гандлявацца. Ніколі больш не чуў яго ні ад каго і нідзе не сустракаў у тэкстах, хаця, натуральна, гэта не ейная прыдумка.

## Магія лічбаў

Васіль Быкаў пайшоў з жыцця ў дзень пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Максім Танк нарадзіўся ў дзень уз’яднання Беларусі. Гэтыя тэмы іх і зрабілі аўтарамі нацыянальнага маштабу.

## Мяжа

Папрасіў сябра закінуць мяне ў вёску.

Тэарэтычна, наш шлях не быў складаным: нам усяго толькі трэба было выехаць з горада на трасу “Мінск-Брэст”, павярнуць за Дзяржынскам на Энергетык, дабрацца да Узды, а там, акруціўшыся на гарадской развязцы, праехаць яшчэ каля двух дзясяткаў кіламетраў. У рэальнасці ж усё выйшла складаней.

Пакуль я валяўся цэлы дзень на канапе, за вакном увесь дзень без перапынку ішоў халодны восеньскім дождж. А як толькі сонца села за далягляд, на зямлю выпаў шэры дым туману, які крок за крокам адваёўваў сабе тэрыторыю, захопліваючы не толькі вольную прастору, але і подступы да горада, з якога мы выбраліся толькі праз гадзіну пасля сустрэчы з Шэфам – не давалі гэтага зрабіць непераадольныя аўтамабільныя заторы.

І вось мы нясемся на вялікай хуткасці па трасе. Так звычайна ездзяць у фільмах па закінутых дарогах і гарадах падчас вайны, каб не патрапіць пад абстрэл праціўніка. Дарога амаль пустая – з гораду нікога няма, усе вяртаюцца ў Менск.

Па абодвух баках ад яе ўсё ў тумане. Толькі недзе ў далечыні прабіваюцца праз шэрую імглу, якая часам выбіраецца і на дарогу, слабыя агеньчыкі ліхтароў. Здаецца, што нехта запаліў удалечыні вялікія вогнішчы. Шмат вогнішчаў. Нібыта нейкае свята.

Шэфу ўсё па барабане – ён добры і вопытны кіроўца. Першы з нашай кампаніі займеў аўтамабіль. Мы амаль не размаўляем, бо ён ўважліва глядзіць на дарогу. Час ад часу паліць, адчыняючы вакно. І тады я разам з цыгарэтным дымам адчуваю пах туману, гэтую сумесь вільгаці і свежасці. Яго цяжка пераблытаць з чым-небудзь яшчэ.

Я моўчкі гляджу ў вакно і думаю пра дарогу, па якой мы едзем. Мала хто ведае, што траса «Мінск-Брэст» належыць да Еўрапейскага марш-

руту E30, які злучае ірландскі горад Корк і Омск, радзіму Ягора Летава. Гэты вялікі еўрапейскі шлях праходзіць праз Ірландыю, Вялікабрытанію, Нідэрланды, Германію, Польшчу, Беларусь і Расію, а яго працягласць складае 5800 кіламетраў. Вось гэта адлегласць! Праехаць бы яе калі-небудзь з сябрамі, спыняючыся на шляху ў танных прыдарожных гатэлях і забягалаўках. Каб пабачыць сапраўднае жыццё.

– Паходу, мы праехалі,– адарваў мяне ад сваіх думак Шэф.

– Ну так, нешта я не памятаю такога, – адказаў я, агледзеўшыся. – Мясцовасць зусім незнаёмая.

– Я пра тое ж. Трэба спыняцца, бо так да самага Брэста будзем ехаць! – Шэф тармазнуў.

Спыніўшыся на ўзбочыне, мы выйшлі з машыны. Траса была пустая і абсалютна незнаёмая, а гэта значыла, што мы даўно праляцелі свой паварот, які хутчэй за ўсё з'еў туман, разам з мостам, на які нам і трэба было б збочыць.

Пакуль Шэф даставаў і ўключаў навігатар, я крыху прайшоўся. У мяне не было ніякага сумневу – мы недзе пад Стоўбцамі. Мае здагадкі пацвердзіў Шэф, які закрычаў мне, што мы даўно праехалі Коласава, але спыніліся добра – наперадзе ёсць развязка.

Недзе тут быў знакаміты памежны пераход, за якім канчалася чырвоная рабоча-сялянская імперыя і пачынаўся буржуазны свет. Шмат вядомых людзей праехалі праз гэтае месца ў абодва бакі, а амерыканскі часопіс "Life" нават змясціў у адным з сваіх нумароў рэпартаж з савецка-польскай мяжы, дзе сярод іншых быў здымак і гэтага пераходу. На ім лес, цягнік, домік і арка з надпісам "Привет трудящимся Запада!"

Вяртаючыся да машыны, я падумаў пра 1939 год, калі ў верасні адбылося аб'яднанне Заходняй і Усходняй Беларусі – дата надзвычай важная для нашай гісторыі. І дарожны знак, які паказвае, што да Брэста, а гэта значыць, да цяперашняй мяжы засталося трыста з лішкам кіламетраў, гэта добра пацвярджае.

Вярнуўшыся на патрэбны паварот, дабраліся да вёскі без прыгодаў.

## Вёскі

Пакуль ехалі, я разглядаў наваколле. Пустыя вёскі, якія запаўняюцца жыхарамі хіба што на лета. Дачнікі. Як у творах вялікай рускай літаратуры – летам на выходныя на дачу, на лецішча. Палоць грады, касіць траву, рабіць справы па гаспадарцы. Увечары шашлык, піўко, забавы. Добра, калі побач ёсць рака. З нашым кліматам ніякай Турцыі не трэба. Усё ж і так all inclusive!

А цяпер тут нікога няма. Пуста. Увечары вокны гараць добра калі праз хату. А бываюць і цэлыя вуліцы пустыя. Ні душы! Няма нікога. Старыя хай сабе, яны кладуцца рана спаць, каб потым гэтак жа рана ўстаць. А дзе моладзь? Здаецца, што няма зусім нікога. І толькі дзенідзе на прыпынках трапляюцца часам здані-сілуэты. Сядзяць у сваіх смартфонах, пра нешта, відаць, гавораць. Некалі і мы так збіраліся. На прыпынку было цікавей, чым у клубе. Уга! Тут табе такіх навінаў распавядуць, што больш нідзе не пачуеш. Такому навучаць! Вось дзе сапраўдная школа жыцця.

## Кансерватызм

Быць кансерватарам у нашых краях справа вельмі няўдзячная. Кансерватарам трэба быць там, дзе, як кажа мой сябар, ёсць робаты, Ілан Маск і электроннае чыпаванне. У нас жа кансерватызм патыхае верай у духаў і выклікае асацыяцыі з лудызмам ці чымсьці такім.

## Сербскі рэстаран

У самым цэнтры Менска, на месцы былога бара “Радзівіл”, адкрыўся рэстаран сербскай кухні. Сціплы, просты, з утульнай атмасферай. Такі ж самы, як у Белградзе. Яно і не дзіва, бо працуюць у ім сербы і належыць ён сербу.

Петар, так завуць гаспадара, сам стаіць за стойкай. Просты такі крэпенькі дзядзька гадоў пяцідзесяці з сівой барадою. Як толькі заходзім з таварышам, адразу ж усміхаецца і вітаецца з намі. Мяне ён запомніў разу з другога. Выбіраем вольныя месцы, сядаем. Праз пару хвілінаў Петар падыходзіць, каб прыняць замову.

– Мне вялікую плескавіцу і піва! – кажу я яму. Петар задаволена ківае.

– Мне малую і колу.

– Малую, таму што еў ці таму, што меншы за яго? – жартуе Петар

– Таму што еў, я з дома. – адказвае таварыш.

Петар ідзе рабіць замову. А мы гаворым пра сваё пад нягучны югаслаўскі *rock-n-roll*. Думаю, гэта адзінае месца ў нашым горадзе, дзе круцяць музыку гэтай даўно ўжо неіснуючай краіны. Таму што для сябе.

Праз якія паўгадзіны нам прыносяць замову – дзве вялізныя катлецiны з ялавічыны ў піце ўласнага вырабу з памідорамі, гуркамі і цыбуляю. Адзін у адзін як у Бялградзе. Ёсць з чым параўнаць, калі еў хаця б адзін раз. У іх гэта нешта кшталту фастфуду. Таму зусім не дзіва, што на Балканах усялякія макдональдсы не асабліва прыжыліся. Бо ёсць сваё.

Ледзь справіўшыся з плескавіцай, ідзем да стойкі, каб разлічыцца.

– Ну як, паелі? Смачна было? Усё спадабалася? – пытае нас Петар. І гучаць ягоныя словы неяк па-бацькоўску шчыра. Як бы ён сапраўды перажывае за тое, каб мы раптам, крый Божа, не сышлі ад яго галоднымі.

– Было вельмі смачна! – дзякуе таварыш. Я таксама дзячу.

– Заходзьце часцей! – крычыць нам у спіну Петар.

– Трэба неяк сабрацца ды сюды прыйсці паглядзець футбол, – падсумоўвае таварыш.

## Ускрайкі

На гарадскіх ускраінах рэдка нешта істотна мяняецца, але здараюцца і выключэнні. На выхадзе са станцыі метро “Магілёўская” пабудавалі вялікі гандлёвы цэнтр, а праз дарогу царкву.

Цяпер чэсны пралетар, які выйшаў з прахадной завода колавых цягачоў, можа перад дарогай у свой утульны спальнік або гульнуць, або завітаць у храм божы.

На прыпынку грамадскага транспарту, які ідзе на раён, заўжды сустрэнеш каго-небудзь знаёмага. Вось, разам са сваім хлопцам ці мужам, стаіць Васіліса – дзяўчына, з якой я хадзіў разам у дзіцячы садок. Яе нізкі, нібы пракураны, голас немагчыма пераблытаць. Ён і цяпер такі ж самы, як і многа гадоў таму – нічога не змянілася. Мяне яна не пазнала.

Напэўна, едзе да бацькоў у адведкі. А куды яшчэ ехаць маладой дзяўчыне разам з хлопцам у нядзелю раніцай? Не са змены ж яны вяртаюцца.

Васіліса выходзіць за два прыпынкі да дыспечарскай. Ёй тут бліжэй. Мне да апошняй. Там мяне ўжо чакаюць часопісы, газеты і кнігі. Бо ў майго сябра памёр дзед, а ягоная багатая літаратурная спадчына сябру не патрэбная. Ён вырашыў не выкідаць нажытае старым, а перад гэтым прапанаваць нешта мне з ягонай бібліятэкі.

Гляджу ў вакно – і не пазнаю свайго раёна. Калі я быў малы, ён быў аднастайны, шэры, нецікавы, але вялікі. Цяпер выглядае абсалютна інакш.

## Эмпатыя

Мне даўно падавалася, што я згубіў усялякую эмпатыю да людзей. Да іхняга жыцця, праблемаў, перажыванняў. Якая мне да іх справа? У кожнага ж сваё жыццё. Зусім не хочацца дзяліцца чымсьці сваім, тым больш не хочацца нешта ведаць пра чужое.

Было так, пакуль не пабачыў на ўласныя вочы, як чалавек зламаў нагу. Быў дождж, лужыны, слізка. Я павольна ішоў у непагадзь на трэніроўку. І тут проста перада мною на роўным месцы падае мужчына. І нага ягоная прымае крыху іншы выгляд, крута выварочваецца ўбок. Моўчкі дапамог яму, выклікаў хуткую, дачакаўся разам з ім яе прыезду. Добра, што хаця б не адкрыты пералом.

Праўда, дапамог яму я нязначна, бо адпаведных ведаў не маю. І вось, пакуль мы ўдвох чакалі ўрачоў, прыгадаліся мне словы майго сябра Віктара, які даўно казаў – варта прайсці курсы Чырвонага Крыжа. Я тады пасмейваўся з сябравых прапановаў. Маўляў, навошта мне вось гэта ўсё, наўрад ці ў жыцці прыдасца. Як выявілася, хаця б нейкі элементарны досвед павінен быць.

Але ж галоўнае – гэта разуменне таго, што проста так я ўсё ж не змог бы прайсці міма чалавека, якому патрэбна дапамога. Значыцца, эмпатыя ў мяне ўсё ж ёсць, хай сабе і прыхаваная.

## Горад

– А ты случайно не в городе? – пытае ў мяне былая жонка, бо ведае, што я меўся прыехаць у Менск. Добрая нагода, каб сустрэцца.

Яшчэ ў пачатку сакавіка мы развяліся, але хапіла нас не надоўга. Ужо ў канцы траўня пачалі час ад часу бачыцца. Першы раз атрымалася забаўна. Я пазваніў ёй сярод ночы, п’яны, і спытаў:

– Што робіш?

– Сплю... – адказала яна заспаным голасам.

– Збірай паліпы ды прыязджай!

– Для чаго?

– Будзем базарыць!

І яна прыехала. Недзе праз паўгадзіны, а можа праз хвілінаў сорак. На таксі, вядома. Я заплаціў.

– Боже, Костя, не думала, что ты настолько пьян! – яна шчыра здзівілася. Здаецца, здзівіўся і таксіст.

– Ну, а якім мне яшчэ быць? – парыраваў я.

І мы пайшлі гуляць па начным горадзе. Ад мяне смярдзела ромам, бо я выпіў на свяце ў сябра яго цэлы літр. Ён і паслужыў штуршком для званка. Яна ведала гэта, таму і прыехала. Бо я ніколі сам не званю і тым

больш на сустрэчы не набіваюся. Такая ў мяне дурная завядзёнка. Мо каб набіваўся, то і жанчын за жыццё было б болей.

Рэшту ночы мы правялі ў кругласуткавай кавярні, дзе не прадаюць спіртное. Я пакутваў, бо хацеў дагнацца. Яна была то вясёлай, то сумнай. Гаварылі пра ўсё на свеце, бо нам заўжды было цікава разам. Гэта і трымала нас столькі гадоў.

Разышліся ўжо ранкам, калі было светла і ярка свяціла сонца. Дамаўляліся болей не бачыцца, але ж не атрымліваецца. У кожнага цяпер сваё жыццё, а ўсё адно хочацца сустрэцца.

“Яна цягнецца да цябе, як кветка да сонца”, – жартуе сябар пра нашыя сустрэчы. Але ж і я да яе цягнуся, не магу гэтага не прызнаць. На дадзены момант мая першая жонка застаецца назаўжды ў маім сэрцы, і наўрад ці нешта зменіцца. Іншыя будуць проста яе бляклым ценем, я ў гэтым упэўнены.

## Узнагарода

Сустрэў у метро сябра. Калісьці ён мне быў за старэйшага брата. А потым нашыя шляхі разышліся. Цяпер бачымся гады ў рады, збольшага – выпадкова.

Пахваліўся мне, кажа, табе як свайму раскажу – атрымаў вельмі каштоўны падарунак за сваю цяжкую і адказную працу. І паказаў. Проста на станцыі метро. Што гэта за падарунак – распавядаць не буду, бо не так істотна. Але ж рэч гэтая мяне вельмі ўразіла. Надзвычай! Хай сабе і сімвалічная, але ж вельмі каштоўная ва ўсіх сэнсах. Без сумневу, большасць мужчынаў хацела б займець такі сувенір. Я і сам яму пазайздросціў, як той казаў, па-беламу.

Ёсць такая катэгорыя людзей, якія проста выпраменьваюць жыццёвую энергію. Дастаткова ўсяго некалькіх хвілінаў, праведзеных побач, каб зарадзіцца ёй. Здавалася б, перакінуўся параю словаў, а ўжо па-іншаму глядзіш на ўласнае жыццё. Я такіх сустракаў зусім нямнога – усяго пару чалавек.

Такія людзі – у пэўным сэнсе жывыя арыенціры. Ніколі не гнуцца пад цяжарам абставінаў, заўжды дамагаюцца свайго, не збочваюць з абранага шляху. Узор, варты пераймання! І гэта не нейкія прыдуманыя персанажы, якіх на старонках рамана вывеў набітай рукою майстар, а жывыя людзі. Са сваімі перавагамі і недахопамі. Гледзячы на іх нястомны рух да ўласнай мэты, пачынаеш іначай глядзець на калісьці прамоўленыя словы. Не пустабрэхі!

І калі я чую гэтае канфармісцкае “Так у жыцці не бавае!”, мне робіцца смешна. Бывае! Бывае! Яшчэ і як! Увесь прыкол у тым, што адна справа чытаць матывацыйныя кніжкі, або глядзець узнёслыя фільмы. Там і сапраўды ўсё можа быць прыдуманым, нерэальным. Зусім іншая – калі ты ведаеш такіх людзей у рэале. Прычым не дзень-два, а многа гадоў, і можаш сам назіраць іхняе развіццё. І зусім неабавязкова паўтараць за імі, але ж варта дакладна разумець – вось у каго трэба вучыцца, браць прыклад і рабіць правільныя высновы.

## Героі

Яшчэ з часоў антычнасці герой – гэта слова з вельмі горкім дамешкам драмы і трагедыі.

Лепшыя героі, якіх мне даводзілася бачыць – заўжды былі з жыцця. Непрыдуманыя, цяжкія ў камунікацыі, але сапраўдныя.

Асноўная бяда нашай сучаснай літаратуры, а калі браць шырэй, то і ўсёй культуры ў цэлым – самае цікавае заўжды застаецца за кадрам. Адно і тое ж – як бясконцае жыццё шэранькага офіснага планктона.

## Рубка

Раней збіць маглі проста за сам факт твайго існавання. Знешні выгляд, перакананні, прыналежнасць да пэўнай субкультуры – гэта ўжо другасныя паказчыкі.

Памятаю, як на суседнім раёне адкрыўся пункт абмену картрыджаў і відэакасетаў. Людзі зараблялі на тым, што табе, малому, надакучвала гуляць у адно і тое ж або глядзець адзін і той жа фільм. За нейкія капейкі можна было махнуцца на нешта больш свяжэйшае і цікавае.

Кожны паход у гэты пункт быў самай сапраўднай экспедыцыяй, бо раён той быў варожы да нашага. І было вельмі добра, калі цябе ў часе шпацыру ніхто не запікеціў з мясцовых, іначай справа – дрэнь. Праграма мінімум – гэта атрымаць кухталёў, і юшка з носу была не самай галоўнай непрыемнасцю. Можна было таксама вельмі проста і хутка застацца без тых касетаў ці картрыджаў. Ніхто нікога не шкадаваў.

Ці вось такі яшчэ эпізод. Мне было гадоў дзесяць ці, можа, дванаццаць, калі я ўпершыню зблізу ўбачыў масавую бойку. Мы гулялі ў лесе. Колькі хвілінаў хады ад дому. Лес быў спакойны, бяспечны. Самае страшнае – “трасуны”, якія хаваліся за дрэвамі і паказвалі свае прычындалы. Звычайна дзяўчатам або жанчынам. Мы іх не баяліся, хутчэй наадварот – пачыналі кідацца камянямі ды палкамі.

Было нас чалавек пяць, не болей. Як раптам перад намі з’явілася цэлая зграя раз’юшаных мальцоў, кожны з якіх быў на добры парадак старэйшы. Майму таварышу, які бліжэй стаяў да прыхадняў, без словаў прыляцела ў галаву. Добра, што прабілі не кулаком – гэта быў “лешч”, які збіў малога з ног. Наступным быў я. Малады бычок з налітымі нянавісцю вачамі ўпэўнена падышоў да мяне і схапіў рукою за горла. Сціснуў так, што я пачаў задыхацца.

– Гэта вы, саплякі, прыйшлі з намі біцца? – ледзь стрымліваючы сябе, працадзіў ён. Я толькі пакруціў галавою ў адказ, бо гаварыць не мог. Мае маленькія ручкі абхапілі ягоную руку і спрабавалі вызваліць шыю.

– Кінь дурное! Гэта ж дзеці! – пачуўся голас нейкага разумніка ззаду, і бычок у імгненне апрытомнеў. Рука расціснулася, я паваліўся на зямлю і, задыхаючыся ад кашлю, пачаў удыхаць паветра. Шчаслівы момант, у які я адчуў сапраўдную прагу да жыцця.

– Каб болей я вас тут не бачыў! – сказаў нехта трэці, прысеўшы на кукішкі і ўглядаючыся ў нас. Я баяўся, што экзекуцыя можа распачацца зноў, але бычкі згубілі да нас усялякую цікавасць. Акурат у гэты момант з’явілася такая самая па колькасці, якасці і ўзросце кодла ўжо нашых раённікаў. Прыхадні прыйшлі менавіта з імі высвятляць адносіны. Перамах пачаўся без лішніх словаў.

Рубка была жорсткай, хаця біліся выключна на кулаках. Без усялякіх палак, бутэлек, камянёў ды іншай аргументацыі. Цягнулася ўсё гэта не болей за пару хвілінаў, але ж нам, нявольным сведкам, тады падавалася яна цэлай вечнасцю. Пераможцаў не было, бо ўсе разбегліся раней за фінальны свісток. Было нейкае адчуванне таймінгу ў іх.

Засталіся толькі тыя, хто не змог ужо сысці сваім ходам. Прычына бойкі банальная – *femme fatale*, за сэрца якой змагаліся маладыя бычкі.

Шыя мне балела потым некалькі дзён, а ў падарунак прыхадзень пакінуў на ёй некалькі чорных гематомаў. Пасля гэтага выпадку фразу “вырву кадык” я яшчэ доўгі час успрымаў літаральна.

## Кампраміс

Я ўжо згадваў, што агулам я пішу вельмі многа, але трапляе ў друк з усяго гэтага дробязь. Не тое, каб я баяўся крытыкі або чытача. Пішуць пра мяне і так вельмі рэдка. Чытач...

З чытачом у нас і так праблемы. Ва ўсіх. Толькі адзінкі могуць пахваліцца, што іх сапраўды чытаюць. Астатнія пішуць для сябе і набліжаных. Хочуць нешта даказаць, або папросту зарабіць грошай на розных прэміях.

Мне ж проста хочацца, каб беларуская літаратура зрабілася больш чытанай у межах краіны і пазнавальнай за імі. Але што для гэтага трэба зрабіць – я, шчыра кажучы, не ведаю.

Калі прыходзіш у літаратуру, то табе здаецца, што ты дакладна ўжо здолееш перавярнуць гэты свет і ўцерці нос папярэднікам, зайздроснікам і канкурэнтам. Але потым пакрысе пачынаеш разумець, што з усіх трох катэгорый ёсць дакладна першая, яе не адняць. А вось з астатнімі вялікая праблема, бо ты насамрэч як той няўлоўны Джо з показкі – нікому не патрэбны.

І нават калі на Кастрычніцкай плошчы ты абальеш сябе бензінам і падпаліш, і пра цябе напішуць, то праз два дні ніхто ўжо не ўзгадае. Таму было б неабачліва губляць такім чынам сваё жыццё. І тым не менш не пісаць таксама нельга. Трэба шукаць нейкі здаровы кампраміс.

## Ручкі

Я выдатна разумею, што добрага спартоўца з мяне ўжо не выйдзе. Ды і ў залу я хаджу не для медалёў – зусім іншыя задачы перад сабою стаўлю. Найперш перамагчы сябе самога.

Вось, скажам, робіш жым гантэляў лежачы.

Гэта складаней, чым проста са штангай. Разміначную падводку неяк адолець яшчэ можна, а калі падыходзіш да працоўнай вагі – сапраўднае выпрабаванне. Дужыя мужчынскія рукі ўмомант ператвараюцца ў дзіцячыя ручкі і пачынаюць трэсціся. Ды і ты сам ператвараешся ў дзіцё, а ўвесь жыццёвы досвед нібы знікае. Хочацца збегчы, схавацца, папросту кажучы, здацца.

“Сабярыся!” – крычыць трэнер пасля першага падыходу, які я, можна сказаць, заваліў. І наступны падыход я спрабую зрабіць ужо лепей. Трэці атрымліваецца яшчэ лепш, а чацвёрты – зусім выдатна.

Тое ж і ў жыцці, калі нечакана сутыкаешся з цяжкасцямі. Можна паспрабаваць унікнуць іх, збочыць, адысці ў бок. І часам такое будзе пракатваць. Але ж увесь час пазбягаць непрыемнасцяў, якія чакаюць за кожным вуглом, не атрымаецца. Таму і адчайвацца, а тым больш здавацца, не варта. Не атрымалася з першага разу, атрымаецца з другога, трэцяга, пятага...

Трэба проста адпачыць, сабрацца з думкамі і сіламі і брацца за справу па новай. Толькі так і перамагаюць.

## Канец тура

Калісьці адзін мысляр параіў мне паглядзець гэты фільм. Учора пераглядзеў яго і ўбачыў абсалютна іншы сэнс, не той, што апісаны ў анатацыі.

Фільм “Канец тура” на самой справе не толькі пра Дэвіда Фостэра Ўолеса, які напісаў свой тысячастаронкавы “Бясконцы жарт”, але і пра Дэвіда Ліпскага. Той жа таксама быў маладым пісьменнікам у момант, калі сустрэў Ўолеса. І, відаць, сустрэча гэтая расставіла канчаткова ўсе кропкі над “і”.

Мяркуючы з біяграфіі, Ліпскі так і не напісаў нічога з прозы болей. Адпаведна, і ягоная кар’ера пісьменніка не склалася. Затое ён стаў даволі вядомым журналістам. Што таксама не кепска.

## Прэзентацыя

Як зразумець, што кніга ўдалая? Ды проста: па ейнай прэзентацыі.

Калі ў майго сябра Змітра выйшла кніга пра беларускую міфалогію, Святлана прапанавала прэзентаваць яе ў галерэі, дзе яна працавала. Народу набілася поўна. А прэзентацыя была даволі сціплаю – сам аўтар, ягоныя кнігі ды музыкі, якія зайгралі нешта з традыцыйнага.

Але прыкол у тым, што яшчэ доўга пасля яе сканчэння публіка не разыходзілася. Спачатку атачылі па аўтографы, а потым пад гукі бубнаў і лютні яшчэ доўга размаўлялі з аўтарам на нефармальныя тэмы. Без фуршэтаў ды іншых заманух, на якія прыходзіць зазвычай публіка.

Значыць, і кніга – вартая, і прэзентацыя яе – падзея. Раз не разбегліся чытачы вокамгненна, як гэта часта бывае ў іншых выпадках. Хацелася б, каб так было і ў мяне.

## Самаадукацыя

Магу засядзецца за кніжкаю да самага ранку, калі ўжо пачынае світаць.

Мне падабаецца чытаць, шукаць нешта новае і знаходзіць. Часта кладуся спаць на досвітку, а падымаюся літаральна праз некалькі гадзінаў. Добра, што ехаць на працу цяпер не трэба. Бадай – адзінае, за што магу рэальна падзякаваць каранавірусу. Выходзіць неблагая эканомія часу.

Найбольшае, што я люблю – заставацца сам-насам. Перад вакном, з якога бачныя суседнія дамы, а раніцай на іх адбіваецца сонца, якое ўзыходзіць. Мне падабаецца пісаць у той час, калі ўсе ўжо або яшчэ спяць. Бывае, я ўстаю для гэтага а пятай ранку.

Часам мне падаецца, што я трачу жыццё на пустое. Губляю каштоўныя імгненні. Мог бы пасядзець у бары, схадзіць куды-небудзь. Але потым прыходзіць разуменне, што раблю ўсё правільна. Калі адразу магу напісаць добрую падводку да тэксту. Бачу, што да чаго. Ведаю, дзе шукаць.

## Змены

Апошнім часам вельмі палюбіў слухаць класічную музыку. Прычым неабавязкова памерлых класікаў, можна і жывых. Але каб там было ўсё павольна, спакойна і разам з тым узнёсла. Надакучыў ужо ўвесь гэты панк, рок, метал ды іншы дзікі роў.

Таксама я палюбіў наземны транспарт. У доўгіх аўтобусных пераездах ёсць час не толькі супакоіцца, падумаць ці пачытаць, але і нешта нават

напісаць. Раней і не паверыў бы ніколі, што ў гэтай справе смартфон можа стаць мне верным сябрам. Я нават перастаў злаваць на людзей, якія хранічна спазняюцца. Цяпер любы такі вольны час я імкнуся выкарыстоўваць з карысцю. Ад гэтага з'яўляецца адчуванне напоўненасці.

(Вось жа гэтыя аўтазамены: «хачу стаць» мяняе на «хачу стаўт». Ад куфля добрага піва я і праўда зараз не адмовіўся б.)

## "Полымя"

У шапіку пабачыў свежы нумар часопіса "Полымя". Узяў у рукі, пагартаў. Згадаў адносна нядаўнюю прапанову напісаць нешта і для іх. Набыў. Нармальная практыка чытаць выданне, для якога збіраешся пісаць. Каб быць у курсе таго, хто і з чым там друкуецца.

Хаця я да такога падыходу стаўлюся з пэўным скепсісам. Як па мне, то чалавек мае адказваць выключна за свой тэкст. Не болей. Тым больш у нашых умовах, калі літаратурны рынак не такі і багаты на газеты ды часопісы.

## 28 дзён

Адзін з маіх любімых фільмаў – "28 дзён" з Сандрай Булак у галоўнай ролі.

Стужка пра пісьменніцу, якая спажывала алкаголь і наркотыкі, праз што трапіла на месяц у рэабілітацыйны цэнтр. Пераглядаў яе безліч разоў.

Любімы таму, што пакуль я не дасягнуў узроўню галоўнай гераіні – я абсалютна абыякавы да любых наркотыкаў, але ж кінуць паліць і зусім адмовіцца ад алкаголю пакуль не здолеў.

З бухлом вялікай праблемы няма – п'ю, як усе, не болей. А вось з цыгарэтамі – бяда. Люблю паліць па дзве запар, прыкурваючы адну ад другой. А калі збіраецца якая п'янка-гулянка, то магу за вечар і два пачкі лёгка скурыць. Спачатку свой, пасля сяброўскія.

Колькі ні думаў кінуць, пакуль не атрымалася. Хаця я не губляю надзеі калі-небудзь ажыццявіць гэтую задуму. Бо трэба выбіраць – або трэнажорная зала з літаратурай, або цыгарэты з выпіўкай. Спалучаць гэтыя рэчы ўсё складаней.

## Смерць Гумілёва

Роўна сто гадоў таму бальшавікі расстралялі паэта Мікалая Гумілёва. Гэтае забойства стала пралогам усяго таго, што адбывалася потым. Прычым ён ці не першы з літаратараў, каго пакаралі смерцю "афіцыйна" і адкрыта.

Чырвоныя ў той час нібыта шукалі ахвяру, каб паказаць варожай інтэлігенцыі – лепей маўчаць і не высоўвацца лішні раз. І такая ахвяра знайшлася, сама прыйшла да іх у рукі. Бо Гумілёў быў не проста адным з самых цікавых літаратараў свайго часу і афіцэрам царскага войска, але таксама манархістам і праваслаўным. Прычым апошніх двух пунктаў нават і не хаваў асабліва.

Натуральна, што ён ну ніяк не ўпісваўся ў новую сістэму, хаця сам і спрабаваў з ёй супрацоўнічаць. Як і многія іншыя рускія ён не хацеў кідаць бацькаўшчыны, якой бы яна не была і які б сцяг над ёй не лунаў.

Гумілёў, канечне ж, мог займець куды лепшую долю, калі апынуўся ў замежжы, але ён вырашыў вярнуцца на радзіму. Да ўсяго лёс свой ён сам выдатна разумеў. Вельмі ўражвае яго прароцкі верш "Заблудившийся

ся трамвай", дзе ён спачатку пераказвае сваё жыццё, а потым прадказвае ўласны трагічны фінал. Напісаў ён яго літаральна за сорак хвілінаў, як бы нехта яму яго нашаптаў.

А потым быў жнівень 1921 года. Арышт, допыты, вырак на смерць. Адзін з катаў сведчыў:

«Да... Этот ваш Гумилёв – нам, большевикам, это смешно. Но, знаете, шикарно умер. Я слышал из первых рук. Улыбался, докурил папиросу... Фанфаронство, конечно. Но даже на ребят из Особого отдела произвёл впечатление. Пустое молодечество, но всё-таки крепкий тип. Мало кто так умирает. Что ж, свалял дурака. Не лез бы в контру, шёл бы к нам, сделал бы большую карьеру. Нам такие люди нужны...»

Затым яго надоўга выкінулі і з гісторыі, і з рускай літаратуры, як бы і не было ніколі такога паэта, а быў усяго толькі муж Ахматавай. А рэабілітацыя прыйшла толькі ў 1990-я, калі Саюза ўжо не было: справа Гумілёва і іншых "контррэвалюцыянераў", якія па ёй праходзілі, была прызнаная цалкам сфабрыкаванай.

У прынцыпе, менавіта на яго прыкладзе я зразумеў у свой час, што адбылося з беларускай літаратурай у 1930-х.

## Слуцкія паўстанцы

Не схільны ідэалізаваць слуцкіх паўстанцаў, робячы з іх такіх сабе міфічных крутых і ідэалагічна пракачаных пацаноў з цвёрдымі палітычнымі перакананнямі і прынцыпамі, якія далі апошні бой бальшавікам. Насамрэч усё было куды складаней. І чым больш чытаю пра тыя падзеі, тым болей пераконваюся ў гэтым.

Парадокс, але лідарам паўстання бальшавікі паводле поглядаў былі бліжэйшыя, чым палякі. І менавіта таму многія з іх, павёўшыся на прапаганду ў стылі «Ах, як там добра...», як і аўтар гэтай фразы Францішак Аляхновіч, з якой пачынаецца яго самы вядомы твор, апынуліся неўзабаве ў савецкім Менску. Іначай і быць не магло.

Калі ўзяць і параўнаць Дэкларацыю Рады Случчыны 1920 года і «Маніхвэст» Жылуновіча 1919 года, то яны дзіўным чынам супадаюць па многіх пунктах. Толькі напісаныя рознымі словамі. Як цяпер сказалі б, майстэрства рэрайту.

Найлепшы твор пра тыя часы, які даводзілася чытаць, – гэта аповесць Андрэя Федарэнкі «Нічые». Гэта хоць і не навуковая праца, але яна выдатна раскрывае сэнс і перадае атмасферу. Цалкам магчыма, што ўсё менавіта так і адбывалася...

## Секс

Самы лепшы секс – выпадковы. Не ў сэнсе з выпадковым чалавекам, хаця і гэта, пэўна, прыкольна. А той, які не плануеш. Калі ўсё выходзіць неяк само сабою, спантанна. Ідзеш, бярэш і атрымліваеш усё, што хочаш.

## Каханне

Добра бывае вось так проста сустрэць сябра ў начным тралейбусе, калі кожны едзе па сваіх справах. Асабліва калі вы даўно не бачыліся. Шчырыя размовы можна весці і ў грамадскім транспарце.

– Як тваё лета? Было што цікавае? – пытае ён мяне. Пачынаю прыгадваць.

– Было, але ж зусім не шмат! – усміхаючыся, адказваю яму.

– А мне здаецца, што я гэтае лета проста прапусціў. Суцэльны дэградэйшн нейкі... Упершыню за 30 гадоў такое!

– Ва ўсіх так, тым больш, калі табе за 30! – адказваю я яму. І мы абодва смяемся. Што праўда, смех гэты не асабліва каб быў вясёлым.

Сяброўства – гэта пра давер. Бо толькі з сапраўдным сябрам ты можаш быць абсалютна шчырым. Нават калі бачыў яго апошні раз чорт ведае калі. Зусім не абавязкова бачыцца штодня, каб гэтая прыязнасць захоўвалася. Сябры – гэта тыя, хто заўжды побач, з табою, у тваім сэрцы. Нават калі фізічна яны зараз вельмі далёка, можа быць у Празе, Мадрыдзе або наогул за акіянам. Проста ты ведаеш, што недзе на гэтым свеце ёсць свая душа.

– Мне выходзіць! – кажу сябру, паціскаю руку і выходжу з траліка.

– Кастусь, галоўнае ў гэтым жыцці – гэта захаваць каханне! Памятай пра гэта! – кажа ён, адзяваючы масіўныя навушнікі, якія юзаюць дыджэі.

– Памятаю! – адказваю ў след траліку, які бадзёра кранаецца ад прыпынку.

## Ад’езд

“А ты не думаешь, что я когда-нибудь просто возьму и уеду, не сказав тебе?!” – казала мне жонка, калі мы сварыліся. Казала і сыходзіла.

Я б таксама з’ехаў. Многа думаю пра тое, як я вось так узяў усё ды кінуў. Зараз жа! Тут жа! Без тлумачэнняў і высвятлення адносінаў. Узяць проста ўсё самае неабходнае на першы час: грошы, вопратку, чыталку, дзясятак любімых кніг, і ў дарогу. Куды? Для чаго? Да каго? Няважна!

Шчыра зайздрошчу тым, хто не толькі марыць, але і ажыццяўляе свае мары. Ёсць у мяне адзін таварыш, які ўсё наракаў на працу ў офісе. Не падабалася яна яму. Хацеў у пустыню, на джып, шукаць прыгодаў. Цяпер жыве ў Штатах, працуе. Быў у Мадрыдзе не так даўно – дасылаў мне здымкі. А зараз выклаў у сваім інстаграме фота з пустыні. Малайчына, што тут яшчэ сказаць!

Я ж пакуль застаюся тут. Бо тут заўжды ёсць пра што напісаць, не трэба нават нешта прыдумляць. У замежжы такая патрэба адпадзе, я гэта адчуваю. Аб чым там думаць і гаварыць? Ліць кракадзілавыя слёзы па роднай гаротнай старонцы? Ну, гэта ўжо дакладна смеху варта...

## Завершаны гештальт

Найбольшую эйфарыю ў мяне выклікае адчуванне завершанасці. Калі скончыў усе справы і гештальт завершаны, як модна цяпер казаць.

Нікому нічога не вінен, усе пытанні закрытыя, і ты можаш узяць у рукі цыгарэту, куфаль піва ці крыху віна і не забіваць сабе галаву думкамі.

Думаць пра нішто – цяпер раскоша, не кожны можа дазволіць яе сабе. Бо ўсё нашае жыццё – гэта аб усім і ні пра што. Калісьці я думаў зрабіць перадачу з такой назвай. Зваў бы туды модных герояў, і мы разам весела напіваліся б пад прыемную размову.

*2020-2021*

Алесь Спіцын



...Надзея на тое,
Што надзея
Не скончыцца...

# Святло аголенай поўні

* * *

Горад начны.
Ліхтары-рыбары
Святло праліваюць лёкам.

Машыны...
Дамы...
Вокны...

Звалкі, кавалкі,
Чагось аскабалкі.
Цыгарэты, запалкі
Цыгарэты,

Запалкі...

Не цацка дзецям...
Запалкі –
Не цацка
Дзецям,
Запалкі
не цацка
Дзецям...
Вецер...
Вецер...
Вецер...

Які сёння вецер?
Прахалодны?
Халодны.
Халодны,
Халодна...

Горад сыты
І вечна
Галодны
Тыцкае промнямі ў хмары.
Мары...
Мары...
Мары,
Каб гэты горад стаў храмам,
Трэба, каб хтосьці стаў па-над дахамі кстом,
Напоўніўшы рукі свежым агнём...

* * *

Поўня сафітам,
Пакутны голас,
Святла конус
Крама з назваю "Бонус"

Зачынена...

А я думаў, сёння іграю сола
На гэтым прыпынку без перапынку,
На пазванках прасторы,
На перажытым дакоры,

А хтосьці яшчэ цягне,
А хтосьці яшчэ смягне,
А хтосьці яшчэ прагне

Душою аголенай,
Паказаць сябе
У святле аголенай поўні,

Як Акелдама
Бяссоннага горада:
Каму што ўпадзе,
Каму што прымроіцца?

А гледачы...
Яны тут заўсёды
Знойдуцца.

* * *

Рэчывы,
Рэчывы
Рэчыўнасць чалавечая
Рэчыўная рэч чалавечая
Пакалечаная
пакалечаная...
І не смешная
І не прысвечаная
не высвечаная, але апрадмечаная.
Рэчыўная
Рэчыўная
Рэчыўная рэч чалавечая
Засветленая,
Засведчаная...

* * *

Кроў
Як любоў.
Асалода
Ад кіслароду
Уласцівасцю і спадчынай роду
Па капілярах
Як натхненне салодкае мары
Дарам-задарма
Дарункі нябёсы даюць
Варта толькі
Глыбока ўдыхнуць...

* * *

Перламутравай ракавінай
Неба закрылася
Над дамамі...

Перламутравай ракавінай
Хмарыста-хвалістай,
Раніца-сутракальнай
Вясёлкава-пералівістай...
Такой бяспечнай... Такой цёплай...

Над дамамі закрылася...

Але прыйдзе ёй час,
І падымецца створка,
І мы,
Адпачнуўшы ў бяспецы,
Ясна-яскрава
Пабачым
Зоркі...

* * *

Я вылічаў і пралічваўся...
Я шукаў і знаходзіў...
Адпачываў?
Безумоўна.
Плакаў?
Як дождж у жніўні
Не на жарт...
І блукаў,
Узіраючыся ў варушэнне травы,
Быццам згубіўшы
Пярсцёнак ці штосьці важнае...
І гаварылі пра мяне
За він ом і салодкай пагардай
Тыя, што лічылі, быццам знайшлі
Яны...
А я ўзіраўся
У дрыготкае лісце,
У галіны дрэваў,
Быццам адказы
Знойдзеныя на іх ростанях
Былі дастатковымі...
І гаварылі пра мяне
За роспаччу і горкім шкадаваннем

Тыя, што лічылі, быццам знайшлі
Іншыя...
А я, нібыта той трыснёг,
Нібыта чарот балотны, чыё калоссе злучаецца з небам
пры дапамозе ветру
І шапоча таямніча,

Не быў марным...

* * *

Я бачыў аднаго,
Які не хацеў губляць аблічча,
Але зерне, застаўшыся зернем,
Не стане рунню,
Не будзе калоссем...

Я бачыў лясы,
Я бачыў гарады,
Але далеч нябёсаў вабіць мяне.
Скрозь галіны і камяні
І мне не страшна.

Уздыхну і выдыхну,
Калі гукнуў у сэрцы,
Натхнюся,
Бо я не адзін,
У прасторах сусвету
І цеснаце
Шляхоў.

Ты там са мной,
Хто дае і прымае,
І ўзнагароджвае,
І пяшчотным бывае
Для сэрца.
Надзея на тое,
Што надзея
Не скончыцца...

* * *

Сэрца ночы
Ачышчаецца слязамі імжы:
Кроплі,
Як электрычныя зарады

У абмотках трансфарматара,
З халодным ветрам
Віруюць па коле –
Гудзе ледзь чутна імі цішыня...
Пякучым роем сталася паветра...
І гэтая мітуслівая і нямая ноч
Маўчыць,
Рахмана слухае,
Што адбываецца ў яе сэрцы:
Ноч чакае,
Чым
Скончыцца
Гэты
Дождж...

* * *

Дарога кліча нас ізноў.
Анёл мой зорны цёмна-сіні
Прысеў тужліва за сталом.
Крану ягонае крыло,
Падумаю: які ж ён мілы...

Ён скажа: “Я пайду з табой”, –
Анёл мой зорны, цёмна-сіні.
Ён варты веры – ён герой,
Але баюся, каб зімой
Свае не адмарозіў крылы.

Такое кволае дабро
У гэтым свеце злым і дзікім!
І я адказны за яго:
Я – чалавек, а ён – анёл,
Анёл мой зорны, цёмна-сіні...

Мы пераможам! Вечар будзе наш!
Заходу жар пакрыецца сінечай.
Насустрач цемры мы запалім свечы
Ці вогнішчы, калі надыдзе час!

Мы пераможам! Вечар будзе наш!
Мая рука тваёй рукі кранецца,
І сэрцы звяжа ўсесвятая вернасць.
У гэты вечар нам даецца шанс!

Мы пераможам! Вечар будзе наш!
І здані ў цемры нас дарма лякаюць!

Ёсць зорны шлях ад краю і да краю.
Адвагу нам падорыць вышыня.

Няхай язык сабе закусіць страх!
Скарыўся перад тварам ночы вецер.
А цішыня да ранку застанецца,
І перад намі ўвесь птушыны шлях.

* * *

Спрачалася юная знічка
З агнямі вялікага горада,
Спрачалася і згарэла,
Таму што нельга
Кідаць выклік
Бяздонню...

Спрачалася юная знічка
З агнямі вялікага горада,
Спрачалася і згарэла,
І ніводнае вока
Яе не пабачыла,
Таму што нельга
Кідаць выклік
Бяздонню...

Спрачалася юная знічка
З агнямі вялікага горада,
Спрачалася і засталася
У двух заблукалых сэрцах,
Таму што бывае ў сэрцы
Не толькі тое,
Што ў воку...

Калі не было вялікіх гарадоў,
Тады загараліся юныя знічкі.
Яны загарацца і потым,
Калі гарады
Згаснуць...

Бо хто адкажа на выклік
Сэрцу?..
....................
Спрачалася юная знічка
З агнямі
Вялікага
Горада...

Сяргей Белаяр



...Была б мая воля,
даўно б усіх "блатных"
да сценкі паставіў бы!..

# Знічка

***Апавяданне***

У філянговыя дзверы пастукалі, прымусіўшы старшага оперупаўнаважанага Ніжне-Амурскага папраўча-працоўнага лагера лейтэнанта Вілорка Шпіндлера адарвацца ад папер і разагнаць рукой папяросны дым. Акно не адчыніш – адразу наляціць машкара. А яна ў гэтым годзе як ніколі злая і галодная.

– Ну?

– Дазвольце, таварыш лейтэнант? – у праём сунуў галаву вусаты канваір з ППШ. – Рабухіна прывёў.

– Заводзь, – Шпіндлер прыбраў кардонную папку з крымінальнай справай у сярэднюю шуфляду і зашпіліў верхні гузік кіцеля. Смерць Вялікага Правадыра і Настаўніка таварыша Сталіна – не падстава дазваляць зняволеным усумніцца ў цвёрдасці Савецкай улады. – Сядайце, грамадзянін Рабухін.

Худы “зэка” ў зацухмоленай турэмнай робе сарваў з галавы брудную пакамечаную кепку і асцярожна апусціўся на край груба збітага табурэта, крывыя ножкі якога былі прыбітыя да дашчанай падлогі.

– Даспелі да чыстасардэчнага прызнання, грамадзянін Рабухін? Ці яшчэ пару сутак у карцары пасядзіце?

– Не забіваў я яго, грамадзянін начальнік! – з гарачнасцю запэўніў зняволены, на твары якога адбіўся непадробны спалох. – Век волі не відаць, не забіваў!.. Навошта мне “макруха”, калі таварыш Берыя ўсім амністыю абвясціў?

– Можа, вы каму ў карты жаданне прайгралі, – старшы оперупаўнаважаны закурыў, разглядаючы зняволенага па-над запалкавым агеньчыкам. – Ці для каго-небудзь брудную працу падрадзіліся зрабіць...

– Не я гэта быў! – эмацыйны стан “зэка” быў няўстойлівым, але рэзкіх рухаў ён стараўся не рабіць. Лейтэнанту нічога не каштавала дастаць ТТ і прыстрэліць зняволенага за спробу нападу. Прэцэдэнты ўжо былі.

– А хто?

“Зэка” развёў рукамі.

– Не хочаце, значыць, супрацоўнічаць са следствам, грамадзянін Рабухін?.. Што ж, справа ваша. Наракайце потым на сябе.

– Не я Савіна “заваліў”, грамадзянін начальнік, – упарта паўтарыў зняволены. – Я ўжо казаў, у той час як новенькага “парашылі”, зусім у іншым месцы быў. Ды вы ў Аратуна-Напільніка пацікаўцеся – ён пацвердзіць!

– Грамадзяніна Назарана Аратуна Давідавіча я дапытаў. Ён сцвярджае, што вы нікуды не адлучаліся. Нават курыць і да адыходжага месца не хадзілі.

– Дык я пра што! – расквітнеў у малазубай усмешцы “зэка”. – Цэлы дзень з “кліфтамі” гэтымі драўлянымі правалэндаліся. Стаміўся.

– Толькі я яму не веру, грамадзянін Рабухін, – прагны погляд зняволенага на “Казбек” Шпіндлер праігнараваў. – Вашаму брату верыць нельга. “Палітычным” – можна, “немчуры” палоннай... “блатным” нельга. Наогул. Хоць вас і лічаць сацыяльна блізкімі да працоўнага народа.

Лейтэнант дэманстратыўна плюнуў. І каму толькі ў галаву прыйшло ўраўноўваць крымінальнікаў і працоўных?

– Была б мая воля, даўно б усіх “блатных” да сценкі паставіў бы!

– Толькі няма ў вас нічога на мяне, грамадзянін начальнік, – “зэка” спрабаваў схаваць за бравадай страх. Атрымлівалася дрэнна. Гэта толькі са слабымі яны моцныя.

– Памыляецеся, грамадзянін Рабухін, – Шпіндлер хітра ўсміхнуўся. Яму падабалася глядзець, як выцягваецца твар зняволенага. Той відавочна адчуў, што не на “понт бяруць”. – Адбіткі пальцаў з “фінкі”, зробленай з алюмініевай лыжкі, вы сцерлі, чужых недакуркаў каля месца злачынства накідалі, алібі сабе забяспечылі...

Недамоўленасць і на гэты раз прынесла плён – вочы зняволенага забегалі. Ён ліхаманкава спрабаваў зразумець, дзе ж пракалоўся, і вызначаўся з далейшай лініяй паводзінаў. А лейтэнант, смакуючы папяросу, працягваў выпрабоўваць цярпенне “зэка”.

– Ніколі нельга прадугледзець усяго, грамадзянін Рабухін. Хай ты і сто разоў геній...

Шпіндлер акуратна патушыў “Казбек” аб дно трафейнай парцалянавай

попельніцы, наліў сабе вады з графіна, маленькімі глыткамі выпіў. Выцер вусны далонню і толькі затым сказаў:

– У гразі застаўся адбітак вашага правага чаравіка.

– А чаго адразу майго, грамадзянін начальнік? – знайшоў зацвярджэнне галаслоўным “зэка”. – У нас усіх шчіблеты аднолькавыя. Нават абутак у “верту...”, прабачце, грамадзянін начальнік, абмовіўся!.. Нават лагерная ахова ў такіх жа ходзіць.

– Пры хадзе падэшва сціраецца. Так?

Зняволены кіўнуў.

– Характар, памер і інтэнсіўнасць зносу ствараюць індывідуальны набор прыкмет, якія ўласцівыя канкрэтнай пары абутку, якую насіў канкрэтны чалавек... Так стоптваць чаравікі, як стапталі іх вы, грамадзянін Рабухін, ніхто іншы не можа.

“Зэка” машынальна падціснуў босыя нямытыя ногі пад табурэт.

– Вядома, у вас жа маглі выкрасці абутак... – лейтэнант нават не пазначыў намеру схаваць здзек. Ні адзін са зняволеных другой пары мець проста не мог. Не паложана. – У дзень забойства грамадзяніна Савіна Апанаса Пятровіча ішоў дождж. Калі б адбітак пакінулі раней, у ім сабралася б вада. Пераканаўча?

Адказу не было. “Зэка” граў жаўлакамі так, нібы меў намер сцерці зубы ў вугальны парашок.

– Вам варта было б навучыцца валодаць сабой, грамадзянін Рабухін, – нечакана для зняволенага Шпіндлер працягнуў яму папяросу. Нейкі час “зэка” недаверліва глядзеў на “Казбек”, быццам чакаючы, што папяроса ператворыцца ў атрутную змяю і ўкусіць яго. Затым прагна сунуў яе ў рот і падаўся наперад, да запальніцы.

– Шчыра дзякую, грамадзянін начальнік.

– Адзін са зняволеных звярнуў увагу на тое, з якой звярынай нянавісцю вы паглядзелі на грамадзяніна Савіна. А за нейкія дваццаць хвілін да гэтага грамадзянін Савін не выклікаў у вас аніякай цікавасці.

За адсутнасцю попельніцы “зэка” страсаў попел у далонь. Абгрызеныя пазногці “ўпрыгожвала” жалобная аблямоўка.

– А праз дзве гадзіны з нечым грамадзянін Савін быў забіты... Нанесці абразу каму-небудзь ён не паспеў. Вашых “правілаў” не парушыў. У турме і на “этапе” прэтэнзій да грамадзяніна Савіна ні з боку турэмнай адміністрацыі, ні з боку зняволеных не мелася... Беспадстаўных забойстваў не бывае, калі толькі забойца не псіхічна хворы. Таму я пачаў шукаць сувязь паміж вамі і грамадзянінам Савіным. У вашай асабістай справе я не знайшоў ніякіх зачэпак, а вось пры праверцы забітага высветліліся цікавыя факты...

Тэатральную паўзу лейтэнант выкарыстаў для таго, каб прыкурыць “Казбек”. “Зэка”, заціснуўшы змяты недакурак у кулаку, моўчкі ёрзаў на табурэце.

– Аказваецца, грамадзянін Савін вінаваты не толькі ў растраце бюджэтных сродкаў. З Міністэрства ўнутраных спраў мне паведамілі, што ў сорак чацвёртым годзе ён, будучы камандзірам роты партызанскага атрада імя Эжэна Варлена, спаліў вёску Дубровіца ў Палескай вобласці БССР. Разам з усімі жыхарамі...

Зняволены ўсім сваім выглядам паказваў, што не разумее, навошта лейтэнант яму расказвае пра мінулае забітага.

– Ніякага стратэгічнага значэння Дубровіца не мела, і немцы пакінулі там усяго трох “паліцаяў”. Рота Савіна, а больш правільна будзе Вавілава Яўгена Віктаравіча, разграміла апорны пункт, пасля чаго п’яныя “партызаны” прыняліся марадзёрстваваць. Мясцовыя жыхары спрабавалі абразуміць людзей Вавілава, але толькі справакавалі тых на тэрор... “За дапамогу нямецка-фашысцкім акупантам” – так малодшы лейтэнант Вавілаў патлумачыў матывацыю сваіх падначаленых.

І зноў паўза.

– Я тут прычым? – шчыра здзівіўся “зэка”. Адной папяросы яму было мала, але Шпіндлер больш не прапанаваў, а прасіць Рабухін не адважыўся.

– У Беларускай ССР вы ніколі не былі, – кіўнуў лейтэнант. – Грамадзяніна Вавілава ўпершыню сустрэлі тры дні таму... А мне вось, у бытнасць сяржантам “Смерша”, давялося пабываць на Палессі. Дзівосныя па сваёй прыгажосці месцы, я вам так скажу, грамадзянін Рабухін...

Зняволены паціснуў плячыма. Як і любому “блатному”, усё, што не датычылася яго непасрэдна, было “зэка” абсалютна нецікава.

– Як цяпер памятаю, размясціліся мы на пастой у адной бабулі. Ёй дзевяноста чатыры ці дзевяноста пяць гадоў было, а яна ўсё па гаспадарцы сама рабіла. Яшчэ і нас жыццю павучала... Расказала гэтая старая нам адну легенду. Пра Знічку...

Зняволены не выявіў цікавасці. Шпіндлера, тым не менш, гэта не спыніла.

– Існуе на Палессі павер’е, што адпомсціць забойцу, не маючы магчымасці зрабіць гэта асабіста або праз кагосьці, можна пры дапамозе нейкай эфірнай субстанцыі...

– Чаго? – “зэка” ўсё ж такі слухаў лейтэнанта.

– Гэта нешта накшталт туманнай імгі, якая здольная пераляцаць на вялікія адлегласці.

– Сама?

– Ёй рухае чараўніцтва.

– Чараўніцтва, значыць... – абстрыжаная “пад нуль” галава зняволенага прыйшла ў рух. Міміка Рабухіна выдавала яго сумненне ў адэкватнасці Шпіндлера. Тут хто хочаш засумняваецца: пазіцыі атэізму былі моцныя.

– Для таго, каб абудзіць Знічку да жыцця, неабходна намаляваць спецыяльны знак на гліне і паліць яго ўласнай крывёю, а затым назваць імя забойцы.

– Грамадзянін начальнік, а калі не ведаеш, хто “парашыў”? – “Казбек” не даваў “зэка” спакою. Тытунь з’яўляўся адным з нямногіх задавальненняў, даступных зняволеным. Але даваць Рабухіну другую папяросу лейтэнант не стаў. Занадта будзе.

– Старая казала, што можна і без імя. Дастаткова было ўбачыць забойцу альбо валодаць яго партрэтам або апісаннем знешнасці... Запаленая Знічка адразу ляцела на пошукі забойцы. Як яна яго знаходзіла – не ведаю. У легендзе пра гэта нічога не гаварылася. Адшукаўшы забойцу, Знічка ўсяляецца ў чалавека з яго бліжэйшага акружэння і ягонымі рукамі помсціць забойцу. Калі забойцаў было некалькі, Знічка забівала іх па ступені цяжару віны – ад большай да меншай... Як толькі помста здзяйснялася, Знічка згарала.

– Усё гэта цікава, грамадзянін начальнік, але навошта вы мне расказалі гэтую казку?

Лёгкае раздражненне – а большага зняволены дазволіць сабе не мог – выклікала ў лейтэнанта ўсмешку.

– У чалавека, у якім разгараецца Znічка, асаблівыя вочы... Такія, як у вас, грамадзянін Рабухін.

– Што? – “зэка” нават прыўстаў.

– Сядзець! – Шпіндлер ляснуў даланёй па стале, зацягнутым аблезлым зялёным сукном. Зняволены бухнуўся назад на табурэт і ўвесь сцяўся. – Думаеце, грамадзянін Рабухін, я вас папяросай з вялікага чалавекалюбства пачаставаў?.. Не, хацеў пераканацца ў тым, што не памыліўся пры нашай першай сустрэчы. Знічка баіцца агню. Напэўна, адчувае ў ім канкурэнта... Не сядзелася ў карцары, пэўна?

“Зэка” паматаў галавой.

– Гэта вас, грамадзянін Рабухін, Знічка штурхае на пошук іншых забойцаў... Праз два месяцы рота малодшага лейтэнанта Вавілава трапіла ў засаду зондэр-палка СС “Дзірлевангер”. Ацалелі нямногія... Вы, грамадзянін Рабухін, не супакоіцеся да таго часу, пакуль не заб’еце ўсіх, хто спаліў Дубровіцу.

Лейтэнант выкарыстаў паўзу для таго, каб пераклаcці аркушы пісчай паперы на стале. А зняволены ёрзаў на цвёрдым сядзенні.

– Грамадзянін Вавілаў не мог не прыйсці да вас на сустрэчу, грамадзянін Рабухін. Бо вы пагражалі пра ўсё расказаць. Малодшы лейтэнант рыхтаваў вам сюрпрыз – у кішэні ягонай робы мы знайшлі цвік. Такім не тое што чалавека, быка зваліць можна... – Ад Шпіндлера не схавалася рэакцыя “зэка”. Страх пажыраў яго знутры. – Губляць яму не было чаго: за масавае забойства мірных савецкіх грамадзян, а ні “паліцаяў”, ні памагатых нямецка-фашысцкіх акупантаў у Дубровіцы не было, па галаве не пагладзяць. Пашанцавала вам, грамадзянін Рабухін, паспелі ўдарыць першым...

Чарговая паўза.

– Гэтую дрэнь як-небудзь можна з мяне выцягнуць? – Не прыкідваецца. Паверыў. Як не паверыць, калі свядомасці Знічка не пазбаўляе, а жаданне забіваць зусім незнаёмых людзей расце з кожнай гадзінай?

Цяпер можна і са спакойнай душой пачаставаць зняволенага “Казбекам”.

– Ад Знічкі не пазбавіцца, – крышталічная рашотка колеру крыві ў вачах “зэка” рассыпалася ад агню запалкі. – Яна згарыць толькі тады, калі памрэ апошні забойца... Або той, у кім гарыць Знічка.

– Я не хачу паміраць! – ва ўсхліпе зняволенага была чуваць дзіцячая крыўда.

– У здаровым розуме і цвёрдай памяці ніхто не хоча.

– А ў каго-небудзь іншага яна не можа перасяліцца? – Падступала паніка. Ужо за адно забойства Рабухіну “ламіўся вышак”. Савецкі суд, вядома, самы гуманны суд у свеце, але на афект дзеянні “зэка” не спіша. Нават пры ўсім жаданні.

– Не, – лейтэнант прысунуў да зняволенага попельніцу, аднак той не заўважыў яе. Рукі “зэка” трэсліся так, быццам трымалі адбойны малаток. Параўнанне некарэктнае – Рабухін ніколі не займаўся прадукцыйнай працай. Труцень.

Пасля трэцяй выкуранай запар папяросы зняволены спытаў, укладваючы ў пытанне просьбу пра дапамогу:

– І што мне рабіць, грамадзянін начальнік?

– Рыхтавацца да вызвалення, грамадзянін Рабухін, – Шпіндлер усміхнуўся. – На вас распаўсюджваецца амністыя.

– А як жа... – “зэка” не адважваўся верыць свайму шчасцю.

– Пра тое, хто забіў Савіна-Вавілава, у курсе толькі мы з вамі, грамадзянін Рабухін. Навошта яшчэ камусьці ведаць пра гэта?

– І вы проста так мяне адпусціце, грамадзянін начальнік? – зняволенаму нельга было адмовіць у праніклівасці. Зразумеў, што маюцца падводныя камяні.

– Ні адна брыдота з роты малодшага лейтэнанта не павінна больш атручваць паветра сваім існаваннем! – запатрабаваў лейтэнант, шкадуючы аб тым, што не мае магчымасці зрабіць усё сам. – Я досыць зразумела выказаўся?

– А вам з гэтага якая карысць, грамадзянін начальнік?

– Зло не павінна заставацца беспакараным. Ад людской адплаты гэтыя пачвары яшчэ доўга бегаць могуць. Ад Znічкі не ўцячы. Як ні намагайся.

– Ці не баіцеся, што дам дзёру?

– Чаго баяцца, грамадзянін Рабухін? Са Знічкай чалавек больш не належыць сабе. Пакуль не заб’еце ўсіх людзей Вавілава, пра спакойнае жыццё можаце забыцца.

– А пасля што?

– Усё залежыць толькі ад вас аднаго, грамадзянін Рабухін. Здолееце не наслядзіць – пражывяце доўга. Можа быць, нават шчаслівa. Не здолееце... Сяржант!

З’явіўся канваір.

– Хай афармляюць дакументы на вызваленне.

– Ёсць! – канвойны цярпліва дачакаўся, калі “зэка” на ватных нагах пакіне кабінет, пасля чаго зачыніў за сабой дзверы.

Шпіндлер адкінуўся на спінку крэсла, расшпіліў верхні гузік і зноў закурыў. Ніколі не варта адкрываць усе карты адразу. Навошта зняволенаму ведаць пра тое, што ён ужо мёртвы?

Анатоль Хіневіч



...Дзякуй тым, каму не ўсё роўна,
і – каму усё роўна пакуль...

# Чалавеку дадзены шлях

### *АБАНЕНТ*

Тэлефануе ўжо трэці раз –
гук у слухаўцы б'е па вушах маланкай.
Яна казала: "Забудзься пра нас,
я парвала ліст пахмурным ранкам".

Ён збянтэжана раіў, а ў адказ
белы шум правадоў тэлефонных,
што не кажуць: "Забудзься пра нас"
і трымаюць надзею ў палоне.

Гэта цяжкая доля – халодна гучаць
у адказ на чыёсьці чаканне.
Ды гудкі у цішы будуць доўга дрыжаць –
абанент у няведамым стане...

*22.05.2021*

* * *

Апошні помнік на зямлі –
не месца сантыментам.
Стагоддзі да яго плылі,
ішлі сто кіламетраў.

Калі нам шлях патрэбны быў,
ён адказаў удзячна:
ўпустую страцілі гады
ў дарозе вы, прабачце,

адказ шукайце на шляху,
не ў пункце прызначэння,
лічыце страты не ў вайну,
а пасля прабачэння.

Будуйце лепей не дамы,
а сэнс паміж дзвюх лічбаў,
бо знішчыцца ўсё праз гады
без сэнсу і Айчыны.

Ў далоні пляскаць, песні пець,
без памяці кахацца ў ложку,
а па вясне, нібы мядзведзь,
блукаць па лесе моўчкі.

Апошні помнік на зямлі –
без сантыментаў месца.
Апошні помнік без вайны –
апошні помнік ў сэрцы.

*Кастрычнік, 2020*

## КОЛЬКІ БУДЗЕ

Яна марыла пра свабоду,
удыхнуць каб на поўныя грудзі.
І лічыла: у дзень асалоды
пераможам, а колькі нам будзе?

Мо праз дзень, ці праз месяц, ці дзевяць
пераможуць сумленныя людзі.
Ці праз годы толькі іх дзеці
пераможуць, а колькі ім будзе?

Ці праз шмат гадоў, пакаленняў
не такія, як мы, выйдуць супраць,
каб падняцца павольна з каленяў
за свабоду. А колькі іх будзе?

*27.12.2020*

## *ЛІХТАРЫК*

У бязмежжы ліхтарык блукае
паміж зорак, хваляў эфіру.
Ён нібыта адбіўся ад зграі,
ліхтарынай зграі на крылах.

Там уверсе безліч мільёнаў
ліхтароў, што прабілі блакаду.
І ён марыць сабе патаёмна
праз арбіту ўзняцца, праз краты,

дасягнуць вышыняў бязмежных
і пакінуць аблокі далёка.
Толькі як ён прастору ні рэжа –
удалечы братэрскія зоркі.

Ліхтарыны шлях будзе доўгім:
паміж зорак і хваляў эфіру
ён да зграі ляціць, непрытомны –
ліхтарынай зраі на крылах.

*10.07.2021*

## *МУРАШЫ*

У кішэні з вачамі – пустэча,
усе скарбы схаваны ў душы.
Згаладнелыя, крочаць удалеч
мурашы.

Яны моцныя целам і духам,
ім не трэба прышчэпкі, ўрачы.
Будуць д*а*лей, упартыя, рушыць
мурашы.

Як агідна мур*а*шыць без мэты
тым хто трапіў навечна ў бурштын,
але справай адзінай сагрэты
мурашы.

Шлях марудны не скончыцца хутка,
будуць доўга блукаць віражы,
а па іх бясконцай ракою –
мурашы...

*29.08.2021*

### *ПАМЯЦЬ*

Памятаць крыніцу натхнення –
бессэнсоўная нейкая справа,
бо занята маё пакаленне
набыццём сацыяльнага сала.

Небыццё запаўняе прастору
маладых і сталых імён,
што пакінуць шкілетныя горы,
іх такіх – не адзін мільён.

Памятаць крыж гісторыі войнаў
недарэчна пад пір хіжых куль.
Дзякуй тым, каму не ўсё роўна,
і – каму усё роўна пакуль.

*20.04.2021*

### *ЧАЛАВЕКУ ДАДЗЕНЫ ШЛЯХ*

Чалавеку дадзены шлях,
і, узняўшы ўгару галаву,
калі трэба – залезе на дах
і адкажа: “Так, я пайду”.

Атрымаў гэты шлях ці другі,
хоць на поўдзень, хоць угару,
пакачу да нябёс камяні,
не сказаўшы, што не, не пайду.

Па шляху ішоў многа год,
не ўчыніўшы нікому ман*у*.
Чалавек гэты не перамог,
бо ішоў ён не на вайну.

Чалавеку дадзены шлях
ён усюды, ён і нідзе,
а надзея гарыць у вачах,
што аднойчы ён ўсё-ткі дайдзе.

*12.03.2021*

Ксенія Фёдарава



...тое, што павінна адбыцца,
адбудзецца і так...

# Мост

***Апавяданне***

*26.09.2021 – пачатак*

Зараз пакрысе надыходзіць восень, і я міжволі прыгадваю тую самую. Не хачу ні вяртацца туды, ні рабіць гэтую падобную да той. Не кажу, што мне зараз нешта не падабаецца ў маім жыцці і што я сумую па мінулым. Мінулае само вылазіць у цяперашні час, выяўляецца ў дробных элементах надвор'я ды ў вулічнай восеньскай атмасферы. Хачу сказаць толькі адно: тады было добра. Ні пра што не шкадую: ні пра тое, што было, ні пра тое, чаго не стала. Мы памыліліся тады. Але людзі маюць права на памылкі так жа, як і маюць права на іх выпраўленне. І адзінае, пра што я шкадую, – што мы не выправілі нашых памылак. Я не да канца помню, што менавіта адбылося. У маёй памяці захаваліся толькі пачуцці, нейкія кадры без перадгісторыі і эмоцыі, якія я тады адчувала.

Не помню канкрэтна. Згодна з маімі нейкімі ўрыўкамі

памяці, ён памёр. Аднак мне здаецца, што мы бачыліся пасля яго смерці. То бок ён не мог памерці, так? Я не ведаю. Напэўна, добрай ідэяй было б апісаць усё, што жыве ў маёй галаве.

Ніжэй будзе прадстаўлены архіў маіх думак і пачуццяў.

*Архіў*

*25.12.2017 – я абяцаю*

Я абяцаю табе. Я абяцаю, што больш не буду крыўдзіцца і злавацца, калі ты будзеш доўга мне адпісваць. Абяцаю, што больш не буду жадаць штодзённа бачыць цябе. Абяцаю, што не буду марыць праводзіць кожную хвіліну свайго жыцця побач з табой. Абяцаю, што больш не буду спрабаваць затрымліваць цябе пры развітанні. Абяцаю, што больш не буду з маленнем прасіць цябе зайсці да мяне. Я... абяцаю.

*18.03.2021 – оцэдэ*

Наогул, у мяне ёсць падазрэнні, што ў мяне можа быць OCD, бо я не магу спакойна жыць, калі нейкія рэчы не на сваіх месцах. Тое ж самае і з табой, бо я адчуваю, што не ўсё на сваіх месцах. Я адчуваю, што яшчэ не ўсё сказана. Я ніколі не выкарыстоўвала людзей для ўласных патрэбаў. Таму мяне абражае такое стаўленне да мяне. Я не разумею, як можна ставіцца да людзей як да смецця. Ты ведаеш, што ты вымушаеш 1 мяне адчуваць сябе смеццем. Гэта спосаб самарэалізацыі? Ты ведаеш, што мне не было ад цябе шмат патрэбна? Я магла б быць тваім сябрам, і я хацела быць тваім сябрам. Але ты гэтага не хацеў. Я проста не разумею, як можна настолькі не цаніць іншых людзей. Мне крыўдна за сябе, мне проста крыўдна за сябе. Магчыма, я б магла як ніхто іншы разумець цябе. І, ведаеш, нягледзячы ні на што, я табе ніколі не жадала зла. І яшчэ адна рэч. Я кахала цябе калісьці. Гэта і так было зразумела, але гэта ніколі не было сказана. Хоць цяпер скажу. І я ведаю, што гэта ніколі не было ўзаемна. Ніколі. Не твая віна ў гэтым. Але твая віна ў тым, што ты зрабіў з таго, што паміж намі было.

*01.05.2021 – яму*

У маім горадзе спякотна, але мне падабаецца месца, у якім я жыву.

Я больш ніколі не буду пісаць табе.

Я часамі маю сны пра цябе, але гэта нічога. Усё скончана.

Я дагэтуль не магу зразумець цябе. Я не магу зразумець таго, як можна так ставіцца да іншых людзей. Так, ты трактуеш мяне як смецце, і я адчуваю сябе смеццем з-за цябе. І я амаль упэўнена, што я не адзіная такая.

Гэта цікава, але, здаецца, я дагэтуль сумую па табе. Я б сапраўды вельмі хацела пабачыць цябе калісьці. Я б вельмі хацела зноў абняць цябе. Я б хацела паразмаўляць з табой. Нармальна. Як нармальныя людзі размаўляюць паміж сабой. Але гэта здаецца немагчымым. Ты проста... смецце. Не я, а ты.

З аднаго боку, ты вельмі шмат змяніўся па стаўленні да мяне. Ведаеш, ты цяпер абсалютна іншы чалавек, зусім не той, з кім я была шчаслівая калісьці. Але рэч у тым, што ты ніколі не змяняўся. Парадокс. Я любіла таго ж д’ябла, які трактуе людзей як смецце. Падобна, я была наіўнай.

Калісьці ты быў маім сапраўдным каханнем.
Я больш ніколі не напішу табе зноў.

*04.05.2021 – правал*

Я прайграла. Я напісала яму зноў. Я так хацела яго пабачыць... я запрасіла яго на сустрэчу. І, канешне ж, ён дагэтуль не адпісаў. Я ненавіджу яго. Я сапраўды ненавіджу яго.

Ніколі не варта абяцаць зрабіць тое, што мы не можам зрабіць. Гэта прывядзе да таго, што мы не стрымаем слова.

*04.05.2021 – што гэта такое?*

Я не ведаю, што гэта такое. Я не ведаю, што мне патрэбна, я не разумею, што адбываецца ў маёй галаве.

Я проста адчуваю патрэбу сустрэцца. Я не ведаю, з якой мэтай я хачу сустрэцца. Пэўна, згодна з натурай чалавека, спадзяюся на нешта лепшае, чым ёсць цяпер.

Мае спадзяванні неадэкватныя. Я не магу і не хачу іх апраўдваць. Зрэшты, напэўна, і так усё зразумела.

Што будзе? Не ведаю. Што я табе скажу? Што я цябе ненавіджу? Ці што я хачу з табой дыялогу? Што я па табе сумавала?

Ці проста спытаю, як жыццё. Божа, як я даўно цябе не бачыла...

Я больш не магу з гэтым змагацца.

Дзякуй, што згадзіўся.

*05.05.2021 – гэта*

Сёння гэта здарыцца. Здарыцца нешта, чаго я так доўга чакала. Сёння ідэальны для гэтага дзень. Сёння 5 траўня. Прайшло роўна 3,5 гады. *Remember, remember the 5th of November!..*

Ох-ох-ох, гэта ўсё такая бязглуздзіца!

Чаму людзі такія ірацыянальныя? Чаму яны робяць так шмат абсурдных рэчаў? Магчыма, гэта тое, што адрознівае людзей. Іх эмоцыі і ірацыянальныя ўчынкі, якія былі выкліканы гэтымі эмоцыямі. Людзі дзіўныя. Нельга прадказаць іх спадзяванняў. Яны – ідэальная рандомнасць.

*05.05.2021 – оцэдэ 2*

Ці гэта было тое паведамленне, якое знішчыла ўсё?

Я сама не ведаю, што гэта было, але мне хочацца верыць, што... У лепшае верыць проста, і ўсё.

Проста мне балюча ад таго факту, што раней я не была пустым месцам, а потым раптам стала. Проста можна было гэта зрабіць 100500 іншымі спосабамі.

Усе людзі схільныя жыць мінулым часам. Гэтага не робяць ці людзі шчаслівыя, ці вельмі моцныя, ці тыя, якія мінулага не маюць.

Тры з паловай гады таму (роўна) я была шчаслівая. Ведаеш, часамі нейкія моманты моцна трапляюць у душу. І, нягледзячы на тое, што такіх момантаў у жыцці можа быць нямала, бывае балюча ад іх страты.

«Забыть одну жизнь — человеку нужна, как минимум, еще одна жизнь». Нібы гэтую долю я пражыла, але людзі могуць быць немоналюбамі. Гэта

не значыць, што чалавек кідаецца на ўсіх, каго бачыць. Гэта значыць, што чалавек можа цаніць некалькіх людзей адначасова.

Хаця, здаецца, што няма за што цаніць. Ёсць рэчы, пра якія я б вельмі хацела забыць.

Я не змагла сказаць гэтага нармальна. Ты будуеш сцены. І выстаўляеш мяне дурніцай. Гэта натуральна. Ты і сапраўды нічога не можаш зрабіць.

Мне проста балюча, што я раптам стала для цябе нікім. Гэта можна было зрабіць мноствам іншых спосабаў. Спадзяюся, што я цябе чамусьці навучыла і што іншым людзям, якія могуць быць блізкія табе, будзе лепш, чым мне.

*07.05.2021 – лёс*

Тое, што павінна адбыцца, адбудзецца і так. Што б мы ні рабілі. Яно адбудзецца.

Можа існаваць некалькі дарог, якія вядуць да аднаго і таго ж выніку. Мы можам выбраць дарогу, але не канцавы вынік. Мы думаем, што маем выбар. Мы думаем, што мы можам мець уплыў на іншых людзей. Мы можам. Але што б мы ні рабілі, залежыць не ад нас.

Мы павінны прыняць тое, што ёсць рэчы, якія не могуць адбыцца. Мы павінны жыць з гэтым. Мы не можам змяніць мінулага і нават будучыні. Хаця часамі вельмі хочацца нешта змяніць...

Ёсць рэчы, якія не залежаць ад нас. Так смутна, што мы не можам мець усяго пад сваім кантролем... Мы павінны быць гнуткімі.

P.S. Ніколі не кажыце людзям, што любіце іх, калі вы не ўпэўненыя, што гэта ўзаемна. Ніколі і ні ў якіх формах. Праз гэта можна страціць гэтых людзей назаўсёды.

P.P.S. Хаця калі вы павінны іх страціць, то вы страціце іх і так, не раней, дык пазней. Так што рабіце тое, што вам хочацца зрабіць, згодна з душой.

*08.05.2021 – нікому*

Гэта быў дадатковы момант у скарбонку момантаў, якія я захоўваю і цаню. Дзякуй табе за кожны з гэтых момантаў. Ты быў найлепшай хваробай у маім жыцці.

*08.05.2021 – выпадковасць*

У промнях сонца твае валасы золатам свяціліся, як німб над д’яблам. Ці магчыма, каб гэта быў ты? Падыходзячы бліжэй, я пазнаю паліто, у якім ты быў тры дні таму. Ты мяне пазнаў. Каб пазбегнуць розных рэчаў, якія тэарэтычна маглі б здарыцца, ты жорстка паскараеш тэмп і дастаеш з кішэні тэлефон. Праходзячы зусім блізка, я заўважаю на табе кашулю, якая здалася мне вельмі знаёмай... Мы праходзім міма як незнаёмцы.

*07.06.2021 – такі праўдзівы*

Ты быў такі праўдзівы, такі праўдзівы... Чаму?.. Чаму ты прыходзіш да мяне такі праўдзівы? Я больш не хачу цябе бачыць, чаму ты прыходзіш?

Мой мозг малюе твае вобразы для мяне. Каб я магла пабачыць цябе. Ці мая падсвядомасць патрабуе цябе? Гэта такая прасунутая нейрасетка... Я свядома ніколі б сама не прыдумала ўсяго таго, што здольная стварыць мая падсвядомасць.

Што, калі ты быў цалкам створаны толькі маім мозгам? Ведаеш, як людзі ствараюць сваіх уласных багоў, мой мозг стварыў свайго ўласнага д'ябла. Што, калі ты ніколі не існаваў? Падсвядомасць хоча жыць у сваёй уласнай суб-рэальнасці. Хоча жыць у болю, таму стварае ўсе магчымасці для пакутаў. Для яе зручна не адрозніваць рэальнасць ад нерэальнасці. Гэта ўсё створана толькі для таго, каб карміць маю эмацыйную патрэбу.

Такія пустыя вуліцы, такі пусты свет... Толькі мая падсвядомасць запаўняе ўсё гэта сэнсам ці яго адсутнасцю. Гэта свет вельмі пусты, і ты быў такі праўдзівы ў гэтым пустым свеце...

*09.06.202 – віток*

Наш свет такі бязглузды, у ім жывуць такія вар'яты... Людзі патрабуюць людзей, і людзі любяць людзей, і людзі ненавідзяць людзей, і людзі-людзі-людзі-людзі...

Людзі – гэта людзі, дык чаму ж яны павінны так варагаваць паміж сабой?

Я зноў пустая. Я пустая інтэлектуальна праз эмацыйнае перапаўненне.

Мае ўспаміны заўсёды са мной.

Людзей больш няма, а ўспаміны пра іх ёсць.

Зрэшты, гэта было б дзіўна, калі б мы маглі губляць успаміны пра людзей адначасова са стратай гэтых людзей. Такім чынам мы маглі б забыць пра ўвесь свой вопыт. І тады мы рабілі б адны і тыя ж памылкі раз за разам. Нашае жыццё магло б стацца неразрыўным колам, і мы, як поні, хадзілі б увесь час па адной і той жа траекторыі.

Аднак часам празмерна хочацца пачаць новы віток на адным і тым жа коле...

*10.06.2021 – давай дамовімся?*

Давай з табой разам дамовімся сцерці адно аднаго з памяці? Мы забудзем усё, што паміж намі здарылася, і ўсё, што ведаем адно пра аднаго. Мы перастанем трымаць адзін на аднаго крыўды, нам перастане быць сорамна за свае ўчынкі. Мы страцім усе пазітыўныя і негатыўныя ўспаміны. Мы зноў станем незнаёмымі.

Аднак давай з табой разам запішам сабе дзесьці, каб мы прыйшлі ў адно і тое ж месца ў адзін і той жа час. Мы не будзем ведаць, навошта, з якой мэтай і каго мы павінны сустрэць. Мы проста будзем ведаць, што мы павінны туды прыйсці. Мы прыйдзем і пабачым незнаёмага чалавека. І мы пазнаёмімся нанова. Мы пачнем усё з пачатку, як быццам бы паміж намі ніколі нічога не здаралася. Усё будзе інакш. Усё будзе лепш. Мы выправім памылкі мінулага, не ведаючы пра іх існаванне.

Калі ласка, давай з табой дамовімся?..

*10.06.2021 – істэрыка*

Чэрвеньскі вечар. Летняя спякота змяняецца прыемнай паслязаходняй прахалодай. Неба красуецца сваім раскошным вечаровым строем, дагараючы колерам цёмнай чайнай ружы на захадзе і мяшаючы блакітны з фіялетавым на ўсходзе. Яшчэ грукочуць трамваі, якія цяпер ужо ходзяць не так часта, як удзень. Над імі нахіліліся жоўтыя ліхтары. Мяшанка чырвоных і жоўтых

агнёў ліхтароў і трамваяў дадаюць бляску строю летняга вечара. Дзьме лагодны і пяшчотны вецер. Цвітуць каштаны, стаіць пах акацыі.

Гармонію гэтага спакойнага вечара парушае мой істэрычны плач. Я энергічна хаджу туды-сюды па тратуары, часамі падаю на калені ў траву, іншы раз сяду і абдыму калені рукамі, потым устану і зноў пачну хадзіць па асфальце, потым вяртаюся ў траву і кладуся на бок у позе эмбрыёна. Змяняючы такім чынам сваё становішча ў прасторы, я гучна плачу, закрываю твар рукамі, выціраю далонямі слёзы са шчок, хутка ходзячы, махаю рукамі, потым зноў закрываю твар і выціраю слёзы. Мінакі шчыра жадаюць мне дапамагчы і пытаюць, што здарылася. Я адмахваюся рукамі ад іх пытанняў, і ад мяне чуваць толькі тры словы, якія я паўтараю раз за разам:

– Гэта было тут, гэта было тут!

Усё, што могуць зрабіць разгубленыя людзі, гэта са спачуваннем глядзець на мяне і ці то прыкладваць сціснутыя далоні да сэрца, ці то падносіць рукі да твараў, ці то прыкрываць далонямі вусны. Яны разумеюць, што ў мяне тут калісьці адбылася асабістая драма, пра змест якой яны могуць толькі здагадвацца.

Збіраючы вакол сябе ўсё больш людзей, я прыцягвала да сябе ўсё больш ўвагі. І тым больш адмахвалася ад дапамогі, якую мне прапаноўвалі добрыя людзі.

Чарговага мінака зацікавіла група людзей, якая сабралася паблізу ад яго дома. Падыходзячы ўсё бліжэй, ён пачаў прыглядвацца да незвычайнай з’явы. Ён пабачыў дзяўчыну, якая ў той момант сядзела на траве, плачучы ў свае калені. Мінак яе пазнаў. Яна не заўважыла, як ён падышоў да яе. Ён апусціўся на калені побач з ёй. Калі ён запытаў, што здарылася, яна пазнала яго голас. Яна паглядзела на яго заплаканымі вачыма. Ён прыабняў яе за плечы. У адказ яна кінулася яму на шыю і пачала рыдаць у яго плячо. Яна трэслася ў яго абдымках. Ён моцна абняў яе. Яна прайшлася сваёй рукой па яго твары, пасля чаго плаўна запусціла яе ў яго доўгія кучаравыя залатыя валасы. Апісаўшы пяшчотны паўкруг па яго галаве рукой, яна спыніла яе на патыліцы. Сваёй мокрай ад слёз шчакой яна прытулілася да яго шчакі. Ён пагладжваў яе па спіне. Так яна застыла ў яго абдымках на некаторы час, лагодна пагладжваючы рукой яго валасы.

Міжвольныя гледачы нібы зразумелі, што праблема вырашана і што іх прысутнасць больш непатрэбная. Яны пачалі разыходзіцца, часам азіраючыся, як бы з мэтай упэўніцца, што ўсё так жа “добра”, як і момант таму. Прабыўшы некаторы час у яго абдымках, здалося, што яна зусім супакоілася. Аднак усё яшчэ трымаючы руку на яго патыліцы, яна раптам сціснула свой кулак, схапіўшы яго такім чынам за валасы, пасля чаго рэзкім рухам вырвала ўсе тыя валасы, што мелі няшчасце трапіць у яе руку. Ён ускрыкнуў ад нечаканага і моцнага болю. Яна рэзка адпіхнула яго рукамі ў плечы і адсунулася. Усё яшчэ трымаючы ў руцэ жменьку вырваных залатых валасоў, яна паказала іх яму і сказала:

– Я абажаю твае валасы, – пасля чаго другой рукой выпісала яму смачную аплявуху са словамі: – Ты быў найлепшай хваробай у маім жыцці. Бывай, пачвара.

Я ўстала. Спакойна і ўпэўнена, быццам гэта зусім не я яшчэ пару хвілін таму ляжала на траве і трэслася ў істэрыцы, пайшла прэч.

*15.06.2021 – цішыня*

Я парушыла цішыню. Мае словы былі гвалтам. Яны былі балючымі для кагосьці. Усё, чаго я хацела, і ўсё, чаго я патрабавала, было ў маіх руках. Мае словы былі вельмі непатрэбнымі. Яны ўчынілі шкоду. Пачуцці інтэнсіўныя. Ці былі мае словы трывіяльнымі? Асалода застаецца, так жа, як і боль. Мае словы былі бяссэнсавыя. Іх лёгка забыць. Усё, чаго я хацела, і ўсё, чаго я патрабавала, было ў маіх руках.

*18.06.2021 – чарговы амаль рэальны сон*

Чарговы чортавы (амаль) рэальны сон. У сэнсе, калі ўмовы былі не такія ўжо і рэальныя, то людзі былі вельмі праўдападобнымі. Іх памкненні і пачуцці.

Твой пакой у інтэрнаце чамусьці быў з балконам. І гэта было каля мора. Можна было падняцца на твой балкон са сходаў з вуліцы. Чортавыя сходы ў рай. Я падымаюся. Я бачу цябе і ведаю, што ты не вельмі рады мяне бачыць. Я абдымаю цябе і сыходжу назад уніз, каб больш ніколі не непакоіць цябе.

Аднак гэта не было канцом. Нейкім чынам мы пайшлі шпацыраваць разам. Ты трымаў мяне за руку і часамі абдымаў за талію. Я была ў захапленні ад таго, што была з табой, а ты быў даволі халодны. Больш халодны, чым звычайна. Але я зусім гэтага не заўважала, быццам бы. Я была проста шчаслівая зноў быць з табой.

Але я ведала, з кім правяду рэшту вечара. Я помніла пра гэта ўвесь час. Не з табой. І гэта файна.

*20.06.2021 – заўсёды*

Ты хацеў выкінуць мяне са свайго жыцця – ты зрабіў гэта. Але ты не ўзяў пад увагу адзін вельмі важны аспект. Не ўсё матэрыяльнае. Ёсць рэчы, якія нельга пабачыць, якія можна толькі адчуць. Існуе незвычайная энергія, энергія нашых думак і пачуццяў. І гэтая энергія ад майго імя заўсёды будзе з табой. За табой заўсёды будуць сачыць. Які б шлях ты не абраў, ты ніколі не будзеш адзін. Што бы ні здарылася, я заўсёды буду з табой.

*24.06.2021 – Варшава*

А помніш, як калісьці восенню ў Варшаве галовы высокіх цёмна-шэрых будынкаў хаваліся ў вадзяністых, мокрых, пушыстых светла-шэрых аблоках? Тады было спакойна, і фізічна, і псіхічна. Нічога не напружвала, нічога не пужала. Быў адпачынак.

Прайшло тры з паловай гады. Я ўсё помню. Ты, падобна, не. Сёння ў Варшаве будынкі так жа хаваюцца ў аблоках. Дакладна так жа, як ты ад мяне. Вось толькі лагодных ды зручных аблокаў не хапае на ўсю вышыню будынкаў. Яны хаваюць толькі верх, а ніз бачны. Ну, гэта нічога. Важна, каб вярхі адчувалі сябе спакойна. Тады і нізы хвалявацца не будуць. Я ўсё бачу і я ўсё помню.

*24.06.2021 – чаму такі выбар?*

– Чаму такі выбар?

– А ты не здагадваешся?

– Не...

– Ну, бо нарцысы. Гарбата з нарысаў.

– Ну, вядома, як я і сам да гэтага не дадумаўся... Але проста навошта, навошта пра гарбату, навошта пра гэта ўсё?

– Калі нешта не падабаецца, ніхто цябе не вымушае чытаць мае творы. Аднак я ўдзячная табе за тое, што ты гэта робіш. Было б сумна, калі б я пісала іх без толку.

– У сэнсе без толку?

– Колькі б я ні развітвалася з табой у жыцці, у думках і сваіх творах, гэта заўсёды заканчваецца аднолькава. Я ўсё адно ў выніку вяртаюся да цябе.

– Што мне зрабіць? Чаго ты хочаш ад мяне? Чаго ты наогул хочаш?

– Я не ведаю. Хачу цябе бачыць, хачу цябе чуць. Хачу, каб упала сцяна.

– Якая сцяна?

– Я цяпер мастак. Прабач за клопаты. Да чарговай сустрэчы калісьці. Бывай здаровы, удачы табе.

*24.06.2021 – вецер*

Прыемны вечар. Нешта падказвае, што гэтая сустрэча будзе апошняй. Вясна, але яшчэ не цёплая. Абое ў паліто. Маё доўгае і светла-шэрае. Я хаваю рукі ў яго глыбокіх кішэнях. Тваё карычневае. Цёмна, стаім пад ліхтаром. Лёгкі і лагодны, аднак характарны вецер развівае твае валасы. Пасма валасоў закрывае твае вочы; я раблю крок убок, каб іх бачыць і каб не даць табе хавацца ад мяне за валасамі. Мы размаўляем пра рыбу і мяса. Адзін з самых важных і нікчэмных дыялогаў у маім жыцці.

*26.06.2021 – гарбата шуй сянь*

> *Да гэтай гарбаты ў мяне, на жаль, вельмі змешаныя пачуцці;*
> *ці я не ўмею яе заварыць, ці не ведаю.*
> *З аднаго боку, мае прыгожы пах, але з іншага боку*
> *я не змог разабраць чагосьці канкрэтнага ў яе смаку;*
> *я не змог зразумець яе.*
>
> Стары знаёмы ў сваім блогу пра гарбату

Ты быў адным з так малалікіх людзей, хто размаўляў са мной роднай мовай. Калі мы з табой упершыню пайшлі шпацыраваць, мне з табой было вельмі лёгка. Было такое ўражанне, што я на той момант ведала цябе ўжо некалькі гадоў. Ніколі ні з кім я не сыходзілася так лёгка, як з табой. Мы былі на фестывалі і спрачаліся наконт таго, што такое наркаманія і ў якіх кантэкстах гэта добра ці дрэнна, ці ты помніш гэта?

Ці ты помніш, як аднойчы, вяртаючыся з закупаў, мы зайшлі да цябе, і ты падзяліўся са мной сваёй цыбуляй і морквай, а потым пачаставаў мяне цвілым сырам?

Мяне наогул вельмі дзівіла, як можна так хутка пачаць разам хадзіць на закупы, бо гэта ж такі прыватны працэс, і на закупы, як мне здаецца, з малазнаёмымі людзьмі ніхто не ходзіць. Мяне гэта дзівіла і радавала.

Ці ты помніш, як табе падабаліся мае валасы?

Ці ты помніш, як паабяцаў навучыць мяне разбірацца ў гарбаце?

Ты мне падараваў свой кубік Рубіка, і я радавалася таму, што ў мяне нейкая рэч, звязаная з табой.

Ці ты помніш, як аднойчы, будучы разам на закупах каля 14 гадзіны дня, ты жартам сказаў, што да 20 павінны вярнуцца дадому?

Ці як мы разам вярталіся з трэніровак? Ты з басейна сустракаў мяне пад фітнес-клубам, і мы разам вярталіся дадому. Ты помніш?

Ці ты помніш, як я аднойчы купіла сардэчкі індыка, і ты мяне назваў сэрцаедкай?

Калі я табе сказала, што спрабую правільна харчавацца, ты сказаў, што не есці смажанае – яшчэ горш за астраномію. Ты гэта помніш?

Ты заўсёды адчыняў мне двое дзвярэй, калі мы выходзілі ці вярталіся дадому. Ты гэта помніш?

Ці ты помніш, як ты насіў мае пяцілітровыя бутэлькі вады з крамы? Ці ты помніш, як мы разам паехалі ў Варшаву? Была восень, і галовы высокіх цёмна-шэрых будынкаў хаваліся ў вадзяністых, мокрых, пушыстых светла-шэрых аблоках? Тады было спакойна, і фізічна, і псіхічна. Нічога не напружвала, нічога не пужала. Быў адпачынак.

Ці ты помніш, як я прыходзіла да цябе ў госці і сядзела ў цябе на каленях?

Ці ты помніш, як ты ў краме заўважыў кубак з канём і як я не змагла яго не купіць?

Ці ты помніш, як мы пайшлі ў бібліятэку чытаць кнігі, і ты там заснуў? Вельмі соладка спаў, ажно соп. Я з замілаваннем смяялася з цябе і баялася разбудзіць.

Ці ты помніш, як ты часамі гуляўся з маімі валасамі?

Разам агульнымі сіламі назбіралі наклеек на плюшавы яблык Антося, помніш?

Ці ты помніш, як ты аднойчы сустракаў мяне з падарожжа? Я замерзла, і ты ўзяў для мяне свой світар. Верыш, што мне было ў ім вельмі ўтульна?

Помніш свае расказы пра ўплыў адрэналіну на якасць мяса жывёлін? З гэтым аргументам ты прасіў мяне не баяцца і не хвалявацца лішні раз, ты помніш?

Ты помніш, як мы хацелі ўзяць цябе са мной з сабой у Тайланд як 70-кілаграмовую валізу з яблыкамі-Антосямі?

Помніш, як калісьці мы стаялі пад маімі дзвярамі і ты распусціў мне валасы, бо яны табе падабаліся?

Помніш, як мы падоўгу стаялі ў абдымках, не могучы развітацца? Калі я павінна была выехаць у Тайланд, я не ўяўляла, як я буду жыць без цябе тры тыдні. Ты гэта ведаеш?

Помніш, як калі мы ездзілі аўтобусамі, ты падаваў мне руку, калі я выходзіла?

Помніш, як трымаў мяне ў сваіх абдымках усю дарогу ў аўтобусе да далёкага гандлёвага цэнтра?

Помніш, як мы вярнуліся адтуль? Мы былі ў мяне, ты пачаў мяне казытаць, а я, бяззбройная, спрабавала абараніцца ад цябе. Мы скаціліся на падлогу і так і сядзелі там з гадзіну. Ты зноў распусціў мае валасы і стварaў з іх новыя прычоскі. Я не магла цябе адпусціць, а ты не мог пайсці.

*Remember, remember, the 5th of November*... Ты некалькі гадзін развітаўся са мной, будучы ў маім пакоі. Ніяк не мог вырвацца з маіх абдымкаў. Мы стаялі разам, размаўлялі пра нейкія вельмі важныя рэчы. У нейкі

момант стала ясна, што яны зусім няважныя, і што самае важнае – гэта мы, ты і я, якія разам, адны ў маім пакоі. Ты пяшчотна паглядзеў на мяне і раставарыў у сабе. Назаўсёды, ты забраў маё сэрца сабе.

Помніш, як ты наязджаў на мяне за тое, што я купляла падушачкі, а магла б замест іх купіць сабе шакаладку?

Помніш Пагоню, што я табе падарыла ў дзень ад'езду?

Помніш, як ты праводзіў мяне на цягнік? Мы былі вельмі блізка да таго, каб спазніцца. Аднак цудам паспелі. Ты зайшоў у цягнік са мной. Табе было ўсё роўна на акалічнасці і на колькасць людзей. Ты перадаваў тамблерон сваёй маме ў Магілёў праз мяне, помніш?

Ці ты помніш, як ты ўладна казаў, каб я раней легла спаць, і гразіў, што на наступны дзень праверыш, ці я выспалася?

Ці ты помніш, як ты сустракаў мяне з прыпозненага аўтобуса з гарбатай у тэрмакубку? Калі я запытала, ці яна з цукрам, ты, вельмі здзіўлены і амаль абураны такім пытаннем, сказаў, што не. Тады мы адно пра аднаго даведаліся, што абое п'ем гарбату без цукру. Ты тады нібы і не планаваў ночыць у сябе. Мы леглі спаць як былі, у адзежы. Мне было з табой камфортна, я была шчаслівая. Калі мы прачнуліся, цябе нават мая хвароба не стрымала, і мы згубіліся ў запале. Ты быў уладны і моцны.

Ці ты помніш, як калісьці абняў мяне на лесвіцы, не саромеючыся дзясятка людзей, што праходзілі міма?

Здаецца, гэта было зусім нядаўна, вось толькі ўчора. Яшчэ ўчора ў маім жыцці ўсё было так добра, так цудоўна... І што цяпер?.. Цяпер цябе няма...

Нежывы. Мёртвы. Памёр.

Заснуў беспаваротна, больш не прачнешся. Ніколі.

Не дыхаеш, сэрца не б'ецца. Душа твая пакінула цела тваё. Больш ніколі не заспявае для мяне дуэт душы тваёй з целам тваім.

Вакол цемра. Цёмна і халадна. Толькі ты празмерна светлы, бледны, амаль белы. І не цёплы. Ты больш не грэеш. Цела тваё жахліва халоднае.

На твары тваім застыла вечная ўсмешка. Валасы больш не свецяцца золатам; быццам бы патухла магутнае свяціла.

Больш ніколі цябе не пачую і не адчую. Знік назаўсёды. Памёр...

Чакай-чакай, ты расплюшчыў вочы, зарумяніўся, рука твая пацяплела? Ці гэта праўда? Ці ты ажыў? Вось ты ўжо сеў, а цяпер і ўстаў. Рукі твае апынуліся на маёй таліі, мае – на тваіх плячах. Ты глядзіш на мяне зноў пяшчотна.

Я стану праграмістам і буду працаваць дзеля грошай; а ты – хімікам і будзеш працаваць для душы. Ты будзеш займацца тым, што табе падабаецца і не будзеш непакоіцца пра бюджэт. Мы будзем зноў хадзіць разам на закупы. Ты навучыш мяне разбірацца ў гарбатах. Будзеш гатаваць для дваіх, бо ты любіш гатаваць; а я буду мыць пасля нас посуд. Ты будзеш варыць мне каву, а я буду замаўляць табе спецыяльныя гарбаце з-за мяжы. Мы зноў будзем разам. Я зноў буду абдымаць цябе, я зноў буду адчуваць яго. Так будзе, праўда?..

Ты глядзіш на мяне зноў пяшчотна. Я хачу запусціць сваю руку ў твае валасы. Так, гэта было б цудоўна, зараз так і зраблю!

Але ж не, не, немагчыма! Немагчыма, каб ты зноў быў жывым, ты хвіліну таму ляжаў мёртвы. Ці я бачу тое, што так хацела б пабачыць? Заплюшчваю вочы, лічу да 10. Калі я расплюшчваю іх, я зноў бачу цябе

смяротна-бледнага і з той жа вечнай усмешкай. Гэта быў толькі прывід, усяго толькі міраж, згенераваны маёй падсвядомасцю.

Нежывы. Мёртвы. Памёр.

Я была шчаслівая проста мець цябе ў сваім жыцці.

Твая падтрымка перад так важным для мяне здарэннем мне вельмі-вельмі дапамагала.

Знаёмства з табой было адной з найлепшых рэчаў, якія здараліся ў маім жыцці. Я люблю цябе. З нашай першай сустрэчы і назаўсёды.

Апошні раз я прытуляюся да цябе, апошні раз сваёй шчакой адчуваю тваю ўжо халодную шчаку.

Мне цябе будзе вельмі не хапаць. Бывай.

*28.06.2021 – з нашай першай сустрэчы*

Я была з табой сабой,
З нашай першай сустрэчы, заўсёды,
Паступала згодна з душой,
Не насіла маскі ніколі.

У няроўнай сэрцаў барацьбе
Ты... калісьці быў мой.
Маё сэрца належыць табе,
Я заўсёды буду з табой.

«Пакуль смерць не разлучыць нас», –
так яны кажуць заўсёды,
Забываюць, аднак, узгадаць,
чым з'яўляецца смерць для любові.

Я гатова шчыра сказаць:
– Ты быў усім, ты быў сонца і промні.
Настаў цяпер час раз'яднаць
Цябе з горкай і цяжкай журбою.

Як жа смутна мне ўспрыняць,
што цябе не пабачу ніколі.
Я кахала і буду кахаць
з нашай першай сустрэчы, заўсёды.

*30.06.2021 – я выязджаю*

Я выязджаю. Я выязджаю з горада, дзе быў ты. Я выязджаю надоўга. Мне будзе цябе не хапаць, мне будзе неспакойна. Прыемна было разумець, што я ў любы момант магу прыйсці на тваю магілу, дзе цяпер засталося толькі тваё цела, без рэшткаў душы. Аднак гэта адзінае, што ў мяне засталося ад цябе. Артэфакт твайго існавання ў маім жыцці. Адзіны сумны артэфакт – твая магіла.

Чаму ўсё калісьці павінна скончыцца?

*01.07.2021 – снежкі*

Я не раз задумвалася, а што, калі б усё склалася інакш? Калі я хацела запрасіць цябе на снежкі на першым снезе, што, калі б я тады атрымала станоўчы адказ? Што, калі б восень, ужо бурая ў колерах, прыемна-

прахалодная, клапатлівая і чуллівая спадарыня, адыходзячы, не забрала цябе з сабой? Зіма са сваім прыходам пачала новы віток прыроды, у якім пазбавілася ад усяго, што лічыла лішнім. Зіма, нягледзячы на свой прывабны і захапляючы выгляд, як халодная і ўладная, аднак вельмі прыгожая каралева ў белым, аказалася жорсткім катам. Яна палічыла цябе лішнім. Яна вырашыла першым снегам змесці цябе з майго жыцця. Цябе не стала.

Што, калі б зіма не прыйшла? Ці калі б прыйшла, але была б літасцівай да нас? Калі б ты далей мог жыць, што б было з намі цяпер? Ці была бы я такой жа шчаслівай, як той восенню? Я не ведаю. Праўда. Усё было б інакш. Аднак рана ці позна цябе і так павінна было б не стаць, рана ці позна тваё існаванне і так змянілася б смерцю. Ці не лягчэй было страціць цябе раней?..

Гэта была для мяне вельмі цяжкая, аднак неабходная страта. Бывай шчаслівы ў сваім новым свеце.

*02.07.2021 – рытуал*

Пахмурна і прахалодна. Неба плаксіва-шэрае і спакойнае. Лёгкі і прыемны вецер. Дрэвы прыкрываюцца толькі лёгкімі і ўжо сухімі рэшткамі сваіх раскошных восеньскіх убораў. Апалае лісце, якое яшчэ ўсяго пару тыдняў таму было зачаравальна-залатым і такім прыгожым, сталася цяпер гнілым і бурым. Пахне свабодай і журбой. Канец лістапада.

Кожны год надыходзіць гэты незвычайны дзень, калі я павінна пакінуць яго аднаго ў спакоі. Кожны год 23 лістапада ён святкуе сваю жыццёвую жалобу. Гэта той дзень, калі мне побач з ім няма месца. За столькі гадоў ён так і не пазбавіўся сваёй хваробы. Зрэшты, я яго разумею. Я на яго месцы таксама не забыла б. За ўвесь наш час разам я да гэтага прывыкла. Чаго не зробіш дзеля яго. Галоўнае, каб ён адчуваў сябе камфортна.

Добра, што сёння субота. Паеду да мамы. Пабядую і я.

*02.07.2021 – у дарогу*

– Не забудзь, твая мама прасіла цябе ўзяць акуляры.

– Ой, сапраўды, а я і забыў! – усклікнуў ён, пасля чаго ўзяў акуляры ў футарале з палічкі ў шафе і палажыў іх у заплечнік.

– І тамблерон для яе.

– Так-так, ужо кладу, – яна абвяла вачамі пакой, каб упэўніцца ў тым, што ён нічога не забыў. Ніколі не можа быць так, каб ён сам нічога не забыў. Але цяпер, пасля таго, як паклаў акуляры, здаецца, усё ўзяў.

– Перадавай ёй прывітанні. Не забудзь, калі ласка.

– Канечне.

Ён падышоў да яе бліжэй, каб развітацца перад ад'ездам. Яна паглядзела на яго пранікнёна і сумна.

– Варвары таксама.

Ён паглядзеў на яе як чалавек, які вымушаны прызнаць тое, што пра яго ведаюць больш, чым яму б хацелася. Аднак нельга не спрабаваць абараніць свой гонар.

– Пра што ты?

– Няўжо ты думаеш, што я не разумею? – ён роспачна апусціў галаву.

– І як ты ставішся да гэтага? Мне ёсць куды вяртацца?

– Канечне ж ёсць. Нармальна я да гэтага стаўлюся. Для мяне галоўнае, каб ты быў шчаслівы. Адчувай сябе вольным. Буду любіць і чакаць.

Ён з палёгкай і ціхай радасцю абняў яе і пацалаваў у лоб.

– Люблю цябе, – нібы з падзякай сказаў ён. Яна чулліва прытулілася да яго, запусціла руку ў валасы і пагладзіла яго па галаве.

– Час ехаць, – сказаў ён, цалуючы яе ў шчаку.

Яна зачыніла за ім дзверы.

– Ведаю, што не любіш, – яна падышла да акна і маркотна ўгледзелася ў прыгожую шэрасць восені.

*09.07.2021 – я больш не хачу*

Я не хачу больш пісаць пра цябе. Я стамілася. Аднак я адчуваю сваім абавязкам апісаць адну рэч.

Пасля таго, як нашыя шляхі разышліся, мы даволі доўга не бачыліся. Каля двух гадоў. І раптам, пасля гэтых двух гадоў, мы сустрэліся на пікеце. Мы тады не размаўлялі адзін на адзін, толькі ў вялікай групе людзей. Я помню твой шматзначны погляд. Гэта, здаецца, было адзіным, што неяк сведчыла пра мінулае. Пасля гэтага мы проста размаўлялі, будучы ў адной кампаніі, ты ставіўся да мяне так жа добра, як і да іншых. Ты не трактаваў мяне неяк інакш. Я была роўнай з іншымі. Гэта было так файна, не адчуваць сябе нейкім выключэннем для цябе.

Я была вельмі радая цябе пабачыць. Зрэшты, як і заўсёды. Я вярталася дадому адна пад роспачным летнім дажджом і думала пра цябе. Пра тое, што існуюць людзі, якія ніякія ў перапісках і проста богі ў сустрэчах ужывую.

Потым я зноў вельмі доўга не бачыла цябе. Аднойчы я хацела запрасіць цябе на піва, бо на пікеце я заўважыла, што піва – гэта нешта, чым ты вельмі любіш бавіцца. Аднак ты проста не чытаў майго паведамлення. Дзень, два, тыдзень, два, месяц, палову года... Ты і не збіраўся на яго адказваць. А я і не настойвала. Да нейкага моманту. Пакуль не накіпела.

Нейкім цудам ты згадзіўся са мной сустрэцца. Гэтая сустрэча была такая нязвыклая... На той момант мы не размаўлялі нармальна больш за тры гады. І з табой было зноў так лёгка... Так цёпла ды камфортна. Мы размаўлялі пра ўсё. Нават не адчувалася, што мы так даўно не бачыліся. Нібы вось толькі тыдзень, а не тры гады. І вечаровы горад быў такі прыемны, ціхі і ўтульны. Пахла вясной ды прыемным смуткам.

Усё было файна, пакуль я не пачала закранаць тэмы, якія мяне хвалявалі. Ты зноў закрыўся ад мяне і знік. Знік, падобна, назаўсёды.

Табе было прасцей выкінуць мяне са свайго жыцця, чым разабрацца са мной. Магчыма, я занадта патрабавальная да іншых. Сумна, што ад гэтага горш толькі мне.

*26.09.2021 – працяг*

Я не ведаю, дзе праўда. Я не разумею, што здарылася. Кожны дзень у мяне новыя думкі і пачуцці; я забываю пра тое, што думала і адчувала раней. Адзінае, дзе яно захоўваецца, і адзінае, што ў мяне ёсць, гэта мае архівы. Я не ведаю, што з гэтага фантазія, а што гісторыя. Я не маю ніякіх кантактаў з ім, ніякіх сведкаў – ніхто нічога не ведае роўна так жа, як і я. Толькі пачуцці і вобраз чалавека, які вельмі шмат для мяне значыў і, падобна, значыць дагэтуль.

Сёння выдатны дзень, каб сабраць усё ў адно месца. Сёння роўна чатыры гады з нашага знаёмства. І сёння я пачынаю сваю тэрапію.

*03.07.2022 – канец*

Я больш не маю прывідаў. Мая свядомасць ясная. Я магу адрозніць рэальнасць ад нерэальнасці.

Падобна, гэтага чалавека ніколі не існавала. Няма ніякіх фактаў, якія б даказвалі яго існаванне. Ён усяго толькі плод маіх думак. Мая падсвядомасць стварыла сабе д'ябла для кахання. Яго няма і ніколі не было.

Бывае, што ў жыцці ўсё настолькі добра, што аж нудотна. Тады свядомасць ці падсвядомасць пачынае ствараць праблемы, каб хаця б нешта адбывалася ў жыцці. Не добрае, дык дрэннае. Каб была хаця б нейкая розніца патэнцыялаў. Немагчыма жыць, калі ўсё заўсёды аднолькава. Абароннай рэакцыяй арганізму ад загнівання з'яўляецца стварэнне праблемаў, якія ён потым мусіць вырашыць. Мабыць, так і павінна быць.

Аднак прыемна было мець з ім справу. Нават смутна, што ўсё гэта толькі выдумка...

*05.07.2022 – працяг канца*

Па сутнасці, у маім жыцці нічога не змянілася. Я працягваю працаваць на такой жа добрай працы, як і раней. Можа, пачала мець яшчэ больш знаёмых і яшчэ менш сяброў. Далей працягваю мець асалоду ад дажджу ды пахмурнасці, далей люблю восень. Далей купляю каву ў кавярнях, каб заліць свой смутак нечым лепшым за алкаголь. Далей радуюся любым рэчам, звязанымі з коньмі. Далей люблю падоўгу шпацыраваць і думаць пра жыццё. Далей ем кашы на снеданне ды люблю шакалад. Адно толькі змянілася. Сталася вельмі пуста. Страшэнная, жахлівая пустка з'явілася ў маім жыцці. Мне няма па кім сумаваць, пра каго думаць, каго любіць. Мне няма куды накіраваць сваю ўнутраную энергію, якой у мяне празмерна шмат (чаго, мабыць, знешне зусім не бачна). Мне не хапае таго чалавека. Не хапае чалавека з маіх сноў.

*25.08.2022 – дзень народзінаў*

Сёння я стала на год старэйшай. Я такая маладая, а адчуваю сябе такой старой... На кожныя народзіны чакаеш нейкага цуда. Што нехта прыгадае пра цябе, напіша пару цёплых словаў, ці што нехта прыйдзе да мяне ў госці з шарыкамі, каб зрабіць мне сюрпрыз. Кожны год я, як малое дзіця, чакаю цуду. І яго ніколі не здараецца. Дарослае жыццё такое смутнае... Чаму людзі павінны жыць у ізаляцыі адзін ад аднаго? Чаму людзі такія фальшывыя? Яны ўсміхаюцца табе ў твар, робяць выгляд, што зацікаўленыя тым, што ты кажаш, абяцаюць зрабіць нешта для цябе... Але насамрэч яны маюць цябе дзесьці. Усе людзі шукаюць выгоды ў іншых людзях. Шчырасць засталася ў дзяцінстве. Падобна, я дагэтуль не вырасла. І, падобна, нікому не выгадна прыходзіць да мяне з шарыкамі на народзіны.

*04.09.2022 – неканец*

Сёння на трамвайным прыпынку я пабачыла яго. Гэта дакладна быў

ён, кропля ў кроплю! Я доўга не магла паверыць сваім вачам і доўга прыглядалася. Села ў той жа трамвай, што і ён, хаця планавала ехаць іншым. Ён, хоць і бачыў мяне, ніяк не рэагаваў на мяне. Як незнаёмец. Як чалавек, які нічога да мяне не мае, ні добрага, ні дрэннага. Як чалавек, які ніколі мяне не ведаў.

Пасля пераадолення буры сумненняў я падышла да яго. Запытала, ці мы не бачыліся калісьці раней. Сказаў, што мая знешнасць таксама здаецца яму знаёмай, але што ён не помніць, адкуль. Так і пазнаёміліся. Аказалася, што мы год вучыліся ў адным і тым жа месцы і, мабыць, там і бачылі адно аднаго на калідорах. Аднак не былі знаёмымі, толькі бачыліся на калідорах...

Аказалася, што ў яго сёння народзіны. Я яго павіншавала і запрапанавала пачаставаць нечым з гэтай нагоды. Пайшлі разам у кавярню на каву. З ім вельмі лёгка размаўляецца. Быццам мы знаёмыя ўжо некалькі гадоў, а не адзін толькі дзень. Ён вельмі цікавы чалавек.

Дамовіліся сустрэцца заўтра.

Сёння быў найлепшы дзень у маім жыцці. Я знайшла тое, чаго шукала ўсё жыццё. Усе мае праблемы былі звязаныя з тым, што я не магла яго знайсці.

Усё будзе інакш, усё будзе лепш, чым у маіх архівах. Наогул, гэта добры момант, каб спаліць іх, як масты з не найлепшым мінулым. Так, я спалю архівы і перастану жыць мінулым. Сёння быў найлепшы дзень у маім жыцці. Час пачаць новую гісторыю.

Падобна, аднак, у дзень народзінаў могуць здарацца цуды...

пераклады

Ян Твардоўскі



Фота: Irena Jarosińska / PAP

...бывае малыя паэты
служаць добрай справе...

# Каб кахаць...

### *КАЛІ ГЭТА КАХАННЕ*

не хацелі спачатку паверыць
казалі адно адному
што каханне іх завялікае
неабдымнае як лісцё
заблізкае завысокае
потым што гэта няпраўда
і што так яно ўсё

але Ты які знаеш залатыя букі
і птушак напералік
ведаеш калі гэта каханне яно як вечнасць
да і пасля няма ў ім

*Пераклад
з польскай
Наталлі
РУСЕЦКАЙ.*

### *УЦЁКІ*

Уцячы ад кахання
на хвіліну

на сто гадоў
на век вечны

не так і проста
калі пашчу разявіць сэрца

### ***ВЫГНАНЫЯ***

Біблія не гаворыць ці цалаваліся Адам з Евай
мала каго з сучаснікаў сёння гэта цікавіць
хаця крыху пажывеш а тады разважаеш

як яно ўсё-ткі было там адразу за брамай
можа казалі гледзячы ў чорныя зоры залатыя
напэўна тут мы таксама будзем кахацца
каханне бяжыць за намі недасведчанае зусім
больш складана хадзіць па раі чым па зямлі

яны не ведалі нават як зазірнуць у вочы
ці цалавацца адразу ці хаваць пачуцці

а каханне толькі адно можна сустрэць паўсюль
яно застаецца такім самым да і пасля граху

### ***ХОДЗІЦЬ***

Людской любові грэшнае ягня
туды-сюды па чыстцы ходзіць
паціху песеньку заводзіць
йшчэ блізка раю не відаць

### ***НЕ ЯК АЛЕ НАВОШТА***

Навошта крыж
усмешка
глыбокая рана

Бачыш
гэта так проста
калі кахаеш

### ***ЗАВУШНІЦЫ***

Вечаровыя сукенкі
духмянасці завушніцы
валасы доўгаю вудаю

і раптам роспач шчасце
каб выбраць любоў разумную
кахаць нешчаслівую
хадзіла без грэшнікаў плакала нясмела
больш сорам голай душы
чым голага цела

## ЛІПЕНЬ ЖНІВЕНЬ

Прыйшоў да любові абняў за шыю і шаптаў ты мая чараўніца
колькі разоў трэба плакаць ад шчасця
скакаць нават пад старасць
колькі сарваць фіялак
колькі разоў цалаваць найгучней бо ў маўчанні
няшмат ведаць як казурка што жыве адзін толькі ліпень
лётаць па сёмым небе з білетам зваротным у пекла
колькі разоў не быць гіпапатамам каторы кахае толькі ў жніўні
прабівацца на іншы бок
каб на зямлі не задыхнуцца
несці адну тонкую свечку напрыканцы роспачы
колькі разоў дайсці да самай мяжы
як да ліхаманкі ў неадпаведным месцы
затрымацца і ўзрасці
каб не стацца нянавісцю

## У СВЕЦЕ

У надта разумным свеце
што ў той без акна пуні
вера мая на самоце
шукае сабе прытулак

чуйная як бабуля
часам крычыць у вуха
каб хапала адно ведаў
была б толькі Навука

хоць ты верашчы паўлінам
дурнаватым гордым прыгожым
кахаць – гэта быць папросту
ўсемагутным бездапаможным

## ЧАКАННЕ

Думаеш – зноў спазняецца
адразу абражаешся
крыўдуеш як тая сініца больш брыдкая без чубка
хто не знайшоў кахання ужо яго і не знойдзе

а хто ўсё яшчэ чакае не кахае нікога
бядуе як удзячнасць што памяць закароткая

каханне ж даўно прыбегла і ўкленчыла каля нас
спакойнае бо вырвалася з цеснага шчасця
паспрабуй зусім яго не хацець
тады само прыйдзе

### *НЕ ПЕРАЖЫВАЙ*

Не перажывай што ты кахаеш
а табе не пішуць
не звоняць
упала тэмпература а табе ніхто не зашпіліў паліто на гузік
у шафе моль ці йначай няўдалы мятлік
тут ужо назаўсёды
толькі адтуль і дасюль
сэрца якое кахае
не можа быць нічыім
адна жанчына рэдка адна бывае

ведаю – гэта банальна
але ў банальнасці схавана небанальнасць
мудрая пчала вяртаецца часта з лагодных схілаў

бывае малыя паэты служаць добрай справе

### *ЧАКАННЕ*

Калі нецярпліва чакаеш кахання
паміж тым як званок дзынкне і адчыняцца дзверы
часам ускочыць певень занадта худы для супу
дождж плюне
не каркай
яшчэ падзякуеш Богу
калі прыйдзе толькі сабака

### *ПРА КАХАННЕ БЕЗ СЭРЦА*

Малюся яшчэ да кахання без сэрца
незабудкі нібыта нябеснай але шорсткай
як часта толькі для плачу патрэбна нам сэрца
для пісання лісливых лістоў
прынагодных узрушэнняў
малявання святых
пошуку палавінкі хай сабе й не пасуе

дзеля таго каб выбіраць сродкі лёгкія і не залатыя
каб зайздросціць па тэлефоне
адкрываць слабыя бакі каменя

Каб кахаць аднаго сэрца замала

## *КАЛІ ПРАМАЎЛЯЕШ*

*Аляксандры Іваноўскай*

Не плач у лісце
не пішы што так склаўся лёс
няма на зямлі сітуацый без выйсця
калі Бог зачыняе дзверы - адчыняе вакно
выдыхні паглядзі
спадаюць з аблокаў
малыя вялікія няшчасці неабходныя для шчасця
ад простых рэчаў навучыся спакою
забудзься што ты ёсць калі прамаўляеш кахаю

## *У АЛЬБОМ*

Падзякуй і за пакуты
умееш ты ці не ўмееш
без іх ніколі не зразумееш
колькі любоў каштуе

## *БЕЗ ЦЕЛА*

Прыйшла
стыдалася
плакаць хацела
любоў без цела

## *РЫФМАВАНКА*

Каханне і роспач – апякункі мае
я двойчы тануў у той жа рацэ
боль і маўчанне як дзве дарогі
як знятыя з крыжа рукі і ногі
на лаўцы ў парку найлепшае месца
нажавыя дзве раны – час наш і сэрца

## ПАЧАКАЙ

Не верыш – казала каханне
у тое што нават з дыпломам здурнееш
што талентам надакучыш
што з двух благіх можна выбраць трэцяе
у жыццё без грошай
у тое што перапёлка жыве адна
што абадраная кара чаромхі мае водар міндаля
у мёртвую што ў сне прыходзіць жывою
у моднай новай спадніцы з разрэзам збоку
у найлепшае найгоршае
у кожнага лася што мае жонку ласіху
у дзяўчынку з запалкамі
у рай і пекла
у д'ябла і Пана Бога
у кватэру праз год

Пачакай як табе стрэлю
ва ўсё паверыш

## ПРЫЙШЛА

Зноў прыйшла да мяне самотнасць
хоць здавалася сціхла за небакраем
Я кажу ёй:
– Чаго табе, ідыётка?
А яна:
– Я цябе кахаю

## БОЖА

Божа самы цярплівы
прашу звычайна
дай мне простую дабрыню
даўжэйшую за каханне

## НА ДНЕ

На дне кахання
самотнасць
радасць
святой Магдалены вочы
а часам дзікі асёл выскачыць

## НЕ РАЗДЗЯЛЯЙ

Любоў і самота
як сёстры ўзяліся за рукі
ідуць нага ў нагу
не раздзяляй іх
не рві. Лапы прэч
любоў без самоты
была б няпраўдай
самота без любові роспаччу

стаяла Маці пад крыжам
як пад срэбнымі абразамі
не абмінулі трапілі
удвох да яе завіталі

Ходзіць па небе месяц
нібы мараль ці асёл
калі былі яны дзесьці
то прыйдуць і ў твой дом

пераклады

Мар’яна Саўка



Фота: tedxwomen.if.ua

...у кожнай жанчыны мусіць быць
свой мужчына
які робіць ёй балюча...

# Оптыка Бога

* * *

аднойчы
вершы ўвойдуць у хату
па вымытай зранку падлозе
пакідаючы сляды дзіцячых пятак
пяску і вішнёвых пялёсткаў
са столі пасыплецца золата
пыл засвеціцца
у промнях
анёлы пераглянуцца

аднойчы
увойдуць у хату вершы

*Пераклад
з украінскай
Уладзімера
АРЛОВА.*

як сваты з ручнікамі
і мама з татам маладыя
і бабуля ставіць півоні на падваконне
і дзядуля працінае позіркам
не з фатаграфіі
і здаецца што свет
толькі што нарадзіўся
і нікога не забілі
не пакаралі смерцю
і кожная залатая парушынка
танчыць
як душа ўзвяселеная

* * *

тут
нібы на ўскрайку жыцця
нібы цябе не відаць
нібы оптыка Бога не цэліць
наўпрост у сэрца
дай сабе волю
слязам і хвалям акіяну
кружэлкам у галаве
што парушаюць усе сінхроны
хтосьці там няўмела дыджэіць
мікшуючы твой боль і святло
хтосьці пускае табе ў жылы
папяровыя чоўнікі родам з дзяцінства
спярэшчаныя тваім почыркам
ты нясеш у сабе
цэлую флатылію згадак
часам яна захрасае
у нейкім з клапанаў сэрца
і ты адчуваеш як яно тонка баліць
гэтым папяровым
фантомным болем мінулага
ведаеш
я так мала чаму навучылася
але ў мяне цёплыя далоні
магу іх проста прытуліць
табе да грудзей

* * *

ніколі не была ні ягонай ні тваёю
ні каго-небудзь іншага
была адно імем
кожная літара якога
сведчыць пра блізкасць мора
памятаю як мы з табой
сядзелі ўдваіх
на пясчаным пляжы ўначы
толькі мора і неба
і да нас падышоў сабака
стары і кудлаты
без павадка
непрыкаяны
лізаў нам рукі
урэшце пацёгся далей
а мора засталося
я думаю мора б таксама хацела
кудысьці пайсці
а Бог хацеў бы
некаму паспавядацца
але ж не ўва ўсіх такія прывілеі
быць вольнымі і нічыімі
быць непрыкаянымі Божымі псамі

* * *

ты пытаешся што такое вершы
і я табе кажу: гэта тое
што не мае гаспадара
не мае дома
заўсёды ў вандроўцы
тое што разрывае і здраджвае
тое што ціснe ў горле
тое што крычыць
як птушка як парадзіха
тое што памірае і ўваскрасае
тое што не дае памерці
тое што кружляе ў табе
як пчала-смяротніца
з джалам ахвярным
вершы – так, гэта трымценні
сумненні
суквецці
сузор'і

яны падаюць на далоні
і прапякаюць месцы для цвікоў
яны асядаюць на вейках
дажджамі і пацалункамі
яны шэпчуць
дрыжаць
шыпяць
ненавідзяць цябе
сплываюць пяшчотаю
зрываюцца на хрып
або проста ідуць
зачыняючы свет як дамавіну

* * *

Пісалі з табой вершы
пра каханне і вайну,
так даўно,
нібы тройчы пасівелі,
калі не было ў нас вайны
і каханне здавалася неўміручым,
а боль – хіба што перыферыйным.
Не, раны былі
не толькі ў шакаладавым сэрцы,
але такія, што іх удавалася загаіць
і жыць далей.
Гэта ж не была імітацыя
ці нейкая там знарочыстая гульня.
На палімпсестах старых афішаў,
на сценах счарнелых будынкаў,
на дне філіжанкі кавы
мы яе расчытвалі.
Што змянілася, сястра?
Куля паветраная
налілася волавам.
Метафара – смерцю.

* * *

Госпадзе, я падаю.
Ты казаў, што будзеш трымаць.
Ты казаў, што будзеш поруч
у астатнюю хвілю.
Але мы адышлі.

І туманы такія, што не відаць
нават кулі ва ўласным сэрцы.
Бачыў я ноч і агонь.
Неверагодна прыгожа.
Макі расцвітаюць у небе.
Але ў мяне скончыліся набоі,
а да тваёй далоні
яшчэ цэлае поле,
якое не пераляцець, як птушцы Дняпра,
не перапаўзці, не пераэжыць.
Забяры мяне адсюль нарэшце.
Налі мне малака,
у той кубак, сіні, у гарошак.
Гэта мама мне купіла.

* * *

каханая, даруй, я не ваяр
кожнага разу калі  ты зазіраеш мне ў вочы
я кажу табе
я маю нож каб сцінаць лазу
я спляту табе кошык
а хочаш спляту табе птаха
пасею ў ягоных вачах фіялкі
я не ваяр, каханая
я маю нож падразаць
маладыя дрэўцы
ты так даўно не выходзіла ў сад
падрастаюць марэлі
каханая, чаму ты сівая?

* * *

простая арыфметыка любові
дадаеш усмешкі і пацалункі
памнажаеш пяшчоту на шаленства
дзеліш дом на прысутнасць
дадаеш сумневаў
адымаеш разуменне
дадаеш слёз і маўкліні
дадаеш ценяў і адымаеш дотыкі
дадаеш трывогі
памнажаеш бяссонныя ночы
адымаеш і дадаеш

непатрэбныя пытанні
дзеліш сэрца як памаранчык
на долькі і долі
памнажаеш павуцінкі вакол вуснаў
адымаеш чужыя пагляды
жорстка дзеліш свой час
на турботы і страты
і зноў памнажаеш
пяшчоту на спакой
срэбра ў косах на святло ў вачах
блаславўляючы
плюс бясконцасць

* * *

мае жанчыны нанізаныя на мяне
як пярсцёнкі на пальцы
як кольцы на дрэва
аніводнай не магу зняважыць
аніводнай не магу забыць
адна нараджала
другая калыхала
трэцяя спасцерагала з нябёсаў
ці хопіць мне малака
так і ўраслі ў мяне
карэннем галінкамі
выслалі кубельца
для майго птушаняці
і я стаю абдымаю сваіх жанчын
расту з імі
угору і ўніз
нанізваючы сябе
на пальцы маіх будучых

* * *

*А.М.*

Дзеванька вырасла. Божа, як дзеванька вырасла.
Сталі круглявымі плечы і жорсткімі – выразы.
Сталі глыбокімі прыцемкі й зімнымі досвіткі.
Вусны – пяшчотнымі і траўматычнымі – досведы.

Дзеванька вырасла. За той драўлянаю партаю
Вомірг юнацтва прайшло, што і ўвагі нявартае.

Мроі ўсе здраджаныя. Не пераздала іспытаў.
Свет яе ловіць і ловіць, а час – наўскапыта.

Ўсё давядзецца самой, без ніякай падмогі.
Дзеці, каханы, каханкі і праца да змогі.
Тыя сябры, што – у неварацць, тыя любові, што паляць,
Звыклая жытка. І цела, працятае п*а*лямі.

Неба ўгары. І анёлы ў паветраных ямах.
Дзеванька вырасла. Вершы прыходзяць у ямбах
Проста у скроні. У скроні. У скроні.
Дзеванька курыць і попел страсае ў далоні.

* * *

у кожнай жанчыны мусіць быць
свой мужчына
які робіць ёй балюча
засечкі на сэрцы
парэзы на прыцэўках
дзіркі ў звілінах мозга
кожны дослед цікавы
кожны досвед бясцэнны
мужчыны яны ж
калі не паталагаанатамы
то інтэрны-хірургі
ты думаеш некалі ён навучыцца
і будзе табе добры мужчына
гора што яны любяць вучыцца
болей чым жыць
а навуку
болей за жанчыну

* * *

Вячэрня мая, ты хвалюеш, як з неба раса.
Хоць спалены Рым, але жыцьме давеку краса.
Вершы ўжо складзены ў вежу. Чужы Вавілон,
Як вулей гудзе і зацягвае нас у палон.

Я ведаю: ты мне прамовіш заўсёды не так,
Як рэшта астатніх. Ты мой абярэг, задыяк.
Ты перапрашыта ўва мне залацістым шытвом.
І кожны твой рух застаецца нязгоеным швом.

Так, я адчуваю, жыццё жываточыць, цячэ.
Вячэрня мая, не заплюшчвай, малю я, вачэй.
Я падаю ў іх. Я лячу. Я растану. А ты ж
Пусці мае рукі. Ты ўгору цяпер паляціш.

* * *

Бог у табе, Бог ува мне,
І таму ён плача, калі мы на дне
І таму злуецца, калі мы ў пастцы
І кажа: не ўздумай, як хочацца ўпасці.
А я яму – Божа, трымай, не ўпусці.
Стамляюся бегчы,
Спрабую ісці,
А сілы не хопіць – то буду паўзці.
І што, папаўзеш мо за мною і ты?
Бог анічога не кажа, нібыта заснуў.
Можа, трымае нястомна якуюсь сцяну
Там, у глыбінях маіх, дзень пры дні.
І мы спаткаемся з ім на Вялікадні.

Генадзь Лапацін



…Сям'я – ета маліінькая гасударства.
Плахія – значыць, будзя вайна ў хаці.
А харошая сям'я – у іх усягда лад, усягда смех…

# Паслядоўніца

***Алёна Грэцкая ў расповедах Варвары Грэцкай***

У 2017 годзе выйшла кніга «"К каждаму разгавору прыказка ё…" З вопыту вывучэння дыялектнай фразеалогіі. Матэрыялы да фразеалагічна-парэміялагічнага слоўніка асобы. Варвара Аляксандраўна Грэцкая. Запісы 2005–2012 гг.», у якой жыццё сяла Амяльнога ўвасобілася ў прыказкі і прымаўкі, якіх я запісаў ад яе больш за дзве тысячы. Таксама былі шматлікія артыкулы ў такіх выданнях, як "Живая старина" (Масква), "Антропологический форум" (Санкт-Пецярбург), "Palaeoslavica" (Кембрыдж, Масачусетс), "Беларускі фальклор: матэрыялы і даследаванні". Такой багатай бібліяграфіі не мае ні адзін з носьбітаў беларускай народнай традыцыі. Разам з тым, за межамі гэтых кніг і публікацый засталося шмат цікавага, але нефарматнага для навуковых выданняў. Гэта яе ўспаміны, рэплікі, сентэнцыі пра бацьку, маці, пра бабулю Алёну. Ролю сям'і ў лёсе Варвары Аляксандраўны пераацаніць немагчыма… І яе ўдзячнасць сям'і бязмежная: "Бабачка мая і матка. Спасіба матцы, што радзіла, а баба ўзрасціла… І бацька мой любімы…"[1]

[1] Асаблівасці гаворкі захоўваюцца.

* * *

*Баба была на фунт золата.*

*<Гэта як?>*

*Фунт золата дарага стоя? І матка наша...*

*Усі так казалі: «О-о-о! Такога чылавека на фунт золата ні найдзіш...» А фунт золата – ета ж чатырыста грам... Дай-ка табе... Гаворяць: «Ета чылавек на фунт золата стоя...»*



*Алёна Максімаўна Грэцкая. Здымак канца 1940-х – пач. 1950-х гадоў.*

Менавіта на яе, Алену Максімаўну Грэцкую, Варвара Аляксандраўна спасылалася падчас нашых сустрэч, пастаянна ўдакладняючы свае аповеды: «Баба казала... Баба вучыла... Баба навучыла... Баба спявала...» Сапраўды, з бабуляй ёй пашанцавала: «Мы з бабай большы. Маткі нашай некалі было. Баба ўсё казала на матку: «Трудзяка ты, мая трудзяка!..» Вот дай табе счас тры работы! Матка кароў даіла, і ў магазіні..» <...> І німа това дня, штоб я бабу не памянула. Матку не памяну, а бабу памяну. Да таго з бабай я была спрэжанная».

Бабулю Варвары Аляксандраўны Алену Максімаўну Грэцкую, у дзявоцтве Кулагіну (1859–1953), можна без перабольшвання лічыць адным з суаўтараў нашых з Варварай Аляксандраўнай кніг, паколькі, як узгадвала мая суразмоўніца: «Баба калісь казала: “Як памру, дак не забудзь, падбяры ўсё маё смецце, што я табе гаварыла. Ета ня смецце, яно і нада будзя. Дак падбяры яго, не выпускай із сваё галовачкі”. І во яна дабілась, штоб я пры старасці гадоў табе ета расказывала».

«І во яна дабілась, штоб я пры старасці гадоў табе ета расказывала», – тут вызначальна. Яна сказала: «Не шчытай смеццем...» <...> «Справеку, – баба наша казала, – і прабабы нашы вадзілі ету «Стрялу». Усё баба казала: «Колькі свет – столькі і песні еты». Варвара аказалася ўдзячнай пераймальніцай: «Усё баба наша казала Алёнка: «Варячка, ты і Маша крошкі падабралі мае». <Крошкі падабралі... Гэта як?> Ну, крошкі падабралі. Ну, усё ўмела дзелаць, што баба... Я знаю, як і сена ўвязываць. Я на празнікі багата знаю. Што мяне баба навучыла. Баба наша ўсё знала, і мне ўсё паказывала, кажа: «Ета за плячамы не насіць. Нада што б ты ўсё знала». Прыходзіцца ў жызні ўсяк... Штоб усё ўмеў». <...> «Я ўсё помню тоя, што мне баба ўчыла... Я па бабінаму слядку іду, штоб усё харашэнька была...» Такім чынам, яна не проста любімая ўнучка, а, паводле самавызначэння, няхай і падсвядомага, – паслядоўніца.

Для Варвары Аляксандраўны яна была бабачкай мілай, бабачкай роднай. Аднавяскоўцы называлі бабай Алёнкай, цёткай Алёнкай, Алёнкай, называлі яе залатым чалавекам, лічылі, што «німа ў міре лучшы яе», ішлі да яе, як да Бога. Яе парады, яе прысуды, яе меркаванні былі для іх вызначальнымі.

Я думаю, што, калі б Варвара Аляксандраўна была б жывая і пабачыла гэтую публікацыю, яна шчыра ўсцешылася б за сваю бабулю Алёну.

### ***«Калі б мая баба аджывілася, я б скарэй цябе вяла...»***

* * *

Калі б мая баба аджывілася, я б скарэй цябе вяла. Ты б пагаварыў, сходу ўлюбіўся б ў яе. Яна такая талковая была. І ў Закружжы яе зналі, і ў Марозаўцы. І казалі: «Такая баба харошая. Такое бабы шукаць нейдзе.

* * *

Вой! Наша баба была хароша! Вот за бабу на нож пайду. Еслі б на нашу бабу. Но нашу бабу ніхто ні абіжаў. Богам бажусь! Такая харошая баба была наша! На свеці німа, адна ана, наверна, была. І я за такую бабу. Яна век на нас не ругнулася. Ня слухалі, бацькі ж не было. «Варячка, здзелай. Там...» Но я слухала. Ягорка, Маша, Туся што-небудзь. Ціхонька зірьне... Яна век. Матка гаворя: «Ты мне гавары, што яны ня слухаюць», – загадывала. А ўряд была баба Вася: «Я сказала Лідзі: «Ліда, ідзі свінням насабірай!» Яна міне не паслухала. То я ўжо абору вазьму». А наша баба в жысць не скажа. Мілая такая. Такія бабы не было нідзе. Наша баба семічку найдзя, ідзе ў кармані будзя: «Во семічка! На табе!» Сама не з'есць, нам аддасць. Такое бабы нідзе не было

* * *

Я з бабай слова ні стаіла. Прыду і раскажу. Прыду калісь, лягу. «Мая ўнучачка, дзе ты была? У каго вы гулялі?» – папытая. «Там і там гулялі...»

* * *

Я ўстаю ўранні. Знаю, што ўвечары гаварылі. Думаю: «Можа, баба перядумала». Я гavарю: «Баб, я забыла. Ну-ка, давай нанава». Яна мне кажа: «Давай тое і тое. Пільнейшае. Давай, Варячка тое здзелаім». Яна ні кажа: «Нет! Ідзі дзелай!.. Можа, тое здзелаім?» – «Ну, давай.» Пойдзіма, дзелаіма. І ні крыку, ні сваркі. Нічога ў свеці. Прыду: «Баба, ну, як ты? Трохі крэпісся? Ці ела што? Давай пад'ядзім». – «Ну, я ж паснедала. Ты пашла. Я, што было, пад'ела. Ну, давай паабедаіма». Я нікалі ні ішла, штоб сабралась, і ні сказала бабі.

* * *

Баба была ангел – чылавек. Іе ўсі зналі. Мая баба хароша была. Во калісь к Марозаўцы ў школу хадзіла. Дзеўкі, падругі: «Пайдзём к нам начаваць». Вот сколькі нас было?.. Шэсць дзевак. У школу хадзілі. З Падкамення адна, і нас пяць хадзіла. І дзеўкі марозаўскія будуць гаварыць, як замяць: «Пайдзёмця к нам начаваць». Прыдзіма. У другі раз мяняяцца: «Ніхай ужо Варя ў Вас начуя, а Манька у нас». Ужо так мяняліся. Дак маткі пытаяцца: «Чыя ты з Амяльнога?» Я гаварю: «Грэцкава». А яны: «А-а-а, Грэцкава! – Марозаўцы зналі ўсіх амяленцаў, амяленцы марозаўцаў. – Тваю матку знаім. Твае баба і матка харошыя. Матка ваша вумніца. І баба ваша. Вой, ваша баба якая харошая! І бацька быў харошы».

* * *

Наша баба была такая вумная. Каб ты знаў, якая. Казаў калісь дзед Майка: «Алёнка, не папалась ты мне. Жыў я ў адном краю, а ты на сярёдку. Дак мы са сваімі рохлямі гулялі. Во ўзяў Кулінджу сваю. (Куліна звалі). Яна мне ня дасць да ста гадоў пражыць. А я думаў да ста дваццаці».

### *«Ой, баб, як мне жыць?..»*

* * *

Баба казала: «Я цябе жэлаю, штоб ты жыла, як у Бога за пазухай». <Гэта як?> Ну, харашо... Як у Бога за пазухай.

* * *

Я гаварю: «Ой, баб, як мне жыць?» Яна гаворя: «Не журыся. Ты яшчэ маладзенькая. Як табе жыць. Ты пражывеш. Па табе бачу. Як-нібудзь пражывом.

А пад старасць нада падумаць...» Я гаварю: «Баба, а ты думала?» А яна і гаворя: «Вы ішчэ во такія былі, а я ўжо думала: «Хто мяне пахавае? З кім я...» Я гаварю: «Баб, ну, і з кім ты ряшыла?» – «А выбрала із пяці вас адну цябе» Я гаварю: «А чаго?» – «Бачу, што ты сама не з'ясі, а: «Баб, на-ка пакушай...»

* * *

Баба казала. Я гаварю: «Баб, як пражыць на свеці, штоб добря было?» А яна мне гаворя: «Пра маладосць ня думай, а нада думаць пра старасць, што сілы німа. У старасці дзве радасці. Сілы німа. Рад бы здзелаць, а сілы німа. І чуствуіш, што сілы німа. Мешаіш у дварэ. А малады. Куды нада, і пайшоў, і здзелаў. Сіла ё.

Німа сілы работаць. Рад бы здзелаць, а сілы німа.

<*А другая радасць?*>

Ты мяшаіш у дварэ. Ужо лішні. Падрастая новае пакаленне, ужо цябе ні жаласці, ні міласці. Жыві, *як пень*».

* * *

Баба ўсё наша казала: «Старасць – не радасць». Пачане падымацца, падымаіцца: «Ой, на ногі не стаць. Старасць – не радасць». Усі казалі так. Баба казала: «Ты не к маладасці жывеш, калі здаровая і харошая, а ета ты к старасці ідзеш. У цябе ўжо сілы німа, і ненавісць ужо і к табе. Дак сама сябе глядзі. Харашо пражыць доўга, ну і нікому ж ты ні нада будзіш. Усі будуць ад цябе чурацца і ўсі будуць аддаляцца, што табе ні сказаць. І ўсё тоя збываіцца».

* * *

Баба казала: «Як пойдзе зранку, дак да позняга спазнянку». Вот пачануць, хто гарюя, дак яна гаворя: «Мая ўнучачка, як пойдзя сіраце беднай зранку, дак да позняга спазнянку».

* * *

<*Чаму гавораць: «Чорны вол на нагу наступя?» Чаму – чорны?*>

Чорны вол – ета плахі. Ета пойдзіш замуж, напрымер. Ішчэ баба нам казала. Мне яна не казала. Мне яна казала: «Варячка, ты як вырасціш, дак у цябе шаўковае ўсё, дак хазяін будзя красавацца за табой. А ты, Туся, чорны вол табе наступя. Ой! Горя цяпніш! Будзя біць-біць. Паслухая: жывая. Зноў начынаць будзя...»

* * *

<*Вы калісь казалі, што мы ў плахіх славах, і плахіх дзялах нарадзіліся.... У плахіх і помром...*>

Усё баба наша казала... Яна і мне казала... На ярмарачны дзень радзілася, баба і кажа: «Варячка, ты будзіш нешчаслівая...» Я гаварю: «Чаго?» – «Нешчаслівы дзень... Суятны... Будзіш суяціцца ўсю жызь сваю... Усю жызь у суяце, ня будзіш у спакойстве... Будзіш работаць і... Вобшчым, плахі дзень». Усі тады казалі: «Хто на ярмалачны дзень родзіцца, Варвары, там...» А я точна на Варвары радзілась... Вот табе... І я век пражыла, прарабіла цяжола, а бяз толку...

<*А пры чым тут у плахіх славах і плахіх дзялах?*>

Я гаварю: «Баба, а чаго так?» Яна гаворя: «На ярмарку калісь і карманы вырязалі... Ета ж плахоя... І ругаліся за што-нібудзь...»

* * *

Сёдні пражыў, а назаўтра што Бог дасць... А ня дасць, нада іціць красць. Скрозь так гаворяць. Як есць німа. Што ты будзіш. З голаду. Гаворяць, усё баба казала наша: «За чорстваю, за сухую корку, дак нада аддаць і душу чорту. Як

есць хочыш.» Мы калісь: «Што даражэй на свеце?» Баба гаворя: «Яда... Чэлавек не пад'есць, дак пойдзя і ў банду...»

* * *

«Як лепіцца... – гаворяць. Касу ж клепяць малатком скора, – так як лепіцца, так і клепіцца. Баба казала, усі казалі: «Як клепіцца, так і лепіцца». Калісь баба, не так здзелаіш, баба гаворыць: «А-а-а! Як клепіцца, так і лепіцца! Бачыш: не выходзя – не начынай дзела». Ета і пра людзей так гаворяць: «Як скляпіўся, так і зляпіўся».

* * *

Прыходзя Соня Салодкая ка мне, села, сядзіць: «Як, Соня, дзяла?» А яна і кажа: «Як сажа бяла!. Не пытай... Рястрявожылася сёдні, ні знаю як...» Я гаварю: «А чаго?» – «Ішла і к табе, і дагнаў мяне чылавек і абагнаў...Ой!. Красавіца!.. Шырокасракі такі... Ідзець... Красіва глядзець: рубашка на ім убраная ў штаны... Ідзець такі акуратны... Дак рястрявожылася: «А чаго ён ні мой?..» Вот бы Бог сказаў: «На, Соня, хоць дзень пакрасуйся...» Я гаварю: «Казала баба наша Алёнка: «На чужоя счасце не завідуй...» Усё казала: «На чужоя шчасце не выбачайце, а свае не церяйце». Яна будзя казаць: «Ета праўда, баба Алёнка казала?» Нашу бабу Алёнку ўсі зналі: і Пянное, і Сярэдні, усюды зналі, дзе якія сёлы ё... Такая харошая... Ты не паверыш, ой, была баба харошая. Баб багата, у каждым дварэ... Ну, лучшы нашае бабы не было...

* * *

Лучшэ німа маладому... Шэйсяці-шэйсяці пяці. Дак дзеці даражаць маткай, як пчолы сядзяць кала яе. А як ужо старая, ніхто...

<*Чаму, як пчолы?*>

Гаварю: «Баба, чаго як пчолы? Яны ж кусаяцца». – «Дак яны ж сваю матку не кусаяць. А рой бальшы... Адзін ваду ношя, другі мёд, каторыя прярабатываяць... А матка... У раю дзве маткі бываяць... Адну яны выкідаяць, а другая матка глядзіць ужо... Яны сваю матку аберягаяць, ні кідаяць, астаюцца наперямену. Яны вумней чылавека. Яны сваю матку аберягаяць... Тыя прылятаць кала маткі, а другія, а тыя, што сядзелі, у палёт ляцяць, мяняюцца.

<*Вы сказалі дзве маткі.*>

Ну, дзве маткі... Адну ж унічтажаюць. Не даўжно дзве маткі быць. Даўжна адна. Другую яны задаўліваюць. Ці што...

<*Як выходзіць, што дзве маткі?*>

Выводзяцца яны із шчэры... І новы... А старую яны зарязаюць, тыя пчолы... Другі рой малады... Ужо новая даўжна матка... Сколькі жыве пчала? А болей ўжо не жыве. Пчэляры знаяць. І етыя пчолы пасціпенна атміраяць. А ўжо новы рой атыходзя, і яго ловяць, і саджаяць.

<*Нарадзіўся рой, і ў раю нарадзіліся дзве маткі?*>

Рой жа сільны раждаіцца... І трутні раждаюцца, і маткі. Трутняў вабшчэ яны, ці вырязаяць... Трутні... Яны ж нічога, толькі мёд ядуць...

<*А як яны бачуць, што гэта матка?*>

Я пытала ў сваёй кумы, што Сяргея хрысціла, у маткі Васі... Матка Вася – пчаляр харошы, ў бацькі было, і яна сама дзяржала, і Ліда панімая. Дак я пытала: «Пачом ты, Ліда, знаіш?» Яна гаворя: «Матку шукаю... Адну нашла... Во ў кабку... Другую шукаю». А я кажу: «Дак ніхай дзве...» – «Не, нільзя... Толькі штоб адна матка была... Ніхай рой здаравенны... Толькі адна матка... Так яны рэзацца будуць». Я гаварю: «А як ты знаіш?» – «Яна такая длінная, як авадзень, пчолкі меншыя». Гаворя: «Як найду...» Вот рой ловяць і шукаяць дзве маткі... Хочыш раздзяліць,

напалам дзялі. Матка мне казала: «Напалам дзеляць... Рой бальшы выходзя...» Калісь вышла я на агарод, а на агародзі стаяла вішанька... І паляджу, думаю: «Ці мухі, ці пчолы?» Я прышла, кажу: «Баб, так і так...» Ішчэ баба жыва была. А баба і кажа: «Мая ўнучачка, бягі ік Васі, ік хрёснай, да скажы... Ці ні іхні рой?» Я прышла, кажу: «Мам, ідзём і к нам!» – «А чаго?» – «Хадзіма... Так і так...» Расказала пра пчол. Яна: «Можа, восы?» – «Ну, палядзіш сама...» Яна прышла, палядзела, гаворя: «Пчолы... Пайду дамоў. Я счас рой еты адбяру». Гаворя: «Мне матку нада паймаць. Еслі я матку паймаю і ўкіну ў матачнік, і яны нікуды не паляцяць». І ўзяла тую матку, і яны плёнкай кала яе сталі... Яна гаворя: «Ціперь другую буду шукаць». Я кажу: «А другую куда?» Дак яна гаворя: «У мяне два бычкі пустых, ну, заряджанныя, рямкі пасоджаны... Дак у вадзін бычок палавіну атлучу, а палавіну... Туды матку ўкіну, і сюда... Штоб палавіна туда, палавіна... Яны разрядзяцца... К адной матцы і к другой... Будзя два раі...» І яна гаворя: «У нас сільныя будуць два раі... А то густа... Багата... Я раздзялю іх».

### *«Наша баба плахіх слоў... Яна толькі ўсё харашэнічка...»*

* * *

Чым чылавек украшае сама сябе?.. Гаворяць: «Як добрая душа ў чылавека...» Усё баба наша казала: «Дзелайце так, штоб вас не клялі, а штоб вас пахвалілі і сказалі: «Вот харошае васпітаніе, да харошые дзеткі. Ня нада дзелаць нікому ўрэд... Не харош ён табе, ня трогай яго, ідзі, ціхонька прайдзі».

* * *

Баба казала: «Дай Божа чылавеку добрая здзелаць, а плахоя яно само прыдзіцца, скажыцца». Усё баба казала: «Язык – паганая мяса. Шлёпня што-нібудзь... Да і ўсё...»

* * *

Наша баба плахіх слоў... Яна толькі ўсё харашэнічка. Яна век ні называла: «Алёна. Алёнка, Насцічка, Варячка...» Яна мяне нікалі ні называла. Вот прывыкла: «Тусячка, Машачка, Варячка, Ванячка, Ягорачка...» Чужыя прыдуць, і яна: «Ну што, Алёначка, гуляць прышла?» Ці прыдзя ка мне Марынка, ка мне ўсё хадзіла, падруга мая. Яна: «Марыначка, ета ты гуляць прышла?» Усё яна ласкава гаварыла. Такія бабы нідзе німа.

* * *

З нашай бабай усі любілі гаварыць...

* * *

Другая дзень-два пабудзя дома... Пойдзя на агарод, што-нібудзь дзелая... Баба наша на бабу Іванюшкаву ўсё казала: «Кулінaчка...» Яна ўсіх: «Алёначка... Кулінaчка...» Усіх так называла... Усіх па-нежнаму...

* * *

Такая ў нас баба была Алёнка, усі зналі на Амяльном іе, і ў Закружжы. Яна век не скажа, штоб яна з кім паругалася, паклялася Богам. Нежывых чатырох радзіла. Казала: «Век людзям дарогі не пяряйду». Будзя іціць хто на работу, яна выйдзя, кала нас калодзезь быў. І яна век яму не пярёйдзя. Чось калодзезь пасярод вуліцы стаяў.

* * *

Усё баба казала, як паміная каго: «Ой лёгінька табе ікніся! Лёгінька дыхаць табе там».

* * *

Баба казала: «Здзелай чылавеку дабро, дак табе Бог па-добраму дасць», Баба наша міласлівая была, усё казала: «Лучшы дабро чылавеку дзелай, табе Бог аддасць». І, праўда, і сколькі такіх было, вот бачу, еслі плоха дзелаіш... Дзелаяць адзін аднаму, дак тоя ж і палучая.

* * *

Як харошы ідзець. Наша баба нікалі не казала, ета ў каго якая прывычка. Есць, што ўсё к чорту пасылая, а баба наша нікалі к чорту не пасылала, гаварыла: «Чорт усё падбярэ. Ня нада к чорту. Чорт – аб'ядальны, усё падбярэ». А будзя казаць: «Ідзіця з Богам!» Ніхай ён зло іздзелая, будзя казаць: «Ідзі ты ўжо з Богам сабе, а я сабе пайду». Чорт усё падбярэ. Казала на мяне: «Варачка, не прывыкай казаць: «Ідзі ты к чорту». Чорт аб'ядальны, усё жрэ, жрэ і не нажыраіцца. Яго ніхто не накормя.

* * *

Пасканыя словы. Гаворяць: «Ня гаўкай», – на чылавека. «Ідзі к чорту!» Баба: «Што вы пасканыя словы гаворыця?» А хто кажа: «Худых слоў...» Баба Вольгачка казала ўсё, у Крыўцовых баба была: «Худых слоў, дзеці, не гаварыця». Худыя – ета ўжо плахія. Вот будзім сядзець. «Ой, бляха!» – будзім гаварыць. Яна: «Худых слоў ня гаварыця».

* * *

Казала баба: «Чужога харошога не абсуждай, а свайго плахога не хвалі».

* * *

«Каліcь на нас Крывец, вон дзядзька прыдзя, мацюкі лупя на дзевак і на хлопцаў — на дзяцей. Баба будзя казаць: "Васіль, дзеці шчэ несмышлёныя, ета ангелы. Нельзя на іх мацюкацца"».

* * *

Усі казалі: «Ваша баба. Не баба – а золата...»

<*Вы неяк сказалі: «Баба наша – святая...»*>

Святая ў том, што яна плахога нікаму ні здзелала. Каліcь адна там высварылася... Усяк пасварылася... А тады прышла: «Бабачка, вазьмі ты мне... (Пад курэй насілі, да шапталі.) Ня спіць дзіцёнак, віскам вішчыць. Ці ён спужаўся, ці што...» Матка: «Ніякіх шэптаў! Учора кляла, да ўсяк называла. І дзяцей маіх. Ідзі, куды хочыш». А баба падышла, дзіцёнка з рук узяла і пашла. Матка: «Аддай дзіцёнка. І не шапчы...» Яна: «Полічка, зась...» Ета адстань. «Зась ад мяне...» І панясла, дзе куры, пад седала. І шаптала там. І дзіцёнак заснуў. Яна прынесла. «На, ціхонька. Нясі дамоў». Матка: «Ты на ўрэд дзелаіш...» – «Я на ўрэд ня дзелаю. Я дзелаю то, што Гасподзь мне даў».

* * *

Дзяды так казалі. Вот, гуляяць, тады падымаяцца, дзед Майка: «Пойдзім ужо, Грэцкая, дамоў. (Матку Грэцкая звалі.) І ты, Алёнка. Спасіба вам за хлеб, за соль, за

благадаць, большы вам нечыва, добрым людзям, нанач добрага сказаць». Пойдуць, яна: «Спасіба вам. Прыходзьця, не забывайця. Заўтры будзя дзень, будзя пуць...»

* * *

Калісь шоў дзядзька Вахром із Свяцкія. Шыў чабаты, тухлі. Спазніўся, прышоў позна. А мяцель... Дабіўся к нам. Паначаваў, падняўся рана: «Я пайду ўжо дамоў...» Сем жэ кілометраў нада іціць. Баба і кажа: «Папутнага табе цёплага і харошага ветрычка. Штоб з табой папутны вецір ішоў, штоб ты з ім разгаварываў». І ён абняў бабу, пацэлаваў: «Ну, спасіба табе, баба Алёнка, што ты мне так пажалала».

<*Яна так заўсёды казала?*>

Ну, вот калісь ідом ці ў Злынку. Матка ўстаюць і з маткай Васяй, рана падымаяцца. Церяз лес. Штоб ужо цёмна прайціць ішчэ. Туды і адтуль назад прыціць. Прадаць што-нібудзь нясуць. Баба пажалая ім: «Папутнага вам ранейка, штоб Гасподзь данёс вас да самае Веткі, да места...»

* * *

«Наша баба пачотная была... Яна век нікому зла ня здзелала... Усё харашэнічка... Ні пакляла нікога... Наша баба была атлічная... Яна ўсяму харошаму вучыла... Такія бабы шукаць, рэдка найдзіш... Яна век ні пажалела... Прыдзя старчык... Тады старцы хадзілі... Яна век яго ні прапусця... І кажа: «Дай яму адну крошачку... І то твой Господні дар... Ты яму дала не плахоя, а харошая».

* * *

Наша баба Алёнка для ўсіх плахая не была, ні для кога... Хто прыдзя: «Усё харашэнічка...» І стрэня харашэнічка, і правядзе... Хадзілі калісь старцы... Прыдзя нанач, матка наша: «Бог дасць!. Усіх ні абазрыш... Мы ня сонца. Усіх ні абазрым...» А баба будзя казаць: «Вярні ты яе, Полячка... Ідзе яна слёзачкамы будзя плакаць?» І дагоня: «Ідзі, перяначуй у нас». Вячэряць сядзіма, павячэряя з намы. І пасядзяць, пагаворяць.

* * *

Найці обшы язык нада с чылавекам... Прыйшоў чылавек, дак ты пагавары, які вапрос ні ё, ці абіда, ці радасць, ці горя, ці дабро, дак ты пагавары з чылавекам, як ета лучшы падсаветуй. А еслі ён будзя гаварыць да наўрэд... Які еты чылавек... Не... Еслі бачыш, што ён ня ў той бок крывя, будзя падзіраць... У нас калісь Мелька прыдзя, па-харошаму будзя гаварыць: «Баба Алёнка, што-та там здзелаць, падсаветуй...» Сядуць, пагаворяць... Баба: «Вот так во, Мелічка, здзелай...» А Жаваранка будзя с падкалупкай: «Ну што ж, я бедзен, а вы багатыя... Вы тры работы...» Баба: «Ідзі, Ванічка, не прасмехай міне... Ты сабе чылавек, а я сабе... Ты сабе сваё сабражай... Сямья – ета маленькая гасударства... Распаряжайся, я ў тваё ні лезу...»

* * *

<*Немцаў у вайну клялі?*>

Чаму не клялі? Усяк клялі, што і растрэлівалі, і палілі. Вот етым праіграў немец. Каб бы не чапаў народ. А то ж і мірны народ унічтажаў, і Хатынь дзелаў. Пашлі абазлённыя людзі. «Смерць, дак смерць! Пагібла сям'я, значыць – усё. І баба казала: «Штоб ім дабра не было! Штоб іхні корянь ізвёўся! Чаго яны пашлі на Расію?»

* * *

Усі так кажаць: «Хай цябе Бог пакарая!» І баба казала: «Варячка, не кляні нікога. Скажы: «Хай с табой Бог разбярэцца і пакарая цябе». Еслі плахі чылавек.

* * *

Ой, у нас баба, калі б ты пабачыў, калі б ты пабачыў жывую да з ёй пагаварыў. Яна такая набажлівая. Усё: «Дзетачкі...» У людзей бабы, будуць: «Дзеўкі! Ступайця дамоў! Курвягі! Будзіця гуляць!» Ета ўжо абізацільна, як затаўка ў разгаворы, «курвягі», «блядзюгі». Як у дзеда Усціна «Кірюшкі-блядзюшкі». А наша баба на нас: «Варячка, Машачка, Тусячка, Ягорячка, Іванячка...» Ета ў яе такі ласкавы быў усягда. І будзя казаць на бабу Іваняшкаву: «Куліначка, ну на што ты ета гаворыш. Ну, якія яны блядзі? Ім ішчэ будзя. Па восем, па дзесяць гадоў». – «А я ўжо прывыкла».

* * *

Баба Іванюшкава... Да вазьмі весь цвет атарві. Ну, ета ж ідуць дзеці. Калісь большы цвятоў і кала двара, і на дварэ, і на вуліцы ні ў кога не было, як у мяне. Насаджу. І на дварэ ў мяне, во дзверы карове. Кругом ў мяне і паўз сарай, і паўз хату войдзіш, хвортку адчыніш – гарыць двор ад цвятоў! Геаргініі садзіла і настурцыі – настуркі. І на сцены дзяруцца. І у мяне сцежка цэмянтовая, Сяргей здзелаў. Вот як хто цвет атарве ў яе. Яно ж відна, як цвет атломіш, цурбалка яшчэ ё. І яна пачыная: «Штоб табе рукі павыгінала!» Баба Алёна кажа: «Ня нада... Ета ты клён на тэй свет бярош. Ня нада, Куліна. Цвет. Ён яшчэ выгане. Ета ўсё раўно адцвяце. Ну, сарвалі. Ты ўсё раўно не кляні. Ета на тэй свет ты гряха бярэш». Баба наша пражыла Алёнка, век нікога не пакляла. Курыца падрапая, яна не скажа: «Штоб ты здохла. Ці што». Яна скажа: «Ну, нашто ты ета здзелала?» І кажа: «І каты, і сабакі, і куры, і коні – усі любяць ласку».

* * *

Калі б усі людзі былі як мая баба. Я прыду. «Цётка Насця, надаела ты мне ўжо, пытаючы пра бабу». – «Ой, Варячка, ваша ж баба – ета шаўковая. Яна – залаты чылавек. У міре німа, наверна, лучшы яе. Яна век ні абругала, век ні асудзіла ні хлопцаў, ні дзевак, ні людзей. Якія. Якога Бог даў, і ніхай жыве». Я гаварю: «Цётка Насця, вот ты ўсё пытаіш пра яё...» – «Як жа мне ні пытаць. Яны жылі тут недалёка ад нас. Мы ж знаіма яё ўсі...»

* * *

Калісь старцы хадзілі. Дадуць, там, ці хлеба. Ці што. Чым багаты – тым і рады: «Наця, вазьміця лусцінку...» Баба ўсё наша так казала. І будзя даваць што-нібудзь. Ці хто бульбіны папрося. Ужо ж хадзілі калісь. І баба кажа. «Ой, спасіба!» – «Ета вам спасіба, што прынялі нашу падачку».

* * *

Баба Грэцкая – як жырны кусок мяса з'есць. Усё дзед Касцючкаў казаў: «Алёнка, я прыходжу к вам, пагаварю с табой, як бальшы кусок мяса з'ем». Баба будзя гаварыць: «А-а-ай, Васілічка, я такая, як і ўсе людзі».

### *«Наша баба страмная нікада ні казала…»*

* * *

Мы калісь сядзіма. Кажа. Ці дзед Касцючка: «Галава авечая». Мы будзім паўтаряць. Баба: «Будзя казаць: «Дзеці, кідайця ета. Вон у кніжках чытайця. А ета кідайця». А мы гаворым: «А во ж вы гаворыця». Я на бабу: «А вы?» – «Нам можна. Вам ня нада. Вы ішчэ дзеці». Так во будзя гаварыць баба. І вот калі дзед скажа што-нібудзь, ці мацюк. А наш Ягорка січас жа схваця і прыдзя Мішка

Коршунаў, Машы нашай дзеверь, мужыкоў брат, самы малодшы. Малы ішчэ, гадоў восем у вайну было. Ён: «Вот дзед гаварыў тое і тое...» І будуць ціхонька сядзець і гаварыць. Баба: «Еслі ішчэ пачую – на мароз! Еслі ішчэ пачую, есць сёдні нічога ні дам». – «Баб, ня будама». Баба будзя казаць на дзеда: «Майка, ну не гавары ты пры дзяцях». – «Вырастуць, усё раўно будуць знаць. Ніхай знаяць».

* * *

Усі так. Прыходзяць. Ня ўсі ж так атвячаяць. Майка пытая ў бабы нашай: «Алёнка, як дзяла?» – «А-а-а. Сяджу, сваё дзела дзелаю». Наша баба страмная нікада ні казала, ні ругалася. Яна гаворя: «Я ж ні знаю, якія і мацюкі ё. Мой дзед ні мацюкаў. Век пражыла, ад яго ні аднаго мацюка, і жалабы ніякія. Такі дзед добры быў».

* * *

Яна век ні сказала ні мацюка, ні што-нібудзь плахога слова. Усё харашэнічка з людзямы. Вот абідзяць! Яна пойдзя і скажа. Свінні, там, адных людзей к нам варваліся, парылі бульбу, ішчэ ні цвіла. Яна пашла харашэнічка з людзямы. Матка: «Ты б паругалась!» — «Полічка, Богам эапрышчэно. Ні нада. Бог ніхай сам разбярэцца з такімі людзямы. Шкода палучылась, ужэ назад ні верніш» А баба Іванчыкава, тая такія словы будзя гаварыць, будзя клясць: «Штоб цібе гром убіў! Штоб цібе маланьня спаліла!» Усяк-усяк будзя гаварыць. А наша баба будзя казаць: «Госпадзі, адвярні на балоты да на сухі лес яе клятвы, толькі ні на людзей».

### ***«Сям'я – ета маленькая гасударства...»***

* * *

Баба гаварыла пра сям'ю. Сям'я жыве. І харошая сям'я, і дзе алкашы, і дзе злыя людзі. Сварку падымяць. Дзе ўстаюць ціха-мірна і лажацца спаць. І дзень пройдзя мірна. Сям'я – ета маленькая гасударства. Бацька – міністр. Жонка мажа ўказаць, баба. Дзеці ета патом. <...> Дак, яна ўсё казала: «Сям'я – ета маленькая гасударства. Плахія – значыць, будзя вайна ў хаці. А харошая сям'я – у іх усягда лад, усягда смех. Толькі бацька кіўне пальцам. Сям'я – ета маленькая гасударства. Парядак штоб быў, цішына, парядак. Што здзелалася ў дварэ, штоб ні грама чужы ніхто не знаў. Матка скажа. наша дзела дзецкая. І ўсё баба казала: «Ваша дзела дзецкая! Ідзіця лучшэ, як нада бряхаць што-нібудзь, песенкі пейця».

* * *

Калісь з бабай жылі мы. Баба ў нас жыла. І мы ў маткі нічыво не пыталі. «Баб, давай абедаць». Прыходзім: «Баб, я есць хочу». Баба нам ужо ўсё. І матка прыходзя: «Мам, давай есць хочу». Нявестка пытала ў бабы. «Бяры там налівай».

* * *

Два разы матка ўдарыла бабу. Пры Жаварянісі. Жаваранка дзеда жонка. Туся штось. Якую шкоду іздзелала. Дак матка: «Я ж табе!. У мяне ўсі дзеці роўныя. У мяне сям'я. У мяне на абед усім роўна ў місцы. А ты будзіш!..» Штось яна ўкрала, адна з'ела. Дак матка ўзяла абору. Яна не глядзела. Абора на сцяне. Возьмя, свішча. Як урэжа разоў пяць!.. І яна пачала яе чысціць. А баба падышла. Матка раскіпяцілася. І яна стаіць. І аборай раз ударыла... І ў другі, трэцці. Секла, сколькі хацела. І Жавараніха: «Ну, што ты дзелаіш?..» – «Я яе раз навучу!» І баба падышла: «Бі мяне!» І яна замахнулася. А баба сюды. І яна яе чысцянула. Зразмаху. «Палучыла?. Атыйдзі. А то ішчэ палучыш». Баба: «Бі мяне лучшэ». –»Я

табе пакажу! Будзіш знаць, што ета нада ўсім раздзяліць. Не адна ты сажрэш, а нада ўсім..» Штось яна прынясла. Я забыла. А тады Ягорку штось пачала. Ета як немцы прыехалі. Дак нямецкая машына прыехала з немцамы. І вот сталі яны з Каршунёнкам. І яны што?.. І мы стаім. Немцы чагось прыязжалі. Стараста тут быў. Пісарь каля нас уряд. Чось яны к яму прыязжалі. І машына тая стала бартавая ад'язжаць. І яны ўхваціліся за машыну за тую. Мішка Коршун і наш. Ухваціліся пад'ехаць. Яны шапталіся ўсё. І ўхваціліся. І машына тая зразгона паехала. Толькі праехала наш гарод, Іванюшкаў, і Барысаў. І вулачка, і раўчак. І на том рачаўку... Грох!. Тая машына. У іх рукі паатрываліся, яны ўпалі. Дакуль бы яны ехалі, чорт іх зная. Пакуль бы рукі памлелі. Гадоў па восем была. А матка стаіць: «Туда яму і дарога! Чаго ігралі, даіграліся!» І яны пападалі грудзямы. Падняліся. Наш ужо ідзець. Каршунёнак дамоў пашоў, а наш. Матка: «Ну што, больна?» – «Я грудзямы ўдарыўся...» – «Ета мала...» А яна ішчэ, як упалі: «Туся, ідзі, абору нясі». Яна прынясла абору. Яна абору ўзяла: «Ну, больна ўдарыўся?» – «Больна. У мяне грудзі баляць. Ой-я-ёй...» І летам. У зямле морда. Яна: «Ета ішчэ ня больна...» І давай яго сеч па плячах. «Куды ты на смерць лез?» І яна яго давай паласкаць, а баба яго накрывала. Дак яна і бабу: «Во табе!.. Зашчытніца!..» Ці раз, ці два. Аборай. «Ішчэ будзіш лезць ні ў сваё дзела. Ім дай волю, дак яны будуць скора немцам на шэю вешацца. « І плакала. І са зла ўжо ня знала. Раскіпяцілась.

* * *

Што ім баба... Ціперь такіх баб за сабак счытаюць...Сабаку чэсць ё?.. Сабаку ж чэсці німа... Кінуць што жраць... Як у нас сабака... Ого!. Наша баба і боршчыку ўвалье яму... І будзім: «Баба, сабаку клала?» Яна дзве ложкі ўвалье... «Я ні хочу!..» – будзім нарошна казаць... «Мы ня хочыма баршча...» Матка: «Жрыця!.. Куды етыя недаедкі вашы?» – «Сабаку...» Мы наллём вады, ён нап'ецца... Баба: «Што вы на жарэ паставілі? Пастаўце ў цянёк, штоб была халодненькая...» Во як сабаку мы счыталі... А ў Крыўцовых сабака быў... Яны будуць абедаць... Ён будзя: «Гаў-гаў... «Ён: «Цішай!» – мацюкі кліня. Баба кажа: «Нада пакарміць сабаку...» Наш ужо зная, што яму ўжо выллем... Баршча наллю, тады бульбы жарянай, тады кашы... Сабачка тожа хоча есць смашна... Баба вынося, дак ён бабу лапамы абнімая...

* * *

Баба гаворя наша... Як заведушчая была. Матка наша гаворя: «Ты заведушчая над усім. Над курямі. І на вуліцы. Што «не ганяйця курэй, дзеці!»

* * *

Баба семкі будзя дзяліць. Стакан поўны. Баба наша ні то шта аднаму коптарам, усім роўна дае. І дасць Ягорку. А Туся наша ўсё падкалывала. Стаіць і кажа: «А мне болей баба дала». Ён: «А-а-а!. Як Тусі болей, і мне болей дай!» А баба роўна дае. Дак баба гаворя: «Ягорка, ідзі к папу. Ён табе... Рукава шырокая, багата насыпя. А хоць. У цябе рукаў шырокі, як папу сыпіш – і ўсё мала. Усім роўна дала».

* * *

Калісь баба наша казала: «Пабойся Бога! Нашто ты пляцеш? Табе ж нада і спаць леч із ім, і паабедаць сесць, і работаць. А ты на яго такоя гаворыш».

### *«Харашы сусед даражэй радні…»*

* * *

Харашы сусед даражэй радні. Усё баба наша казала: «Сусед даўжон быць

даражэй людзей. І ты для яго... Штоб дружна жылі. А як чапвівы сусед, ты з ім ня зладзіш». Харашы сусед, дак радней радні. Горя табе, дак куды ідзеш... К суседу... Радня ё... І Томка ў Гомелі, і дзеўкі ў Гомелі... Ну, ета ж далёка... А як тут, яны скораю вызвалі... Сяргею пазванілі...

* * *

І баба казала... Мы ж вучымся ад бабы ... І матка казала... Во Жаварыніха к слову бряхню, цэлаю сказку скажа... І прыдзя, баба: «Моця, ты ж так і так гаварыла на нас, і ўсё адно ты прыдзіш, міма ж ты ня пройдзіш, знаіш, ніхто так цябе не выруча...» – «Ну, что ж калі ў мяне харакцір такі...»

* * *

Баба ўсё нам гаварыла: «Дзетачкі, не крадзьця ў нікога нічога». Мы па-суседні, была хрёсная наша, у ніх вяргінні, а мы завідуім: «Ой! Ну, красівыя цвяты!» Пойдзіма: «Тусь, пойдзім украдзім». Ну, мы пашлі і сарвалі... Чорныя і красныя... Мы ўзялі і адзін цвет сарвалі. Яна тады ўсякія словы пляце, яна ўрэдная была. Баба наша: «На што яны вам?» Дак усё, штоб не кралі. Мамка нас: «Я пазасякаю вас! Штоб слава пашла, што ў Грэцкіх дзеці злодзеі. Пашлі цвяты красць». Ну што, кажыцца, тот цвет.

* * *

Баба казала: «Чужое не свецänя і не грэя». Ета прыказка скрозь была... Гаворяць, хто крадзя да забірая, чужбінай жыве, дак гаворяць... Калісь баба мне казала... І прыказка такая была, гаворяць: «Паціряіш – не журыся, і наідзіш – не радуйся. Не радуйся... Ета – чужыя слёзы падняла... Чылавек ішоў... Платок выцягваіш, а там, можа, грошы ўпалі... Чылавек жа плача, журыцца... А хто найдзя: «Ой, я найшоў!..»

* * *

Калісь наша баба казала: «Сколькі чужы абед ня еш, і галодзен». Вот ідзі на абеды, што ходзяць. Пад'ясі і прыдзіш дамоў, і хочыш есць. А як сваго пад'ясі. Пустога. І ні хочыш. Так і рубашка. Чужую рубашку надзень. І бойсь, каб не ўгадалі. Яна не прыстае к целу. Дуба стаіць, да і ўсё.

* * *

Усё баба наша казала: «Лучшы даць, чымсця прасіць...» Лучшы, ё, падзяліся... Папрасі... Ці ён табе дасць... Усяк жа можна... Можна... «Ё... Да ня дам!» Ці скажа: «Мне самой нада!» Ці чалавек скажа: «Падаждзі... Я табе трошкі дам і сабе астаўлю...» Ета ж бальшая разніца... Вот так жэ і па міласціні... Ці чылавек падоря, дак ты яму і спасіба скажыш... Дай яму трошкі... Атламі сабе і яму дай... Ці фіндос пад нос палучыш...

* * *

Баба казала: «Ліхому рабу век ні ўладзіш... Што ні скажы... Усё – ня так!. Усё – ня так!.. Ліш бы прычына, штоб сварку здзелаць... Ё такія людзі, што яны вот... Ці на розум дурныя, ці такія прызлюшчыя... Сама ня знаю... Дак кождаму злу ё прыдзел... Можна і астанавіць... <*Чаму раба?*> Я ні знаю. Так гаварылі...

* * *

Баба наша казала: «Дай Бог, сварыцца, но не мсціцца». Ня мсціць чылавеку.

* * *

Скрозь баба казала. Пасварыўся. Забывай. Таму шта пасварыся, да мсціся. Не з кім гаварыць.

* * *

Баба кажа: «З аднаго чалавека, з Адама і Евы, пашлі людзі». Калісь і траюрадны, і чатырёхюрадны, і пяці на свадзьбу ззывалі. Яна казала: «Усі людзі – брат і сястра... Саедзіняліся, жаніліся, другоя пакаленне, трэццяе. Адныя крыві людзі».

Калісь на цыганей гаварю: «Во цыгані...» Яна кажа: «Яны такія людзі, мая ўнучка, як і ты, як і я. Толькі што раса такая ўжо чорная. А яны такія. Кроў такая і арганізм такі. Так што людзі ўсі адзінакавыя». Яна ні раздзіляла, што тога ні люблю, тога... Ніхай цыган ідзець, яна і цыгану дасць міластыню, і рускаму. А другія: «Ета ні нашае нацыя!» А баба наша казала: «Усё раўно. Лучшэ добрая зделай. Не дасі, но і ты яму ні пастыляй, прывець яго, скажы: «Рада б даць, да нечыва». Гаворя: «І ні дай чылавеку, і ні выганяй». Ё ў цябе, ня хочыш даць, скажы: «Ой, рада б даць, да німа...»

* * *

Пачануць гаварыць: «Вон тый тоя гаварыў, тоя гаварыў...» Калісь баба казала: «На чужы раток не павесіш замок. Хай гаворя, бряхня бряхнёй і выдзя».

* * *

Калісь баба казала: «Дзетачкі, ніхай яно вірам вісіць на агародзі ці на яблыны, ігрушы, дасць чылавек – спасіба, ні дасць – нікагда следу ня дзелайця».

* * *

Я кажу: «Баба, харошы твой дзед быў?» Яна гаворя: «Ета дзед быў і я... Дзед век быў... Хай будзя гарэць сваё дзела, а чылавек прыдзя, папрося, ён пойдзя к тому чылавеку: «Я пайду, Алёнка... Сваё послі здзелаю...» А чылавек прышоў, адкажы яму, неўдавольствія будзя, мне на душэ цяжэй... Дак лучшае дзела, я пайду і здзелаю...» Я кажу: «Ідзі... Ягорачка, ідзі...» І буду патроху сама, пакуль ён там ужо асвабадзіцца, прыдзя...» І суседу харашо, і нам харашо.

* * *

У нас была баба Міхальчыха, Буханіхі матка, тожэ Алёна звалі, дак на яе казалі: «У яе дух, пашэпча – дзеці спалі нядзелю ці две, тады зноў пачане, будзя ні з чога крычаць, будзя пужацца, яны нясуць: «Баба Алёнка...»Яны ні платы не плацілі: «Нясі сваё добрае, нясі дамоў...» Другія прынясуць, піражкоў якіх скурмехаяць... Тады ж гасцінцаў не было, не за шта купіць было ... «Ой, баб, на табе...» Хоць акрайчык хлеба прынясуць... Яна скажа: «Знаіш, што? – Возьмя руку і кажа: – Вот твая ручачка, і вазьмі, і нясі дамоў, у цябе дзеткі свае ёсьце-ка на еты хлебец, а мне яно не нада...» І аддасць.

* * *

Як дасі чылавеку, дак і ў яго папросіш, дак ён дасць табе. А як будзіш зажымаць, дак... Усё калісь... Хлеб пазычаць... Вот німа хлеба... Ета ціперь пашоў, купіў у магазіні, а ета ж нада ўчыніць. І мы... Раз баба: «Дзеўкі, нада хлеб учыніць...» Я любіла хлеб учыняць. Ета для мяне ўдавольствіе. Я любіла дажэ, як у дзежцы. Ты ня нюхаў, як смашна пахня ў дзежцы? Пахня смашна, кажыцца нюхаў бы. Баба будзя ўчыняць, а мы нюхаім.

* * *

Усё баба казала наша: «Сухі, немазаны, ня лязь на скавараду, а то прыгарыш».

<*Да чаго казала?*>

Другі будзя к цябе падлізывацца, будзя гаварыць адно на цябе, тады другоя... А пачане гаварыць, яхіднічаць, будзя цябе і хваліць, і расхваліваць, патом будзя судзіць цябе. Баба і кажа: «А-а-а!.. Сухі, немазаны, ня лязь на скавараду, а то прыгарыш». А як падмажыш, будзіш жоўценькі і харошэнькі.

Дапячэ да жывога, тады ўжо лезя сухі, німазаны.

<*Сухі, немазаны...*>

Як сухі, нямазаны лезя... Ужо падлашчываіцца, а на яго ўжо нелюба...

* * *

Ета дзед Майка казаў. «Прыехалі, – гаворя, – у Амерыку, а яны ходзяць у лапленых штанах, а так хворц свой паказываяць: «Мы жывом у Расіі. Да тоя ё!.. І тоя ё!..» Прыехалі ў Амерыку на заработкі. Дома рэжа хлеб аборай, а тутака выхарашываіцца». Ета... Другі, знаіш, культурыцца... Дак усё баба казала на Каршаніху: «Во Каршаніха дома аборай хлеб рэжа, а выдзя, дак: «Я да я!» Дома аборай, можа, хлеб рэжа, німа нажа, а ў людзях ён будзя выхваляцца.

* * *

Гатаваліся к Вялікадню. Еслі дзе сіряты, матка будя казаць: «Колькі будзім яец красіць?» – «Ну, столькі і столькі». А баба і кажа: «Полячка, нада дзісятак, вот сіряты, дзеці, німа ні бацькі, ні маткі, нада і ім аднесць». Вот і мы дзісятак... І другія, такія, болей набажлівыя людзі. Бацька наш калісь казаў: «Сам не даеш, но сіратаў пакармі». Вот німа ў іх бульбы, баба будзя казаць: «Варячка, аднясі. Куды ты пойдзіш?» – «Да Фідулёнкаў». А яна і кажа: «Можа, там есцічкі німа, вазьмі ім. Вазьмі-ка...» Кайстры такія, палатно, у адну рэдзь зшыта... Яна насыпя... На плечы і нясі. Ня ўсі давалі. Каторыя самы бедна жывуць. А етыя ўсі падзіляліся. К Вялікадню і мяса, хто б'е. А то ад сцягна адсякая кусок. Нясуць ім. Там Івоніха жыла, дзеда Майкі братава жонка, чэряз двор жыла ад іх. Яна ім печ затопя і паску спячэ... І мукі ўсі насілі. Калісь жа не было такія куплёныя, баба насея-насея: «Наце, нясіця, там Івоніха спячэ пасачку ім». А то дак самы, матка: «Наця, нясіця дзяцям!» У велікодную сыботу. Нанясуць цэлы стол. І на Троіцу і па скрысенням такія прысмакі ім давалі. А малака кажды раз, як падояць. Сёдні ты падаіла, аднясла ўранні. Я ўжо, а ў абед падоіш... І так усі людзі насілі сіратам.

### *«Хто спраўляя святыя вечарочкі, дак ходя век без сарочкі...»*

* * *

Мая баба казала: «Дай Бог, унучачка, штоб усё ўмеў дзелаць, толькі ня дай Бог, штоб усё дзелаў».

* * *

Баба казала: «У каго кароткія ночкі, дак ходзя без сарочкі...» Гаворя: «Чо ты не папряла?» – «Таво, шта ноч кароткая была...» <*А пры чым тут кароткая ноч?*>

Ну, кароткія ночы... Некалі прясць... Праспіць, прагуляя... І гаворя: «А кароткія былі ночы...» Ну, дак хадзі без сарочкі. Былі такія, што лён... Мышы гнёзды в'юць, а ён праспіць, прагуляя... <*А пры чым тут кароткія ночы? Што, па начах пралі?*>

Ну, не па начах... Увечары... І да двох часоў.

* * *

Баба казала: «Нерабацень святых дней шукая».

* * *

<*Чаму вучылі дзяцей?*>

Як путны, дак ён сам будзя вучыцца. Дурнога, дак сілай ні заставіш. Ё такія, што палядзіць, як бацька дзелая ці чужы дзядзька. І ён прыдзя, будзя палена ліжаць неўма якоя негадзяшчая, ён будзя вучыцца сам цясаць. А другому ў лоб дзелай, дак ён ня возьмя. <*А Ягор як?*> Ягорку быў чацвёрты гадок, як бацька памёр, і ён такі вот пойдзя, пагуляя ў Жаваронкаў, бярэ тапор: «Баб, пайду!» – «Куды?» – «Вон дзед Жаваронка лазу абсякая на гарох, дак пайду і я выбіраць». Калодачка такая па яго росту, яму гадоў сем было, і ён па-свойму скобля, абы войстра было. «Баб, так?» – «Мой унук, харашо. Лішбы войстра было, лезла ў зямлю». А другому будзіш гаварыць, а ён і сракай не вядзе.

* * *

Мы гаворым: «Баба, скора будуць святыя вечарочкі!» А яна кажа: «Хто спраўляя святыя вечарочкі, дак ходзя век без сарочкі. А нада дзелаць. Святы вечар... Давайце, цэўкі матайця». Ета можна дзелаць у святы вечар. «Таму шта святыя вечарочкі. А нада і Богу павесіць сарочку на вікону. Рушнік – ета Божжая сарочка.

Як-та баба казала: «Хто спраўляя святыя вечарочкі, дак ходзя мужык без сарочкі». Мы гаворым: «Баб, а чаго?» – «Таго шта не глядзі, ці празнік, святы вечар – не святы, а садзісь, да прядзі». Як напрядзеш, да вытчыш, дак ё і парцянка, ё і сарочка. Ета ж ціперь пойдуць і купяць. А калісь усё нада: і дзярюгі, і на падушкі навалкі...

* * *

Усё калісь на мяне баба казала: «Ой, мая ўнучка, ты на сем сукоў сраць садзісся». Я буду адно дзелаць, баба што-нібудзь будзя дзелаць. «Баб, пастой!..» Я ета кідаю, іду тоя дзелаю. А баба і кажа: «Ой, мая ўнучка, ты на сем сукоў сраць садзісся». Дак вот ніводнага ня здзелаіш. Дзелай адно.

* * *

Баба Алёна... Што скажыш ці дзелаіш: «Баба, паглядзі, што я здзелала...» Яна: «З дурной галавой ня кідайціся ў жар. Знайця, што ета шкода будзя. Не панімаіш – папытай».

* * *

І калісь баба казала: «Дзетачкі, ляжыць палка ці што-нібудзь, бачыш, яна не к парядку, вазьмі яе, прыбяры, штоб не мяшала». А ў нас у адных, калісь было: пакуль у калідор у тэй прыдзіш, дак можна галаву звярнуць. А ў харошага ўсё ў дварэ будзя чыста.

* * *

Ты ўжо конь. Табе тры гады ўжо. Курэй ідзі пасі. Калісь баба наша: «Ягорка, ты сваё дзела знаіш. На вуліцы ідзі, пасі курэй. штоб у шкоду не лезлі. На агарод не переляталі». Тры гады... Што ты...

* * *

Усё наша баба казала: «О-о-о! Скоры паспех – людзям на смех. Ты лучшэ здзелай медлінна, но харашэнька».

***«Песні бабіны я ўсі пераняла...»***

* * *

Мы гаворым: «Баба, адкуль ты знаіш етыя песні?» А яна гаворя: «А ета ж баба вучыла, і я пераняла. Наша баба умная была. Матка ўсё казала: «Ты спракаветашная... Тут, можа, мільён гадоў... І тоя знаіш. Ужо па-новаму начынаяць людзі гаварыць, а яна спракаветашная». А дзед Майка будзя казаць: «Ну як, Алёнка, правільна! Выкапый з глыбіны, а то яны ўсё закапыяць разгавор калісяшні».

* * *

Баба калісь казала: «Мая ўнучачка (як я ей дзве песні прапела)... Мая ўнучачка, як я памру, сколькі астанецца песен, што ты іх ішчэ сабе не ўзяла». Я гаварю: «Ой, баба, тут етых негдзі дзець».

* * *

Я гаварю: «Баба, ідзе ты вучылась? Ты ж у школу не хадзіла?» А яна мне гаворя: «Мая ўнучка, ета ў мяне ішчэ мая прабаба была, старэнькая, ішчэ прабаба пела, і я навучылась кала яе. Я ўжо навучылась кала бабы. А ты ўжо навучылась кала мяне».

* * *

Первая баба навучыла. І панаравілась. Вот красіва...

<*Якую песню баба вас навучыла самаю першаю?*>

«Баю-баюшкі-баю...» Яна мяне вучыла. Ягорка малы, дак яна мне... А такія і ад дзевак бальшых навучывалась... Я: «А-а-а. А-а-а...» Яна гаворя: «Не «А-а-а. А-а-а...» Давай я цябе песню навучу. Я гаварю: «Баб! Ну, давай...»

* * *

Усё баба казала: «Із песен супу ня зварыш. І с цвятоў». Мы: «Баб, дай нам гряду такую...» Яна: «Што вы будзіця садзіць?» – «Пасодзіма цвятоў...» Цвяты любілі... Дзяцямы ішчэ былі. Баба і гаворя: «У маткі нада папытаць. Хоць і дам, дак толькі на два рядочкі. Па два цвецікі пасадзіця, і хваця. Ад цвятоў супу ня зварыця. А як на цвяты паглядзіш-паглядзіш, а ўсё раўно есць хочыцца...» Матка кажа: «Вон квасолі пасадзі!.. А каля квасолі ніхай будзя і цвет рэсць...»

* * *

І Барысэўка ў нас была баба, Насця звалі, а мужыка звалі Барыс, дак яе Барысэўка, Барысіха, Барысіха – па мужыку. Ну, тады ўжо з Барысіхі Барысэўка сталі зваць. Дак яна пела красіва. А песен! Мы будзім казаць: «Цётка Барысэўка, начынай пра Ваню пець». Яна: «Ну, мы ж толькі пелі. Ета ж кругавая...» Кругавая – як круг пасярёд водзяць – кругавая песня. «Ну, давай ў «Стряле!» Яна: «У грэх мяне ўводзяць». А мы, дзеўкі, усі будзім, бярёмся дзеўка з дзеўкай за руку. А то паміж баб. Яны: «Хадзіця паміж нас!» Усякія пелі красіва.

<*Што за песня пра Ваню*?>

Як Ваня вёў каня паіць, а Варынька дзевачка да за ім бягіць.

І мы яе любілі. Калісь сядзім так ўвечары, пяёма, кажым: «А ці бабы чуяць!» Наша баба як чуя: «А-а-а! Бяспутныя. Ня пейця етыя песні». – «Баб, чаго?» – «Ім больна будзя, што вы не воўрэмя пеяцё». Ужо нас страша. Мы тады кініма. Баба пойдзя. Мы: «Баба пашла. Давай!» І сядзім стрэлавыя ўвечары пяём. Баба Буцікава будзя калісь, хрёснае маей свякруха: «Ой, бяспутныя! Маткі не навучылі, дак яны, во дуркаватыя, пяюць песні абы-калі!»

* * *

«Давай песню якую-нібудзь пець, што я ішчэ ня чула...» Баба начыная... Гряды поліма... І баба будзя сядзець... Во гряда... Баба – на еты бок гряды сядзіць на баразне, поля, а я – на етым баку... І поліма... З бабай... І голавы адна к адной... І пяёма... Матка: « Ой!.. Вы ўсё людзей смешыце...» А баба кажа: «Не, мы не смешыма людзей, а мы самі сабе... Ну, і ніхай ня слухая ніхто...» А баба Іванюшкава... Ці яна ўмела пець, ці ня ўмела... Я ня чула, штоб яна калі пела... Яна ўсё... Усё казалі: «Ета – рюхалка... Усё рюхая, усё ёй ня так, усё ёй...» А нашу бабу ня звалі так, нашу бабу звалі: «Баба Алёнка». І падыходзяць... Будзя баба на дварэ, а кала двара калодзезь... І будуць крычаць: «Баба Алёнка, здаровенька табе!» Яна: «Падаждзі адну мінутачку!» Абізацільна, еслі яна скажа так, яна хвортку адчыня, выдзя, паздароваіцца... Пагаворя: «Як вы там?. Як сямеічка ваша?» Баба наша ўмела гаварыць і знала ўсё харошая, лёпкая ўсё... Усё лёпкая гаварыла, што слухаў бы яе, ня знаю як... А ўжо чужыя бабы... Мне кажыцца... І ўсі казалі... Калісь Крыўцоў Іван і кажа: «Баб, сядзі кала мяне...»

* * *

Я пытала: «Баб, а чаго жніўныя нялзя зімой пець?» – «Паложана Госпадам Богам, калі пець. Тады і пейця. А ня то, шта будзіця людзей смяшыць. Яна толькі будзя казаць: «Чаго? Людзей ні нада смяшыць. А то людзі скажаць: «Вон дурныя ў Грэцкавых. Пяюць калі папала якія песні...» *<А калі ўвогуле не праспяваць?>* Я знаю, што баба нам праспявала і мы з бабай. Калядныя там... Калісь шчодры находзяць, яна і гаворя. Папрыгатуя... Калісь жа канхвет не было. Ну, дак яна і гаворя на мяне, на Тусю: «Дзеці, ідзіця на двор і прыдзіця к нам...» Мы гаворым: «Баба, дай хоць пакушаць...» Піражочкаў напячэ такіх дробных, і маленькіх, і бальшых. Хто прыдзя, дасць больш, меньшы. Калісь што ёсць у чылавека, то і падоря. Яна гаворя: «Ідзіця і прыдзіця, і вазьміця сумачкі...» Мы... Школьныя сумачкі вон былі... Сумачкі такія, штоб кнігі ўлазілі, на плячо павесіш і ў школу ідзеш. Сумачкі тыя надзенім. «Ідзіця на двор і прыдзіця ў хату. Трошкі адчыніця і скажыця: «Баба Алёнка, можна вам пець?..» А я скажу: «Можна. Заходзьця ў хату...» – «Каму вам пець?» А я скажу: «Ягорку. І вы прапейця Ягорку. І каму скажу. А я вам шчадзёркі дам. Перва, штоб вы самы шчадзёркі здзелалі...» Мы выдзім, на дварэ пастаім, ідом, ужо ў дзеверы пастукаіма. Яна падойдзя: «Можна!..» Дзверы адчынім: «Можна пець у вас шчодры?» – «Можна.» Мы зайдзіма: Туся, я і Ягорка. Калі Крыўцова Алёна прыбягіць, падруга мая. Ну, мы станіма ў парозі. «Пейця!..» – «Баб, каму пець?» – «Ягорку...» Ягорка стаіць с сумачкай. І яна ўсім дасць. І матка. Ну, баба нам усё давала. Каждаму дасць перва, хто запявая. Ета мне дасць. А Ягорка к ёй падойдзя, крык падымя: «Перва мне дай!..» Яна скрозь давала меншаму: «Ета первы завадатар у вас. Песенкі пяе і ходзя...» Дасць шчадзёр, тады Тусе, тады мне: «Ты не абідзісся, ты – большая». І Алёні Крыўцовай. І мы тыя шчодры носіма. Яна: «Бярыця, ешця. А вам ішчэ шчодры будуць...» Во астануцца. І дзеці прыходзяць, яна хоць адзін на ўсіх, хоць адзін кусочык, піражочык, ну дасць. Дурна ня пойдзя. Ета празнік. Ці вот прыдуць Крыўцовы к нам, матка і кажа, ці баба, ці матка. Мы кажым: «Не давайця без нас, мы самы дадзім». Прыходзяць к нам у шчодры. Баба ў сараі... Авечак паіць ці карміць. Прыдзя: «А ў шчодзёркі прышлі, маі дзетачкі...» Пацалуя каждага і кажа: «Спасіба, што ні мінулі. Счас дам вам шчадзёр...» І дасць па кусочку хлеба і каржа атломя. Каржы баба пякла аддзельныя шчэдравыя. «І шчэдравых коржыкаў дам вам». І будзя казаць: «Мішачка. – Яны з Ягорам равеснікі. І будзя казаць. – Мішачка, ты самы глаўны...» Ён будзя казаць, ён картаваты быў, тады ўжо харашо гаварыў. І будзя: «Я тутака самы здалёвы!..» Баба: «Самы здаровы, самы сільны. Ета толькі ты прывёў у шчодры». Расхваля яго. Дасць яму шчодры,

тады Івану іхняму, тады Алёні. Ну, Наташа большая была і Маруся. Яна ўсім нам падае. І начыная з малага. Перва маламу. Тады ўсіх абдзеля. Каждаму дасць і большы піражок, і меншы, і хлеба па кусочку шчэдравога, каржа дасць.

<*Колькі вам тады гадоў было?*>

Гадоў, можа... Як хадзілі мы па шчодрах, ужо ж двары зналі. Гадоў, можа, восем было, ці дзевяць. Ягорку нашаму. Абуць не ва шта... Баба яму лапцікі, чуні матка пляла крючком. Чуні тыя абуяць ужо. Ён крычыць: «І я ў шчодры пайду!..» Баба: «Бярыця і яго. Ніхай не крычыць...» Мы возьміма за руку і вядома яго.

* * *

Казала Хвост (Аляксееўна, былая настаўніца, суседка): «Які табе Верястань?» Як мяне вучылі. Баба мяне так вучыла. Баба: «Што гавару, то і правільна». Мы так і завучылі ўсё.

* * *

Аляксеяўна: «Што ты плетуханіш... Які Верастань? Дождзік, дождзік, перястань, я паеду... Што та за Верястань?» – Дзяды так гаварылі, і я гавару... Як ета яна гаварыла? Яна мне гаварыла... <*У Ерусалім?.*> Дак я гавару: «Мяне вучылі, і я так». – «Не-не, горад не такі. Нада у... Куды маліцца хадзілі Богу... А ў Ерястань не хадзілі. Ета ты спутала». Я гавару: «Усі ж мы, дзеці, пелі, будзіма, як дожч, сабіраімся, тады ж пабагату дзяцей была, па восем і па дзесяць, і па сем, і па шэсць, у нас пяць была, кучамы сабіраімся і пра дожч пяём, пра ўсё, і ўсі «ў Ерастань» гаварылі. І баба выдзя і кажа, як дождзік, дак гаворя, калі ўжо раждадзіцца: «Дождзік, дождзік, перястань, я паеду ў Ерястань...» Яно возьмя і раз'ясніцца. Мы гаворым: «Баба, ну-ка ты хадзі. Ты прагаворыш, дак і ясна. Палядзі, ўжо перястае дошч».

* * *

Калі баба памірала: «Спей ты мне песенку. Спей, я цябе прашу». – «Ой, баб, ты такая бальная ляжыш». – «Спей, я цябе прашу». Баба прасіла «Па Дону гуляя...» Пачці да палавіны прапела, а яна мне гаворя: «Хваця... Прапей мне «У полі судзянушка...» Я і тую прапела палавіну. І яна, бачу, я гавару: «Баб, ці ты паміраіш, ці слухаіш?» – «Ты міне закалыхала. Я лягу, пасплю». І я ўжо болей ня пела. Так яна прэдана была песням. Ой, яна іх знала! Я ж табе кажу, што песня: «Рассыпала аряшочкі на ляду, // А я іх жа, мамачка, ужо не сабяру...» І к цёткі Крыўцовай, жыла церяз дарогу... І сёстры к ёй прыдуць і пяюць яе... А я любіла... І яны запяваюць... Калісь на свадзьбе... Прышла к Козырыхі... Алёну аддавалі... Мы з Алёнай меншыя былі...

* * *

Ета і калісь было. Я ў бабы калісь пытала: «Баба, ета і калісь-калісь?» – «Да. І калісь. І прабаба мая казала, што вадзілі «Стрялу».

* * *

Баба наша Алёнка... Вот як «Стрялу...» Старэнькая ж была... Вот як я... Дак яна з кастыльком да Крыўцовых дайдзя... І то кажа: «Я праводзіла «Стрялу». І будзя казаць: «Слава табе, Госпадзі!» Ідзець Ушэсце: «Дай Божа, штоб я ішчэ хоць да Крыўцовых... Да я считаю: «Што я «Стрялу» правяду...» Правядзе да Крыўцовых... Калі да Мелькавых... Я гавару: «Баба, можа, і да Жаваранкавых...» – «Не, далекавата...» Ета трэцці двор ад нас...І яна сядзя на лавачку... Калісь кала каждага двара былі лавачкі... Пасядзіць, аддыхне і назад прыдзя... А «Стрялу» ўжо і да края правядуць... І ня відна... Яна гаворя: «Хоць жа я прайду трошкі...

Хоць да Крыўцовых дайду, да «Стрялу» правяду... «Стрялу»... Ідуць ціхонічка, штоб няскора прайціць сяло... І яна ідзець услед...

* * *

Па-калісяшнаму, па-божэскі «Стрялу» правесць – ета бальшое дзела... І баба гаворя: «Дай, Госпадзі, што б я і на лета правяла Стрялу... Штоб я дажыла і да тога года...» Бабы будуць казаць: «А, можа, Бог дасць, баба Алёнка, і правядзеш

* * *

Яна з маткай. Матка прядзе. І баба. І яны прядуць. Усё баба казала: «Вазьмі, мой дзіцёнак, заводзь песню, якую табе наравіцца...» І будзя казаць: «Тады спарней работа ідзёць, як пяём...» І мы кажым: «Баба, спарней жа работа ідзёць. Ты казала...» – «Ну, дак сматря... Работа...» Проса таўком і песні пяём. Рассыпаіцца. Забудзім. Што нам тое проса...» Туся сто раз. А тады я сто раз. Пароўным. Счытаіма і песні пяёма. А Ягор будзя сядзець: «Рассыпаіця, такія-сякія!..» Баба: «Дзеці, узяліся за работу, дзелайце. Тады папеяцё!» Я бабу кажды Бога дзень памінаю. Хто іх памяне, калі ня мы.

* * *

Баба ўсяму навучыла. Вот усяму. Будзя казаць: «Мая ўнучачка, дзелай так. Харашо. Яно будзя добря. Штоб людзі не смяяліся, а хвалілі...» І вот баба. Усягда ўрэмя. Будзя дзелаць і гаварыць. А матка скажа: «Ідзі, не дуры мне галавы. Послі ета здзелаім...» А баба мне атвет дае сійчас жа. І я ў яе што ні пытаю, яна мне. Калісь грубка топіцца, бульбу чысця, а я буду ў кружыве вязаць крючком. Буду казаць: «Баб, давай-ка песні пець...» А яна: «Мая ўнучка, німа чо-та настраенія». Я кажу: «Ну, баб, ня хочыш, ня нада...» – «Ну, давай! А то я бачу, я цябе абідзіла...» Я гаварю: «Да я ні абідзілась...» – «Ну, давай якую песню...» Я гаварю: «Баб, якую?...» – «Да якую запяеш...» У бабы голас тож харошы быў. І вум харошы быў. Яна знала ад шведа-дзеда.

* * *

<*Ва сне пяюць – гэта плоха?*>

Ва сне, як песні пяюць... Калісь баба наша казала, устала і кажа: «Што-та я за сон бачыла, што ўстала, і зімой кукушка кукуя. Бачу: вашла на двор, і кукуя. А бацькі дома не было, яны ж таргавалі ў Сівінцы – бацька і матка. Мы кажым: «А, і зімой мажэ...» – «Не... Бачыла я ўва сне, што вышла, і кукушка: «Ку-ку. Ку-ку...» – кукуя доўга. Я і кажу: «Кукушачка, к чаму ты мне звесцію такую даеш?» А назаўтряга бацьку прывязлі мёрцвага. Дак баба ўсё і плакала: «А я ж бачыла ва сне, што кукушка зімой кукуя. Дак ета ж, ты мая Полячка, ужо кукавала там да плакала там у Ветцы».

<*То ж кукушка. А песні?*>

Кукушка. Яна пяе. Кукушка і варона роўна пяюць песні? Кукушка пець ня ўмея – кукуя. Ета яна пяе. Мы гаворым: «Кукушка кукуя...» – «Ета яна песенкі свае паяе».

* * *

<«Ходзяць коні над рякою с апустіўшай галавою...» >

Красівая песня. Нашы хлопцы ўсі ўмелі яе. Пачаном мы пець такая, штоб падягаваць, а яны гуртам сядуць і ету. Перябіваюць нам: «Ідзіця к чорту. Пейця. Сядзьця каля Коршунавых, а нам ні мяшайця». Кала двара сядзім. Ідзіця кала другога двара. Яны пелі. Любілі хлапячыя песні. Яны пелі «Распрягайця, хлопцы, коней...» Адзін хлопец у нас падводзіў, як дзеўка. Сядуць гуртам. І ён падводзя.

Ні скажыш, што хлопіц падводя. Так падводзіў красіва. І яны пяюць. А ету во «Ходзяць коні над рякою с апустіўшай галавою...» як запяюць, наша баба ўсё казала: «Хлопцы, ета Сашкі майго песня. Прыдзіця вы, пейця кала нас. Люблю я, уміраю, ету песню...»

### *«Нада кажды дзень памінаць...»*

* * *

Нада кажды дзень памінаць. Як памінаш кажды дзень, а то забываіш. Казала Пашуля мне: «Да палавіны «Верую», а то ўзяла, забыла...» Я кажу: «Вот табе памяць харошая. А я кажды дзень «Верую» гаварю. «Отчэ Наш» і «Верую». Баба наша калісь гаварыла. Вот станя ўвечары, доўга моліцца. Спакваля ўсё гаварыла, малілась. Уранні... Тады печ затапліе. Рана ўстаня... І ўвечары лажыцца спаць, станя перяд віконай. І я стану. Баба гаворя. Калісь баба гаворя, і мы станіма за бабай услед. Як баба гаворя. Яна: «Засць!» – ета: «Цішай! Не перябівай, а то я збіваюсь. Я гаварю, а вы ціхінька ў думе думайця, як, уродзе, вы памянулі...» І скрозь малілась. Доўга баба малілась. А вот за ўмёршых ё такія малітвы, што пяюць, як ляжыць ужо мертвяк, тых ні знаю, тых ні ўмею.

* * *

Баба наша, як хлеба бярэ, гаворя: «Госпадзі!.. – Перяхрысціцца. – Прэсвятога хлебца нада з'есць...» Усё прэсвятоя. «Усё на свеце прэсвятоя, – казала баба наша, – і нада шанаваць. Камара, і тога, ня нада біць. Ён тожа хоча жыць. Не чапайця!»

* * *

Баба Алёнка казала: «Даждеся, мая ўнучка, празніка. Скрысення. Вот сёдні – скрысенне. Перяхрысціся і скажы: «Госпадзі, дай Божэ, штоб і тога скрысення даждалась...» І любы празнік. Яна: «Дай, Госпадзі, штоб і на лета дажылі мы да етага празніка». Ці Мікола, ці Ражаство. Любоя.

* * *

Баба мая Алёнка столькі малітваў знала. Што адкуль яна іх брала? І станя маліцца, нанач, увечары малілася, і ўраньні, падыміцца. Ніхай тут дзела гарыць, а яна карову летам падоя, а то шчэ заранія ўстаня. Богу моліцца. Дак мы калісь стаім. Ну, я на малітвы на етыя тугая, не ішло мне ў дурную башку. Песні зразу схватываю. Баба і гаворя: «Стой са мной уряд».

* * *

А баба казала наша: «Дзеці, у лес ідзіцё, перяхрысціцесь: «Госпадзі! Памажы нам!» Патаму што з табой ангел ідзець паўз адзін бок, паўз правы, а чорцік ідзець паўз левы. І каждага чылавека сapaваждаюць.

* * *

Як лён сеяць, усё ж хрысцяць, а я план засяваю, дак я лёнам. Думаю: «Баба ўсё лёнам. Пасеяла, зачырціла». І цыбулю. Гаварю: «Падаждзі, Сярёжка...» Ён: «Баб, ты ўсё прыхамяці...» Я гаварю: «Нада і ета здзелаць. Нас учылі так. І мы традзіцыю ету будзім выпалняць». Во засяюць і бульбу. Іван Рыштак. Я вышла, ён пачыная. Паляджу: Богу моліцца, перяхрысціўся, зямлю перяхрысціў і бульбу кладзе. Я гаварю: «Што ты дзелаіш?» – «Засяваю план. Перяхрысціўся, у Госпада Бога ўраджаю папрасіў».

***«Баба ў школу не хадзіла…»***

* * *

Мы гаворым: «Баба, адкуль? Ты ў школу хадзіла?» Яна гаворя: «Дзед мяне навучыў... Вот як вечар святы... Так жа прялі. А як святы вечар, дзелаць нільзя нічога, ён сядзіць, мяне вуча...»

* * *

Баба неграматная была саўсім, усё казала, ад бабы свае панавучывалася. Тады школ не было, толькі панскія дзеці хадзілі ў школу. Мая матка кончыла два класа.

* * *

Баба ў школу не хадзіла. Гаворя: «Я паняція ня ймею, якая школа». Калісь жа не хадзілі. Дак знала і грошы счытаць, чорт зная дакуда. Да мільёнаў. І чытаць умела. І пісаць. Возьмя і буквы напіша. Самавучкай. Дзед Ягор быў граматны. Ён рана і памёр, малады. Бацька толькі матку ўзяў. Ваня толькі радзіўся.

<Кужэльная Праскоўя Сяргееўна, 1933 г.н. Стрыечная сястра:

«Матка казала, шэйсят гадоў была, як памёр. Старастам у цэркві быў. Плеханаў тут быў первым землядзельцам, ці чым ён быў, быў у яго камандзі дзісятнікам. Маладзейшы. А тады ўжо ў цэркві».>

* * *

Калі б ў ета ўрэмя, як яны па адзінаццаць класаў. Дак баба наша і класа ні канчала. І да мільёна. Грошы толькі дай. Яна да мільёна складзе. «Мне, – гаворя, – так Бог дае...» А баба Іванюшкава, дзеда Майкі, ужо была пень. Усе дзед Майка казаў: «А ета – пень асінавы. Яна ня зная грошай пасчытаць. Вазьму ў яе рублёўку на бутылку. Яна: «Выпіўшы. Ці не ўкраў ты грошы?» Паглядзела. «Паглядзі-ка...» – на дачку. Пасчытая: «Я ня знаю: ці столькі было...» А я ўжо прапіў рублёўку». А наша баба класа ня кончыла ніводнага, і яна пасчытаць умела. Калісь па-цыганскі. І то нас навучыла. Цыгане былі, яна гаворя: «Умеіце вы счытаць?» Ну, і счытала. Баба наша да пійсяці счытала. І нас наўчыла: «Хоць бы вы да дзесяці...»

***«Як пamру, дак не забудзь, падбяры ўсё маё смецце…»***

* * *

Я не бряшу, бряхала мне баба, дак і баба наша не бряхала, такая баба ў нас харошая была, на ўсём свеці яна адна.

* * *

Усё, як навылёт. Усё навылёт. Што ё – усё праўда. Ета калісь і баба пачане гаварыць, будзя гаварыць і кажа: «Людзічкі добрыя, уся праўда, як навылёт». Праўда навылёт – німа тут бряхні.

* * *

Баба калісь казала: «Як памру, дак не забудзь, падбяры ўсё маё смецце, што я табе гаварыла. Ета ня смецце, яно і нада будзя. Дак падбяры яго, не выпускай із свае галовачкі». І во яна дабілась, штоб я пры старасці гадоў, гаўно ета расказывала». Яна сказала: «Не шчытай смеццем...» – казала. Часта сядзіма. І бабы будуць. На бугрэ жылі... Як баба памёрла, дак яны гаворяць: «Во баба Алёнка гаварыла...» Ці будуць: «Твая баба Алёнка гаварыла».

* * *

Дзеці, хадзіця паглядзіця, як суп, а то пойдзіця замуж, дак мужык па хібіцы будзя біць, скажа: «Во вырасла даўбня, а ўма ня вынясла. Ня ўмееш супу зварыць!»

### *«Ідуць к табе, як і к Богу…»*

* * *

«Хадзілі з намі тыя мужчыны гуляць. Што-нібудзь дзелаць, яны прыходзяць: «Алёнка, так і так». Матка: «Ідуць к табе, як і к Богу». – «А ніхай! Дай Божа, памоч чылавеку, да не абідзіць». <...> Яна нікалі. Еслі ня зная, яна скажа: «Не, етага ня знаю».

* * *

Яна ўмерянная такая была. Еслі чылавек. Яна перва выслухая. Усё калісь казала: «Галава – ета тая самая сарціроўка... Веялка тая. Ета ж адно. Тады ўжо сталі: «Сарціроўка...» Сыпалі. Мякіна ў адно, калосся ў другоя ідзець. Рукавы такія. У тэй рукаў – калосся, у тэй – зярно. Дак яна гаворя: «Так жэ і галава сарціруя: і плахоя, і харошая...»

* * *

Прыдзя, хоць і Козырыха: «Баб, калі-та рассаду сеяць?» А баба гаворя: «Капусту-рассадніцу ўсягда сеяць у пятніцу. У любую пятніцу сей капусту-рассадніцу!» <Баба так усіх учыла?> А баба наша будзя іціць, еслі рассаду будзя сеяць, і будзя казаць. Ты на вуліцу, табе б сказала: «Ісакавіч, скажы сваёй ці матцы, ці жонцы, рассадку ніхай сёдні сеяць. Капустніцу-рассадніцу сеяць у пятніцу». <...> У нас была Алка, учыцільніца, чэряз двор жыла, як што сеяць, Толік кажа: «Усё ўжо! Халу ў палу, пашла». «Пайду папытаю Грэцкавы сеялі ці не. Еслі ня сеялі, я ня буду». Учыцілка яна была. Прыдзя: «Дзеўкі, вы. Ці рассаду сеяць. Ці там. Што-нібудзь...» Мы гаворым: «Заўтры будзім мы сеяць». – «Ну, давай заўтры». Прыдзя. «Ну, сеялі вы? Пайдзёмця сеяць. І я пайду». Такія вот, ня скрытыя мы. А ўжо баба Іванюшкава. Та ўжо сама сабе. Пойдзя і ня скажа. А наша баба аткрытая была.

* * *

Калі жаць пачынаяць, дак усё калісь прыдсідаціль прыходзя, бабу нашу бярэ, Іванюшкаву бабу, дзядоў: «Хадзімця, паглядзім на поля... На зубы...»

* * *

Наша баба вумненная была. Вот прыходзяць: «Бабачка, тоя-тоя». Яна ніколі... Ніхай будзя дзела гарэць. Яна гаворя: «Чылавек прышоў, нада з ім пагаварыць, і атвеціць, што яму нада. А плахоя ўсягда можна сказаць: «Ідзі. Ня хочу з табой гаварыць. Некалі мне». Нада ўсягда ўдзяліць чылавеку ўрэмя. Атвеціць яму». Прыходзілі к ёй скрозь. Во дажэ кабана біць, прыходзяць: «Баба Алёнка, ці цётка Алёнка, хочым кабана біць, ці можна ціперь?» Яна кажа: «Падаждзі дні два-тры. – Падскажа. – Во тады ўбівай. А то сала слізкая будзя». Ці садзіць што-нібудзь на агародзі. Яна і кажа: «Ня нада... Ета самы плахі ў месяцу дзень. Ня нада. А то будзя гніць на агародзі». Баба наша вумная была. Ета ня то, шта я хвалю. А ўсі знаяць, што ета баба Грэцкава сказала. Значыць – закон.

* * *

Ета шчэ прабабы пелі, вот адзін аднаму. Вот ты малады шчэ, будзіш расказываць, я памру, ты будзіш казаць каму-нібудзь. Мне баба казала. Я гаварю: «Баб, адкуль?»

Баба наша аднаго класа ня кончыла, а грошы счытаць счытала і чытаць чытала самавучкай. Дзед навучыў. Дзед трохі ў школу хадзіў, а баба не хадзіла. Большая, пяцера дзяцей нянчыла, некалі было ў школу. «Някуды!.. Ніякія школы! Дзяцей глядзі!» А дзед, тэй кончыў, вабшчэ, ён такі вумны, развіты быў.

### *«Ой, веру-веру, дзеці, што ё любоў на свеці...»*

* * *

Усё баба казала наша... «А-а-а, краса... – кажа... – Забірэміняя... Краса тая спадая... Ужо ўсё... Краса да вянца, а жызь да канца...» Любоў ё. Як любіш каго, дак будзіш і век любіць...

* * *

Ета баба наша ўсё нарядзіцца, дак я гаварю: «Ты ж бы прыбралась». А яна: «Хай ён міня паглядзіць, якая я на кажды дзень. А прыбяруся, буду сядзець, ты прыдзіш, скажыш: «Куды-та ты сабралась?» Ета мне ня нада». Баба наша ўсё казала: «Дзеці! Будзь ты ў будзёнкавым у будні дзень, хай цябе людзі паглядзяць, ці жаніхі, ці што, а ў празнік і дурак панаравіцца. І дурака вазьмі, будзя дурны, а будзя красівы. А ты ў будзен дзень, хай цябя паглядзяць, якая ты. Хай ён паглядзіць міня ў будзен день, прыбяруся, буду сядзець. Ета ўсё: дзеньгі – прах, адзёжа тожа, а любоў усяго дарожэ».

* * *

Ты верыш, вот ё песня: «Ой, веру-веру, дзеці, што ё любоў на свеці...»? Ё любоў на свеці? – <*Ё.*> – І я веру. Калісь усё баба наша расказывала. Такі ўжо быў дзед Ягор мой, харошы. Вот пара саедзінілась. Вот маткіна радня. Яго звалі Ахрэм, а яе – Хацімья. Дак на іх усё казалі: «Хадзімця к Ахрэму і Хацімы!» Гуляць ужо бабы: «К Ахрэму і Хацімы, можа, наварылі бурака і бацьвіння». Прыходзяць: «Ну, як, Ахрэм і Хацімья? Наварылі нам бурака і бацвіння?» А баба наша... Тож харошыя дзяды былі... А ета бацькава, дак ужо саедзініў Бог і яе харошаю, усе людзі казалі, і ён харошы і баба Алёнка харошая. Вот два такіх саедзінено. Дак усё баба наша расказывала. Дзеўка гуляла, любіла, напрымер, цябе, і гуляла, і дружылі, і ўсё, а бацькі ж калісь камандавалі, за каго аддадуць. Бацька, згаварыліся твой бацька і, напрымер, мой бацька: «Давай пажэніма іх». У тога жаніха пара коней да тры каровы, хазяйства! Ну, і не аддаў за тога хлопца. А тэй – бедны: аднам карова ў бацькі да маткі. Но яны любілі друг друга. Аддалі сілай яе. Яна і плакала. Узялі аддалі. Яна пажыла, месяцы два мучалась, прышла і кажа: «Бацька, забярыця мяне дамоў. Я не магу болей жыць з ім. Лягу я спаць з ім, дак ён мне як стоградусны мароз кала мяне. Дак як стоградусны мароз ляжыць кала мяне. Я яго не люблю і не любіла, і век не прывыкну. Вазьміця мяне». А бацька сказаў: «Аддаў цябе замуж – жыві! Што табе болей нада? Свёкар, свякруха, а тыя ўсі ўжо разышліся дзеці да замуж папашлі, пажаніліся, а ты там як царыца будзіш. Жыві – і ўсё!» А яна ізноў прыдзя, плача, матка ўжо расказывала. А бацька ня браў. Ана папытала і гаворя: «Паследні раз пытаю ў вас. Забярыцё мяне? Я там сваё плацця якоя забяру і прынясу сюда. І буду жыць у вас, буду хадзіць рабіць па наймах, толькі забярыця». А бацька сказаў: «А! За галасракага тога хочыш іціць замуж? Не аддам!» Ну, яны зімой вытапілі баню, там, у свёкра, а калісь снягі бальшушчыя былі, яна і надумалася, яна ўжо расказывала сваёй падрузі, гаворя: «Як мне ўжо з ім лажыцца спаць, да ён надаеў мне, не хачу!» Узяла пашла ў баню, палезла на палаткі, выпаралася, тада пасядзела трохі, зноў палезла, Вера яе звалі, яны: «Вера, штось ты два разы, то раз папарышся, то зноў

лазіш?» Яна: «Хочу разагрэцца». Разагрэлася, і ў прыбанніку, калісь банька, і прыгародзяць прыбанічак, яна пашла надзела андарачок толькі і кохтачку, і бяз хусты, а косы бальшыя, і яна пашла босая, вышла і пашла к бацьку, а к бацьку іціць далекавата, і пакуль дайшла к бацьку, падышла ўжо ўвечары, у хату вышла, матка спужалася: «Чагой-та ты босая?» і бацька сядзіць: «Чаго босая!? Лезь скарэй на печ – атагрявай». Яна села, лаўкі такія былі, доска ад сцяны да сцяны і кажа: «Не хацелі мяне забраць, штоб я са стаградусным марозам не жыла, дак вот я сабе смерць такую абрякла. І не нада мне не ўрачы...» І ногі сталі калоць, палезла на печ, і к дзвенаццаці часам яе ўжо пачало біць-калаціць, яна ўжо прастыла, мокрая ўся да столькі шла, і захварэла, і дзве нядзелькі паляжала, і ён прыйшоў: «Дзе Вера дзелася? Німа з бані Веры». Яна гаворя: «Еслі дзед Мароз прышоў толькі, стаградусны, за мной, не адчыняйця, я яго бачыць ня хочу». І накрылася пасцілкай, і ён прыйшоў: «Пайдзём, Вера. Я табе і шубы прынёс. Пайдзём». Яна яму атвеціла: «Ідзі! Я ненавіжу, дзе ты дажа стаіш. А не то шта я буду ў пасцелі з табой спаць. Мяне толькі дзень спасаў, што ты работаіш, я без цябе, а ты мне ня быў люб і ня будзіш!» І у яе двухстаронняе васпаліне. І яна і памірла. Дак сказала: «Штоб хаваць...» Прыдзя, яна накрыіцца: «Штоб дажы ты майго ліца ня бачыў, а я твайго. І пamру, штоб ты дажы прашчацца не падышоў!» Ну, ён, усё раўно, прышоў, папрашчаўся з ёй, пацалаваў. І схавалі. Дак, бацька тэй дурэў: «Ой! Чаго я ня ўзяў!?» А матка: «Згубіў дзіцёнка!» І песня ё:

Я чуў у таўпе гаварылі:
«Жаніх непрыглядны такой,
Напрасна дзявіцу згубілі».
І вышаў я ўслед за таўпой...

Жэняць насільна, і ета плоха.

*(Працяг будзе).*

Васіль Жуковіч



…Што ж ісціна? Мо ў тым яна,
што маем выбар – выбар волі:
ці ўзлёт, які не мае столі,
ці ўпад, які не мае дна!..

# “Я з тымі, хто жыццё пяе, ідзе за праўду на Галгофу”

***Два літаратурныя партрэты***

## Прыгожы і мужны

*Светлай памяці Алеся КАСКО*

У памяці ўспаміны множу,
чытаю – чую голас твой.
Я пра цябе казаў: прыгожы
абліччам, талентам, душой.

Ішоў, паэзіі адданы,
ў няроўны бой ты разам з ёй.
Скажу: ты, вонкава ціхмяны,
быў мужны самасцю сваёй.

Пра вельмі істотнае, што хвалюе кожнага паэта, сказаў Алесь Каско ў звароце да сваёй долі:

О лёс мой, выказацца дай,
не забяры мяне заўчасна
ў далеч тую, дзе так часта
мне будзе сніцца любы край.

На вялікі жаль, Алесеў лёс, як часта здараецца з таленавітымі і геніямі, стаўся бязлітасны – забраў заўчасна... Але творца паспеў нямала, а галоўнае – таленавіта здзейсніць і ў паэзіі, і ў прозе, і ў якасці перакладніка. Мяне асабіста найбольш узрушае ягоная праніклівая лірыка, няхай сабе ў ёй пераважае мінор:

Гэта восень мая... Ні тугі, ні адчаю.
Сыдзе час, як пясок. Праплыве, як вада.
Што, папраўдзе, для Госпада я азначаю,
каб умольваць Яго, каб сябе шкадаваць?
Што ж, абступяць, абхопяць апошнія хвілі,
і на рукі сяброў ападзе галава...
Ці я многа аддаў, ці ў мяне шмат прасілі,
каб па мне галасіць, каб па мне гараваць?
Шлях за краем міне.
Неўпрыкмет, непарадна...
Быццам восень, іду – межавая пара.
Гэта горкая, ды найпраўдзівая праўда:
трэба так, як трава, як лісцё, паміраць.
Той бяды, што якоесь былінкі не стане!
Напамінкам хіба, што свет жыў і жыве,
хоць калі, хоць каму ціхі позірк прагляне
ці ў лісці маладым, ці ў вясновай траве.

Алесь Каско многае прадчуваў. Яго глыбока ўзрушала немінучае ў жыцці чалавека. Працытаваны верш з'явіўся задоўга да завяршэння яго шляху зямнога, як і наступны:

Гэта пэўна, гэта існа:
свет не згіне, век міне;
гэтым далям, гэтым высям
існаваць пасля мяне.
.........................................
Гэта трэба, гэта сніцца:
вы адчулі – не стае
хоць часцінкі, хоць драбніцы,
хоць крывіначкі мае.

Гэта досыць, гэта выйсце:
скрозь смугу ці скрозь імжу
ў гэтых далях, гэтых высях
ляжа ўсцеха на душу.

У мностве лірычных вершаў ён бачыцца мне як майстар-чарадзей мастацкага слова, які выдатна адчувае, дзе мілагучнасць роднае мовы, дамагаецца дасканаласці метафары, параўнання. І знаходзіць ідэальную адпаведнасць формы зместу ў кожным канкрэтным выпадку:

Зноў я дома, дома, дома.
І паўзмрок, і цішыня.
І матуля, як мадонна,
ля глыбокага акна.

Кола месяца за ёю,
задуменнай, маладой,
залаціцца чысцінёю,
быццам німб над галавой.

Такое ж лёгкае дыханне характва і чысціні ў радках наступнага верша, ды ўжо тут зусім іншы настрой і – адпаведна – зусім іншая танальнасць:

Мне спалася моцна на посцілках траўных
пад шатамі лёгкіх, як пух, туманоў.
Між дрэў, і мятлушак, і птахаў
сапраўдных
і самых спагадных знайшоў я сяброў.
У сне зорна-сінім я лётаў высока
і стойваў дыханне над роднай зямлёй...

Алесь Каско даволі розны ў сэнсе тэматыкі і зместу твораў. Аднак скразною лініяй па ўсіх ягоных кнігах ідуць матывы дабра і зла, гераічнай і драматычнай гісторыі Бацькаўшчыны, беларускае мовы, культуры, матывы нацыянальнага адраджэння. Не могуць не ўражваць вершы: "1862 год. Слова Каліноўскага", "Сон пра 2085 год", "Здавалася б: ну, вось ён, Храм...", "Вось – гвалтоўны гісторыі ход..."

Вядома, кожны чалавек у жыцці непазбежна шматкроць апынаецца перад выбарам. Лёсавызначальны выбар залежыць ад чалавечага сумлення. Пра людзей і нелюдзяў чытаем у вершы "Узрушэнні":

Адны героямі былі,
ішлі на крыж, на эшафот
за годнасць ды за свой народ...
Іначай, пэўна, не маглі.

Другія катамі былі,
іх спадчына – бізун, турма,
і апраўдання ім няма...
Ці ўсё ж іначай не маглі?

Больш абагульнена, па-філасофску заглыблена паэт працягвае тую ж тэму ў вершы "Ісціна":

Як духу ўзлёт не мае столі,
так духу ўпад не мае дна.
Хто зведаў ісціну спаўна,
калі ні дна няма, ні столі?..

Што ж ісціна? Мо ў тым яна,
што маем выбар – выбар волі:
ці ўзлёт, які не мае столі,
ці ўпад, які не мае дна!

Такая паэзія магла стварыцца інтэлектам і сэрцам высокадухоўнае асобы, якою, на шчасце, была асоба Алеся Каско, ураджэнца ўнікальнага Чудзіна, ад казачнікаў якога слынны А. Сержпутоўскі запісаў кнігу "Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў" (1911). Дарэчы, Алесь аднаго разу казаў мне, што і ягонае прозвішча гучала першапачаткова – К а з к а... Добра адукаваны ў педінстытуце, дзе 40 гадоў шчыраваў прафесар і пісьменьнік У.А. Калеснік, Алесь чытаў шмат не толькі мастацкай, а і філасофскай літаратуры, асабліва

Ніцшэ і Шапэнгаўэра. Усё гэта паспрыяла фармаванню паэта высокай культуры. Пры гэтым ён заставаўся неганарлівым, па-таварыску прыязным заўсёды, тым больш, калі пасля Уладзіміра Калесніка кіраваў абласным аддзяленнем нашае пісьменніцкае суполкі.

Ён выдатна ведаў усіх, каго аб'яднала, сагрэла і працягвала грэць Калеснікава "Берасцейскае вогнішча", ведаў творчасць кожнага. Алесь Каско ў якасці рэдактара і аўтара ўступу "Сіла зерня і слова" сардэчна блаславіў на выхад у свет кнігу Івана Арабейкі "Сказаць хачу" (2012). "Чаму пішу ўступ для кніжкі, ніякіх прадмоў да якой не патрабуецца? – так натуральна ён пачаў сваю гаворку. – Імя вядомага паэта-земляка кажа само за сябе, і ўсё ж навошта адгукаюся? Ды проста – каб парадавацца разам з чытачамі: паэтычны плён Івана Арабейкі – і мінулы, апрабаваны часам, і новы – зноў увасобіўся ў зборнік, хай сабе больш чым праз тры дзесяцігоддзі. Найгалоўнае – ужо не першы год, як скончылася паласа глыбокага паэтавага маўчання. Менавіта глыбокага. Гэтак да пары да часу тояцца закапаныя з нейкай сакральнай прычыны ці зусім выпадкова зярняты ў сасудзе, каб аднойчы выбаўленая са спратаў "жыццёвая іх сіла збудзілася і буйна ўскаласіла парой вясенняй збожжа на раллі" (М. Багдановіч). Цікава, што Алесь і першую кніжыцу Арабейкі "Услед за сонцам" "чытаў-перачытваў у вёсцы на канікулах з такім захапленнем, нібыта сам з'яўляўся яе "лірычным героем": "Мне ў гэтай пуні пахне родным, як пахне неба жураўлю". "Толькі глыбока асабістае робіцца сапраўды высокім, – выказвае слушную думку А. Каско. – Без шчырасці няма паэзіі..."

Ад нязгоды з крытыкамі, якія занадта "прызямляюць" паэзію І. Арабейкі, Алесь Каско напісаў каларытны сяброўскі шарж на паэта, які з'ехаў з Берасця ў вёску, мае там сад, гарод, сякую-такую жыўнасць:

Муза мудрага Івана
зноў імкне да ясных зор.
Сёння Ясная Паляна
для яго – Жыцінскі двор.
Зноў зрадніўся ён з зямлёю,
ходзіць годнаю хадой.
Твар аздобіць барадою –
будзе рыхтык Леў Талстой.
Садам шчасны, агародам
ды курынаю сям'ёй.
Ён не скарбам граф, не родам –
граф паэзіяй сваёй.

Дасціпна! За што ні браўся Алесь Каско, атрымлівалася таленавіта. Некалі на юбілейнай вечарыне паэта ў Ганцавічах, куды завіталі мы з М. Скоблам, уразіла нас песня на словы А. Каско "Яблыкапад" у выкананні Святланы Локтыш з мужам.

У маёй памяці застаўся Алесь чалавекам чуйным, прыгожым учынкамі. Калі на Купалле 1991 года спачыў вечным сном Міхась Рудкоўскі, пахаваннем нябожчыка на радзіме заняўся менавіта ён. Пазней знайшоў сродкі і паставіў надмагільны помнік паэту-земляку.

Да мяне ставіўся Алесь па-сяброўску. З нагоды віншаваў, як і я – яго. З маладым юбілеем павіншаваць ён завітаў да мяне дамоў разам з У. Калеснікам і У. Ягоўдзікам. Тады яны ўручылі мне гадзіннік у форме ліры. Дарылі адзін аднаму свае зборнікі. Сумесна з ім рэдагавалі адну з кніжак Івана Мельнічука.

Імпанавала мне ягоная грамадзянская пазіцыя, змаганне за нацыянальныя святыні, найперш – за беларускую мову. Дужа спадабалася, як аднойчы ён разам з Алесем Разанавым у Берасці правучыў маладога стукача, які пад выглядам

пачынаючага літаратара стараўся пранікаць на нашыя пісьменніцкія чытанні, каб пранюхаць, чым дыхае творчая інтэлігенцыя.

Калі Алесь цяжка захварэў і чакаў складанай аперацыі, я суцяшаў яго: маўляў, хірургія шмат чаго дасягнула... Пасля аперацыі мы сустрэліся ў Берасці, ён абяцаў адгукнуцца да мяне пісьмом, калі акрыяе. Але гэта не было наканавана. Заўчасны скон ягоны я ўспрыняў як драму нашае сучаснае літаратуры.

У свой час ён казаў мне, што Міхась Рудкоўскі паміраў мужна.

Аўдавелая Алесева жонка Людміла распавяла мне, што гэтак жа мужна да апошняй хвіліны трымаўся і ён, Алесь Каско, наш паэт-патрыёт Беларусі, улюбёны ў жыццё, у людзей, у белы свет, далікатны і вытанчаны лірык.

## "Я з тымі, хто жыццё пяе, ідзе за праўду на Галгофу"

*Штрыхі да партрэта Івана АРАБЕЙКІ*

Свае думкі пра выдатнага паэта-земляка Івана Арабейку пачну незвычайна – успомніўшы: у кнізе непараўнальнага Алеся Разанава "Паляванне ў райскай даліне" (1995) ёсць версэт "Крыніца, з якой піў святы", дзе ён не абышоўся без Арабейкавай постаці:

> *Ад царквы да царквы, ад лесніч оўкі да лесніч оўкі ідзём з Арабейкам Іванам, напытваючы сцяжыну да той крыніцы, з якой піў святы.*
>
> *Мы знемагліся, нас паліць смага, але мы адмаўляемся ад піцця, і людзі, бачачы нашу адданасць святой ідэі, шчырае наша імкненне, нам кажуць, кудою ісці.*
>
> *Апоўдні гарачага дня мы прыходзім да мэты. Крыніца ўвабрана ў зруб, і Іван Арабейка першы, схіляючыся над зрубам, зачэрпвае ў конаўку, што мы знайшлі тут, вады.*
>
> *Гэта, аднак, не зусім і вада, а – жоўта-чырвоная вадкасць, бы недзе глыбока, адкуль выцякае крыніца, у падземных нетрах, точыцца бесперапынна нейкая бітва і сплывае гэтакаю крывёй.*
>
> *Іван Арабейка п'е. І я п'ю, сціскаючы зубы, таксама.*
>
> *Потым будзем хварэць, будзем пакутаваць, але будзем ведаць, што далучыліся да самай сутнасці свету і што пілі з крыніцы, з якой піў святы.*

Не выключана, што Алесь Разанаў распавёў тое, што ўбачылася яму неяк ува сне. Калі й сон, то ён, прадыктаваны яваю, – сімвалічны, патлумачыць які можна, да прыкладу, так: крыніца – творчасць; а творчасць – справа крэўная, нават святая. Як для Разанава, так і для Арабейкі. Іван Арабейка першы зачэрпвае з крыніцы і першы п'е. Чаму першы? Усё проста: ён – старэйшы. Сёлета, 26 сакавіка (на вялікі жаль, нямірнага), Івану Сяргеевічу спаўняецца 80. Пазней, узімку, 5 снежня, Алесю Разанаву споўнілася б 75... Будзе адзначацца гэтая відная дата без яго. Разанаўская "Крыніца, з якой піў святы" можа, вядома, сімвалізаваць не толькі творчасць, а й (нават найперш) нашую Бацькаўшчыну, з яе драматычнай і гераічнай гісторыяй, да якое свята ставяцца ў творчасці і Разанаў, і Арабейка. І пры ўсім адрозненні між сабой абодва яны адметныя, самавітыя, удумліва і глыбока мысляць. Абодва шчодра адораныя дарам чалавечнасці. Праўдалюбы.

Вядома, Алесь Разанаў шмат стварыў, і – адпаведна здзейсненаму – нямала сказана пра яго, знакамітага, даследнікамі літаратуры. Таму далей гаворка – выключна пра Івана Арабейку.

Іван Арабейка не пладавіты. Адлегласць паміж першым зборнічкам "Услед за сонцам" (1972) і другім "Асенні ранак" (1978) – шэсць гадоў. І ажно больш як тры дзесяцігоддзі ішоў паэт да новага выдання "Сказаць хачу" (2012).

Я не высвятляў прычыну такога працяглага маўчання: лезці ў душу – не ў маіх правілах. Прычына магла быць не адна. Ды вызначальным хутчэй за ўсё сталася нейкае вострае расчараванне ранімага і ўражлівага творцы, мажліва, канфлікт з чымсьці фальшывым у свеце. Мо канфлікт здарыўся і з самім сабой. Што б ні было, спатрэбілася глабальная мабілізацыя духоўных сілаў, як некалі ў Жэні Янішчыц ("Знікаю, пакуль я сама ў сабе не знайшлася...") Паслухаем жа, як паэт сам пра тое перажытае гаворыць дасканалаю моваю паэзіі:

Па дарозе мяце лістапад.
У прысадах вятроў галашэнне.
Наступае вялікі абрад –
Палымяны абрад ачышчэння.

Наступае святая пара!
Сам сабою жыву. Я на броні.
Я не ваш. Вы не стойце ў дзвярах.
Не грыміце – ўваход забаронен.

Хай душа ў цішыні адпачне.
Пасля свят пачынаецца будзень.
Адпяваеце рана мяне,
Нецярплівыя, строгія людзі.

Адчужэнне, каб жыць і любіць,
Каб вяртацца да вас і да слова.
Трэба нешта адкінуць, забыць
І складаць сваю долю нанова.

Будзе сонца, вясна зазвініць,
З салаўямі лясы павянчае.
А пакуль ні лісця. Ні сініц.
А пакуль – немата і маўчанне.

У новым выданні ёсць і такая відавочная пазітыўная ўзважанасць перажытага крызісу:

Не, я не ўмёр, я ўглыб сябе зашыўся
І слухаў свет – дзівосны, дасканалы.
Я ў Пушкіна гармоніі вучыўся.
А болю і любові – у Купалы.

Адно добра – маўчанне падрыхтавала плён. Кніга "Сказаць хачу" паказала, што яе аўтару было і ёсць што сказаць; выданне атрымалася трыадзінае: сюды, у трэцюю кнігу, увайшло сёе-тое з першай і другой, але моцную аснову склалі новыя творы. Як трапна адзначыў рэдактар кнігі і аўтар прадмовы Алесь Каско, "Самыя адметныя вершы з двух папярэдніх зборнікаў і новыя – узаемапранікальныя, яны ствараюць цэласную кніжку. Да дзіцяча-юначай непасрэднасці дадалася сталая мудрасць:

Цаню спакой і цішыню.
У вёсцы болей сонца, неба.
Ля печы сядзеш, ля агню, –
Ніякіх скарбаў і не трэба.
Не думайце, што я астыў,
Што крах, закончана дарога.
Манаха кліча манастыр,
А мне вось тут бліжэй да Бога.

Казаць пра «вяртанне» Івана Арабейкі слушна, бадай, толькі ў дачыненні да ягоных жыццёвых вытокаў – вёскі, прыроды, сялянскай працы. Што ж да паэзіі, дык ён нікуды і не адлучаўся ад яе – яна прарастала ў ім нават у перыяд маўчання".

Ужо нямала гадоў Іван Сяргеевіч пражывае ў вёсцы Жыцін (Жабінкаўшчына), за чатыры вярсты ад роднага Хмелева. Натуральна, што ў вершах паэта пераважаюць матывы родных мясцінаў, усяго першароднага, незабыўнага. Не магу не звярнуць увагі на "Адухаўленне":

Прыйшоў я зямлі тут сваёй пакланіцца,
Забытыя казкі вучыць.
У мілых узорах старой аканіцы
Мне музыка дзеда гучыць.

Разьбяр, забываў ён пра лёс свой і ўтому,
Пра хлеб на чужой старане.
І певень біблейскі на вільчыку стромым
І сёння ўсё будзіць мяне.

У лірыцы паэта дамінуе мінор, і яна бязмежна праніклівая. У адным з вершаў пра маці боль і смутак невымоўнае страты найболей сканцэнтраваліся ў фінальных радках, у зваротку да вядомага птаха:

З кім цяпер словам дзяліцца?
Кім мне цяпер даражыць?
Ціха апала ігліца,
Ціха тут мама ляжыць.
........................................
Глуха, да жудасці глуха,
Толькі трава і спакой.
Ціха, ты, дзяцел, не стукай, –
Маме балюча маёй.

У кожным творы Іван Арабейка выказвае штосьці абавязкова сутнаснае, гэтак і ў "Жабінцы". Натуральна, многае з таго, што яна прыдбала, давала людзям і што перажыла, запамятаў і ўзгадвае цяпер паэт:

І сквер, і статую з галубкаю,
І лозунг "Выканаем план!",
Дзе прад вакзальчыкам аблупленым
Пампезна высіўся тыран.
Сваёй уладай задаволены,
Глядзеў сурова звысака
На люд галодны, зацухмолены,
На гвалт ля хлебнага ларка.

(Жабінка – вядомы чыгуначны вузел, і пра гэта аўтар сказаў зноўку арыгінальна: *Ўсе гарады раслі над рэкамі,//А ты да рэек прырасла.*)

Што ж да тырана, то паэт не абмінуў яго невыпадкова: якраз пры ім, пры ягонай гнюснай палітыцы і знішчалі сумленных людзей, і тамілі ў астрогах. Іванавай маме прысудзілі аж 5 гадоў за накапаны кош калгаснае бульбы. Дома сямёра дзяцей засталіся; меншай, Марыі, было тады пяць гадкоў... Як жа душа балела тады Ваньку-сыну, а цяпер баліць Івану-дзядулю: ягоная ўнучка Яна – за кратамі: асуджаная ў 2020-м нізавошта (з лепшымі аднакурснікамі ціха спявала на вуліцы песню), адбывае ў гомельскай турме суровы тэрмін!.. Нават калі пашлюбілася з каханым, ёй не дазволілі хоць бы дзянёчак пабыць на волі.

Іван, акрамя драмы сям'і Арабейкаў, перажыў разам з Бацькаўшчынай нямала ўсенародных трагедый. У вершы "Тры вёскі" ён увязаў у адзін вузел трагедыі ваеннае пары, чарнобыльскае бяды з няспынным драматычным працэсам сучаснага жыцця:

Усім ім прыйшлося ў зямной мітусні
Гаркоты уведаць залішне.
А першай – найболей. Згарэла ў агні –
Над лесам вунь воблачка вісне.
Другая таксама – ліхі час настаў –
За дротам калючым, у зоне.
Ні слыху ні дыху адтуль, ні ліста,
На роднай зямлі – у палоне.
Не зіркае ў вокны яе чалавек,
Хіба толькі воўчая зграя...
А трэцяя вёска кароткі свой век
У хатах старых дажывае.

Творы Арабейкі сведчаць пра тое, што ён – паэт сардэчны, арыгінальны і майстравіты. Усе якасці гэтыя адлюстроўваюцца, вядома ж, і ў міні-вершах:

**ЖЫЦЦЁ**

Так заўжды – у вятрах, навальніцах –
Доля дрэў ці не доля твая?
Гэта ж трэба – ад буры хіліцца
І ў зацішку люляць салаўя.

**У ВЯНОК КЛАСІКУ**

Між многіх форм літаратуры
Мне наймілей мініяцюры.
Паклон сардэчны Вам, Брыль Янка,
За жменю сонечных брыльянтаў.

* * *

Гісторыю штудзіруючы ўпарта,
Урэшце рэшт – адно, што я скумекаў:
Ад Каіна – Батыі, Банапарты,
Ад Авеля – Францыскі і Дамейкі.

Элегантны падтэкст праглядваецца і ў інтымных творах. Вось канцоўка верша "Маліны": Вечарэла. Лес аціхаў. // Мы прыселі – для шчасця нямала.// І тады – а чаму, я не знаў – Ты з далоні мяне частавала. А вось заключныя радкі з

яшчэ не менш сэрцагрэйнага верша: Вясна не хутка пусціць коцікі,// Што мне вясна – няма цябе.// Стаяць твае ў куточку боцікі,// Такія родныя, – ў журбе. У гэтым шэрагу і шчымлівы твор “***Можа, варта на міг прыпыніцца...” Я чытаю і перачытваю такія цудоўныя радкі ды зноў і зноў узгадваю мужную і закаханую Яну Арабейка і яе закаханага і мужнага мужа, зычу ім найлепшых пераменаў і шчаслівае долі!

Радуюся, што добра ведаю Івана, Сяргеевага сына, Арабейку. Чытаю, перачытваю шчымлівыя, жыццядайныя ягоныя творы, якіямі хочацца дзяліцца з чытачамі ці хоць бы цытаваць і цытаваць. Іх не пералічыць: “Запавет”, ”У белым доме ля сіняй бухты”, “Мая віна, мая бяда...”, “Ціхая споведзь прыроды...”, “Асенні ранак”, “Песня начлежніка”, “Не наглядзецца ўволю...”, “Люба”, “У хаце сонечна было”, “Вятрак”, “Жыла ўва мне мара адна...”, “Адлёт буслоў”, “Маці”, “І нічога няма...”, “Дзяды”, “Хочацца цішы, пяра...”, “Мне тут не спіцца: шум тапалі...”, “А мама ніколі не вернецца”, “Рожкамі промень росы атрос...”, “Драмлёва”, “Мне туды не даехаць...”, “Бывайце, светлыя гады...”, “Поўдзень. Дымок. Аднапутка.”, ”Напрадвесні”, “Яшчэ ні смутку, ні нуды...”, “Плаціць за мудрасць сумам.”, “Я з тых мясцін”, “Не, я не з тымі, хто куе...”

Гарманічная, задушэўная паэзія заўсёды зачароўвае. Дазволю сабе, развітваючыся з чытачамі, яшчэ з двух вершаў узяць асобныя радкі: “Мяне вось гэты гай галубіць// Святлом бярозавых начэй.// Я з тых азёр, дзе неба любіць// Блакіт матуліных вачэй.// І Млечны Шлях, як слуцкі пояс,// Ў начлезе свеціць давідна.

Радуе прынцыповая, асабліва ў гэты наш, абцяжараны вайною, час пазіцыя Івана Арабейкі: “Я з тымі, хто жыццё пяе,// Ідзе за праўду на Галгофу”.

*Сакавік, 2022*

Уладзімір Мароз



...сучаснаму чалавеку ўласціва

цяга да вандраванняў...

# Мілан, Мілан...

### *З аповедаў жыцця*

Каб і хацеў, такога б не прыдумаў. Адзінотны *Duomo di Milano*, Міланскі сабор. Пусты агромністы пляц перад ім. Гандлёвыя пасажы без адзінага пакупніка. Апакаліптычная тэлевізійная карцінка. Яна ўводзіць у скруху, бо ты сам быў там неаднойчы і бачыў зусім інакшы, карнавальны краявід, бо горад, які на тры гады прывеціў твайго малодшага сына і даў яму магістарскую адукацыю, мала таго – стаў стартавай пляцоўкай для дактарантуры ў заакіянскім Гарвардзе, стаў блізкім і незабыўным. І тут вось навала каранавірусная, якая перавярнула ўсё з ног на галаву. Вусцішна. А яшчэ і Бергама, які стаў эпіцэнтрам эпідэміі з вялікімі ахвярамі. Сюды мы прыляталі і адсюль адляталі, калі выбіраліся ў Мілан. Шкада ўсёй Італіі, цудоўнейшай краіны, якая ўжо незваротна ўвайшла ў тваю душу. І ў нас цяпер тая ж немач, але пляцы і вуліцы не перакрытыя, сюррэалістычнага адчування няма аніяк, хоць небяспека лунае ў паветры, адчуваецца калі не спрэс, то ў дэталях, у тых жа масках на тварах людзей, у той жа тэлевізіі і сеціўных навінах. За якія грахі чалавечыя такая пошасць? – адказу не дасць ніхто. Але задумвацца варта. Глабалізацыя, эпоха

камунікацый. Словы якія груваcткія! А галоўны сэнс просты – сучаснаму чалавеку ўласціва цяга да вандраванняў. Вось і сунецца ён па свеце туды-сюды, больш дзеля цікаўнасці (грошы дазваляюць), турыстам, а не па справе. І так ужо звыкся з вандроўнай магчымасцю, што аэрапорты забітыя людзьмі, самалёты стаяць у чарзе, каб узляцець у неба. Не з чужых слоў гавару. Асаблівая яскравая карцінка засталася з міжнароднага аэрапорта Нью-Ёрка імя Джона Кенэдзі (*JFK*). Калейка з лайнераў абсалютна розных памераў – ад агромністых “аэробусаў” і “боінгаў” да маленькіх машын мясцовых, трэба думаць, авіяліній, а то і прыватных самалётаў. І ўсе хочуць абавязкова ўзняцца ў неба. А цяпер і аэрапорты пустыя. Хай думае чалавек пасля пандэміі – ці варта яму выбірацца ў далёкі свет?

*

Два гады таму і для нас такое пытанне не стаяла. Як цяпер аглянуцца, то пераважная большасць маіх (ды потым і нашых з Вольгай) вандровак былі невыпадковымі, неабходнымі, нетурыстычнымі. Як і тыя дзве сустрэчы з Міланам у 2018 годзе. Прычына першай святая – выпускны Данілы ва ўніверсітэце Баконі. Свой выпускны ў школе я прапусціў, паехаў на падрыхтоўчыя курсы ў Мінск – так ужо хацелася паступіць і вучыцца ў сталіцы! А пасля інстытута аб развітальным банкеце неяк і гамонкі не вялося, яго проста не было. Не памятаю нават, дзе і як дыпломы ўручалі. Таму хоць бы заканчэнне навучальных устаноў дзяцей адзначыць. Выдатны выпускны вечар быў у Цімоха ў Беларускім гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа. З харошымі людзьмі цёпла пасядзелі. Потым наша з Вольгай першая вандроўка за акіян на выпускны Цімоха ў Лафайет каледжы ў Істане, што ў штаце Пенсільванія. Візы ў амбасадзе далі з прыемнасцю, бо для амерыканцаў сканчэнне навучальнай установы – вялікае сямейнае свята. Памятаецца развітальны вечар Марыны ў “Парнаце”, гімназіі-каледжы мастацтваў імя Ахрэмчыка. А вось пасля Акадэміі мастацтваў у яе была толькі прадстаўнічая абарона дыплома на выставе ў Палацы мастацтваў. З прэтэнзіяй быў выпускны Данілы ў мінскай гімназіі нумар трынаццаць – у рэстарацыі гатэля “Мінск” на “Сёмым небе”. Выпускны быццам безалкагольны, але бацькі прынеслі кожны сабе. Мы ж нічога не ўзялі. Потым я ў бары з-пад прылаўка набыў пляшку гарэлкі, але яна ўжо неяк не пілася, то і пасядзелі мы з Вольгай нядоўга. Не было акрэсленага развітання ў Данілы з рымскім універсітэтам, дзе ён атрымаў ступень бакалаўра. Таму ехаць-не-ехаць у Мілан нават і пытання не стаяла. Вырашылі рушыць утрох, з Марынай. Да самой паездкі падышлі з харошым настроем. Вось тут я пытаюся ў сябе – калі справы добра ладзяцца? Калі прыходзяць добрыя навіны? Можа быць і па-іншаму, але для мяне адназначна, што ўсё рухаецца ў лепшым тэмпе пасля інтымнай сустрэчы з жонкай. Колькі разоў упэўніваўся. Так здарылася і ў той перадночны час, калі залатвілася пяшчотная справа. Ужо і прыснулі. Але разбудзілі дзіньканні “Тэлеграма” ў айфоне. Раз, і два, і тры, і больш – не сціхае. Давялося ўставаць. Аказалася – добрая вестка ад Данілы – яму прыйшоў станоўчы ліст аб дактарантуры з амерыканскага Паўночна-Заходняга ўніверсітэта. Поўная стыпендыя. Ажно акрыяў хлопец! А то ўжо два адказы з іншых месц былі – адзін адмоўны, у другім інфармавалі, што паставілі ў чаргу. Старэйшы сын Цімох адразу адгукнуўся, што гэта выдатная школа. А мы вырашылі патэлефанаваць Данілу ўжо нараніцу. Няправільнае было рашэнне. Неўзабаве каля першай гадзіны ночы Даніла сам патэлефанаваў. Зразумела, з кім жа дзяліцца радасцю, як не з бацькамі? Пагаварылі, парадаваліся. Сон, зразумела, пакінуў, але хіба гэта важна – выспацца заўсёды паспеем. Назаўтра паглядзеў у сеціве, што за ўстанова. Аказалася, што Паўночна-Заходні ўніверсітэт – самы буйны даследчы ўніверсітэт у Амерыцы з агромністым бюджэтам. Месціцца ў паўночным прыгарадзе Чыкага, той гарадок на беразе возера Мічыган. Прыгажосць, напэўна. Дык холадна там! – парыраваў

Даніла. Ну, не больш холадна, чым у Беларусі, – супакойваў бацька. Я за шэсць гадоў у Італіі стаў паўднёвым чалавекам! – зноў зазначыў сын. Але, як той казаў, не было б іншай бяды. Даніла пасылаў сваё рэзюмэ на дактарантуру ў дзесяць ці дванаццаць універсітэтаў. Пераважна якраз у ЗША, бо эканамічная адукацыя там найлепшая. А потым сядзі і чакай – атрымаецца што з гэтага ці не? Каб былі грошы, то і праблемы аніякай. А іх у бацькоў проста няма. Таму разлік на атрыманне стыпендыі, найлепшым чынам поўнай. Я спачатку хацеў параўнаць гэткі стан з пачаткам пісьменніцтва – калі пасылаеш твор у некалькі часопісаў ці выдавецтваў ды чакаеш. Але потым зразумеў, што рэфлексія недакладная, бо ў гэтым выпадку цябе яшчэ толькі будуць чытаць, а тут вынікі тваёй вучобы ў прэстыжным еўрапейскім універсітэце навідавоку. Аднолькавы хіба што псіхалагічна стан чакання, узмоцнены адчуваннем, што цяпер у пэўнай ступені вырашаецца твой лёс. А ў нас пакуль што павінна вырашыцца даволі звычайная, хоць і нячастая, але заўсёды нервовая справа – атрымаць візы. Цяпер у італьянскай амбасадзе.

Жанчына, якая прымала дакументы, на маё пытанне, ці дадуць візу на год, зазначыла, што ў нас вельмі добрая візавая гісторыя. Анягож – і амерыканскіх поўна, і шэнгенскіх гадавых (французская ды чэшская з апошніх), і тая ж італьянская была на паўгода. Пра польскія і літоўскія нават і не гавары. Тут я нарэшце зразумеў, што мне ўжо рэальна захацелася ў Мілан. А напярэдані таго, як пашпарты з візамі ўжо трэба забіраць, прыйшла яшчэ адна вестка, ужо зусім завоблачная. На календары дваццаць сёмага лютага. Здаецца, ідуць-праходзяць звычайныя дні, зіма хоцькі-няхоцькі выкіроўвае на вясну, хоць і супраціўляецца – ноччу ажно мінус дзесяць! Але сонца нарэшце ўспамінае, што і гэты куточак зямлі варта хоць часам асвятляць і грэць. Настрой ад таго падымаецца, і здараюцца эпахальныя падзеі! Нават калі не такое моцнае слова ўжываць, то падзеі ўсё роўна лёсавызначальныя для нашай сям'і, хоць канкрэтна яны датычныя малодшага сына Данілы. Па тэорыі верагоднасці, калі з трох варыянтаў адзін станоўчы (Паўночна-Заходні ўніверсітэт), то яшчэ варта чакаць выдатных прапаноў. Так і сталася. Даніла напісаў, каб мы не расслабляліся, каб былі гатовыя да яшчэ больш прыемных навін. І такая навіна здарылася. Гарвард!!! Спачатку яму адтуль патэлефанаваў італьянскі прафесар, які ніколі дагэтуль з ім не звязваўся (чаму сын і сказаў нам быць гатовымі). А потым і папера прыйшла з запрашэннем у дактарантуру Гарвардскага ўніверсітэта і раскладам поўнай стыпендыі. Фантастыка!

Калі размаўлялі па скайпе, шчаслівая ўсмешка не сыходзіла з сынавага твару. Я нагадаў, як некалі, яшчэ ў Мінску, гаварыў яму пра Оксфард. Тады сын нават пакрыўдзіўся – вы што, здзекуецеся? Я пераконваў, што не багі гаршкі абпальваюць, што не варта прыніжаць сябе. Аказалася, меў рацыю. Але ўсё роўна пакуль рэальна не ўсведамлялася – сын будзе вучыцца ў Гарвардскім універсітэце! У лепшым універсітэце свету паводле Шанхайскага рэйтынга, аб чым пачуў выпадкова па тэлевізіі. Ды яшчэ ў дактарантуры! Зразумела, паверым канча, калі ў верасні пачнуцца заняткі, бо арганізацыйных мітрэнгаў вельмі шмат, усё трэба належным чынам залатвіць. Дай Божа! А пакуль мы з Вольгай маем падарожжа ў Мілан. Субота, дваццаць чацвёртага сакавіка. На нашым шляху Вільня, да самалёта добрых дзве гадзіны. Ляцім у горад, каб купіць Клаўдзіі, дзяўчыне Данілы, бурштынавы браслет ў падарунак, а потым яшчэ і паесці дзе... На шляху назад бачу кавярню, з якою звязаны не самыя прыемныя ўспаміны яшчэ з 1989 года, калі здымалі фільм пра Скарыну. Тады мяне аблаялі за тое, што не размаўляю па-свойму, на беларускай мове. Пасля лаянкі піць піва тады расхацелася. Так за ўсе гады і прыезды ў гэтай кавярні і не быў. Самы час зняць комплекс. Пакармілі нас з Вольгай цудоўнай смажанай свіной адбіўной, ды яшчэ "Старка" па два кілішкі аказалася анігадкі – навучыліся ж рабіць, калі падціснула! Комплексу як не бывала – усё праходзіць у свой час. Наетыя, паляцелі далей на вакзал, каб электрычкай даехаць да аэрапорта. Адтуль самалёт у Бергама.

Пералёт не здоўжыўся, час праляцеў неўпрыкмет. Калі прыехалі ў Мілан, ужо сцямнела. Сын сустракае нас на прывакзальным пляцы каля агромністага светлага яблыка. З-за такой незвычайнай інсталяцыі, што стала міланскай адметнасцю, месца сустрэчы не пераблытаеш. Скульптура называецца "Яблык уз'яднання". Легенда такая: калісьці Адамам і Евай быў надкусаны забаронены плод. Цяпер гэтая частка, якой не хапала, вернута на месца, уз'яднана з першаасновай. Магчыма, гэта ідэя вяртання ў рай, яшчэ адзін шанец чалавеку не зграшыць? А я б назваў кампазіцыю "Залаплены яблык". Бо насамрэч невядома, ці адкусаны кавалак устаўлены назад, ці проста латка накладзена, каб плод выдаваў на цэлае. А для атэістаў ёсць механістычнае тлумачэнне – гэта сімвал яднання прыроды і сучасных тэхналогій.

Пагулялі мы яшчэ крыху па вечаровым дзелавым цэнтры Мілана з высокімі будынкамі ды паехалі на таксі да жытла. Гэта кватэра, якую здымалі Даніла з Клаўдзіяй яшчэ з восені. Дзяўчына скончыла магістратуру Баконі летась, але ўзяла яшчэ адзін курс на год, каб быць разам з любімым хлопцам. Мы ўсё гэта ўспрымалі абсалютна спакойна – што лезці ў жыццё маладых людзей? Іх кватэрка падалася вельмі ўтульнай. Хоць і невялікая, але трохпакаёвая, так што месца гасцям на колькі дзён хопіць. Да таго ж ёсць агромністая лоджыя-тэраса з вялікім сталом, дзе можна піць каву і ўвогуле харчавацца. Адно што холадна пакуль. Назаўтра разгледзеліся і з домам, ён мне вельмі спадабаўся. Па форме гэта карэ, таму ўнутраны дворык утульна ахінуты збудаваннем у пяць-сем паверхаў. Тут толькі густая зеляніна, машын няма, яны ўсе звонку. Псіхалагічна вельмі прыемна жыць у такім доме. Так пачуваліся і мы.

Марына прыляцела на наступны дзень, яе таксама сустракалі каля яблыка. Было 25 сакавіка, Дзень Волі. Абарона дыплома ў Данілы мелася назаўтра, у панядзелак, але ўсё роўна гэта можна было разглядаць як падзею ў святочны для беларусаў дзень. Зазначаю, бо з Днём Волі будзе звязаны яшчэ адзін важны жыццёвы момант у Данілы праз два гады. А цяпер чакала ўрачыстаць, да якой ляжаў амаль трохгадовы шлях – абарона магістарскай працы і атрыманне дыплома. Даніла апрануўся ў новенькі касцюмчык, цёмны ў палоску, выглядаў вытанчана, зграбна, стройна. Ва ўніверсітэце ўжо выдалі мантыю з квадратнай акадэмічнай шапачкай. Потым чакалі абароны. Яна адбывалася ў вялікай аўдыторыі, дзе студэнцкія лаўкі і сталы выштукаваны авальна, амфітэатрам агінаюць цэнтральнае месца з вялікім сталом і экранам за ім. За гэтым сталом і сядзіць магістрант, пакуль што ў касцюме. Перад ім – прафесары. А мы, гледачы, слухачы і саўдзельнікі дзеі, ззаду.

Можа, не ў той момант, але пазней згадалася абарона кандыдацкай маёй Вольгі па матэматыцы ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Там аўдыторыя была меншая, выкладчыцкі стол на подыуме, ілюстрацыйныя плакаты, выштукаваныя маімі рукамі, не на экране з кампутара (дзе яны ў нас на пачатку дзевяностых мінулага стагоддзя?), а прымацаваныя да дошкі. Але перад аспіранткай такія ж прафесары, якія слухаюць і задаюць пытанні. А цяпер я слухаю свайго сына, на сурвэтцы запісваю тры словы, якія пры гэтым прыйшлі ў галаў: "вольна, пераканаўча, прыгожа". Па-ангельску, але з тэмбравымі акцэнтамі, характэрнымі ўжо для італьянскай мовы, якую сын засвоіў за амаль шэсць гадоў дасканала. Сапраўды, выступленне было ўпэўненым, з пэўнай доляй тэатральнасці, якая выяўлялася найперш у жэстах рук. Нездарма ж Даніла некалькі разоў у кіно здымаўся, няхай сабе і ў дакументальным.

Пасля абароны перадых хвілін пяць. Магістрант апранае мантыю, яго зноў клічуць у аўдыторыю і ўручаюць дыплом. Далей фотасесія ў мантыі з роднымі, сябрамі, дзяўчынай сваёй Клаўдзіяй. Лепшы сябар Данілы Антоніё адсутнічаў, ён на той час быў у Японіі, але патэлефанаваў з віншаваннем праз сваю сяброўку Соню, якая была ў нашай сябрыне. Па словах Клаўдзіі (сам сын так не акцэнтаваў), Даніла і Антоніё – лепшыя магістранты ўніверсітэта Баконі выпуску 2018 года. Вось так! Дыплом (сам аркуш) выглядае звычайна, але Даніла паказаў, дзе адзначана, што ў

яго самы высокі бал, што гэта дыплом з адзнакай. Чырвоны дыплом, як па-нашаму. Прыемна бацькам, што тут скажаш. Адзінае, італьянцы так і не навучыліся пісаць правільна назву нашай краіны. У тэксце было ажно два словы: Белоруссия – Руссия Альба. У кардоннай скрынцы аддалі і дзве дыпломныя работы. Як усё прыстойна зроблена! Цвёрдая вокладка цемнавата-сіняга прыемнага колеру, золатам ціснёныя літары, папера бялюткая, авантытул – на мелаванай паперы. Узровень ва ўсім, адным словам.

Нарэшце мы за сценамі ўніверсітэта, дзе можна і трэба хутчэй адкаркаваць шампанскае. Яно тут лілося ракою. Купкамі стаялі выпускнікі са сваімі роднымі і сябрамі. Сканчэнне ўніверсітэта ў Еўропе, як і ў Амерыцы (што мы з Вольгай бачылі на свае вочы) – гэта сапраўды значнае сямейнае свята. Акром бацькоў і братоў з сёстрамі да выпускніка прыходзяць і дзядзькі з цёткамі, і стрыечныя, і бабулі з дзядулямі, і сябры, натуральна. Як я зразумеў, не ўсе нават у нябеднай Італіі заказваюць банкеты з гэтай нагоды ў кавярнях ці рэстарацыях. А вось шампанскае пасля ўручэння дыплома п'юць усе. Умовы не з лепшых, як распіваць у двары, але ўжо цвітуць дрэвы, свеціць сонейка – весела. Настрой узнёслы, бо значны, а то і вызначальны этап вучобы пройдзены. Таму і ігрысты напой п'ецца добра, на тварах усмешкі. Ушасцёх агоралі дзве пляшкі ды рушылі ў добрым настроі па вясновым парку дадому, каб сесці на тэрасе за ўрачысты стол. Сядзім, падымаем тосты за сына, за Баконі, за Гарвард. Ужо месяц прайшоў ад прыемнай навіны, таму эмацыйнае адчуванне перайшло ў іншую плашчыню. Даніла вымавіў словы “звычайная справа”. Ён сказаў, што першасная эйфарыя ад слова “Гарвард” прайшла, і цяпер усё гэта падаецца звычайнай справай. А так і бывае. Напачатку ты быццам збоку глядзіш на сябе і здзіўляешся – няўжо гэта здарылася са мною? А потым ты ўжо ўнутры, і гэта становіцца звычайнай справай. Тады я думаў гэтымі словамі і будучы аповед назваць. Але, калі па шчырасці, звычайнай справай гэта канчаткова стане тады, калі ты ўжо будзеш у гарадку Кембрыджы, што каля Бостана, і пойдзеш на першыя лекцыі. Гэтага трэба яшчэ дачакацца і шмат чаго залатвіць, пакуль яно ўвасобіцца ў рэальнасць. А пакуль у нас два вольныя дні ў Мілане – гуляем і з Данілам і Клаўдзіяй, і без іх.

Міланскі шпацыр у асноўным звязаны з шопінгам. Тут хоцькі-няхоцькі будзеш рабіць гэтую справу, бо купіць льга і лепшае, і таннейшае, чымся ў Мінску. Ногі кожны дзень гулі. Але крыху прыкупіліся. Ды і на культурную праграму Марына нас вывела – схадзілі на выставу Дзюрэра ў музеі каля міланскага сабора. Так, практычна ўсё гэта ты бачыў у рэпрадукцыях, але ж тут арыгіналы! Вельмі шмат Дзюрэра! – як жартаваў я потым. А ўвогуле Мілан ужо зрабіўся сваім горадам, праз сына ты стаў да яго далучаным...

*

У экспазіцыі гэтай часткі трэба зазначыць, што даведкі аб вучобе Данілы ва ўніверсітэце Баконі не мелі моцы для нашага райваенкамата. Бо там не было радка, што навучанне дзённае (ці стацыянарнае, ці з абавязковым наведваннем студэнтам лекцый і семінараў). Толькі вось нічога такога ў гэтых даведках італьянцы не пісалі, адно пазначалі сам факт навучання. У іх няма ні вячэрняга, ні завочнага навучання, таму ў адміністрацыі ўніверстэта нават не разумелі, што ад іх хоча Даніла. Даведкі ў нас стандартнай формы – такі быў адказ. Калі прыходзіў да падпалкоўніцы, загадчыцы прызыўнога аддзела, тлумачыў усё гэта, даводзіў, што ў кожнай краіне свае правілы, яны не могуць падладжвацца пад нас. А ў нас такія парадкі – як заведзеная, адказвала яна. Адзін раз нават кінулася шукаць для прыкладу даведку іншую з Італіі, але так і не знайшла. Я завярнуўся і пайшоў. І што? У пэўны момант па прычыне недпаведнасці даведак на Данілу наклалі абмежаванні ў магчымасці

выехаць за мяжу. Здаецца, нічога страшнага, ён і так за мяжой. Але набліжаўся час дваццаціпяцігоддзя, калі скончыцца дзеянне пашпарта. Даніла нарадзіўся восьмага верасня, у гадавіну бітвы пад Воршай, якую сталі потым называць Днём беларускай вайсковай славы. З дакументам, тэрмін якога сканчаецца, у Амерыку не трапіш. Выйсце было ў тым, каб падоўжыць сапраўднасць пашпарта на два гады ў беларускай амбасадзе ў Рыме. Нейк доўга збіраўся Даніла, але калі ўсё ж паехаў з Мілана ў сталіцу, атрымаў адмоўны адказ якраз з-за таго, што меліся абмежаванні. І гэта стала зразумелым дваццаць першага мая. А справу трэба было залатвіць да трыццаць першага мая, калі ў ваенкамаце сканчаўся тэрмін чарговага набору прызыўнікоў. Так сказала мне падпалкоўніца. І вось гэтыя дзесяць дзён сталі для нас з Данілам сапраўдным кашмарам, дарэшты абцяжараным усведамленнем таго, што ў Гарвард можна проста і не трапіць.

У згадках хутаранца я стэнаграфічна засведчыў усю нашую з сынам "франтавую" перапіску, сутнасць і напружанасць якой у адзін момант трапна ахарактарызаваў сын: "Трылер, канечне, усе гэтыя дакументальныя справы". Тут варта яшчэ зацеміць, што я вельмі не люблю хадзіць па кабінетах чыноўнікаў, дзе адразу выяўляецца ўся сутнасць сістэмы з яе непавагай да чалавека, нежаданнем вырашыць пытанне, а імкненнем паслаць цябе ў безнадзейнае нішто. Але тут іншага выйсця няма, сціскаеш сваю волю ды ідзеш безаглядна. Пры першай сустрэчы я паказаў начальніцы дыплом з Баконі і паперу з віншаваннямі з Гарварда. Пакуль на ангельскай мове. Вось гэта скончыў, а сюды паступіў. Магістратура, далей дактарантура, непарыўнасць адукацыі, як і напісана ў нашым законе. Яна паглядзела справу, тыя дзве даведкі з Баконі, якія яны так і не прынялі. Размова падалася мне нармальнай, жанчына сказала, што трэба арыгіналы. Ці ж мы паспеем за дзесяць дзён? А з Амерыкі папера будзе без апастыля, сына ж там пакуль няма, і ніхто не пойдзе за яго па штамп! Ну і што, бываюць паперы і без апастыля – адказала падпалкоўнічка. А з цяперашняй поштай часу хапае. Я так і не зразумеў – яна сапраўды хоча дапамагчы, ці проста зноў жа фармальныя адгаворкі? Але за паперы мы з Данілам узяліся шчыра.

Сын узяў даведку аб дыпломе, прыкінуў тэкст ліста з Гарварда, дзе было б сказана, што там дзённая форма навучання. Даслаў мне, я пераклаў у бюро, там прашылі, і я зноў схадзіў у ваенкамат. Размова была з прысутнасцю падначаленых падпалкоўніцы. Адразу зразумеў, што гэта на выпадак, калі я буду прапаноўваць хабар. Які хабар? За што? За тое, што сын хоча атрымаць выдатную адукацыю і ўсе сілы кладзе на гэта? І што мы аніякіх законаў не парушалі? Але ўслых свайго меркавання не выказваў. Толькі паперы патрэбны не са студыі перакладу, а завераныя натарыусам. Пайшоў я чакаць сапраўдных папер. Данілу давялося яшчэ раз узяць даведку з Баконі і з боем прарваца паставіць апастыль. А з Гарварда жанчына абяцала паслаць найхутчэй поштай. І прыйшлі-такі арыгіналы папер! *DHL Express* з Італіі і *FedEx Express* з ЗША. Атрымаў я іх толькі 29-га вечарам.

Назаўтра пайшоў да італьянскага перакладчыка, які нам пастаянна рабіў паперы для Баконі і з якім тыдзень назад сустракаўся для кансультацыі. З той размовы я зразумеў, што яны ўсе звязаныя з органамі, што баяцца страціць сваю ліцэнзію. Але выйсця ў мяне не было. Італьянская папера хоць і была на ангельскай мове, але апастыль на італьянскай, таму да яго. А заадно ўжо і паперу з Гарварда, якая не тое што без апастыля, але і без пячаткі. Вам такую паперу не заверыць натарыус! – адразу ўзвіўся ён. Я прадбачыў такую рэакцыю, таму проста прасіў усё ж зрабіць пераклад і паставіць свой подпіс. Бо пытаўся ў натарыяльнай канторы аб такой магчымай сітуацыі. Там сказалі, што яны завяраюць подпіс перакладчыка, а не змест і форму даведкі. Нарэшце перакладчык саступіў: я пастаўлю свой подпіс, але вам не заверць. Падпісвай, падпісвай, далей ужо не твой клопат.

Па абедзе забраў перакладзеныя дакументы ды паехаў у нашу натарыяльную кантору. Свабодны натарыус знайшоўся адразу, прывабная маладая жанчына, былая

спартсменка, аб чым гаварылі дыпломы на сцяне і кубкі ў шафе. Натуральна (у мяне нічога не бывае без скрыпу), пабегла да начальніцы кансультавацца аб паперы з Амерыкі. Я зразумеў, што кансультацыя выніку не дала, яшчэ раз патлумачыў, што для ЗША гэта звычайная справа, там ніхто нікога не падманвае. Таму і пячатку ставіць не абавязкова. Ды і папера іхняя фармату адметнага, я ж не падраблю такі памер, каб і хацеў. Яшчэ і вадзяныя знакі ёсць. Яна пачала некаму тэлефанаваць, а мне сказала пачакаць. Пасунуўся ў Гіпа, узяў пляшачку мінералкі, бо дзень спякотны, а тут яшчэ нервы на ўзводзе. Вярнуўся. І нарэшце здарылася сапраўдная палёгка. Натарыус сказала, што заверыць паперу, але копію з яе я не змагу зняць. А на халеру мне копія? – сказаў сабе я. А ёй сказаў, што ўсё добра, завярайце. Пошліну заплаціў тут жа, у памяшканні канторы. Забраў паперы ды ходу.

Назаўтра з самай раніцы паехаў у ваенкамат. Начальніца была занятая, сказала аддаць супрацоўніцы. Тут ужо ўсе ведалі мяне ў твар. Мілая, але з лішняй вагой дзяўчына паглядзела паперы, праверыла, ці напісана ў амерыканскай аб дзённай форме навучання (а там напісана канкрэтна, ды яшчэ растлумачана, што дактаранту трэба наведваць заняткі і семінары!), праверыла натарыяльныя завярэнні і гербавыя пячаткі і сказала, што быццам усё добра. Па вынік пад'ехаў у канцы работы. Начальніцы не было (у судзе), іншая мая знаёмая сказала, што быццам бы разгледзелі, але выніку яна не ведае. Прыляцеў на наступны дзень. Падпалкоўніцу сваю ўбачыў, яна дастала справу, сказала, што ўсё нармальна, што абмежаванні знялі. А калі будзе рэальна? Вось адправім у пагранічную службу, дні праз тры здымуць і там.

Не трэба казаць, што з ваенкамата, куды тыя дзесяць дзён хадзіў як на службу, я вылецеў птушкаю. Адразу затэлефанаваў праз "Тэлеграм" Данілу, сказаў яму добрую вестку. Напісаў і старэйшаму, які таксама вельмі хваляваўся і пільна сачыў за развязаннем няпростай справы: "Цімох! Навіны добрыя – у ваенкамаце абмежаванні знялі, далі адтэрміноўку. Так што можна перадыхнуць. А ўздыхнем вольна тады, калі ў пашпарце Данілы будзе штамп аб падоўжанні тэрміна". Так і сталася, што напружанне адпусціла – у галоўным дакуменце сына стаіць штамп беларускай амбасады ў Італіі, які сведчыць аб тым, што тэрмін дзеяння пашпарта падоўжаны на два гады. Гарвард рэальна стаў бліжэй.

*

Рэальнасцю стала і наша з Вольгай другая запар вандроўка ў Мілан, якая, зноў жа, мела на шляху туды прамежкавы, мілы для сэрца беларуса пункт з назвай Вільня. Часу ў нас было, таму, як і вясной, пайшлі паабедаць у горад. Багажныя камеры на вакзале ўдалося асвоіць, чамаданы пакінулі. Я хацеў запрасіць Вольгу ў не раз адзначаную ў маім аповедзе "Трапіць у Вільню" і вершы "Развітанне з Вільняй" рэстарацыю яшчэ з савецкіх часоў "Локіс". Але там на гэты раз нешта на вока не легла, пайшлі далей, балазе, кавярні на гэта вуліцы былі на кожным кроку. Тут жа і маленькі дворык былой Скарынавай друкарні са скульптураю летапісца – паказаў яго Вользе, каб ведала. Ды і селі за столік на свежым паветры ў ценю дрэў, дзе было вельмі ўтульна. Выбралі гэтае месца з-за цэпелінаў – фірменнай літоўскай стравы. Яна сапраўды была адметная, смачная, сытная, таму нетаропкія па сто грамаў ужо вядомай нам "Старкі" былі ў самы раз. Так настройваліся на Мілан, дзе астатнія арганізацыйныя пытанні, якія трэба было вырашаць Данілу перад ад'ездам, былі зусім рэальныя, не напружныя. Прыляцелі мы туды шостага ліпеня, вярнуліся чатырнаццатага. З сынам былі поўных сем дзён, цэлы тыдзень. На гэты раз асноўнай мэтай было забраць кнігі, бо яны вельмі цяжкія, аніякім багажом у Амерыку адразу не дапрэш. А бібліятэчка за шэсць італьянскіх гадоў у Данілы сабралася даволі для нясталага студэнцкага жыцця. Пазначу хоць пункцірна. З беларускіх "Новая зямля" Якуба Коласа, кніга Васіля Быкава, том Уладзіміра Караткевіча ("Дзікае

паляванне караля Стаха" і "Чорны замак Альшанскі" – выбар мой). Па-беларуску "Стэпавы воўк" Германа Гесэ. З рускай класікі томікі вершаў Інакенція Аненскага, Сяргея Ясеніна, прозы Івана Буніна, Гогаля. З замежных аўтараў, былых і сучасных – Мацуа Басё, Артур Рэмбо, Фрэнсіс Скот Фіцджэральд, Харукі Муракамі (тут ажно тры кнігі), Патрык Зюскінд, Мілорад Павіч ("Хазарскі слоўнік"). Шэкспір па-італьянску, некалькі проста італьянскіх кніг. А Мапасан па-французску – з нулявога да восьмага класа Даніла паглыблена вучыў французскую мову, нават у Францыю ездзіў ад сваёй 2-й школы ў Серабранцы, якая цяпер гімназія №28. І пяць маіх кніжак-кніг. Я іх падпісаў сыну, калі першы раз былі ў Мілане. Каб у нейкую вольную хвілінку пацікавіўся, што ж там бацька піша, якія вершы складае.

Кніг, якія мы пакуль павінны былі вывезці ў Мінск, назбіралася вагою звыш за дваццаць пяць кілаграмаў. Дзеля гэтай эвакуацыі давялося браць яшчэ адзін багаж у самалёт, забраць у Данілы сярэдняга памеру чамадан, а яму купіць для Амерыкі вялікага памеру. Так і пацягнулі ў Мінск два чамаданы па дваццаць кілаграмаў, ды ў руках чамадан меншы і сумка па дзесяць кілаграмаў. Шэсцьдзесят кіляў. І што? Дацягнулі. Але ж гэта тэхнічны бок справы, галоўнае – убачыць сына, падбадзёрыць яго перад ад'ездам. Клаўдзіі з пачатку ліпеня не было – ужо працавала ў сталіцы туманнага Альбіёна. Мяне заўсёды здзіўляла нейкае адметнае еўрапейскае ўладкаванне – італьянская дзяўчына па французскай праграме трапляе на банкаўскую працу ў Лондан! У нас такога і не ўявіць. Так што мы жылі ў іх здымнай утульнай кватэры ў цудоўным доме вальней. Харчаваліся, за рэдкім выключэннем, дома, бо варта было эканоміць. Першыя дні цягаліся па Мілане дзеля шопінгу – як абмінуць сезон зніжак?..

Дзіўна, але і гарачыня пад трыццаць не замінала. А без шопінгу на маю замову зайшлі ў помны з першага разу замак Сфорца ды хораша пагулялі па цэнтральным гарадскім садзе. Шопінг і шпацыр, але ў Данілы якраз у гэты тыдзень былі дзве важныя справы – паход у амерыканскую амбасаду па студэнцкую візу ды вырашэнне пытання з наймам жылля ў Кембрыджы-Бостане. Апошняе неяк не ладзілася з прычыны таго, што адасланы Данілам па інтэрнэце плацёж (а сума немалая!) аніяк не даходзіў да амерыканскага агенцтва нерухомасці. Колькі было размоў па скайпе і тэлефонных з Амерыкай і тут са сваім італьянскім прыяцелем, з якім яны і меркавалі зняць кватэру! Мы не ўлазілі з роспытамі, каб лішні раз не нерваваць хлопца. Так і паехалі, не ведаючы выніку. Потым ужо Даніла сказаў, што ўсё залатвілася належным чынам. А з візай атрымалася значна прасцей. Паехалі мы ў консульства, у чарзе Даніла стаяў крыху больш за гадзіну, ды і ў сярэдзіне доўга не затрымаўся. Усё заняло каля дзвюх гадзін. Са станоўчым вынікам – студэнцкую візу паставілі! Адразу скажу, што забіралі мы пашпарт у пятніцу, вярнуўшыся з Рапала, недзе на ўскрайку горада ў офісе *DHL*. Сяджу я на бардзюры ў цяньку і думаю – куды цябе, небараку, занесла? А насамрэч радасць – з атрыманнем пашпарта з візай эпапею нашу з райваенкаматам горада Мінска можа лічыць скончанай. Ажно не верыцца, што ўсё ўдалося паставіць на свае месцы. А Рапала згадаў невыпадкова – як можна быць у Італіі і не глянуць на мора? У цяперашнім выпадку – на Цірэнскае. Два дні выдзелілі на гэта, але рэальна атрымалася паўтара. Паехалі электрычкай да Генуі, адтуль да Рапала, дзе быў заказаны на адну ноч гатэль.

Назва мястэчка чамусьці знаёмая, потым спраўдзіў, што тут у 1922 годзе адбылася вядомая Генуэзская канферэнцыя, падпісаная мірная дамова паміж РСФСР і Веймарскай рэспублікай. А нашай мэтай было скупнуцца ў моры і прайсці тым маляўнічым узбярэжжам, дзе Даніла ўжо быў з Клаўдзіяй і цяпер хацеў у рэальнасці падзяліцца сваімі прыемнымі ўражаннямі з намі. Да засялення ў гатэль пайшлі якраз акунуцца, але тое аказалася няпростай справай, бо нядаўняй залевай з гор змыла ў мора гліну, і вада была зямляніста-непразрыстай. Праўда, на ўскраіне гарадка знайшлі адносна чысты кавалак мора ды пакупаліся.

Месцаў, якія можна назваць пляжам, тут зусім няшмат – горы, скалы, узбярэжжа камяністае, да вады не дабрацца. Паабедаўшы ўжо ў гатэлі, рушылі запланаваным маршрутам. Да Сан Маргерыта дайшлі адносна хутка, удалечыні відаць і канечны пункт нашага падарожжа – Партафіна. Назва таксама выдае на знаёмую – ці не ў песні Адрыяна Чэлентана гучыць? Зрокава здаецца, што гэта зусім блізка, але па звілістым беразе зусім не так. Краявіды сапраўды дзівосныя – высокія скалы, сіняе мора, звілісты абрыс іхняга сутыкнення. Але ж ты ідзеш-ідзеш і памалу стамляешся. Апошні адрэзак шляху да Партафіна пайшоў па схіле гары – там выштукавана дарожка, бо ўздоўж асфальтавай дарогі тратуара ўжо няма, а па самой дарозе ісці нязручна і небяспечна – больш думаеш аб тым, каб не трапіць пад машыну. Сцежка па гары, здаецца, цягнецца бясконца. Тым больш, у Данілы пачаліся суцэльныя тэлефонныя размовы наконт жылля ў Амерыцы, бо не ладзіўся згаданы плацёж. Калі прыкінуць, то ад Рапалла да Партафіна мы ішлі каля чатырох гадзінаў. Ужо і цямнець пачало, і пакупацца няма калі, ды і настрой з-за кватэрных непаладак сына збіўся. Таму ў Партафіна мы проста селі на аўтобус ды паехалі назад. Дарэчы, гэта дарагое курортнае мястэчка, якое маляўніча месціцца на скалістым мысе-паўвыспе і мае сваю бухту. У Сан Маргерыта адразу пераселі на аўтобус у Рапала. Усяго зваротная дарога заняла 20 хвілін. Але ж не шкадаваць, што далі драла пехатою! Назаўтра добра паснедалі ў гатэлі, развіталіся з ім ды пайшлі зноў жа пакупацца. Знайшлі кавалачак гарадскога пляжа непрыватнага каля замка, пазагаралі, паплюхаліся ў марскіх хвалях. Ды вырашылі ехаць назад у Мілан, бо Данілу трэба было забіраць пашпарт. Так пабылі на моры, адзначыліся. Затое можна гаварыць усім, што адпачывалі ў Рапала. Іначай што згадаць аб леце? Дзякуй Богу, лета гэтае кароткім не было. І ў Беларусі цеплыня трывала доўга, ці не два месяцы. Так што і на Нёмане мы ўдосталь пазагаралі і пакупаліся. І ўсё роўна яно было пад знакам пярэбараў сына ў Амерыку, у чаканні, калі ж можна будзе канчаткова супакоіцца пасля апакаліптычнага канца мая з ваенкаматаўскай тузанінай.

Толькі цяпер, калі сын ужо за акіянам, можна ўздыхнуць з палёгкаю, пазбавіцца гэтага чакання, якое заўсёды цягнецца марудна, таму і лета кароткім не здалося. Праўда, іншае чаканне на той момант засталося – выхаду майго трохтомавіка "Выбранага", які заляжаўся ў чарзе на друк. Але гэта ўжо не італьянская гісторыя. Глянуў фотаздымкі з апошняй сустрэчы з Міланам – там Вольга з Данілам на фоне Міланскага сабора. І людзі на плошчы. Спадзяюся, калі мы яшчэ раз апынемся ў гэтым горадзе, карцінка будзе такая ж, а не сённяшняя ірэальна-пустэльная.

Зінаіда Драздова



...твор, прысвечаны памяці як адной з самых галоўных каштоўнасцей чалавека...

# Элегіі жыцця

## *Рэцэнзія на кнігу Васіля Зуёнка*

***Васіль Зуёнак. Паўстанак з літарай "Л". Прадм. А. Кудраўца; уклад. Н. Заяц. – Мінск: Чатыры чвэрці, 2021. – 232 с.***

У сярэдзіне 2021 года выйшла новая кніга Васіля Зуёнка "Паўстанак з літарай «Л»", у якой мы сустракаемся, паводле заўвагі Анатоля Кудраўца, з "НОВЫМ Васілём Зуёнкам". Бо да гэтага мы ведалі яго як аднаго з самых таленавітых беларускіх паэтаў, які, паводле слоў акадэміка Уладзіміра Гніламёдава, "валодае гнуткім, гаваркім вершам, які дапамагае шырокаму духоўнаму самавыяўленню паэта, яго зацікаўленай размове з сучаснікамі". І вось перад намі празаічныя элегіі Зуёнка (менавіта такое вызначэнне даў творам апошняй сваёй кніжкі сам пісьменнік). Дарэчы, элегіямі з даўніх часоў называлі вершаваныя лірычныя творы, прасякнутыя смуткам, жалем. У беларускай паэзіі гэты жанр чамусьці не вельмі прыжыўся, а з рускіх паэтаў пры слове "элегія" адразу прыгадваюцца творы В. Жукоўскага, А. Пушкіна, М. Лермантава. Давялося перачытаць некаторыя з іх і яшчэ раз у роздуме зірнуць на




кнігу Васіля Зуёнка, каб пераканацца, што аўтар меў усе падставы назваць свае творы элегіямі.

Што перш за ўсё кідаецца ў вочы пры знаёмстве з кнігай прозы Васіля Зуёнка? Эмацыянальная шматфарбнасць, тонкі псіхалагізм пры даследаванні маральна-этычнага патэнцыялу героя, максімальная шчыльнасць слова, думкі пісьменніка, значнасць, надзённасць узнятых жыццёвых праблем, абвостранае пачуццё часу, непадробнае спачуванне чалавеку.

У свой час Максім Лужанін бедаваў, што “шукальнікаў народнага слова ў асяроддзі пісьменнікаў прыбаўляецца мала, а шкада: менавіта з яго россыпаў і намываецца золата літаратурнай мовы”. Васіль Зуёнак – з тых пісьменнікаў, творы якога радуюць свежым, жывым беларускім словам, узятым з народнай скарбніцы, беларускасцю гучання кожнага сказу. У яго прозе адбіліся рэгіянальныя асаблівасці мовы персанажаў, спецыфіка іх гаворкі. Думаецца, не было вялікай патрэбы тлумачыць у самім тэксце кнігі ў дужках (як гэта зроблена) значэнне мясцовых слоў, бо сэнс іх становіцца зразумелым з кантэксту.

Зборнік складаецца з дванаццаці твораў, адны з якіх кароткія, як, напрыклад, “Дзяцей шкада”, “Паўстанак з літарай “Л”, іншыя – досыць аб’ёмныя (“Супоня”, “Чаравікі для баўэра”, “Усю ноч брахалі сабакі...” і інш.), аднак усе яны (апроч трох) напісаны напрыканцы XX – пачатку XXI стагоддзя. Перад аднайменнай са зборнікам элегіяй “Паўстанак з літарай “Л” стаяць дзве даты: 1957, 1999. Напісана яна была, як можна здагадацца, у 1957 годзе, а папраўлена, дапоўнена ў 1999. Сваім настроем твор нагадвае светлы і разам з тым сумны лірычны верш. Ён уваскрашае адзін дзень з жыцця цяпер далёка не маладога чалавека, а раней – юнага студэнта-практыканта педвучылішча, даносіць яго мажорныя пачуцці: “Сёння ў мяне – радасць. І не маленькая, калі разабрацца сур’ёзна. Я навучыў дзяцей – цэлы клас: трыццаць пяць па журнале – чытаць словы з літарай, падобнай на брамку з вясёлым хвосцікам на левым вушаку – унізе...” – прызнаецца герой-апавядальнік, запрашаючы чытача далучыцца да гэтай радасці. Разам з будучым педагогам мы ўбачым смелую дзяўчынку, якая нечакана дала яму прыклады “для замацавання матэрыялу”, назваўшы прыпынак “літарным”, а сваё імя – Лена. Адчуем разам з ім хваляванне, калі ён у канцы навучальнага года атрымае ад гэтай першакласніцы “зусім нечаканае і зусім кароценькае пісьмо – усяго адзін сказ – буйнымі, як у “пропісах”, літарамі, які самотна ці не шаптаў: “Мы сумуем па вас...” І подпіс – “Лена”... Паэзія маладосці спалучаецца ў гэтым творы з разважлівым смуткам сталасці: у шчаслівае “калісьці” ўліваецца гаркаваты струмень: “Колькі гадоў – не адзін дзясятак, – хоць і зрэдку, праязжаю я гэтай чыгункай. <...>

Усё, як і тады...

Як і тады, радуюся я, што навучыў першакласнікаў чытаць словы з літарай “л”. А Лену – яшчэ і ўласнае імя...

Усё, як і тады...

Толькі ведаю – пісем адтуль мне ніхто не напіша... Не бывае пісем з юнацтва...”

Так заканчваецца твор.

Названая элегія не адзіны ў кнізе твор, прысвечаны памяці як адной з самых галоўных каштоўнасцей чалавека. Успамін непазбежна заключае ў сабе хоць нейкую долю жалю аб былым. Рускі класік Ф. Дастаеўскі наогул сцвярджаў, што для яго чамусьці ўспамін раўназначны пакуце і нават чым шчаслівейшае імгненне, тым большая ад яго пакута. Кніга прозы В. Зуёнка распавядае і пра іншыя ўспаміны – страшныя, пакутлівыя: успаміны-раны, успаміны-боль, успаміны-сорам, якія

вярэдзяць сэрца чалавека, прымушаюць яго зноў і зноў перажываць некаторыя трагічныя падзеі свайго жыцця. Вось элегія “Электрашокер”. Яе галоўны герой Ахрэм ужо ў тым узросце, калі трэба падводзіць вынікі жыцця, адказваць за былыя грахі нясцерпным галаўным болем, бяссоннымі начамі. Ніяк не вызваліцца яму ад успаміну пра забойства былога аднакласніка Паўліка, з якім разам былі закаханы ў юную прыгажуню Шуру. Зайздросціў таму, калі бачыў, “як шукалі Шурыны і Паўлікавы позіркі адно аднаго, а сустрэўшыся знянацку, спалохана разбягаліся, каб схаваць таямніцу не толькі ад старонніх вачэй, але і ад саміх сябе”. Вучобу ў Барысаўскім педагагічным вучылішчы Шура і Паўлік пачалі разам, аднак Паўлік за “нацыяналізм” (запытаўся ў начальства: “А чаму гэта ў Барысаве, у цэнтры, лічы, Беларусі, і раптам: Борисовское русское педагогическое училище?..”) быў выключаны. А ў час вайны чалавек з раёна, доўга выпытваючы ў Ахрэма пра суседа-нацыяналіста, які дапамагаў Шуры вучыць дзяцей, убачыў злачынства ў тым, што школа “функцыянуе ў фашысцкім рэжыме” і вынес Паўліку смяротны прысуд. А прывесці прысуд у выкананне “даверыў” Ахрэму. І той зрабіў непапраўны крок, а цяпер, змучаны, шукаючы і не знаходзячы палёгкі, пачаў марыць аб прыборчыку, які б дапамог справіцца з уласнай злой памяццю: “*каб гэта ён узяў ды адключыў – адзін правадок усяго. Памяць жа і добрая ёсць, а вось тая...*” В. Зуёнак з глыбокім псіхалагізмам малюе ўнутраны стан свайго героя, яго складаныя перажыванні, адштурхоўваючыся ад асацыяцый, навеяных біблейскімі вобразамі: “Рыхт як і цяпер, тою вясной дзічка вісела белаю аблачынай над яшчэ кволай, але ўжо сакавітай зелянінай прырэчнага загароддзя. *Толькі ў скроню Ахрэмаву не страляла тады, як зараз. Гэта ён тады цаляў Паўліку ў гэтае самае месца*”. “Іншы раз у роспачы думаў Ахрэм: *узяць бы каб ды вырваць з памяці, адключыць гэны шнур*”. Нельга, напрыклад, не прыгадаць, чытаючы гэты твор, словы са Свяшчэннага Пісання аб тым, што бязбожны (па-руску – нечестивый) капаў яму і сам уваліўся ў яе, што “ліха яго да яго ж і звярнулася. І на цемя яго няпраўда сышла ягоная” (Псалтыр. Кафізма 1, псалом 7). Рэха ўласнага зла вярнулася да былога злачынцы.

Герой элегій В. Зуёнка, – “маленькі чалавек”, які не робіць нічога гераічнага. Ён мае многа слабасцяў, нярэдка памыляецца, жыве грахоўна, у блудзе, як учарашні салдат Хомка з твора “Штаны”. І вось сустракае добрую цнатлівую дзяўчыну, сапраўднае каханне, мяняецца, пачынае жыць чыста. І яго, абноўленага, акрыленага, у самы разгар шчасця даганяе смерць... Дала аб сабе знаць “уцечка”, немалая доза радыяцыі, якую ўхапіў у час службы ў арміі.

Інтанацыі зуёнкаўскай прозы пры пануючай элегічнай тым не менш даволі разнастайныя (ад мінорных, сур’ёзных да вясёлых і нават іранічных). У “Чаравіках для баўэра” тонкі псіхалагічны аналіз, спалучаючыся з іроніяй, прыглушае драматызм сюжэта.

Месцам дзеяння ледзь не ўсіх элегій пісьменніка з’яўляюцца родныя мясціны – вёска Узбор’е. У вёсцы з такой, паводле слоў акадэміка У. Гніламёдава, “абаяльнай назвай” падзеі адбываліся яшчэ ў эпічнай паэме “Маўчанне травы” (1974-1979 гг.). Тут побач з карэнным, “мужыцкім” насельніцтвам жывуць старaверы, якія таксама трапляюць у поле зроку пісьменніцкай увагі. Коратка спыніўшыся ў элегіі “Куды павёў лапаць” на гісторыі гэтых першапачаткова раўнасных захавальнікаў ісціннай, “старой” праваслаўнай веры ад царкоўных новаўвядзенняў патрыярха Нікана (раскол адбыўся ў сярэдзіне XVII стагоддзя), аўтар малюе іх нашчадкаў. Вось дзед Лявон. Доўгая барада, пастаянны знешні атрыбут старавера, якая робіць чалавека старэйшым ягонага ўзросту. Працавіты, спіртнога ў рот не бярэ, не курыць (катэгарычна адмаўляецца “смактаць чортаву нагу”), акуратны са словам, выхаваны, змірэнны, на папрокі і нецнатлівыя жарты сарамліва, як звычайна, “ніякавата захінаецца сваім: “Ну во, ну во...” Аб чалавечнасці і самаахвярнасці

героя гаворыць і такі яго ўчынак, што ўзяў віну на сябе, каб выручыць сямейнага пляменніка. Адседзеў за яго ў царскай турме некалькі месяцаў, аб жыцці ў якой жартоўна хваліўся, "што "адкачаўся па-панску": "Ах і жызня была!.. – прыцмоквае Лявон. – У дзверы – грук-грук: "Завтрак!", грук-грук: "Обед!", грук-грук: "Ужин!.." І тры месяцы так. З дня ў дзень!.. Як Адам у райскім садзе..." Цярплівасць, сціпласць, спакойнае прыманне любых нягод жыцця тым не менш не перашкодзілі герою зрабіць неабачлівы для старавера крок – пабрацца шлюбам з мужычкай Ганулькай, адмовіцца ад адчування сваёй вышэйшасці, здзейсніць, па сутнасці, рэвалюцыю супраць дзедаўскіх звычаяў і асноў не ісці да шлюбу з "нячыстымі". Скупымі дэталямі пададзена аўтарам іх глыбокае ўзаемнае пачуццё, якое яны мудра хаваюць ад зайздроснага вока. Грубыя, на першы погляд нават абражальныя жончыны словы на яго адрас – "чорт рабы" – успрымаюцца Лявонам не толькі без крыўды, але і нязменна спакойна, нават як бы радасна, бо за імі ён чуе зусім іншы, не адпаведны ім сэнс...

Моцнае ўражанне пакідаюць элегіі "Супоня", "Усю ноч брахалі сабакі...", "Гіпноз", "Чаравікі для баўэра". Першая з іх выводзіць маладога старавера (з папоўцаў), былога работніка райгазеты Эмануіла Аляксеевіча (рэдкае імя было дадзена папом "са старасвецкай непахіснасцю: як выпала па святцах – так і запісалі..."). "Строгіх нораваў былі людзі старой веры", – сказана аўтарам у элегіі "Куды павёў лапаць" пры характарыстыцы дзеда Лявона. Эмануіл – Муня – так празвала яго жонка – жыве ў іншы, названы апакаліптычным час, час, у якім цяжка кожнаму чалавеку. Асаблівасць гэтага часу вызначана ў Свяшчэнным Пісанні: "і з-за памнажэння беззаконнасці ахалоне любоў у многіх" (Мф.: 24-12). Васіль Зуёнак добра перадае безлюбоўны холад гэтага часу, узнімаючы праблему самагубства, аналізуючы прычыны гэтай жахлівай з'явы. Вобраз Муні атрымаўся досыць яркім, хоць і ўтрымлівае ў сабе загадку. Герой добра знаёмы з Бібліяй, імкнецца жыць па Боскіх запаведзях. У адносінах з людзьмі заўсёды добразычлівы, далікатны, адкрыты, уважлівы да іх маленькіх і вялікіх праблем, ніколі нічога не ўкраў, нікога не пакрыўдзіў. Ён шчыры ў сваім прызнанні, калі гаворыць: "Нікому я не зайздросціў, не хачу, каб і мне зайздросцілі... Толькі радаваўся заўсёды, гледзячы на ўдачнікаў і шчасліўцаў". Жаніўся Муня па каханні на вясковай прадаўшчыцы, на якую паступіла скарга ў рэдакцыю за грубасць на рабочым месцы, а яго паслалі разабрацца. Клава не адказала яму ўзаемнасцю, што і стала адной з прычын яго душэўнага надрыву і цяжкай дэпрэсіі. З рэдакцыі звольніўся, бо праца вымагала ісці на кампраміс з сумленнем. Вярнуўся ў вёску пасля смерці сястры і стаў марнаваць час за п'янкай і гульнямі ў карты. Вера аказалася слабай, бо горыч і расчараванне запоўнілі ўсё яго нутро, паралізавалі душу, нарадзілі думкі аб самагубстве.

У "Супоні" аўтар умела выкарыстоўвае мастацкую дэталь, якая сімвалізуе, "падказвае" сюжэт. Ён прама не гаворыць пра намеры свайго героя, які крадзе супоню для страшнай справы, а пасля, адчуваючы віну, прызнаецца ў крадзяжы і вяртае назад, слаба апраўдваючыся, што не было чым падперазацца: "штаны павінны на нечым трымацца". Бо Дэбет выцягнуў з яго штаноў скураную дзягу. Але характар размовы Муні, яго ўсмешкі выклікаюць у чытача трывогу, прадчуванне бяды: "Муня *прыжмурваецца, як бы яшчэ прымерваючыся да сваёй мёртвай адпаведнасці, і з патайнай, нібы з труны, усмешкай згаджаецца...*" І праз некалькі старонак пісьменнік зноў спыніць увагу чытача на своеасаблівасці яго цяперашняй усмешкі: "Толькі сёння яна, *усмешка* тая, *выглядала неяк па-нябожчыцку – нерухома і выбачальна: вось з усім я пакончыў тут – і пайшоў, супакоіўся: даруйце, што клопату з гэтым адыходам нарабіў...*"

Чаму Муня ўчыняе грэх самагубства, які лічыцца недаравальным грахом, бо за самагубцаў Царква не моліцца? Чаму лічыць сябе лішнім ў гэтым жыцці,

непатрэбным? Адкуль гэтая яго “філасофія” або, як менаваў ён, “калёквіум” на тэму “хамута” і “супоні”? Можа, ён не верыць у Бога і бессмяротнасць душы? Але тут якраз усё ў парадку: герой ясна выказваецца на гэты конт: “От жыў чалавек, і ніхто яго не баяўся... <...> – А памрэ, прыкладам, – адразу страх нейкі бярэ перад ім: а раптам ён ... <...> – І адкуль ён, гэты неспакой – жывых перад мёртвымі?.. <...> – усё, можа, таму гэтакім бокам варочаецца, што мёртваму адкрываюцца самыя цёмныя таямніцы – і пра нас, грэшных: хто чым жыве, хто чым дыхае, хто што кепскае меў, нават у намерах супраць яго, камень які за пазухай насіў... То як ужо я памру, хлопцы, нічога брыдкага не думайце і не бойцеся: не пакрыўджу нікога. Бо злосці не маю...”

Пісьменнік дае свайму герою магчымасць самараскрыцца, уключаючы ў мастацкую тканіну твора яго ўнутраныя маналогі-ўспаміны, падзеі былога, а таксама агучыць свае думкі, меркаванні аб чалавеку і абставінах. У час паездкі да крамы Муня вылівае Корціку ў гутарцы шмат з таго, што накіпела на сэрцы, ніяк аднак не згадваючы хрысціянскае вучэнне аб цярпенні смутку і нясенні крыжа.

Фінал твора трагічны. Нечаканы для Корціка, але як быццам лагічны для Дэбета, якога здзівіла толькі тое, што Муня павесіўся на кароткай супоні. Але чытач падрыхтаваны да такой развязкі, бо ўсёведны аўтар не аднойчы даваў яму падказкі, калі гаворка ішла аб прапажы супоні, завастраючы ўвагу на рэакцыі Муні. Шмат што растлумачана пісьменнікам з учынкаў і слоў Муні, аднак ім выстаўляецца пры гэтым і “нерастлумачаная рэшта” (Н.М. Чыркоў). У сяброў па чарцы ўзнікае здагадка аб нейкім пісьме, якое атрымаў Муня на пошце, з-за чаго і перадумаў ехаць у горад. Заключныя радкі – “словы ад аўтара” – паварочваюць праблему ў іншую плоскасць:

“Можа, і было... Але не знайшлі яго...

Ды і хто, калі па праўдзе, шукаць будзе...”

Пісьменнік завастрае ўвагу на людской абыякавасці, зацыкленасці на “мышыных” клопатах, якія перашкаджаюць бачыць гора бліжніх. Трагедыі магло б і не быць, каб хоць нехта з людзей, што акружалі Муню, меў добрае, уважлівае сэрца, змог сказаць гаючыя словы жыцця, здольныя адагнаць цень смерці. Галоўная аўтарская думка наконт персанажа нярэдка выражаецца ў партрэце, які, як і іншыя элементы мастацкай формы, нясе на сабе адбітак кіруючай ідэі твора. Мунева жонка надзелена кідкім знешнім хараством, якое, аднак, не перашкаджае герою ўжо пры першай сустрэчы чуйна ўбачыць праз яго холад душы: *“І яшчэ паспеў заўважыць Муня: у ямачках тых, нават пры ўсмешлівых іскрынках вачэй, затойваліся халодныя, хоць таксама іскрыстыя, ільдзінкі ценю, – як бывае вясною – ледзь не да самага лета – дзе-небудзь пад паўночным абрывам гурбачкі снегу...*

*Яны не раставалі і пасля...*”

Партрэт Клавы ўсюды падаецца вачыма Муні, якому адмоўлена ў правах мужа (ён вымушаны спаць асобна, на раскладушцы): “крадком падыходзіў да ложка, баючыся дыхнуць, не тое што прылегчы побач, глядзеў на гэтыя рукі, *узіраўся ў юныя, а як у сне дык і амаль дзіцячыя яшчэ, абрысы твару, – і адчуваў: нешта пакрыўджанае, нешта страчанае, а можа, зусім і не знойдзенае, таілася ў іх; і шчокі, выдавала, з нервовай палёгкай прыспалі ў ямачках сваіх халодныя цені маленькіх звяркоў...*”

Характар Клавы расчытваецца героем і за яе адмыслова прамаўляемымі словамі: *“Я сказала...” – і пры гэтым позірк быццам не даходзіў да Муні, а спыняўся недзе на паўдарозе: прамень халадна рассыпаўся, упёршыся ў незаўважную для староннягa вока сцяну... “Ды яна ж не бачыць мяне...” – жахаўся тады Муня і хуценька адводзіў пагляд...”*

Зуёнак – майстар псіхалагічнага партрэта. Але персанажы яго твораў выдатна раскрываюцца і праз пейзаж, дыялог, унутраны маналог.

У элегіі “Гіпноз” выяўленню адметнасці чалавечага характару служыць дыялог. Твор амаль цалкам пабудаваны на гэтай жывой форме праяўлення мовы. Узборавец Цімка любіць быць у цэнтры ўвагі, адрозніваецца “цягавітасцю пагаварыць”. У яго з’явіўся ненавісны “зацяты сапернік”, “бяльматы балабол” – тэлевізар, з-за якога даводзіцца сядзець на лавачцы, “як пню альховаму, – ні пагаварыць, ні закурыць...”

Аўтару кнігі “Паўстанак з літарай “Л” цікавы пункт погляду “маленькага чалавека” на тую ці іншую жыццёвую падзею, грамадскую з’яву, прадмет. На той жа тэлевізар. З аднаго боку, з’яўленне тэлевізара шмат у чым пасадзейнічала раз’яднанню, аддаленасці, адчужанасці людзей. З другога, задаволіла патрэбу ў відовішчах, пашырыла тэму гаворак, але знізіла задушэўнасць размоў. З трэцяга, як лічыць Цімка, – ад тэлевізара – “суцэльны гіпноз: адзін аднога водзяць за нос... І ўсе не вераць ні слову, і ўсе робяць выгляд, што вераць, і ўсе заклікаюць усіх астатніх быць пэўнымі ў іх праўдзівасці... Самі ў гіпноз упадаюць і ад іншых таго вымагаюць: замовы блазенскія за ісціну ўважаць...” У поглядзе на гэты прадмет, які знайшоў сабе месца ў чырвоным куце, дзе раней віселі святыя абразы, аўтар сутыкае ў гэтым творы мужа, “веры новай ніканіянскага выроддзя”, і жонку, “веры цвёрдай, старога звычаю, дрэўляй веры”, якая люта ўзненавідзела тэлевізар за тое, “што там толькі распусніцы выгаляюцца ды цалуюцца прылюдна”. “І нагі чорта гэтага ў маёй хаце не будзе”, – рашуча заявіла Варка-стараверачка, якая называе Цімку-Гіпноза “словаблудам”. Фінал апавядання нестандартны, нязвыклы для чытача: аўтар проста гвалтоўна абрывае бясконцую балбатню ўзбораўскага гаваруна на самым нечаканым месцы, ставячы шматкроп’е. Аднак за смеццем слоў, якія злятаюць з вуснаў героя, заўважаецца і яго ўменне трапна падмячаць характэрныя рысы перабудовачнага часу, калі “ўсе падаліся ў палітыкі, у вешчуны трыбунныя” (П. Макаль). Бо ў яго развагах не-не ды і зазіхаціць трапнае і дасціпнае народнае слова-ацэнка. Здольнасць да самастойнага, арыгінальнага асэнсавання тых ці іншых жыццёвых з’яў, метафарычнасць мыслення назіраецца нават у такіх, здавалася б, прымітыўных герояў, як “проста Алік” з “Чаравікаў для баўэра”: “– Ось так: грабешся, вылузваешся, дзярэшся на купіну, каб хоць трошкі сонца займець, – здаецца, ужо і праменьчык нейкі ўхапіў, а як разгледзішся, то гэта і не тое, і не гэтае, а так нешта... тоісь... на той свет апратка...”

Але для Зуёнка няма нецікавых, прымітыўных людзей. Прызнанне ўнікальнасці, адметнасці, каштоўнасці чалавека складае аснову яго канцэпцыі жыцця, пафас яго творчасці.

У выдатнай элегіі “Усю ноч брахалі сабакі...” адным з асноўных сродкаў псіхалагізму выступае ўнутраны маналог (маналог-успамін, маналог-разважанне, маналог-дыялог, уяўны дыялог, калі ў думках героя гучаць дыялогі з іншымі людзьмі), у якім глыбока раскрываецца душа старога чалавека.

Нямала, думаю, знойдзецца ў беларускай літаратуры твораў пра старасць і адзіноцтва, пра тое, як цяжка прыжываецца вясковы чалавек на новым месцы, у горадзе, у кватэры дзяцей, якія маюць свае сем’і. Якімі няпростымі становяцца яго адносіны з нявесткай або зяцем, з уласнымі дарослымі дзецьмі. Нават калі гэты стары чалавек веруючы, як, скажам, бабуля з аповесці рускага празаіка Васіля Бялова “Воспитание по доктору Споку”, перад якой раскрываецца драма сямейнага жыцця дачкі, а старая так імкнецца ўсіх зразумець і не асудзіць.

Элегія В. Зуёнка выгадна вылучаецца сярод твораў на падобную тэматыку. Створаныя пяром пісьменніка партрэты старога Сцяпана і яго сабакі Трызора атрымаліся на дзіва яркімі і праўдзівымі. А ў сваю чаргу запомніліся пададзеныя іх вачыма партрэты Сцяпанавых сына Лёніка, нявесткі Светкі, унука Антошкі. Канечне, як слушна заўважыў свяціцель Мікалай Сербскі, “нашы веды аб жывёлах не могуць нам растлумачыць іх унутраных адчуванняў. Мы не ведаем іх унутранага ўладкавання, але толькі знешняе”. Але можна сцвярджаць, што пэўнае ўяўленне

аб маральнасці ёсць і ў жывёл, бо горнуцца яны звычайна да добрага чалавека. Трызор у Зуёнка беспамылкова адчувае людзей. Да Светкі адразу паставіўся з недаверам і насцярожанасцю. Яна пасля і выжыве сабаку з кватэры.

Твор "Усю ноч брахалі сабакі..." запамінаецца і някідкімі, але хвалюючымі пейзажнымі замалёўкамі, якія так адпавядаюць элегічнаму настрою персанажа, "гавораць" ва ўнісон яму, узмацняюць драматызм гучання. У псіхалагічным плане карціны прыроды ўжываюцца Зуёнкам і ў іншых творах.

У элегіі "Штаны" пісьменнік дае сапраўдную паэтычную класіфікацыю ўсемагчымых разнавіднасцей вятроў. І кожная разнавіднасць мае свае асаблівасці, прыкметы, характарыстыкі. На жаль, памеры артыкула не дазваляюць прывесці цалкам месца з пісьменніцкай трактоўкай вятроў (у творы гэта апісанне займае больш за паўтары старонкі), каб паказаць дакладнасць, трапнасць яго слова, багацце закладзеных у ім вобразаў, метафарычнасць мыслення. Аднак такое само па сабе цудоўнае апісанне вятроў у творы з'яўляецца не самамэтай, а своеасаблівай уверцюрай да важнейшага здарэння ў жыцці яго маладога героя, паэта ў душы, Хомкі. Менавіта гэтая прыродная сіла, сарваўшая пры хуткай яздзе на машыне з яго галавы шапку, ускінула яе на сустрэчную машыну, дзе яе гарэзліва падхапіла маладзенькая дзяўчына, што праз нейкі час стала яго жонкай. "Раптоўнае завіхрэнне", "закручэнне атмасферы", г. зн. вецер, з'явіўся як бы той разумнай сілай, што крута змяніла яго лёс.

Выхад кнігі прозы Васіля Зуёнка "Паўстанак з літарай "Л", бясспрэчна, з'яўляецца важнай падзеяй у сучаснай літаратуры. Думаецца, яе з задавальненнем прачытаюць не толькі аматары паэзіі аўтара, але і ўсе, хто цікавіцца беларускай літаратурай, у тым ліку і юныя чытачы, для якіх знаёмства з творчасцю Зуёнка пачнецца менавіта з яго элегій, якія ўпершыню друкуюцца асобным выданнем.

# Анкета «Дзеяслова»

***1. Чым бачыцца Вам літаратурная творчасць: нябесным прызваннем, грамадзянскім абавязкам, прафесіяй, хобі, звычкаю? Што падштурхнула Вас да пісьменніцкай дзейнасці. Ці памятаеце свой творчы дэбют? Каго Вы лічыце сваім літаратурным "хросным бацькам"?***

***2. У чым адметнасць Вашай творчай працы? Які час сутак найбольш плённы? Да якіх "тэхнічных прыладаў" Вы найбольш звыклі: аловак, пяро, шарыкавая ручка, кампутар, дыктафон, інш.? Ці выкарыстоўваеце Вы "творчыя стымулятары": кава, цыгарэты, віно, музыка, інш.? Што для Вас натхненне і ці чакаеце Вы яго, каб пачаць пісаць?***

***3. Якія цяжкасці паўстаюць перад Вамі падчас напісання твора? Якое значэнне Вы надаеце слову, фразе, рытму твора? Ці звяртаецеся падчас пісання да даведачнай літаратуры, слоўнікаў, энцыклапедыяў?***

***4. Што/хто найбольш спрыяе ў рэалізацыі Вашых літаратурных задумаў? Што/хто найбольш перашкаджае Вам у гэтым? Ці ўплывае на Вашую творчасць ацэнка сяброў, рэдактараў, чытачоў? Ці вяртаецеся Вы да напісаных твораў, каб перапісаць іх, перарабіць, удасканаліць?***

***5. Ці задаволеныя Вы сваімі творамі? Што ў Вас не атрымалася ў творчасці? Чым Вы найбольш задаволены? Якія эпізоды сваёй біяграфіі Вы хацелі б перажыць наноў? Наколькі Вашая біяграфія паўплывала на творчасць і адбітая ў творчасці?***

***6. Ці вядзеце Вы дзённікі? Як ставіцеся да правіла: "Ні дня без радка"? Ці знаёмае Вам пачуццё ляноты, ці змагаецеся Вы з ім (і як)? Калі "не пішацца", што вы робіце, дзе/у чым шукаеце натхненне?***

***7. Ці чытаеце Вы творы сваіх маладзейшых і старэйшых калегаў? Хто з творцаў Вам найбольш блізкі – з беларускіх і сусветных аўтараў? Назавіце творы, якія Вы любіце чытаць і перачытваць? Ці ёсць такія ў сучаснай беларускай літаратуры?***

***8. Чаго, на Вашую думку, не хапае сучаснай беларускай літаратуры і што чакае яе ў будучыні? Што пажадалі б Вы тым, хто робіць першыя крокі ў літаратуры?***

# Адам Глобус



***1.*** Літаратура для мяне – працяг бацькавай справы. Ён прыйшоў да літаратурнай працы з сялянскага жыцця, прыйшоў з маленечкай вёскі, прыйшоў пасля цяжкай работы грузчыкам на чыгуначнай станцыі. Мне было прасцей, чым яму, стаць літаратарам, бо я ішоў туды ўслед за бацькам-пісьменнікам і не з чыгуначнай станцыі Наваельня, а з тэатральна-мастацкага інстытута, дзе вучыўся пісаць фрэскі, маляваць партрэты і рабіць вітражы. За мной у літаратуру прыйшоў мой брат Міраслаў, а за ім – мая дачка Ядвіга. Так што літаратура – справа маёй сям'і.

Малюнак не можа перадаць водару сада ў квецені, не можа перадаць пошуму ветру, не перадае ён і смаку свежага агурка з мёдам... Таму я пачаў рабіць запісы на сваіх малюнках. Пісаў пра водары, гукі, смакі... З гэтых запісаў на малюнках і вырасла мая літаратура.

Свае першыя запісы я перадрукаваў на бацькавай машынцы і занёс у часопіс «Маладосць» і тыднёвік «ЛіМ». Паэты пачыталі і сказалі, што мастак мае права і на такую паэзію. Маім першым публікацыям паспрыялі Алесь Жук і Пятрусь Макаль. Звычайна ў літаратара адзін «хросны бацька», але мне так пашанцавала, што ў мяне іх два. Абодва пісалі прадмову да маёй дэбютнай паэтычнай кнігі.

Першую прадмову напісаў Уладзімір Караткевіч, але яе згубілі, а маю кнігу забараніла савецкая цэнзура. Наклад кнігі «Груд» быў знішчаны ў 1985 годзе. Прадмову да кнігі «Парк» напісаў Міхась Стральцоў, і яна выйшла ў 1988 годзе.

***2.*** Пішу я штодня. Пішу кароткія апавяданні, казкі і вершы. Пішу тое, што пішацца само. Пазней збіраю панапісанае ў розныя кампазіцыі: у аповесці, у літаратурныя партрэты, у зборнікі лірыкі.

Раней я старанна пісаў і перапісваў тэксты чарнільнымі ды гелевымі ручкамі на добрай белай паперы. Можна нават сказаць, што я вымалёўваў свае вершы і апавяданні. Перадрукоўвалі іх машыністкі. Друкаркі – друкарскія машынкі – мне зусім не падабаліся, а вось клавы – клавіятуры кампутараў – я палюбіў з першага погляду і хутка навучыўся пісаць і правіць тэксты на экране. Пераход з паперы на экран супаў з тым момантам, калі я кінуў піць, у мяне вызвалілася процьма часу і ўзнікла жаданне зрабіцца абноўленым звышсучасным літаратарам, які выкарыстоўвае найноўшыя магчымасці тэхналогіі ў жыцці літаратуры.

Раней я крыху падбадзёрваў сябе кубачкам моцнай чорнай кавы, калі перапісваў апавяданне на чыставік, але і гэткае падбадзёрванне засталося ў далёкім мінулым. Я адмаўляюся ад усяго, што замінае мне цвяроза і ясна мысліць у час працы.

Напхнення-натхнення для мяне не існуе. Іншы кшталт – здзіўленне і азарэнне. На іх я абапіраюся ў сваёй літаратурнай і мастакоўскай творчасці. Каб пра нешта напісаць, мне трэба здзівіцца, трэба атрымаць кавалак жыццёвага святла, які ўразіць мяне і запомніцца. Калі ён узрушыць мяне, ёсць верагоднасць, што і чытача не пакіне раўнадушным.

***3.*** Пішу я невялікімі фрагментамі. Потым раблю перапынак, пасля якога вяртаюся да напісанага, перачытваю, рэдагую, удакладняю дэталі па энцыклапедыях, правяраю словы па слоўніках і атрымліваю чарнавік, які можна змясціць у сацсетках. Калі набіраецца пэўная колькасць фрагментаў, звязаных адной тэмай ці адным персанажам, я раблю з іх кампазіцыю: гэта можа быць апавяданне ці эсэ, нарыс ці падборка казак. Зробленую кампазіцыю я дасылаю карэктару, пасля карэктуры высылаю твор у адно з блізкіх мне выданняў. Толькі пасля публікацыі я лічу свой твор завершаным.

Цяжкасці я пераадольваю на ўсіх этапах сваёй працы, і кожны раз яны розныя.

***4.*** На маіх вачах былыя сталіністы выкрадалі з бібліятэкі старыя часопісы са сваімі крытычнымі артыкуламі і разгромнымі рэцэнзіямі, на падставе якіх многія паэты і празаікі атрымалі прысуды на доўгае зняволенне, а некаторыя і найвышэйшую меру пакарання. Таму я стараюся пісаць так, каб потым не выкрадаць і не нішчыць напісанае, каб мне не трэба было ў перавыданнях выкрэсліваць некаторыя імёны і прозвішчы.

***5.*** А. Сваімі творамі я незадаволены, бо яны не адлюстроўваюць і паловы маіх задум і не адпавядаюць майму ўяўленню пра дасканаласць і ўзорнасць, універсальнасць і эталоннасць.

Б. Я не змог напісаць трагедыю «Краты» пра Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага. А яшчэ я засмучоны, што рэжысёр Валерый Рыбараў заваліў здымкі фільма «Калабарант», для якога мы разам з братам Міраславам і сябрам Максімам Клімковічам напісалі сцэнарый па матывах рамана майго бацькі «Голас крыві брата твайго».

***6.*** Усё, што я пішу і пісаў, можна лічыць лірычным дзённікам. Калі я не пішу, то малюю. Калі я не малюю, то пішу. Дзень без малявання і пісання – для мяне пражыты марна, таму такіх змарнаваных дзён у мяне амаль і няма. Што такое дэпрэсія, хандра і лянота, я не ведаю, бо ў мяне няма на ўсё гэта часу. Паныласць і лянота не мае смяротныя грахі.

***7.*** Чытаю шмат, чытаю ўдумліва, чытаю павольна. Штогод даю прэмію за новую кнігу на беларускай мове. Меркаванні экспертаў пры гэтым я не ўлічваю, абапіраюся выключна на свае ўражанні ад прачытанага, таму магу двойчы прысудзіць сваю прэмію аднаму і таму ж аўтару, як прысуджаў яе Харэўскаму і Хадановічу. Магу пашкадаваць пра сваю памылку з прэміяй... Магу даць яе аўтару, якога няма сярод жывых. Так было з кнігамі Стральцова і Анемпадыстава.

З беларусаў я чытаю і перачытваю Купалу, Брыля, Разанава і бацьку – Вячаслава Адамчыка... З рускіх: Розанава, Прышвіна, Хармса, Гогаля... У перакладах я чытаю Сэй Сёнагон, Басё, Шэкспіра, Гомеса дэ ля Серну, Чарана... Усіх, каго я тут назваў, я буду яшчэ перачытваць разам са сваімі вучнямі.

***8.*** Калі я бачу, што ў нашай літаратуры нечага не хапае, тады я саджуся і пішу... Так у беларускай літаратуры з'явіліся трылеры, выразна эратычныя апавяданні, хайку, грэгеры, казкі-жахалкі, фацэцыі, літаратурны партрэт вялікай сям'і з пяці пакаленняў...

Пачаткоўцам я пажадаю знайсці сабе настаўнікаў, каб сувязь паміж літаратурнымі пакаленнямі не перарвалася і была надзейнай.

# Аксана Данільчык



***1.*** Самавыяўленнем. Магчымасцю дыялога з сабой і навакольным светам. Спосабам камунікацыі. Рэфлексіяй над тым, што я пражываю. Увасабленнем эмоцый, якія я пражываю.

Паколькі першы верш я напісала гадоў у шэсць, то, зразумела, гэта было неўсвядомлена, такая сабе гульня са словамі, але мне спадабалася. Мне ўжо цяжка сказаць, што да гэтага падштурхнула, можа быць, тое, што я навучылася чытаць? На жаль, самы першы нататнік з маімі “творамі” згубіўся, але ёсць другі, з вершамі, якія я пісала ў другім-трэцім класе. Ну і гэтак далей.

Публічны творчы дэбют адбыўся ў 1984 годзе ў часопісе “Бярозка”, і, я думаю, з поўным правам магу назваць “хросным бацькам”, прычым не толькі маім, паэта Міколу Чарняўскага, які там працаваў і апекаваўся ўсімі, хто дасылаў свае літаратурныя спробы. Дзякуючы яму, ў 1986 годзе Яўгенія Янішчыц напісала да падборкі маіх вершаў прадмову пад назвай “Аксамітавы дожджык надзеі”.

***2.*** Цяпер, пасля кавіду, я па начах стараюся спаць, але перад тым, як заснуць, магу што-небудзь добрае надумаць. Найбольш плённы час сутак, напэўна, той, калі ўсе разбягаюцца з дому і я застаюся адна. Але не факт. Бывае па-рознаму. Па вялікім рахунку, мне ўсё роўна, чым і на чым пісаць, апошнім часам нават на смартфоне пішу, бо не заўсёды нейкую паперчыну можна адразу знайсці пад рукою, асабліва калі я не дома. Люблю чорныя гелевыя ручкі як замену атраманту. Але канчатковы варыянт усё роўна “афармляецца” на кампутары. Кава – так: кампутар уключаны, файл адкрыты і кубачак кавы побач. Я ўвогуле за здаровы лад жыцця, таму засталася толькі кава, і тая ў абмежаванай колькасці.

Натхненне для мяне, напэўна, гэта неабходная ступень канцэнтрацыі думкі або эмоцыі. Зразумела, што калі настрой неадпаведны, а ёсць жаданне што-небудзь зрабіць, то лепш заняцца чымсьці іншым, але таксама звязаным з літаратурай. Натхнення асабліва не чакаю, але і не адпускаю, калі здараецца.

***3.*** Я б не называла цяжкасцямі тое, што дае задавальненне. Мяне радуе сам працэс і ўсё, што з ім звязана. Але, бывае, думка спыняецца ў нейкім пэўным месцы, і далей ніяк. А гадоў праз дзесяцьдваццаць глядзіш – і вяртаецца.

Калі я пішу, я не думаю ні пра фразу, ні пра рытм, увогуле не думаю пра фармальныя рэчы. Неяк аўтаматычна ўсё атрымліваецца. Я проста іду за словам. Калі ёсць унутранае пачуццё незавершанасці, то магу некалькі разоў пераглядаць напісанае.

І – так, я карыстаюся даведачнай літаратурай, хоць і не вельмі часта, і слоўнікамі карыстаюся. Ёсць сумненні – варта праверыць. Пісьменнік павінен быць пісьменным, і хоць у прэцэсе публікацыі ёсць спадзяванне на рэдактара і на карэктара, лепей усё ж такі спадзявацца на сябе.

***4.*** Гледзячы што разумець пад літаратурнымі задумамі. Калі вершы, то не сказаць, каб я надта іх задумвала, гэта хутчэй нешта стыхійнае. Проста я стараюся знаходзіць для іх час. Спрыяюць кантакты з прыродай, фотаздымкі, мастацтва, кантакты з людзьмі, увогуле жыццё, якое трэба (мне, прынамсі) ведаць і выву-

чаць. Чытанне кніг, напісанне артыкулаў. Магчымасць засяроджана думаць.

Зараз, напэўна, гэтаму нішто не перашкаджае, бо клопаты будзённага жыцця я не ўспрымаю як перашкоды. Чалавек лепей адчувае сябе, калі ён здаровы, а каб быць здаровым, пэўныя захады рабіць неабходна. Раней шмат часу займала праца, але ў пэўны момант стала зразумела, што больш так працягвацца не можа.

Калі ж пад літаратурнымі задумамі разумець кнігі, то тут больш складанае пытанне, звязанае з фінансамі, мэнеджментам, рынкам і г.д. Як кажуць, магло б быць і лепей.

Любая ацэнка так і ці інакш уплывае, хоць і не з'яўляецца вырашальнай. Бывае, што ў пэўныя моманты сумненняў здараецца нешта прыемнае, прыходзіць нейкая падтрымка звонку. У мяне мала непасрэдных кантактаў з чытачамі, але я ўдзячная тым, хто мяне чытае, каму мае вершы патрэбныя. Так, я пішу іх для сябе, але паколькі яны друкуюцца, то такім чынам я дзялюся сваім вопытам і сваім настроем з іншымі людзьмі. І ў такім разе прыватнае перастае быць прыватным.

Думаю, для кожнага аўтара мае значэнне ацэнка прафесіяналаў – крытыкаў і літаратуразнаўцаў, аднак цяжка згадаць за апошнія гады грунтоўны аналіз твораў, часцей за ўсё назіраецца пераказ тэм і вобразаў, а хацелася б пачытаць пра сутнаснае. Няма аналізу літаратурнага працэсу і тэндэнцый. На жаль, мала хто рэагуе на сучасныя зборнікі, рэцэнзіі апошнім часам сталі даволі рэдка з'яўляцца, і тыя больш кампліментарныя і вельмі рэдка сапраўды крытычныя і аналітычныя. Увогуле, цяжка не пагадзіцца з думкай, выказанай Валянцінай Аксак у адказе на гэтае ж пытанне анкеты.

Што датычыцца правак, то калі твор не друкаваўся – бывае, папраўляю, і тое рэдка, калі ж друкаваўся – амаль ніколі, калі толькі раптам знаходжу якую-небудзь памылку. Усё ж такі тое, што пражыта – пражыта.

***5.*** Скажам так: некаторыя вершы я люблю больш за іншыя, але я не разважаю ў падобных катэгорыях. Гэта – маё, і я прымаю іх як адлюстраванне пэўных момантаў свайго быцця. І ўвогуле, напэўна, меркаваць пра тое, што атрымалася ці не атрымалася, павінен не аўтар, для гэтага ёсць крытыка і літаратуразнаўства. З другога боку, я яшчэ жывая, калі нешта не атрымалася сёння, можа атрымацца заўтра. Для мяне творчасць ніколі не была на першым плане, я заўсёды кіравалася прынцыпам "куды важней жыць, чым апісваць, як ты жывеш" (С. Маэм). Ну, пішацца нешта, і пішацца. Але я і ніколі не адмаўлялася ад занатоўвання ў паэтычнай форме нейкіх уражанняў, абараняючы сваё права на вольны час і на сябе самую. Можа быць толькі цяпер маё стаўленне крыху змянілася. Ну дык і пражыта ўжо дастаткова, цяпер можна і апісаннем пражытага займацца.

Калі казаць канкрэтна, то мне падабаецца другая частка кнігі "Сон, які немагчыма забараніць". Яна нейкая цэльная атрымалася.

Я б хацела вярнуцца ў лета 1983 і 1984 гадоў. Калі ты шчаслівы, усведамляеш гэта і ведаеш, што такое шчасце больш ніколі не паўторыцца. І, магчыма, 2011 год, вельмі напружаны, калі я вырашыла шмат жыццёвых задач, і адна з кніг ў мяне таксама ў той год выйшла. Але ў мяне ёсць такая цудоўная магчымасць – я магу перачытаць тое, што пісала ў той час, бо нават мае так званыя "дзіцячыя" вершы потым выйшлі асобнай кніжкай. Магу сказаць, што мая біяграфія на маю творчасць добра-такі паўплывала, бо, за рэдкім выключэннем, усе мае вершы так ці інакш пра мяне і пра час, у якім я жыву. З другога боку, пэўныя рэчы відавочныя толькі для мяне, але, напэўна, так і лепш. А ўвогуле, мая біяграфія даволі цікавая, і, спадзяюся, шмат добрага і цікавага ў мяне яшчэ наперадзе.

***6.*** У мяне яшчэ з дзіцячага ўзросту перыядычна ўзнікае жаданне весці дзённік, але імпэт прападае даволі хутка. Цяпер я проста запісваю час ад часу нейкія думкі, але гэта нельга назваць

дзённікам. Я не фіксую падзеі, хутчэй нейкія настроі.

Да правіла “ні дня без радка” стаўлюся нармальна, у мяне амаль так і атрымліваецца, проста гэта розныя радкі – можа быць верш, можа быць артыкул або пераклад. Або проста нейкая думка. Пачуццё ляноты мне не характэрнае, але недахоп канцэнтрацыі – так, змагацца з гэтым цяжка, трэба пераключацца на нешта іншае, пачытаць, напрыклад. Звычайна не пішацца, калі жыццё робіцца інтэнсіўным і энергія сыходзіць на іншыя рэчы. У маёй біяграфіі ёсць працяглыя перыяды, калі я не пісала: калі вучылася ў матэматычнай школе, калі вучылася ў Італіі, калі рыхтавалася стаць мамай...

Я проста ведаю – тое, што я не напішу сёння – я напішу заўтра...

***7.*** Чытаю і старэйшых, і маладзейшых. Люблю чытаць менавіта кнігі, хоць і падборкі вершаў чытаю. Наколькі іншы творца можа быць блізкі – пытанне, але я ўспрымаю, як кажуць, сэрцам і душой, напісанае Э.Т. Гофманам, Марынай Цвятаевай, Эн Сэкстан, Чэзарэ Павэзэ, Надзеяй Артымовіч, Дзіна Кампанай, Анатолем Сысом...

Назаву тое, што я перачытала некалькі разоў: “Маленькі прынц” Экзюперы, саамскія казкі, беларускія народныя казкі, “Трыццаць тэкстаў” Зміцера Плакса, перыядычна перачытваю самыя розныя рэчы... Апошняе з перачытанага – кніга Віталя Рыжкова “Дзверы, замкнёныя на ключы”. Нешта проста праглядаю. Ёсць сучасныя беларускія аўтары, чыя творчасць мне цікавая, за якой я сачу. І такіх нямала.

***8.*** Сучаснай беларускай літаратуры не хапае адпаведнага кантэксту, адпаведнага беларускамоўнага асяроддзя. Хацелася б, каб было больш таго, што называецца масавай літаратурай, але яна павінна быць запатрабаваная чытачом. У апошнія гады часткова з-за кавіду, часткова з іншых прычынаў стала значна менш імпрэзаў, прэзентацый новых кніг, але ўсё ж такі літаратурнае жыццё не стаіць на месцы, і гэта вельмі добра, хоць перспектывы ў нас пакуль даволі цьмяныя.

Будучыня беларускай літаратуры залежыць ад беларускай адукацыі, ад падтрымкі беларускай мовы і перакладаў твораў беларускіх аўтараў на замежныя мовы. Увогуле, ёсць шмат фактараў, асабліва сёння, ад якіх залежыць і лёс беларускай літаратуры, і наш лёс таксама

Тым, хто пачынае, магу параіць не здавацца. Разумець, што не ўсё залежыць ад вас. Не чакаць узнагароды, але і не адмаўляцца ад саміх сябе. Думаць. Пашыраць далягляды. Вучыцца.

А яшчэ хачу пажадаць і тым, хто робіць першыя крокі, і тым, хто робіць наступныя, – удачы. Яна нам вельмі спатрэбіцца.

# Нашыя аўтары

**Арлоў Уладзімер** – празаік, паэт, эсэіст, гісторык. Аўтар кніг «Добры дзень, мая шыпшына», «Дзень, калі ўпала страла», «Рэквіем для бензапілы», «Фаўна сноў», «Сны імператара», «Краіна Беларусь», «Ордэн Белай мышы», «Адкусі галаву вароне», «Час чумы», «Сланы Ганібала», «Танцы над горадам» і інш. Лаўрэат літаратурных прэмій, сярод якіх прэмія імя Францішка Багушэвіча (1996), «Гліняны Вялес» (1998), «Еўрапейскі паэт свабоды» (2010), «Залаты Апостраф» (2015). Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Баторын (Хаймовіч) Фелікс** – паэт, перакладчык. Піша на беларускай і яўрэйскай (ідыш) мовах. Аўтар кніг «Раніца», «Зялёны тралейбус», «Я дрэва пасадзіў», «Яблычны пах цішыні» і інш. Перакладае на беларускую мову вершы нямецкіх, яўрэйскіх, польскіх, рускіх паэтаў. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Белаяр Сяргей** – празаік. Аўтар зборнікаў фантастычных апавяданняў «Шчит Персея» і «Расследаванні інспектара Сарвы». Лаўрэат шэрагу літаратурных конкурсаў, сярод якіх «Новая реальность» (Масква), конкурс апавяданняў газеты «Звязда», конкурс містыкі, фэнтэзі і хорара сайта «Юг-слово» ды інш. Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Брэсце, дзе і жыве.

**Варанец Віктар** – празаік. Аўтар 14 вучэбных і вучэбна-метадычных дапаможнікаў, артыкулаў па пытаннях беларускай медыцынскай тэрміналогіі. Выдаў «Руска-беларускі тлумачальны слоўнік медыцынскіх тэрмінаў». Аўтар кнігі «Рамізнік». Нарадзіўся ў 1962 годзе ў Гародні, дзе і жыве.

**Галубовіч Леанід** – паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2013). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** – празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі», «Зваротная перспектыва» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Данільчык Аксана** – паэтка, перакладчыца. Аўтарка кніг «Абрыс Скарпіёна», «IL MEZZOGIORNO. Поўдзень», «Сон, які немагчыма забараніць», «Павуцінка на агрэсце» ды інш. Лаўрэатка прэміі «Залаты Апостраф» (2021). Нарадзілася ў 1970 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Драздова Зінаіда** – літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік аддзела беларускай літаратуры XX – XXI стст. філіяла «Інстытут літаратуразнаўства імя Янкі Купалы» ДНУ «Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі». Нарадзілася ў 1958 годзе. Жыве ў Мінску.

**Жуковіч Васіль** – паэт, празаік, перакладчык, крытык. Аўтар кніг «Паклон», «Мелодыя святла», «Як адна вясна...», «Твая місія», «Разняволенне», «У храме харава і смутку», «Арабінавая ноч» ды інш. Нарадзіўся ў 1939 годзе на хутары Забалацце на Камянеччыне. Жыве ў Мінску.

**Захарэвіч Зміцер** – паэт, бард. Скончыў гістарычны факультэт БДУ. Вершы друкаваліся ў беларускай перыёдыцы. Аўтар трох электронных зборнікаў паэзіі. Лаўрэат «Фэсту аднаго верша» (2015). Нарадзіўся ў 1980 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Касяк Канстанцін** – празаік, гісторык. Тэксты друкаваліся ў газетах «Літаратура і мастацтва», «Звязда» і «Літаратурная Беларусь»; часопісах «Маладосць», «Бярозка», «Дзеяслоў», «Сівер» і «Макулатура», а таксама на сайце кампаніі «Будзьма беларусамі!» Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Лапацін Генадзь** – паэт, этнограф, фалькларыст. Аўтар кніг паэзіі «Лепить из снега», «Без чисел и дат», «Луны преобладанье», «Увидеть дерево», «Около облака», «Поделиться небом». Аўтар шматлікіх

публікацый па этнаграфіі, фальклору, дыялектнай фразеалогіі. Выдаў кнігі «“Ікона звалась Свячой...” Абрад “Свяча” ў прасторы традыцыйнай культуры Гомельшчыны», «Варвара Грэцкая як з’ява беларускай народнай культуры», «К каждаму разгавору прыказка ё...» Нарадзіўся ў 1955 годзе ў Гомелі, дзе і жыве.

**Мароз Уладзімір** – празаік, паэт, публіцыст, сцэнарыст. Аўтар кніг «Голас», «Рэй», «Хутаранская зорка», «Беларускі храм» і інш. Аўтар сцэнарыяў больш як 60-ці дакументальных фільмаў. Фільм «Успаміны пра Міколу Равенскага» адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь (1994). Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Косаве на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Наркевіч Стася (Лазебная Анастасія)** – празаік, паэтка, публіцыст. Творы друкаваліся ў абласным і рэспубліканскім друку. Аўтарка зборніка апавяданняў «Настальгія», кніг прозы «Камп’ютарны путанчык», «Пырскі» кнігі вершаў «Ты зразумей мяне такую...», твораў для дзяцей, сярод якіх казка «Неверагодныя здарэнні на неверагоднай планеце». Нарадзілася ў 1952 годзе ў вёсцы Куляшы Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці.

**Русецкая Наталля** – паэтка, перакладчыца. Перакладае паэзію і драматургію з польскай мовы. Аўтарка кніг паэзіі «Два бяссонні» і «Каштаны ў кішэнях», манаграфіі «Сямейная муза», прысвечанай паэтычнай творчасці Ф.У. Радзівіл. Нарадзілася ў 1974 годзе ў горадзе Новы Урэнь (Расія). Жыве ў Любліне.

**Саўка Мар’яна** – украінская паэтка, літаратуразнаўца, публіцыстка, перакладчыца. Аўтарка кніг вершаў «Оголені русла», «Малюнки на камені», «Бостон-джаз», «Радуйся, жінко!» ды інш. Лаўрэатка І прэміі выдавецтва «Смолоскип» (1998), Міжнароднай журналісцкай прэміі імя В. Стуса (2003) ды інш. У 2021 годзе ўвайшла ў топ-100 паспяховых жанчын Украіны (паводле версіі часопіса «Новы час»). Нарадзілася ў 1973 годзе ў Капычынцах на Тэрнопальшчыне. Жыве ў Львове.

**Снарская Іна** – паэтка. Аўтарка кніг «Пацеркі», «Пачакай, мая птушка...», «Лясная панна», «Вогнепаклонніца» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Полацку. Жыве ў Палтаве (Украіна).

**Спіцын Алесь** – паэт, фізіёлаг, зялейнік. Працуе ў інстытуце фізіялогіі НАН Беларусі. Аўтар кнігі паэзіі «Цені верасоў» і ютуб-канала «Верасовы цвет: тутэйшы зялейнік». Нарадзіўся ў 1979 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Твардоўскі Ян Якуб** – польскі паэт, вядучы прадстаўнік сучаснай рэлігійнай лірыкі, святар. Аўтар двух дзясяткаў кніг. Галоўныя тэмы ягоных вершаў – гэта любоў, каханне, боль, пакуты, сумневы, навакольны свет, чалавек і Бог. Тэксты Твардоўскага ўваходзілі ў паэтычныя анталогіі, аўтарскія кнігі для дзяцей і дарослых друкаваліся асобнымі выданнямі пры жыцці і пасля смерці паэта. Зборнік вершаў «Разам з Табою» перакладзены на беларускую. Нарадзіўся ў 1915 годзе ў Варшаве. Памёр у 2006 годзе.

**Фёдарава Ксенія** – празаік. Скончыла Akademia Górniczo-Hutnicza (Кракаў) па спецыяльнасці «Інжынер-інфарматык». Нарадзілася ў 2000 годзе ў Магілёве. Жыве ў Кракаве.

**Хіневіч Анатоль** – паэт, бард. Скончыў МДЭУ імя А. Сахарава БДУ. Нарадзіўся ў 1993 годзе ў Барысаве. Цяпер знаходзіцца ў пасёлку Віцьба на Віцебшчыне.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Міраслава Адамчыка, Анатоля Клешчука, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.